АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

ТОМ 1

**А—Г**

Складальнікі
А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

ББК 81.2Бел-4
Т88

Рэдактар
А. А. КРЫВІЦКІ

Рэцэнзенты:
І. К. ГЕРМАНОВІЧ, Ф. Д. КЛІМЧУК

**Тураўскі** слоўнік. У 5-ці т. Т. 1. / [Склад.
Т88 А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін].— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.— 255 с.
У пер.: 1 р. 20 к.

Слоўнік з'яўляецца зборам лексікі гаворкі Турава і навакольных вёсак. Мясцовая гаворка жыхароў гэтага старажытнага цэнтра Палесся і яго навакольля вылучаецца яркім каларытам і выключнай насычанасцю старажытнымі ўсходнеславянскімі лексічнымі рэгіяналізмамі.

У першы том уключаны словы на літары А—Г, а таксама ўзоры народнай гаворкі гэтай часткі Беларускага Палесся — апавяданні, казкі, легенды і г. д.

Разлічан на даследчыкаў і выкладчыкаў усходнеславянскіх моў і славістаў, а таксама на фалькларыстаў, этнографаў, работнікаў культуры, пісьменнікаў, аматараў роднай мовы.

**4602020000—049**
**Т——————Падпіснoе**
**М316—82**

**ББК 81.2Бел-4**
**4Бел(03)**

# ТУРАЎШЧЫНА І СЛОЎНІК ЯЕ ГАВОРКІ

Кожнае лета на працягу больш дзесяці гадоў група ўдзельнікаў дыялекталагічных экспедыцый Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР адпраўлялася на тры-чатыры тыдні на поўдзень Беларусі ў наваколле старажытнага Турава. Асноўнай задачай гэтай групы было выяўленне і рэгістрацыя лексікі жывой мясцовай мовы. У выніку запісана больш 20 тыс. слоў. На аснове картатэкі сабраных матэрыялаў да гэтых слоў (больш 60 тысяч картак з прыкладамі ўжывання слоў, тлумачэннямі і іншымі звесткамі) падрыхтаван «Тураўскі слоўнік». Гэта збор лексікі мясцовай гаворкі карэнных жыхароў Турава і навакольных вёсак. У першы том слоўніка адабрана і ўключана 3275 слоў на літары А—Г.

Стварэнне слоўніка гаворак усходняга (Мазырскага) Палесся было намечана яшчэ ў 50-я гады ў агульнай навуковай праграме сектара дыялекталогіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР (М. В. Бірыла. Да пытання аб тыпе і прынцыпах укладання беларускіх абласных слоўнікаў. Працы Ін-та мовазнаўства АН БССР, вып. V. Мінск, 1958). У 1960 г. былі вызначаны перспектывы лексікаграфічнай працы ў гэтай зоне і распрацаван праспект усходнепалескага дыялектнага слоўніка. Асноўную працу па выяўленню і рэгістрацыі ўсходнепалескай лексікі намечана было праводзіць у апорным мікраараёне зоны, абмежаваным некалькімі населенымі пунктамі. У гэтым умоўным «цэнтры» зоны трэба было правесці ўсебаковае і найбольш кваліфікаванае абследаванне слоўнікавай сістэмы мясцовай гаворкі ў яе сучасным стане і стварыць па магчымасці поўную картатэку выяўленай тут лексікі. На астатняй тэрыторыі ўсходнепалескай дыялектнай зоны вырашана было праводзіць збіранне лексічных матэрыялаў для ўстанаўлення пашыранасці мясцовых слоў, зарэгістраваных у гаворцы апорнага мікраараёна («цэнтра»), у межах

зоны, і для выяўлення ўнутрызанальных лексічных адрозненняў.

Апорны мікрараён лексікаграфічнай працы вызначаўся ў выніку знаёмства з гаворкамі розных куткоў усходнепалескай дыялектнай зоны ў час экспедыцый па збіранню матэрыялаў для «Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы» (1963), для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа па праграме палескіх экспедыцый Інстытута славяназнаўства АН СССР і Інстытута мовазнаўства АН БССР пад кіраўніцтвам М. І. Талстога і інш. Канчаткова ён быў вызначан у 1966 г. Такім умоўным «цэнтрам» усходнепалескай дыялектнай зоны быў абран Тураў і бліжэйшыя да яго вёскі. У гэтым годзе група супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства АН БССР абследавала для Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа гаворку в. Запясочча каля Турава і азнаёмілася з гаворкамі Турава і некаторых навакольных вёсак. А наступным летам тут працавала першая група збіральнікаў матэрыялаў для картатэкі лексікі апорнага мікрараёна — картатэкі слоўніка Тураўшчыны. Падстаў для абрання Турава і навакольных вёсак у якасці асноўнай базы для стварэння найбольш поўнай лексічнай картатэкі па ўсходнепалескай дыялектнай зоне было дастаткова.

Тураў — адзін з найбольш старажытных усходнеславянскіх гарадоў. Як сталіца вядомага і значнага ранне-ўсходнеславянскага княства на Палессі ён упершыню ўпамінаецца ў летапісе пад 980 г. Зразумела, што заснаванне Турава, а тым больш асваенне ўсходнімі славянамі, у прыватнасці старажытнымі дрыгавічамі, гэтага кутка Палесся адбылося значна раней. Сярод родаплемянных дрыгавічоўскіх тэрытарыяльна-гаспадарчых аазісаў, якія былі параскіданы ў старажытнасці па Палессю, гэты куток вылучыўся тады не выпадкова. Ён знаходзіўся ў вельмі выгадным для таго часу становішчы. Тут Прыпяць прымае чатыры самыя буйныя свае прытокі — Случ і Лань (мясц. *Ла́на*) з поўначы і Сцвігу і Гарынь (мясц. *Го́рынь, Го́рын*) з поўдня. Натуральна, што адрэзку Прыпяці паміж вусцямі адзначаных прытокаў гэта надавала ў мінулым асаблівае значэнне. Тут, відаць, з сівой даўніны ў зручных пунктах (месцах) па рацэ адбываліся сустрэчы насельніцтва з розных мясцін Палесся і ажыццяўляўся абмен прадметамі іх тагачаснай вытворчасці і здабыткамі промыслаў.

З цягам часу сюды пачалі дабірацца і далёкія «госці» са сваімі таварамі, што садзейнічала ператварэнню падобных пунктаў у гандлёва-эканамічныя цэнтры. Нарэшце, такія цэнтры з'яўляліся зручнымі і прыцягальнымі мясцінамі для рознага роду ахвотнікаў да панавання і багатых данін. Дарэчы, і назвы паасобных старажытных пунктаў, якія мелі важнае значэнне ў гэтым кутку Палесся яшчэ ў дафеадальныя часы, і мінулая тапаграфія Турава як буйнога феадальнага палескага цэнтра дзенідзе праглядваюць у сучаснай айканіміі Тураўшчыны. Так, назвы вёсак Сямігосцічы на Прыпяці і Пагост у вусці Сцвігі — гэта, безумоўна, своеасаблівыя «помнікі» агульных назваў існаваўшых тут даўніх пунктаў абмену і гандлю, назвы вёсак Старажоўцы, Сямурадцы на левым беразе Сцвігі, а таксама Дварэц, Талмачава, Чэрнічы сведчаць, відаць, аб размяшчэнні розных саслоўна-гаспадарчых частак былога мясцовага феадальнага цэнтра (мясцовыя легенды звязваюць, у прыватнасці, назву Чэрнічы з манастыром, назву Старажоўцы — з ахоўным пунктам на Сцвізе, Сямурадцы — з «радаю» князя, Талмачава — з «талмачамі»-перакладчыкамі князя, Дварэц — гэта, як вядома, пашыраная ў мінулым у буйных феадальных уладаннях назва гаспадарчага двара). Між іншым, такому ўяўленню аб старажытным Тураве як адміністрацыйна-эканамічным цэнтры, які выступаў у выглядзе сістэмы паасобных частак, размешчаных у розных месцах Тураўшчыны, адпавядае вядомае тут паданне пра нейкі горад Хіль, які быццам бы існаваў у гэтым кутку Палесся ў вельмі далёкім мінулым (з ім звязваецца, дарэчы, назва в. Хільчыцы). Паводле падання, гэты легендарны папярэднік Турава займаў амаль усю тэрыторыю Тураўшчыны ад Сцвігі да Прыпяці. Ды і ўласная назва *Тураў* была звязана, відаць, першапачаткова не з вядомым асобным пунктам у гэтым кутку, а адносілася да ўсёй мясціны ў цэлым. Тлумачаць назву Тураў па-рознаму. Адны бачаць у яе аснове найменне старажытнай дзікай жывёлы тур, другія — уласнае імя Тур і інш. Але паходзіць яна, напэўна, ад назвы не існуючай ужо зараз пратокі *Тур,* якая адыходзіла некалі дзесьці ад Прыпяці, праходзіла, як можна меркаваць, праз Тураўшчыну і ўпадала ў Сцвігу каля яе вусця. Як выявілася, рэшткі гэтай пратокі захаваліся яшчэ пад назвай Тур каля в. Пагост (гл. тэкст «Дзяды расказвалі» ў канцы выпуска). Назва Тураў замацава-

лася за асобным пунктам на тэрыторыі Тураўшчыны ў сувязі з ператварэннем яго ў галоўны адміністрацыйна-гаспадарчы цэнтр, як гэта адбывалася і ў іншых месцах (параўн. паходжанне назвы Брэст, стараж. *Берестье*).

Садзейнічала ўзвышэнню Турава як значнага гаспадарчага і адміністрацыйнага цэнтра Палесся таксама і тое, што ў яго наваколлі меліся вялікія прыродныя багацці, даступныя чалавеку тых часоў,— мноства разнастайнай дзічыны, рыбы, каштоўнейшы лес, багатыя пашы і сенажаці і г. д. Да таго ж прырода зрабіла гэты куток маладаступным для розных грабежнікаў. З усіх бакоў ён агароджан рэчкамі з забалочанымі і малапраходнымі ў мінулым далінамі, а кожная заселеная мясціна ўнутры яго з свайго боку таксама была недасяжнай для тых, хто не ведаў падыходаў да яе. У тым ліку і сам Тураў.

Сталіцай феадальнага княства на Палессі, а таксама значным культурным цэнтрам Тураў заставаўся, як вядома, да сярэдзіны XII ст. (напомнім хоць бы пра тое, што Тураў меў свайго епіскапа і даў вядомага царкоўнага прапаведніка і славутага дзеяча старажытнарускай літаратуры Кірылу Тураўскага). Буйным жа адміністрацыйным, эканамічным і культурным цэнтрам на Палессі Тураў быў аж да XVI ст. Пазней ён паступова траціць свой агульнапалескі аўтарытэт. Але амаль да апошняга часу Тураў захоўваў некаторае мясцовае адміністрацыйнае і культурнае значэнне. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі ён быў валасным цэнтрам, а ў даваенны час і ў першыя гады пасля Вялікай Айчыннай вайны — цэнтрам раёна.

Зразумела, што ўсё гэта знаходзіла свой адбітак у складванні і развіцці этнадыялектнага аблічча як Турава, так і яго наваколля. Тут у мінулым не толькі сустракаліся і ўступалі ў зносіны жыхары розных куткоў Палесся. Сюды сцякаўся розны рамесны люд, гандляры, тут асядалі на пастаяннае пражыванне разам з гаспадарамі іх чаляднікі, сяляне і г. д. Можа, таму ў традыцыйнай гаворцы тураўцаў і жыхароў навакольных вёсак назіраецца, з аднаго боку, пэўная прыглушанасць, сцёртасць розных яркіх усходнепалескіх дыялектных рыс у параўнанні з гаворкамі іх суседзяў на ўсход і поўдзень ад Сцвігі і, з другога — стракатае багацце лексікі, таму што сюды сплываліся і тут натуральна нівеліраваліся моўныя здабыткі з шырокіх абшараў Палесся.

Збіранне матэрыялаў для картатэкі слоўніка мясцовай гаворкі вызначанага цэнтра ўсходнепалескай дыялектнай зоны выраШана было праводзіць у адносна невялікім па тэрыторыі этнадыялектным мікрараёне з вельмі выразнымі натуральнымі межамі. Яго мяжой на поўначы з'яўляецца Прыпяць, на ўсходзе і поўдні — правы прыток Прыпяці Сцвіга з Моствай (мясц. *Моўства),* а на захадзе — таксама правы прыток Прыпяці Гарынь. У вызначаны этнадыялектны мікрараён увайшло акрамя Турава 33 вёскі (спіс вёсак, або сёл, як іх тут называюць, падаецца асобна). Гэты мікрараён умоўна назван Тураўшчынай.

Уся прастора Тураўшчыны зараз — бязлесная раўніна, у той час як за яе рачнымі межамі пераважаюць яшчэ лясныя абшары. Зямля Тураўшчыны поўнасцю асвоена пад сельгасугоддзі — палі і пашы. Інтэнсіўнае асваенне Тураўшчыны звязана з тым, што яна мае вельмі ўрадлівую глебу. Гэта адно з самых істотных адрозненняў Тураўшчыны ад баравога пясчанага і нярэдка балоцістага Палесся за Сцвігай і Прыпяццю і ад узвышанай глеістай Століншчыны за Гарынню.

Праўда, старэйшыя мясцовыя жыхары Тураўшчыны помняць яе зусім іншай. У мінулым палі выступалі толькі прагалінамі між нізін і далін, пастаянна запоўненых вадой, зарослых альхой, векавечнымі дубамі, непраходнымі лазнякамі. Асноўным транспартным сродкам у жыхароў Тураўшчыны ў пару адкрытай вады быў у той час вузкі човен з адным доўгім вяслом-шастом, таму што і ва ўгоддзі, і ў суседнія вёскі, і нават у бліжэйшыя мястэчкі (Тураў, Давід-Гарадок, Столін) самай зручнай, лёгкай і самай прамой дарогай была вада. Прыбярэжныя вёскі каля Прыпяці і Сцвігі злучалі з ракой пойменныя азёры, затокі або старыя рэчышчы, а вёскі ўнутры Тураўшчыны былі звязаны з рэкамі і з суседнімі вёскамі рознымі пратокамі, канавамі, азярынамі і іншымі натуральнымі вадаёмамі. Такая натуральная вадзяная дарога называлася звычайна *ездой,* або *яцелем.* З любой вёскі на Тураўшчыне можна было трапіць па такіх праточынах і далінах у іншую вёску, а таксама перабрацца са Сцвігі ў Гарынь або ў Прыпяць і наадварот. Увесну ж, у разліў, вада надоўга запаўняла ўсе нізіны, заходзячы нярэдка і ў вёскі. Ніколі не затапляла вада толькі *Казаргаць* — досыць значную ўзвышаную пясчаную граду, якая праходзіць праз усю Ту-

раўшчыну недалёка ад Сцвігі. Гэта града з'яўлялася, відаць, месцам першых паселішчаў на Тураўшчыне. Толькі з развіццём жывёлагадоўлі і сельскай гаспадаркі людзі пачалі паступова перамяшчацца адсюль на пастаяннае жыхарства бліжэй да рэчак.

Асноўны і, відаць, спрадвечны занятак жыхароў Тураўшчыны — земляробства. Цяпер гэта адзін з галоўных напрамкаў развіцця мясцовай сельскай гаспадаркі. Але не толькі поле карміла тураўцаў.

Вельмі важнае значэнне мела і мае зараз на Тураўшчыне жывёлагадоўля. Гэта ў першую чаргу буйная рагатая жывёла і свінні. Для ўтрымання буйной рагатай жывёлы тут існуюць вельмі спрыяльныя ўмовы. Гэта асушаныя даліны і нізіны між палёў і шырокія лугі каля рэк. Асабліва неабсяжныя яны каля Прыпяці. Паплавы з густой і высокай травою чаргуюцца тут з доўгімі азёрамі і старыкамі, з зарослымі кустоўем нізінамі. Пасля касавіцы ўсе паплавы густа застаўлены звычайна высокімі палескімі стажкамі сена. У мінулым стажкі звозілі з луга толькі зімою, таму што ўлетку і ўвосень дабрацца да іх на кані з возам было немагчыма. А зімою ўсё сяло, як толькі добра ўляжацца снег і возьмуцца маразы, таптала асноўную дарогу на луг, часта праз мокрыя, з вадой пад снегам мясціны. Такія мясціны, калі на іх растаптаць снег да вады, хутка прамярзалі, і тады па іх можна было пракладваць дарогу на санях. Нарыхтоўвалі сена, у прыватнасці жыхары вёсак па Сцвізе, таксама на балотах у лесе за дзесяткі кіламетраў ад вёскі. Нарыхтоўка сена на балотах ды часта і каля ракі праводзілася амаль заўсёды па вадзе. Скошаную траву насіламі выносілі на сухія мясціны. Праца гэта была цяжкай і небяспечнай для здароўя, не гаворачы ўжо пра пакуты, якія даводзілася цярпець і людзям і скаціне ад безлічы сляпнёў, аваднёў, камарэчы і машкары.

Незвычайная і, можа, нават у пэўным сэнсе унікальная была на Тураўшчыне ў мінулым свінагадоўля. Свінні мясцовых жыхароў утрымліваліся ў хляве звычайна толькі зімою. Пры гэтым у кожнага гаспадара была старая мацёра і два-тры парсючкі. Увесну ж увесь свіны статак на лодцы або сваім ходам адпраўляўся ў лес. Недзе сярод лясных абшараў гаспадар меў спрадвечнае або выбранае месца, куды і завозіў або заводзіў сваіх свіней. Гэта быў звычайна сухі астравок каля балота.

Тут гаспадар пакідаў статак да самай зімы. Свінні на чале з мацёрай абжывалі яго, здабывалі сабе ўсё неабходнае для жыцця. Гаспадар толькі час ад часу наведваўся да свіней. Ды і то толькі дзеля таго, каб яны не адвыклі ад яго зусім. Ён прыносіў ім якіх-небудзь ласункаў, нейкі час заставаўся каля іх. Звязвала яго са статкам мацёра, якая больш за іншых ведала гаспадара. Мацёра тут прыводзіла парасят. А позна ўвосень гаспадар адпраўляўся па свой статак у лес і прыводзіў яго дадому з дапамогай той жа старой мацёры. Разам з добра ўкормленымі парсюкамі, якія былі адпраўлены ў лес вясною, бегла чарада маладняку.

З вялікай увагай адносяцца жыхары Тураўшчыны да птушкагадоўлі. Асабліва многа трымаюць вадаплаўных птушак — гусей і качак. Гадуюцца гэтыя птушкі пераважна самі. Звычайна малых гусянят і качанят, як толькі яны крыху падужаюць, разам са старымі птушкамі вывозяць за раку на якое-небудзь возера або заточыну і пакідаюць там на ўсё лета. Ніякага прыгляду яны там не маюць і абыходзяцца тым, што здабудуць самі. Глыбокай восенню птушак заганяюць дадому. А калі ў каго за важака ў чарадзе добры стары гусак ці качар, то яе не трэба і заганяць. Ён прывядзе дадому сваю чараду сам. Таму, напрыклад, добрага гусака гаспадары вельмі цэняць, і жыве ён у іх некалькі гадоў.

У мінулым вельмі пашырана было збіранне яек дзікіх вадаплаўных птушак *(кошканне)*, якіх было тут безліч, а таксама лоўля качыных падлёткаў. Іх гадавалі ў двары ў спецыяльных загонах. Качынае мяса вялілі ў запас.

Важнае месца сярод заняткаў мясцовага насельніцтва займала раней рыбалоўства. Гэта быў дадатковы промысел кожнай сям'і. Рыба ў тым ці іншым выглядзе заўсёды была на стале ў мясцовага жыхара. Лавілі рыбу пераважна стаўнымі лавушкамі з лазовых дубцоў або з самаробнага сеткавага палатна. Асабліва пашыраным быў лоў уюноў. Сушаныя ўюны былі прадметам мясцовага гандлю і нават экспарту.

Нарэшце, варта адзначыць і некаторыя новыя сучасныя віды заняткаў мясцовых жыхароў Тураўшчыны. Няпоўная занятасць насельніцтва ў сельскай гаспадарцы абумовіла ўзнікненне і пашырэнне своеасаблівага адыходніцтва мужчын — выезд іх па найму на сезонныя будаўнічыя работы ў раёны цаліны і ў іншыя мясці-

ны нашай краіны, ці, як тут гавораць, *на ўкраіны.* А жанчыны ў заходняй частцы Тураўшчыны на прысядзібных участках займаюцца кветкаводствам. З насеннем садовых кветак яны выязджаюць у розныя гарады краіны *веснаваць* (або *на весну),* гэта значыць гандляваць ім.

Тураў зараз — звычайны гарадскі пасёлак. Вёскі ж на Тураўшчыне ў большасці даволі вялікія і мнагалюдныя. Ад мінулага захавалася раскіданае размяшчэнне хат у старых частках вёсак, вялікая колькасць завулкаў, вулак, вулачак. Гэта абумоўліваецца часта мікрарэльефам месца паселішча, а таксама і традыцыямі. Дзеці раней будаваліся па магчымасці на сядзібе ў бацькоў.

Зразумела, што фізіка-геаграфічныя асаблівасці Тураўшчыны, спецыфіка гаспадарчых заняткаў і розных спрадвечных (і новых) дадатковых промыслаў мясцовага насельніцтва, як і многія цікавыя асаблівасці яго традыцыйнага побыту і духоўнай культуры, знайшлі свой адбітак у лексіцы мясцовай гаворкі. Гэта лексіка добра захавалася яшчэ ў памяці мясцовых людзей, ужываецца ў зносінах. Праўда, у залежнасці ад размяшчэння вёсак на тэрыторыі Тураўшчыны, а таксама ў залежнасці ад вытворчых і іншых вясковых традыцый розныя функцыянальныя пласты слоў слоўніка мясцовай гаворкі ў розных вёсках выступаюць, натуральна, неаднолькава.

У тэрытарыяльных дыялектных адносінах Тураўшчына з'яўляецца заходняй ускраінай усходнепалескай дыялектнай зоны. На захадзе, па Гарыні, яна мяжуе з заходнепалескімі, або брэсцка-пінскімі, гаворкамі. Яны, як вядома, займаюць асобае становішча ў сістэме беларускіх народных гаворак, і гэта дыялектная мяжа з'яўляецца тут таксама, як і ў іншых месцах, досыць прыкметнай і выразнай, асабліва ў адносінах фанетыкі і марфалогіі. Лексічнае супрацьпастаўленне гаворак па гэтай мяжы таксама мае месца, але яно больш сцёртае і размытае ў выніку вельмі цеснай сувязі сумежнага насельніцтва Тураўшчыны і заходнепалескай дыялектнай зоны. Заходняя частка Тураўшчыны ўваходзіць у склад Столінскага раёна Брэсцкай вобласці, асноўная частка якога — левабярэжжа Гарыні з насельніцтвам заходнепалескай дыялектнай прыналежнасці. Акрамя таго, адзначаная частка Тураўшчыны была больш звязана з заходнім Палессем і раней, у прыватнасці да

1939 г. Сучасная мяжа Столінскага раёна праходзіць на Тураўшчыне па былой дзяржаўнай граніцы паміж СССР і Польшчай да 1939 г. Дарэчы, следам гэтай былой адасобленасці заходняй часткі Тураўшчыны ад ўсходняй з'яўляецца не толькі прыкметная пашыранасць тут заходнепалескіх лексічных рэгіяналізмаў, але і ўжыванне паасобных лексічных запазычанняў з польскай мовы, якіх не ведаюць на ўсходзе Тураўшчыны. У памяці жыхароў заходняй часткі Тураўшчыны больш захавалася таксама і традыцыйная лексіка мясцовай гаворкі.

Тэрытарыяльныя дыялектныя (і этнаграфічныя) адносіны Тураўшчыны з усходнім Палессем патрабуюць спецыяльнага вывучэння. Аднак, грунтуючыся на матэрыяле сучаснай беларускай лінгвагеаграфіі («Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», 1963), а таксама на матэрыялах папярэдняга знаёмства нашай групы з гаворкамі бліжэйшага наваколля на поўнач і ўсход ад Тураўшчыны, можна адзначыць, што прыкметнай дыялектнай мяжы паміж тураўскай гаворкай і гаворкамі ўсходняга Палесся не існуе. Больш таго, некаторыя суседнія вёскі на поўнач ад Тураўшчыны (за Прыпяццю) узніклі ў выніку прасоўвання на поўнач насельніцтва з яе межаў.

Крыху больш складаным з'яўляецца пытанне аб адносінах паміж гаворкай і насельніцтвам Тураўшчыны і яго ўсходнімі і паўднёвымі суседзямі. Мясцовыя жыхары Тураўшчыны называюць іх, як звычайна, палешукамі. Але самі сябе да палешукоў яны не адносяць. У адрозненне ад палешукоў жыхары Тураўшчыны маюць традыцыйную назву *замшукі*. Паводле мясцовай легенды, гэты мікраэтнонім звязан па паходжанню са словам *замак*. Праўда, корань назвы падказвае, што хутчэй за ўсё насельніцтва Тураўшчыны атрымала яе ад суседзяў-палешукоў па асаблівасці размяшчэння ў адносінах да іх. Паўднёвых і ўсходніх суседзяў адмяжоўвала раней ад Тураўшчыны не толькі Сцвіга, але і вялікія лясныя абшары з мохавымі балотамі.

Такім чынам, мікраэтнонім *замшукі* сведчыць, трэба думаць, толькі аб тэрытарыяльным супрацьпастаўленні насельніцтва Тураўшчыны палешукам. Але само існаванне гэтай адасабляльнай уласнай назвы жыхароў Тураўшчыны і яе мясцовае тлумачэнне, якое падкрэслівае пэўную сацыяльна-эканамічную адасобленасць *замшу-*

*коў* у мінулым, мае, відаць, пад сабой і некаторыя этнаграфічныя і дыялектныя падставы.

Сапраўды, па словах мясцовых старажылаў, жыхары Тураўшчыны адрозніваліся ў мінулым перш за ўсё некаторымі асаблівасцямі ў побыце і культуры. Яны вылучаліся адзеннем, мелі пэўныя адметнасці ў выкананні традыцыйных абрадаў і звычаяў і інш. Указваюць таксама старажылы і на паасобныя адрозненні ў гаворцы (у прыватнасці, у назвах паасобных прадметаў старога побыту). Але зараз гэта толькі звесткі-ўспаміны, якія патрабуюць, зразумела, спецыяльнага вывучэння.

Мясцовыя слоўныя багацці здабываліся рознымі шляхамі і спосабамі. Выкарыстаны былі перш за ўсё вядомыя навуковыя дапаможнікі для збірання лексікі — апытальнікі, праграмы і інш. Нямала было падрыхтавана рабочых апытальнікаў самімі збіральнікамі як у сувязі з асабістай навуковай цікавасцю да тых ці іншых бакоў народнага слоўніка (лексіка заняткаў, промыслаў, звычаяў людзей), так і ў сувязі з неабходнасцю дадатковага і больш дэталёвага выяўлення таго ці іншага пласта лексікі мясцовай гаворкі (некаторых часцін мовы, напрыклад прыслоўяў, прыметнікаў). Апрацоўваліся таксама ў выглядзе апытальнікаў выбаркі паняццяў, спісы слоў, якія рабіліся на аснове знаёмства з этнаграфічнымі апісаннямі Палесся, фальклорнымі зборамі, слоўнікамі і інш. Былі выкарыстаны, нарэшце, для падрыхтоўкі рабочых апытальнікаў невялікія выбаркі ўсходнепалескіх рэгіянальных слоў са студэнцкіх дыялекталагічных назіранняў, сабраных Т. С. Янковай (Гомельскі дзяржаўны універсітэт) і С. А. Грыгор'евым (Гродзенскі дзяржаўны універсітэт).

Апытальнікі і падобныя да іх метадычныя апрацоўкі тых ці іншых матэрыялаў для правядзення гутарак выкарыстоўваліся, зразумела, для інтэнсіфікацыі працы па выяўленню лексікі. Але не менш прадуктыўнымі былі таксама і пасіўныя назіранні над жывой мовай мясцовых жыхароў. І не толькі таму, што апытальнікамі, якімі яны дэталёвымі ні былі б, нельга поўнасцю ахапіць слоўнік гаворкі, але і ў сувязі з тым, што атрыманае пры дапамозе прамога пытання слова ніколі не будзе выглядаць так ярка, паўнакроўна і выразна, як у кантэксце натуральнага выразу, у звычайным змястоўным сказе з вольнай гутаркі або апавядання ці выказвання мясцовага чалавека. Пераважна шляхам прасейвання нашых

размоў з мясцовымі жыхарамі, а таксама і іх гутарак паміж сабой была атрымана дзеяслоўная лексіка. Спробны апытальнік па выяўленню дзеясловаў, складзены падобна да апытальнікаў па найменнях прадметаў, аказаўся малаэфектыўным дапаможнікам. Прасейваліся таксама і значныя магнітафонныя запісы размоў і апавяданняў мясцовых жыхароў.

Нарэшце, пасля некаторага накаплення матэрыялу пачала выкарыстоўвацца ў збіральніцкай працы і сама картатэка. Складаліся рэестры слоў, якія патрабавалі дадатковага вывучэння, удакладнення або ілюстравання, устанаўліваліся спосабы мясцовага словаўтварэння для выяўлення іх лексічнай прадуктыўнасці і інш. Дарэчы, такое выкарыстанне картатэкі намячалася ўжо ў самым пачатку яе стварэння. На першым этапе нашай збіральніцкай працы праводзілася не толькі рэгістрацыя словаўжыванняў (гэта значыць слоў у сказах), але і асобных слоў без кантэксту.

У пачатку збіральніцкай працы мы разлічвалі на актыўны ўдзел у ёй мясцовых настаўнікаў. Асабліва прыемным было знаёмства з М. Е. Бруем, старэйшым мясцовым настаўнікам у Тураве і выдатным знаўцам Тураўшчыны і яе гаворкі. У свой час ён быў адным з актыўных карэспандэнтаў А. Я. Крукоўскага, краязнаўцы і складальніка «Краёвага слоўніка Мазыршчыны» (яго рукапіс загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны). М. Е. Бруй даслаў у картатэку Тураўскага слоўніка каля 200 цікавых картак на мясцовыя словы з тлумачэннямі, а таксама каштоўны матэрыял па анамастыцы Тураўшчыны. Але, на вялікі жаль, у 1977 г. яго не стала. Даслала невялікі матэрыял для картатэкі таксама настаўніца з в. Хільчыцы М. Л. Кацэвіч, а былы дырэктар Хільчыцкай СШ Ф. С. Санец — магнітафонны запіс размоў і апавяданняў мясцовых жыхароў. Атрымана была невялікая падборка экспрэсіўнай лексікі ад М. А. Дарошкі з в. Верасніца (зараз навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР), які выязджаў і ў экспедыцыю на Тураўшчыну. Выкарыстан таксама для картатэкі добра апрацаваны запіс каля трох дзесяткаў мясцовых слоў, зроблены настаўніцай з в. Кароцічы К. І. Кудласевіч. Нарэшце, праведзена выбарка з дзвюх цікавых апрацовак мясцовай лексікі, характэрнай для в. Пагост, якія апублікаваны ўраджэнцам гэтай вёскі М. А. Саскевічам (Жывое слова. Мн., 1978; Народная словатвор-

часць. Мн., 1979). М. А. Саскевіч (ён з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі АН БССР), а таксама часткова М. А. Дарошка і настаўнік з в. М. Малешава А. М. Клімовіч з'яўляліся кансультантамі пры праверцы і дапрацоўцы падрыхтаваных на аснове картатэкі слоўнікавых артыкулаў для першага тома слоўніка і папоўнілі некаторыя артыкулы ілюстрацыямі.

Яшчэ ў самым пачатку працы па збіранню лексічных матэрыялаў для Тураўскага слоўніка паўстала пытанне аб тым, што павінен будзе ўключаць гэты слоўнік і наогул якi будзе яго характар. Мы былі перакананы, што па свайму лексічнаму складу гэты слоўнік павінен быць поўным зборам мясцовай лексікі. Але мы досыць выразна ўсведамлялі таксама і тое, што ён павінен быць і ў нейкай ступені дыферэнцыяльным зборам бытуючых зараз слоў у мясцовай гаворцы Тураўшчыны, нейкай абгрунтаванай з навуковага і практычнага боку іх. выбаркай з усяго таго разнастайнага і рознасістэмнага лексічнага арсеналу, якім карыстаюцца зараз у сваіх зносінах мясцовыя жыхары Тураўшчыны.

Мы спыніліся на поўным слоўніку так званай традыцыйнай лексікі. Гэты тып слоўніка адной гаворкі найбольш адпавядае, як нам здаецца, тым навуковым і практычным задачам, якія падобныя працы павінны вырашаць.

Пад традыцыйнай лексікай гаворкі мы маем на ўвазе словы, на якія ўказвае азначэнне назвы. Гэта ўся характэрная для гаворкі спрадвечная або досыць старая лексіка. Сюды адносяцца перш за ўсё словы, якія складаюць дыялектную лексічную аснову гаворкі. Гэта як бы яе лексічная спадчына, або той лексічны фонд, які з'яўляецца агульным з іншымі гаворкамі, прыналежнымі да той жа дыялектнай сістэмы, што і яна сама. Да традыцыйнай лексікі адносяцца таксама ўласныя, характэрныя толькі для яе лексічныя набыткі гаворкі, яе лексічная экзотыка. Гэта ў першую чаргу словы, з'яўленне якіх было абумоўлена або ўнутранымі семантыка-словаўтваральнымі перабудовамі і разгортваннем слоўнікавай сістэмы гаворкі, або ўзаемадзеяннем яе з суседнімі гаворкамі, а таксама розныя структурна ізаляваныя лакалізмы. Нарэшце, да традыцыйнай лексікі ёсць пэўныя падставы адносіць і лексічныя набыткі гаворкі з наддыялектных моўных сістэм, якія на яе ўздзейнічалі або ўздзейнічаюць зараз, але толькі та-

кія, якія адаптаваны і трансфармаваны ў гаворцы ў адпаведнасці з яе семантыка-словаўтваральным ладам. Інакш кажучы, гэта дастаткова старыя лексічныя запазычанні з літаратурных моў.

Падобны тып поўнага даведніка па лексіцы гаворкі Тураўшчыны быў абран таму, што ён, па-першае, дае магчымасць раскрыць яе слоўнікавы склад як пэўную сістэму, што вельмі важна, зразумела, з розных пунктаў погляду. І, па-другое, таму, што гэты слоўнік павінен з'яўляцца базай для лексікаграфічнай працы і лексікалагічных даследаў ва ўсходнепалескай дыялектнай зоне наогул. На яго аснове можна праводзіць, у прыватнасці, выяўленне мясцовых (занальных) лексічных тэрытарыяльных супрацьпастаўленняў, у адносінах да яго могуць стварацца агульныя зборы ўсходнепалескіх рэгіяналізмаў і інш. Акрамя гэтага, мелася на ўвазе і такая вельмі істотная акалічнасць, што гаворка Тураўшчыны, як і ўсе гаворкі ўсходняга Палесся, знаходзіцца на перыферыі сучаснай беларускай дыялектнай мовы, сумежнай з украінскай дыялектнай моваі, і любы іншы від даведніка па яе лексіцы мог бы даць не зусім правільнае ўяўленне аб асаблівасцях яе слоўнікавага складу.

«Тураўскі слоўнік» з'яўляецца звычайным алфавітным каталогам слоў. У рэестры слоўніка падаюцца невытворныя і вытворныя словы, за выключэннем памяншальных назоўнікаў. Гэтыя назоўнікі пададзены ў артыкулах на словы, ад якіх яны ўтвораны. Уключаны ў рэестр словы, якія выступаюць толькі ў складзе ўстойлівых словазлучэнняў. Нарэшце, у рэестр слоўніка змешчаны традыцыйныя мясцовыя воклічы і выгукі (звароты да свойскіх жывёл).

Не выносяцца ў алфавіт розныя рэгулярныя фанетычныя варыянты слоў. Усе яны змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле. Загалоўным словам у такім артыкуле выступае варыянт з найбольш характэрнымі для гаворкі Тураўшчыны фанетычнымі асаблівасцямі. Усе астатнія фанетычныя варыянты падаюцца ў ілюстрацыях.

Абагульняюцца таксама, як правіла, у адным слоўнікавым артыкуле фанетычныя варыянты слоў, якія адрозніваюцца гукавымі неадпаведнасцямі нерэгулярнага характару (неабумоўленыя неадпаведнасці ў характары галоснага або зычнага гука і інш.). Абагульненне нерэгулярных фанетычных варыянтаў слоў выклі-

кана тым, што іх узнікненне звязана або з рознымі мясцовымі індывідуальнымі адхіленнямі ад пашыранай фанетычнай рэалізацыі падобных слоў, або з неаднастайнай інтэрпрэтацыяй рознымі збіральнікамі іх гукавога афармлення пры запісе. Загалоўкам у падобных артыкулах выступае найбольш пашыраны або найбольш характэрны варыянт слова. Астатнія варыянты падаюцца непасрэдна пасля яго.

У адным слоўнікавым артыкуле абагульняюцца і варыянты слова ў адносінах месца націску. Але ў такіх выпадках замест пералічэння варыянтаў слова па націску ў загалоўным напісанні слова адзначаюцца ўсе галосныя, якія могуць быць пад націскам у яго варыянтах.

Абагульняюцца, нарэшце, у адным слоўнікавым артыкуле амонімы. Такое абагульненне зроблена па многіх вядомых лексікаграфічных прычынах. Але самае галоўнае тое, што гэта было зручна нам з практычнага пункту погляду. Тым больш што спосаб падачы амонімаў у дыялектных слоўніках не мае якога-небудзь прынцыпова важнага значэння для тых, хто імі карыстаецца. Добра падрыхтаваны па гэтаму лексікалагічнаму пытанню чытач без цяжкасцей і, можа, нават з большым поспехам, чым гэта маглі зрабіць мы, разбярэцца у матэрыяле такіх слоўнікавых артыкулаў сам, калі яму гэта спатрэбіцца.

Характарыстыка слова ў слоўніку пачынаецца ўказаннем на яго прыналежнасць да той ці іншай часціны мовы і заканчваецца ілюстрацыямі.

Прыналежнасць слова да часціны мовы адзначаецца пэўнай паметай. Паметы выкарыстоўваюцца ў агульнапрынятым зараз скарочаным выглядзе (гл. спіс скарачэнняў). Адзначым толькі, што ў некаторых слоўнікавых артыкулах падаюцца дадаткова паасобныя формы слова або нават уся парадыгма яго форм. Аднак гэта робіцца толькі для тых слоў, якія характарызуюцца выключнай своеасаблівасцю якой-небудзь сваёй формы або ўсёй парадыгмы форм.

Пасля марфалагічных памет падаюцца паметы, якія ўказваюць на функцыянальны або стылявы статус слова. Але гэтыя паметы аднюсна рэдкія ў слоўніку. Яны выкарыстоўваюцца толькі ў тых выпадках, калі падобная спецыфіка слова не падкрэсліваецца пры тлумачэнні.

Семантыка слоў раскрываецца ў слоўніку звычайна пры дапамозе тоеснага слова беларускай літаратурнай

мовы з той ці іншай агаворкай іншы раз адносна канкрэтнай меры семантычнай тоеснасці мясцовага слова і яго агульнанароднага адпаведніка, калі гэта было патрэбна. Больш разгорнутыя тлумачэнні семантыкі маюць словы, да якіх немагчыма было падабраць тоесныя літаратурныя словы. Вылучаюцца, як звычайна, аднaзначныя і мнагазначныя словы. Значэнні мнагазначных слоў нумаруюцца арабскімі лічбамі. Пры гэтым спачатку падаюцца асноўныя, першасныя значэнні, а потым розныя другасныя (пераносныя, метафарычныя, экспрэсіўныя і інш.). Кожнае значэнне мнагазначных слоў ілюструецца, калі ёсць магчымасць і патрэба, асобна. Разам з тым рад слоў у слоўніку мае такое ж тлумачэнне, як і мнагазначныя словы, але вылучаныя характарыстыкі іх семантыкі (часцей за ўсё ўказанні на іх прадметную або паняційную аднесенасць) не маюць лічбавай нумарацыі. Робіцца гэта ў тых выпадках, калі наяўны матэрыял па сваёй стракатасці і няпэўнасці не дае магчымасці для прыняцця пэўнага рашэння аб семантычнай структуры слова. Гэта, з аднаго боку, словы, якія неаднолькава былі растлумачаны пры рэгістрацыі збіральнікамі ў розных месцах Тураўшчыны, і, з другога — словы з натуральнай семантычнай няпэўнасцю і невыразнасцю, якія нярэдка трапляюцца ў гаворках.

Словы і іх значэнні ілюструюцца пераважна адным або некалькімі прыкладамі на іх ужыванне. Гэта, як правіла, сказы, запісаныя ў час гутарак з мясцовымі жыхарамі або пры назіранні за іх размовамі. Выкарыстоўваліся і сказы з гутарак і апавяданняў, запісаных на магнітафоне. Для ілюстрацый адбіраліся з картатэкі па магчымасці найбольш удалыя і змястоўныя сказы. Гэта сказы, у якіх знайшла адбітак якая-небудзь цікавая інфармацыя аб наваколлі, побыце, звычаях, адносінах людзей, мясцовых з'явах жыцця, а таксама прымаўкі, прыказкі, прыкметы, загадкі, звычаі і г. д. Пасля прыкладаў, якія маюць непасрэдныя адносіны да фальклору, у дужках адзначаецца прыналежнасць іх да пэўнага фальклорнага жанру (прымаўка, прыказка, з песні і г. д.). Загадкі падаюцца з адгадкамі, прытым, як правіла, у артыкулах на словы, якія выступаюць адгадкай. Аднак некаторыя словы ў слоўніку не маюць ілюстрацый. Гэта пераважна розныя тэрміны, наменклатурныя назвы, назвы дэталей і частак прылад і, нарэшце, па-

асобныя словы з вузкай сферай ужывання. Яны не маюць, на нашу думку, асаблівай патрэбы ў ілюстрацыях, да таго ж зарэгістраваныя прыклады іх ужывання з'яўляюцца часта проста невыразным тлумачэннем іх значэння або апісаннем прадмета, да якога яны адносяцца. Падобныя ілюстрацыі толькі дубліравалі б тлумачэнне значэння слоў. Кожная ілюстрацыя ў слоўніку пашпартызуецца — пасля яе падаецца назва вёскі, дзе яна запісана.

У канцы многіх слоўнікавых артыкулаў змяшчаюцца розныя ўстойлівыя фразеалагічныя выразы, якія маюць у сваім складзе пераважна ў якасці галоўнага кампанента загаловачнае слова артыкула. Гэтыя выразы маюць свае тлумачэнні і пашпартызаваныя ілюстрацыі.

У паасобных слоўнікавых артыкулах у самым канцы падаюцца кароткія этнаграфічныя звесткі, звязаныя з прадметам або з'явай, якую называе слова. Яны неабходны як для больш глыбокага разумення семантыкі слова, так і для некаторага знаёмства з тымі традыцыямі і звычаямі, якія стаяць за гэтым словам.

Фанетычнае аблічча загалоўных слоў і лексічных сродкаў у ілюстрацыйных прыкладах перадаецца ў слоўніку сродкамі беларускага пісьма з адлюстраваннем спецыфікі мясцовага маўлення ў той меры, у якой гэта магчыма было зрабіць (і патрэбна з лексікаграфічнага пункту погляду). Але напісанні адлюстроўваюць усё ж важнейшыя асаблівасці маўлення (за выключэннем наяўнасці ў пэўных лексіка-граматычных умовах вузкіх, або закрытых, галосных [ê], [ô]).

У канцы кожнага тома «Тураўскага слоўніка» змяшчаюцца ўзоры мясцовай мовы розных жанраў. Большасць тэкстаў падрыхтавана на аснове магнітафонных запісаў. Тэксты маюць дзве асноўныя задачы. Яны, па-першае, з'яўляюцца арганічнай часткай слоўніка, дапаўняючы яго ілюстрацыйным матэрыялам. Тэксты даюць магчымасць больш дэталёва паказаць, у прыватнасці, значэнне і ўжыванне службовых слоў, займеннікаў, многіх ужывальных мнагазначных дзеясловаў і іншай падобнай лексікі, якую вельмі цяжка выразна і ўсебакова раскрыць у межах слоўнікавага артыкула. Па-другое, тэксты знаёмяць з асаблівасцямі сінтаксісу гаворкі. Зразумела, яны маюць цікавасць і з боку свайго зместу і формы як народныя творы.

Выданне «Тураўскага слоўніка» будзе ажыццёўлена ў пяці тамах. Апошні том будзе змяшчаць таксама зарэгістраваную на Тураўшчыне анамастыку, у прыватнасці геаграфічныя назвы і антрапанімію.

Слоўнікавыя артыкулы да першага тома распрацавалі: літары *А, Г* — А. А. Крывіцкі, *В* — Г. А. Цыхун, *Б* — І. Я. Яшкін. Тэксты і даведачныя спісы падрыхтаваў А. А. Крывіцкі. У падрыхтоўцы першага тома да друку значны ўдзел прынялі П. А. Міхайлаў і Т. М. Трухан.

*А. А. КРЫВІЦКІ*

## НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ ТУРАЎШЧЫНЫ

*Століпскі раён*

Аздамічы (Оздáмічы)
Альгомель (Óльгомле)
Альпень (Ольпéнь)
Альшаны (Ольшáны)
Велямічы (Велемíчы)
Кароцічы (Корóчычы)
Лутві (Лýткі)
В. Малешава (Велíкі Мáлешоў)
Мачуль (Мочýль)
Рамель (Рэмéль)
Рубель (Рубéль)
Сямігосцічы (Семугóшчы)
Талмачава (Толмáчоў)
Хотамель (Хóтомле)
Цераблічы (Церэблíчы)

*Жыткавіцкі раён*

Азяраны (Озерáны)
Буразі (Бýрэзі)
Бярэжцы (Берэ́зцы)
Верасніца (Верэсніца)
Дварэц (Дворэ́ц)
Запясочча (Запесóч'е)
Крэмна (Крэ́мно)
Любавічы (Любовíчы)
М. Малешава (Малы́ Мáлешоў)
Варонін (Ворóнін)
Пагост (Погóст)
Рыдча (Ры́дча)
Рычоў (Рычóў)
Сямурадцы (Семýрадцы)
Старажоўцы (Сторожóўцы)
Тураў (Тýроў)
Хачэнь (Хочэ́нь)
Хільчыцы (Хільчычы)
Чэрнічы (Чэ́рнічы)

## ЭКСПЕДЫЦЫІ НА ТУРАЎШЧЫНУ

1967 г.— Запясочча; 1968 г.— Бярэжцы, Запясочча, Пагост, Сямурадцы, Талмачава, Тураў, Хільчыцы; 1969 г.—Альшаны, Бярэжцы, Кароцічы; 1970 г.— Аздамічы, Альгомель; 1971 г.— Альпень, Хотамель; 1972 г.— Мачуль, Пагост; 1973 г.— Дварэц, Сямігосцічы; 1974 г.— Дварэц, Цераблічы; 1975 г.— Лутві, Чэрнічы; 1976 г.— Верасніца, М. Малешава; 1977 г.— Верасніца, Хачэнь; 1978 г.— Альгомель, В. Малешава, М. Малешава, Талмачава; 1979 г.— Аздамічы, Альшаны, Буразі, М. Малешава, Пагост, Рубель; 1980 г.— Лутві, Любавічы, Рамель, Сямурадцы, Хільчыцы; 1981 г.— Азяраны, Альпень, Бярэжцы, Мачуль, Рычоў, Старажоўцы, Сямігосцічы, Хачэнь, Хотамель, Чэрнічы.

## УДЗЕЛЬНІКІ ЭКСПЕДЫЦЫЙ

Л. А. Антанюк (1971), Г. Ф. Вештарт (1969), Л. Ц. Выгонная (1970, 1978), В. Л. Вярэніч (1970—1971), М. А. Дарошка (1976—

1977), І. П. Кавальчук (1968), Н. Ц. Кажура (1971), У. В. Колесаў (1972), А. А. Крывіцкі (1967—1981), В. Д. Лабко (1975—1977), Р. М. Малько (1971—1972), П. А. Міхайлаў (1973, 1975—1976, 1980—1981), А. А. Напорка (1971), П. В. Садоўскі (1973), Саскевіч (1979—1980), Т. М. Трухан (1976—1979, 1981), Г. А. Цыхун (1967—1975, 1977—1980), Э. Г. Якушаў (1968), І. Я. Яшкін (1969—1981).

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

*абразл.*— абразлівае
*адз.*— адзіночны лік
*выкл.*— выклічнік
*груб.*— грубае
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе
*ж.*— жаночы род
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зб.*— зборны назоўнік
*звыч.*— звычайнае
*злучн.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*зніж.*— зніжальнае
*іран.*— іранічнае
*ліч.*— лічэбнік
*м.*— мужчынскі род
*м. і ж.*— назоўнік агульнага роду
*метаф.*— метафарычнае
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*наз.*— назоўнік
*незак.*— незакончанае трыванне
*павел.*— павелічальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*часц.*— часціца
*экспр.*— экспрэсіўнае

# А

А. 1 *часц.* А. *Цётко, а гусі мое ходзяць там?—Бачыла, ходзяць.* Сямігосцічы. *Ці пойдуць цепер на работу? — А я знаю?* Верасніца. *Ганно, хлеб прывёзлі ў лаўку? — А мо? То зарэ бегу.* Аздамічы. *А чому ву этак жнеце? У нас не так.* М. Малешава. *Манё, дзе тые коні ходзяць? — А я бачыла?* Хачэнь. *А куды ты на работу? — На лён.* Запясочча. *Пеця, а Пеця! Подымайса мо!* Пагост. *А нáшчо мне твоя забота?* Бярэжцы. *А голь его ведае, дзе вон!* Хотамель. *А куды! Пошла на пашу!* Сямігосцічы. *А е вéсці дзе! Як пошоў, то ні слуху ні духу.* Верасніца. *Вóза нема, хомута нема, а нічого нема!* Запясочча. *А сходзіўса вéцёр, а грымота, а плескота!* Дварэц. *Людзі здорóвуе зарэ: а бегуць, а лецяць, а робяць!* М. Малешава. *А спокойны чоловек, а церпліві!* В. Малешава. *У нас було а дроў, а сенокосу, а попасу!* Хачэнь. *Булі дубэ а дубэ кругом!* Мачуль. *На Сóлом'і берэш а берэш тоé рыбу!* Луткі. *То ты получыў бы розок а розок!* Кароцічы. *Мо будзеце обедаць, а?* Хачэнь. *Бабо, ее одзін сын у Мінску, а?* М. Малешава. *Свахо! — А? — Ты знаеш казку про лося́, роскажы ім.* В. Малешава. 2 *злучн.* А. *Недосол на стол, а перэсол под стол* (прымаўка). Аздамічы. *Седзець на лавочцы урэм'е не сцегáецца, а пасці худобу урэм'е дліннэ.* Мачуль. *Ужэ не йдзе к ейцу, а к коўбасе* (прымаўка, пра паварот да зімы). М. Малешава. *О-о, а брат ёгó буў шчэ мудрэйшы!* Мачуль. *Ву пóйдзеце? А я, верно, не пойдý.* Верасніца.

А-А-А *выкл.* Пра ўсведамленне з'явы, думкі. *А-а-а, вот онэ шо, а я і не ведаў!* Пагост.

А'БЕЦ *м.* Стары халасцяк. Запясочча.

АБО' *злучн.* Або, ці. *Або ему, або сцене — і не дбае!* Запясочча. *Я ўжэ або буду* (выжыву), *або не.* Дварэц. *На покрóву покрые землю або лістом, або снегом.* Верасніца. *Або буде шія, або сіла* (прымаўка). Рубель.

АБУ′ 1 *злучн.* Абы, як толькі. *Навек абу ему пасці корову́, то дошч.* Цераблічы. *Абу чуць — вона ўжэ уча́дзела.* Лутк і. *Хоць за вола, абу дома не була* (прымаўка). Хачэнь. *Абу стоіць, то нехай стоіць.* М. Малешава. *Абу ростане, то вона е, та ло́тацъ.* В. Малешава. *Абы пры́дуць, то прынесу шчо-небудзь.* Верасніца. *Абы седзець, то пошла б зельа нарвала свіньé.* Пагост. *Плата ў ка́та, абы душа не голодна* (прыказка). Мачуль. *Плачэ, абы плакаць.* Запясочча. *У лесі воды не трапіш напіцца, абы ў рэцэ.* Аздамічы. 2 *часц.* Толькі каб. *Абу ходзіць на прыстань! Раз не прыехаў, то ўжэ не прыедзе.* Пагост. *На́шчо ты мне ложкі золотые купіла? Абу грошы траціць? Дзеўко, дзеўко!* Там жа.

АБУ-ДЗЕ′ *прысл.* Абы-дзе. *А еке тэ молоко будзе? Корову пасцяцца абу-дзе!* Верасніца.

АБУ′-ЕКІ′ *прым.* Дрэнны, нікуды не варты. *Вужо́вікі — гэто абу-екіе грыбу.* Хачэнь. *Вон не лю́дзкі, абыекі.* В. Малешава. *Вон, немец, дзеткі, буў вельмі абыекі народ.* Буразі.

АБУ′-КУДЫ′ *прысл.* Абы-куды. *Е целушкі абу-куды ходзяць — і ў город, і ў посеў, куды хочэш.* Верасніца.

АБУ′ЛЕ-ДЗЕ′ *прысл.* Абы-дзе. Цераблічы.

АБУ′ЛЕ-ЕКІ′ *прым.* Дрэнны, нікуды не варты. *Абыле-екого сена, да хватае для одноé коровы.* Цераблічы.

АБУ′ЛЕ-КУДЫ′ *прысл.* Абы-куды. Цераблічы.

АБУ′ЛЕ-ХТО′ *займ.* Абы-хто. Цераблічы.

АБУ′ЛЕ-ШЧО′ *займ.* Абы-што. Цераблічы.

АБУ′-ХТО *займ.* Абы-хто, усякі. *Это ж не абу-хто, это ж чоловек!* Запясочча. *До ее абу-хто ходзіць, вона ж без сорома́.* Верасніца.

АБУ′-ШЧО *займ.* Дрэнь. *У ее корова така абу-шчо, ані молока не дае.* Верасніца. *Абу-шчо у мене свінча́. Есці не хочэ, худэ.* Пагост. *Ох, божэ мой, шоб з мого дзіцяці і воно тэ абы-шчо здзевалосо!* Мачуль. *Это ж отрава, это ж абы-шчо!* (пра гарэлку). В. Малешава.

АБУ-Я′К *прысл.* Абы-як. *От абу-як покосіў.* Верасніца.

АБЫ′Р *выкл.* Вокліч, якім адганяюць авечак. *Абыр на пашу, дурные!* Альшаны.

АВО′Й *выкл.* Авой. *Аво́й, землякі прышлі ко мне!* Кароцічы.

АВУ′ЛЬ, АВУ′ЛЯ *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць качак, качанят. *Авуля на во́ду, годзеква́калі тут!* Сямігосцічы.

АВУ'С, АВУ'СА, АВЫ'С, АВЫ'СА, АВІ'С, АВІ'СА, АВІ'ССА *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць ката. *Авус, негодзяй, с хаты!* Дварэц. *На кота у нас — авус! Авісса, паскуда, прывўк на стол злазіць!* Пагост.

АВУ'ЦЯ *выкл.* Вокліч, якім адганяюць качак. *Авуця, вўтоўкі, у одрыну!* Верасніца.

АГА' *часц.* Так, але. *Ты була ў лаўцы? — Ага, була.* М. Малешава.

А'ГРЭСТ *м.* Агрэст. *Е чорны і е красны агрэст.* Запясочча.

АГУ' *часц.* Так, але. *Я продаў, агу, тую хату.* Цераблічы. *Агу, пехото́м у Турої ходзіла.* М. Малешава. *Агу, лучына була. Од ее можно очамрэ́ць.* Рубель. *Агы, і дрот можэ порэзаць.* Луткі.

АГЫ'ЛЯ, АГІ'ЛЯ *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць гусей, качак. *Агыля.* Верасніца. *Агіля.* Луткі. *Агыля, агіля.* Пагост.

АДА'ЛЕ *прысл.* Пасля. *Рвалі му, рвалі, ніяк не можэм узорваць, адале прыдумалі молотком біць.* Бярэжцы.

АЖ 1 *злучн.* Ажно. *Зазірнулі ў курэнь, аж вон лежыць там.* Бярэжцы. *Я зайшла, аж замўканое ўсе.* М. Малешава. 2 *часц.* Аж. *Ох, і сердзіты, аж дрыжыць!* Кароцічы. *Трэбо короўкі далеко, аж до корчэй гнаць.* Сямігосцічы. *Аж сцёпае, не могу гледзець на горэлку!* В. Малешава. *Собака брэшэ Борысо́ў, так дае, шо аж-аж!* Мачуль.

АЖНІ', АЖЭНІ' *часц.* Ажно. *Булі ажні тры сем'ё ў хаці.* Мачуль. *Спужаўса, ажні дух занело!* Верасніца. *А вон ажэні побелеў от страху!* Рубель.

АЗІЯ'Т *м.* Чалавек з невыносным характарам. *Азіят! З ім можно жыць?!* Верасніца. *Шо ты за азіят нейкі, бы собака кручэны!* Луткі.

АЙ *выкл.* Пры нездавальненні. *Ай, колькі ее е, тольcount от ее і роботы.* М. Малешава.

АЙДЗЕ' *часц.* Дзе. *Айдзе то ты волочысса?* Цераблічы. *Айдзе того дзіцяці бацько?* Запясочча.

А'ЙСТРА *ж.* Астра. *Ну а што ж я не знаю цветоў айстроў?* Сямурадцы.

АЙСЬ, А'ЙСЯ, А'СЯ, АСЬ *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць свіней. *На свінью кажэмо: «Айсь у хлеў!»* Аздамічы. *Айся, чого ты сюда прышла да рыеш!* Альпень. *Ой, божэчкі, чыя-то свіння ў моіх картоплях, ась, зараза!* Пагост.

АК *злучн.* Як. *Ак Ільля, то і ўсе, купацца — крый божэ!* Верасніца.

АКІ'Т, АКІ'ТА, АКІ'ЦЬ, АКІ'ЦЯ, АКОТА' *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць ката. *Акіт, коцяро! Тоўчэсса под ногамі!* Сямігосцічы. *Акіта на печ, чого ты тут лазіш!* М. Малешава. *Акіць с печы, улёгса тут!* Верасніца. *Акота, злодзей, я тобе дам!* Мачуль. *Акот, шоб ты здох!* Альпень.

АКІ'Ч, АКІ'ЧА, АКЫ'Ч, АКЫ'ЧА, АКІ'ЦЬ, АКІ'ЦЯ *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць авечак, коз. *Акіч у хлеў, то овечкі й бегуць.* Цераблічы. *Акыча на болóнье!* Дварэц. *Акіча, овечка дурна!* Верасніца. *Акіча, козы, шоб на вас здохля!* Бярэжцы.

АКІ'Ш, АКІ'ША, АКЫ'Ш, АКЫ'ША *выкл.* Воклічы, якімі адганяюць курэй, птушак. *Акіш, шоб ву вудохлі! Усе грады перэгрэблі тут! Акіша, проклятые!* Верасніца. *Акыш, шоб цебе коршўн!* Цераблічы. *Акыша, куры, на вуліцу!* М. Малешава.

АКОСЮ'ЛЬ *выкл.* Вокліч, якім адганяюць каня. В. Малешава.

АКРА'З *прысл.* Якраз. *Та корова акраз два літры дае.* Дварэц.

АКУРА'Т *прысл.* Тое ж. *Акурат на жніва трапіў додому.* Мачуль. *Вуйшоў на дорогу — акурат машына.* Верасніца.

АЛЕ' 1 *часц.* Так, але, ну. *Вона поехала гэтым аўтобусом? — Але, гэтым.* Дварэц. *Але, ужэ леціць без памеці* (пра кароў у гарачыню). Мачуль. *Е така дзерэвіна, алé* (пра бераст). М. Малешава. 2 *часц.* Але ж, ну. *Але ек з ведра дождж!* В. Малешава. *Але дзіво, дзе вон буў?* Верасніца. 3 *злучн.* Але. *Мы знáём* (назву рэчкі), *але мы не говорымо так.* Цераблічы.

АЛЕЛЕ' *часц.* Так, так-так. *От алеле! Така сáма була!* Дварэц. *Алеле, пóйдом ужэ.* Луткі.

АЛЁ, АЛЕ' *выкл.* Вокліч, якім падганяюць карову. *Алё, рабá, на пашу!* М. Малешава. *Але, коропўка, у хлевец!* Верасніца.

АЛО'Х *м.* Капут, канец. *А цепэр алох, нема мэду.* Мачуль. *Перэвернулосо, да ўжэ й алох ему.* Цераблічы.

АЛЬБО' *злучн.* Або, альбо, ці. *Говоры альбо по-руску альбо по-белоруску.* Альпень. *Альбо лапці плецеш альбо коўшыка екого робіш.* Аздамічы. *Паралізовало було, то ўжэ альбо — альбо* (ці будзе жыць ці памрэ). Хачэнь.

АЛЮ'Ш, АЛЮ'ША *выкл.* Воклiч, якiм адганяюць цяля. *Алюш, целушко, у хлеў!* Альпень. *Алюша, целята!* М. Малешава.

АМА'ЛЬ *прысл.* Амаль. *Навулёт амаль пробiў.* М. Малешава.

АНГЕ'РКА *ж.* Слiва з буйнымi ягадамi. *Ангеркi е белые, е жоўтые, вiшнёвуе.* В. Малешава.

АНДАРА'К *м.* Саматробная суконная спаднiца. *Андаракá ў цебе е на празнiк?* Верасніца. *Пралi войну да ткалi андаракi.* Сямурадцы. *Памяниш.* а н д а р а ч ó к. *Познáюць нашу дочкý i ў андарачку!* (прыказка). Сямурадцы.

АНДЫ'К, ЕНДЫ'К *м.* Iндык. *Андыкi наглые, ек гусi! Воны, як свiшчы, так не любяць.* Запясочча. *Летось буў ендык шчэ большы за гэтого.* Верасніца.

АНДЫ'ЦКI *прым.* Iндычыны. *Андыцке м'ясо самэ смачнейшэ i дорожэйшэ.* М. Малешава.

АНДЫ'ЧКА, ЕНДЫ'ЧКА *ж.* Iндычка. Запясочча. *Ендычка.* Верасніца.

АНДЫ'ЧЫ *прым.* Iндычыны. Альпень.

АНI' *часц.* Анi, нiколькi. *Не хочэ анi нiчого есцi. Только рэвэ i рэвэ.* Луткi.

АНIГА'ДКI *прысл.* Усё роўна, хоць бы што. *Шо ты говоры ей, шо ты не говоры, вона i не дбае, ей анiгадкi.* Бярэжцы. △ А н i г а д к i е к i. Незвычайны. *Анiгадкi екi кожух собе достаў.* Пагост. А н i г а д к i к о л ь к i. На дзiва многа. *Анiгадкi колькi шыферу достаў, i хату i одрыну покрые.* Пагост.

АНI'Ж *часц.* Аж. *Сохне, анiж трэшчыць.* Пагост. *Анiж дух займае, такi квас холодны!* Верасніца.

АНIЧО'ГО *прысл.* Зусiм. *Я анiчого его́ не вучыла.* Сямурадцы.

АНIЯ'К *прысл.* Нiяк, зусiм нiяк. *Гразко, анiяк не можно пройцi.* Запясочча. *Анiяк не ўмеў пiсаць бацько.* Буразi.

АНЦЕРЭ'С *м.* Нешта цiкавае. *От я тобе роскажу анцерэс!* Запясочча.

АНЦI'ХРЫСТ *м.* Лаянкавае слова. *Анцiхрыст ты, нечысцiк, паразiт! Шо ты робiш?!* Верасніца.

АНЦУ'ХА *ж.* Тое ж. *От, анцуха дурная!* Хачэнь.

АПОШО'Ў *выкл.* Воклiч, якiм адганяюць сабаку. *Апошоў, шоб ты вудох! Брэшэш тут.* М. Малешава.

АРУ'С *выкл.* Воклiч, якiм адганяюць ката. *Арус, акота, коцяро!* Аздамiчы.

АРШЭ'НЕЦ *м.* 1. Нейкая міфічная істота, бескантрольная ў паводзінах. *Ой, коб на цебе аршэнец!* Запясочча. *Ба́нта коту завезаў хлопчык, ой, коб на цебе аршэнец!* Дварэц. 2. Свавольнік. *Тые аршэнцы Мар'янскіе ўсе спонюць!* Верасніца. *О, аршэнцы, куды вы лезеце!* Дварэц.

АРШЭ'ННІК *м.* Нейкая д'я́бальская атрута (?). *Я тобе дам аршэнніку! Як скажэ так, то ўжэ накляла́, хужэй буць не можэ. Цепер кагуць, дам тобе дусту, да ешчэ й сівого.* Альшаны.

АТ *выкл.* Пры незадаволенасці, у злосці. *Ат, это добры косец! Не говоры!* Лутксі. *Ат, холеры на вас нема, акіш одсюль!* Пагост.

АТА'МАН *м.* 1. Завадатай у гульнях. Запясочча. 2. Галоўны кіраўнік на плыце. *Атаман, його дзело седзець на плуту і командоваць.* Запясочча. *Як плут ідзе на кручу, то атаман крычыць дубовіку, шоб кінуў якора.* Пагост.

А ТО *злучн.* Бо. *Обуйса, а то ногі позаколваеш.* Цераблічы. *Цепер невестка е, а то сама була.* Лутксі. *Не трэба муцца, а то сорокі схопяць.* Дварэц.

АЦ, АЦА' *выкл.* Вокліч, якім паварочваюць вала ў возе ўправа. *Ац — то от себе.* Альшаны.

А'ЦІ *выкл.* Дзякуй (у размове з дзецьмі). *Скажы аці маме.* Мачуль.

АЦІ'ВА *выкл.* Вокліч, якім адганяюць курэй. *Аціва одсюля, чого порасседа́ліса!* Хачэнь.

АЦІ'ПА *выкл.* Вокліч, якім адганяюць куранят. *Аціпа з горо́да!* М. Малешава.

АЦЭ'БА *выкл.* Вокліч, якім паварочваюць вала ў возе ўлева. Сямігосцічы.

АЦЮ' *выкл.* Вокліч, якім адганяюць свіней, парасят. *Ацю, ідзі отсюля, навоняла!* Альпень. *Ацю, шоб вы подохлі! От за́рэ давацьму!* Сямігосцічы.

АШЫ'ЦЬ, АШЫ'ЦА *выкл.* Тое ж. Аздамічы.

# Б

БА′БА *ж.* 1. Старая жанчына, бабуля, матчына або бацькава маці. *Плако́м плакала од того болю, а то лёгенько стало, як сем баб отшэптало.* М. Малешава. *Вона ж баба проціў его, а не жонка.* Там жа. *Тут кажуць ба, а ў Хочэ́ні — бабо.* Верасніца. 2. Жонка, жанчына. *Дзеўкой на ўсю вуліцу, а бабой на ўсю печ* (прымаўка). Запясочча. *От як моя баба добрэ прыготовіла еду: еў, еў, затоб пузо не лопнуло.* М. Малешава. *Моя баба з молодых го́д мене вувела, а ў стары́е не ўвела.* Луткі. *А сколько ж бабоў трэба, коб той лён зробіць.* М. Малешава. *Седзяць под хатою бабы́ і крывуюць, што я на кварціру беру.* Хачэнь. *Тые людзі шукаюць тых бабэй.* Цераблічы. 3. Павітуха. *Его́ баба була за бабу у одного мужыка, а я за кума.* Чэрнічы. 4 *перан. іран.* Бязвольны мужчына. *У ее чоловек — баба, і не можэ трапіць ні горшэго ні лепшэго.* Дварэц. *Не мужчына, а так, баба, шо вона загадае, то вон робіць.* Луткі. 5. Персанаж з вясенніх гульняў моладзі. *У круг поберуцца на велікодне, да садзяць одну ў круг, да бабой ее зовуць.* Хачэнь. 6. Істота ў вобразе старой жанчыны, якой палохалі малых дзяцей. *Унь там, под місто́м, баба слепа́ да сопліва, то будзеш цоловаць ее, бо ты перві раз едзеш.* В. Малешава. *Пойдзеш у лес, то цебе там поцэлуе сопліва баба.* Аздамічы. *Не едзь под мо́стом, баба жэлезна седзіць.* Сямігосцічы. 7. Вялікая рачная чайка. *Ба́бу мы зовом велікіе крычкі.* Дварэц. 8. Вялікая плотка. *Баба — веліка плотка, вона разом з другімі плавае.* Сямігосцічы. 9. Сорт груш. Хачэнь. *Бабы́ мн.* Сорт яблык. Аздамічы. 10. Калода, на якой гнулі дугі, абады. Сямігосцічы. 11. Прыстасаванне для нацягвання шын на колы. Сямігосцічы. 12. Пад'ёмны груз для забівання паляў. *Баба — то стоўпы забіваюць на мосту.* М. Малешава. 13. Ручная трамбоўка. Аздамічы. 14. Вертыкальны апорны слуп у ветраку. Аздамічы. 15. Папярочная падкладка на санях (пры вывазцы

бярвення). В. Малешава. 16. Бульбяная каша, камы; бабка з дранай бульбы. Тураў. △ Б а б а п у п о р э́ з н а, б а б а п у п о р э з н і ц а. Павітуха. *Бабу пупорэзну бралі по свойству́.* М. Малешава. *У нас вона була пупорэзною бабою.* Луткі. *Ко́лісь жонкі рожалі дома, пуп резала баба-пупорезніца, а цепер у Турові у больніцы рожаюць.* Пагост. Б а б а с о л о́ м е н н а, б а б а с о л о м е н к а. Варажбітка на саломінках. В. Малешава. Б а б а с н е́ ж н а. Снежная баба. *Качалі етые грудкі да лепілі бабу снежну.* Сямігосцічы. Б а б а-г р о м. Мажная жанчына. М. Малешава. Б а б а-с п і р т. Рухавая, энергічная жанчына. Сямігосцічы. Б а б а-д у р н е́ б а. Уніжальнае да старой жанчыны. *От така я баба-дурнеба!* М. Малешава. Г у л я ц ь у б а б у. Гуляць у ката і мыш. Тураў.

Паводле звычаю, *бабе пупорэзной* на хрысцінах парадзіха дорыць дзве *на́меткі* (тканіну, хустку) і пірагі. Кожны год бабка двойчы носіць да ўнукаў падарункі: *на вялікдзень волочэбнэ* (тканіны на сукенку, цукеркі), а на каляду — грошы. Дварэц.

У дзяцей пры каштаванні пяра цыбулі існуе прыгаворка: *З мешком баба, з кошэлем баба, кум-баба.* М. Малешава.

БАБА'ЙКА *ж.* Пярэдняе рулявое вясло на плыце. Запясочча. △ О д б і ц ь б а б а й к о ю. Адвярнуць плыт. Пагост. *Одбі бабайкою!* (каманда атамана плытнікаў). Альпень.

БАБА'НЫ *мн.* Ікра ў ментуза. Верасніца.

БА'БЕНЯ *ж.* Дзіця, падобнае на матчыну або бацькаву маці. *Вона ўся бабеня. У бабу Сынкле́ту ўдаласа, крапінкі позбірала.* М. Малешава.

БАБЕ'ЦЬ *незак.* Пакрывацца зморшчынамі (пра скуру). *Бабеюць рукі от воды да мо́рхлые робяцца.* М. Малешава.

БАБЗНО' *н. зневаж.* Нязграбная жанчына. *Уге етэ бабзно поцяглóсо.* Сямігосцічы. *Добры лу́хтан гэто бабзно!* Пагост. *Бабзно — така гру́зна баба, ідзе, свое цело не несе.* М. Малешава.

БА'БІН *прым.* Бабчын. *Бабіна ўнука.* В. Малешава. △ Б а б і н а к а ш а. Абрадавая прасяная каша на хрысцінах. *Не кажэце, бабіна каша не смашна, а ежце нішком!* Дварэц. Б а б і н э л е т о. Павуціннe, якое лётае ў паветры. *Бабінэ лето за траву чэпляецца, за ўсе,*

*бу сажа така, осенéю і весною.* Сямігосцічы. *Шчэ будзе цепло́, шчэ бабіно лето будзе летаць.* В. Малешава.

БАБІ'НЕЦ *м.* Бабінец. *Бабінец у цэркві, а над тым бабінцэм хоры булі.* Верасніца. *Бобінец.* Запясочча.

БА'БІЦА *ж.* 1. Рыба сямейства карпавых. *Бабіца — плотка сіневата, чэрэвата.* Мачуль. *Бабіца бі плотка,* (у яе) *чорнейша спіна і тоўшчэйша* (яна) *за плотку.* В. Малешава. 2. Старая дзяўчына. *От, седзіць у хаці, бі бабіца старая.* В. Малешава.

БА'БІЦЬ *незак.* Бабіць. *Вона бабіла у мене сына.* Дварэц. *Вона навек бабіла ў нас.* М. Малешава.

БА'БІ'Ч *м.* Дзіця ў бабкі-павітухі. *Пошла маці ў бабі да родзіла, то ўжэ казалі на его ба́біч.* Сямігосцічы. *Пойшла ў бабу́ дай сама родзіла бабіча́.* М. Малешава.

БА'БКА *ж.* 1. Страва з камоў або дранай бульбы. *Зверху зачахла, а ў серэдзіне сырая бабка.* Хачэнь. *Я наварыла рэза́нікаў і потоўкла ў бабку.* М. Малешава. 2. Здобны пірог. *Бабку прыдзе́цца пе́кці — госці едуць.* Мачуль. 3. Абабак, падбярозавік. *Хлопцы ростуць, ек грыбы, а дзеўкі — ек бабкі* (прыказка). Цераблічы. *Не прынесла грыбоў хорошых, а некіх бабо́к набрала.* М. Малешава. 4. Матылёк. *Кажуць, як такіе бабкі ле́таюць белые, то молочны год будзе.* Цераблічы. *Не берэ́це, дзеці, бабку, корова не дась молочка.* Рубель. *Як перву бабку побачыш жоўценьку, то масляны́ год будзе, а як чырвону, то будзе медо́ві* (прыкмета). Хачэнь. 5. Рыба-верхаводка. Запясочча. 6. Папярочная падкладка на санях (пры перавозцы бярвення). *Вускочыла з бабкі ручка, дай полено покаціло́со з саней.* М. Малешава. 7. Бабка для кляпання касы. *Возьмі бабку да поклепа́ём ко́су на болоці.* М. Малешава. 8. Ніжняя ручка ў падоўжанай піле. Запясочча. 9. Калода, на якой гнулі дугі, абады. М. Малешава. 10. Заламаны сноп, якім накрываюць мэндлік. Запясочча. 11. Мэндлік. В. Малешава. 12. Задняя частка ў лодцы. *Ко́лісь бабкі нешырокіе робілі ў лодках, а цепер моторы, то шырокіе робяць, на поўметры.* Пагост. 13. Бабуля. *Добрэ бабцы і ў шапцы, а дзе́дку ў платку* (прымаўка). Сямурадцы. *Кукарэку! Бабка ў рэ́ку, а дзед за ею с ковенею. Гледзі, бабка, не ўтопіса да за ковеню дзержыса!* (дзіцячая песенька). Любавічы. △ З а ў я з а́ ц ь н а б а б к у. Завязаць хустку банцікам на лбе. Запясочча.

БА'БКАЦЬ *незак.* Клікаць бабу. *Чого ты бабкаеш к нешчасцью!* М. Малешава.

БАБКОВА'ТЫ *прым.* 1. Падобны да бабы. *Ну й чоловек, бабковаты, як баба.* Любавічы. 2. Стараваты на выгляд. *Бабковата дзеўка, бу старá.* Луткі. *Бабковаты некі стаў, зогнуўса, не йдзе, а сунецца — ці то от беды екое, ці то от хворобу.* Пагост. *Бабковаты від, а сама молода.* В. Малешава. 3. Нізкі, прысадзісты. *Вішэнька бабковата. Сосонка бабковата на пешчаной земле.* Верасніца.

БАБО'К *м.* Адуванчык, дзьмухавец. Луткі.

БА'БОНЬКА *ж.* Бабуля. *Ох, бабонько, ох, хóрошэ!* Запясочча. *Бабонькі, а шчо гэ́та за чоловек!* Хільчыцы.

БАБО'ХНУЦЦА *зак.* Бабахнуцца, упасці. *От, пэрэвалісса й бабохнесса, мамонько, ты мое голубонько!* (на дзіця). Мачуль.

БА'БОЧКА *ж.* 1 *памянш.* да бабуля. *Ленка, ладочкі, ладочкі! Побіліса бабочкі!* В. Малешава. *Ох, бабочко, ці ето я, не я к тобе ў госценькі пріехала, шо ты вочкі закрыла да на мене гледзець не хочэш!* (з пахавальных галашэнняў). Пагост. 2 *памянш.* да ба́бка 4. *Як багато бабочек леціць у хату, то будзе дрэнно — нехто помрэ.* Запясочча. *Бабочóк на цветах морэ.* М. Малешава. 3 *памянш.* да бабка 3. *Бабочкі молодые по берэзнічку ростуць.* Цераблічы. *Бабочкі жарыць самые хорошые грыбы.* Мачуль. 4. Фіялка. Аздамічы. △ Медóвуе бабочкі. Жоўтыя або чырвоныя матылькі.

Існуе прыкмета, калі ранняй вясною шмат *медовы́х бабочóк, то говóрaць, шо мед будзе, а як белых,— то будзе молóчнэ лето.* В. Малешава.

БА'БСКІ *прым.* Бабскі. *Бабскіе водзікі ім показалі.* Цераблічы.

БАБУ'СЯ *ж.* Персанаж у карагодзе. *Неку бабусю спевалі, як гулялі весной.* Сямурадцы. △ Гуляць у бабусю. Вадзіць карагод. Хачэнь.

У цэнтры карагода стаялі тры дзяўчыны, а пасярод іх сядзела на кукішках *бабуся* (іх узросту) і трымала ў правай руцэ тычку з прадзівам на канцы. Карагоднікі, пабраўшыся за рукі, спявалі пра гарэлку, пра розныя стравы і ўсё палохалі групку ў сярэдзіне карагода, што забяруць сабе бабусю: *А му гарелкі наберем, собе бабусю заберем!* Тройка ў крузе адказвала: *А му гарелку поп'емо, своей бабусі не дамо!* Сямурадцы.

БАБУШКЕ'РА *ж. зневаж.* Старая жанчына. *Пойду погледжу, куды пошла гэта бабушкера.* Цераблічы.

БАБУШКЕ′РЫЦА *ж. зневаж.* Тое ж. Верасніца.

БА′БЧЫШЧЭ *н. зніж.* Бабка (страва з дранай бульбы). *Ой, шо я там наготовала? Бабчышчэ зварыла.* Верасніца.

БА′Б’ЯЧЫ *прым.* Бабульчын, бабчын. *Баб’ячы чэпец.* Сямігосцічы.

БА′ВІЦЦА *незак.* Затрымлівацца, доўга знаходзіцца дзе-небудзь. *Шо вон там доўго бавіцца?* М. Малешава. *Ідзі погуляй, да не баўса.* Сямігосцічы.

БАГА′ЗЕЗНО *прысл.* Процьма. *Багазезно колісь у Погост на ярмалок наежжало — і петрыкоўцы, і городчукі — одусюль!* Пагост.

БАГА′ЗНО *прысл.* Вельмі багата, у вялікай колькасці. *Да наведзе багазно дзецей.* Хачэнь. *Одзін чоловек за Туровом на Козáргаці орау да вуорау багазно золота.* Пагост.

БАГА′СТВО *н.* Багацце. *Багаства свого не знае.* Сямурадцы.

БАГА′ТО *прысл.* Багата, многа. *Е землі у нас багато, свет землі у нас.* Мачуль. *Багато менш дворой було.* Аздамічы. *Вона була богато спраўнейша, як козы дзержала.* Хачэнь. *Богато год ему.* М. Малешава. *Ідзéце, кросéнца, по уток, туда, йдзе багато дзевочóк!* (пры заканчэнні снавання кроснаў). Там жа. *Над нашого попа ніхто багáчшэй не жыў.* Дварэц.

БАГА′ТЫ *прым.* Багаты, заможны. *Голова багата розумом.* Дварэц. *Другіе за нас булі багачшые.* Аздамічы. *Багатого й сон не берэ* (прыказка). М. Малешава.

БАГАТЫ′Р *м.* Багач. *Понасеваюць конопель, то багатырі угэ!* Альшаны. *Ек умрэ багатыр, то зойдзецца весь мір, а ек помрэ беднячок, то одзін поп да дзячок* (прыказка). Верасніца. *Бацько мой багатыр, у ёгó золотые стоўпў стояць.* В. Малешава. *Багатыр багаты не здоройем, а добром* (прымаўка). М. Малешава.

БАГАТЫ′РКА *ж.* Багацейка. *Я не багатырка, але хóчу, коб було.* Хачэнь.

БАГАТЫРО′Ў *прым.* Які належыць багатыру. *Багатыроў сын пошоў до бабы свае ў госці.* Сямігосцічы.

БАГАТЫ′РСКІ *прым.* Багаты. *Багатырскі хутор.* Хільчыцы.

БАГАЦЕ′ЗНЫ *прым.* Вельмі багаты. *Вона була у складў, ох, була багацезна!* Сямурадцы.

БАГАЦЕ′Й *м.* Багач. *З-за корову вон багацей стаў — удзень по трыццаць літроў молока надойваюць!* Пагост.

БАГАЦЕ'ННО *прысл.* Вельмі многа, у вялікай колькасці. *Ой, багаценно ж ягод я набрала!* Верасніца.

БАГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Багацець. *Багацець тому, хто робіць!* М. Малешава.

БА'ГАЦЬ *ж.* Мноства. *Зобралосо людзей багаць!* Альшаны.

БАГА'ЦЬКО *прысл.* Багата, у вялікай колькасці. *Там ёгó не багацько того лну.* Мачуль.

БАГА'Ч *м.* Багач. *Багач колісь жыў, то й канаву вукопаў.* М. Малешава.

БАГАЧЭ'ЛНО *прысл.* Вельмі многа. *Багачэлно людзей було!* Аздамічы.

БАГНО' *н.* 1. Багна. *У доліні такé багно, шчо дажэ й корова не перэйдзе. Дзе мутная вода з зáраслямі, там багно.* В. Малешава. *Багно було колісь, а зарэ трáву, пшэніца росце.* М. Малешава. *Дзе багно, там трава не росце.* Луткі. 2. Гразь. *Багно налезло ў чóботы.* М. Малешава. *Аніяк не можно купацца ў том багне, у грузóце.* Там жа. 3. Донная расліннасць, водарасці. *Одáм косіць, а я вукідáю то багно.* Луткі.

БАГО'Н *м.* Багун. *У багунé ягоды брала да учадзела. Ёгó багато, багнý, у болоце росце.* Хачэнь. *Як простуда, то багон піць добрэ.* Луткі. *Багóном творацъ вулей, шчоб пчолы прывіліса.* Запясочча.

БАГО'ННІК *м.* Багун, зараснік багуну. *Багоннік ек свінье хворэлі, то от чумы клалі ў хлёў.* М. Малешава.

БАГО'Р *м.* Багор. *Зробі мне багор шукаць ведро ў колодзедзі.* М. Малешава. *Багром головы не достанеш* (пра ганарыстага). Луткі. *Памянш.* б а г ó р ч ы к. *Малéнького багорчыка подай!* Сямігосцічы. Б á г р ы к. Аздамічы.

БА'ГРЭНО *прысл.* Непагодліва. *Багрэно так на дворэ, мецеліца, шо не можно вуйці на двор.* М. Малешава. *Як багрэно, то жэном додому товар.* Велямічы.

БАГУ'К, БАУ'К, БОГУ'К, БЕГУ'К *м.* Свіны страўнік, начынены мясам. *Лепшэ м'ясо пхаюць у багук.* Альпень. *Повіс, бы баук.* Альшаны. *М'ясом богук напіхаецца.* Запясочча. *Бегук.* Велямічы.

БАДЗЯ'ЦЦА *незак.* Бадзяцца, валачыцца. *А дзе ты бадзялася?* Хачэнь. *Бадзяецца па свету, собакам сено косіць.* Верасніца.

БАДЫ'ЛІ'НА *ж.* Бадыліна. *Бадыліна доўга, ек лўпік.* М. Малешава. *Бадыліна велікая ў картоплях, роўнэ зо мною.* Цераблічы. *Памянш.* б а д ы л і н к а. *Одна*

*вўросла бодылінка под плотом.* Хачэнь. *Бадылінка.* Верасніца.

БАДЫ'ЛЬЕ *н. зб.* Бадылле. *Бадыльe поросло, картоплі добрые будуць.* В. Малешава. *Бодылье поросло у моркві.* Альпень. *У овечок мотыліцы, нападалі на печэнь п'яўгі, то давалі табаку бадылье. Давалі сноп жыта, шчоб, елі, то з'едзяць і каплі не останецца.* Луткі. *Без бодылья не закурыце самосад.* Там жа.

БАДЫ'ЛЬНІК *м.* Тое ж. *Бувало, тута було добрэ косіць, а цепера куп'ем заросло, бодыльнiком, парылом.* М. Малешава.

БАЖА'НЫ *прым.* Жаданы. *Бажаны хлопчык родзіўса, то ўсе дзеўкі булі.* В. Малешава.

БАЖА'ЦЬ *незак.* Жадаць. *Хто кого любіць, той того чубіць; хто кого ўважае, той того бажае* (прыказка). Пагост.

БАЗА'Р *м.* Базар, кірмаш. *На базар ягоды повезла.* Бярэжцы. *У недзелю на базары велікі гэ́ндэль у Городку.* М. Малешава.

БАЗА'РНІК *м.* Зборшчык платы за гандлёвае месца. М. Малешава.

БАЗА'РНІЦА *ж.* Зборшчыца платы за гандлёвае месца. М. Малешава.

БАЗА'РНОЕ *прым. у знач. наз.* Плата за месца на гандлёвай плошчы. *Продаў не продаў, а заплаці базарное.* В. Малешава.

БАЗА'РНЫ *прым.* Базарны. *Базарны дзень.* Сямігосцічы. △ С п р а ў л я ц ь б а з а р н о е. Браць плату за гандлёвае месца. В. Малешава.

БАЗА'РШЧЫК *м.* Зборшчык платы за гандлёвае месца. М. Малешава.

БАЗУ'РА *м.* Свавольнік, пястун. *Такі базура, не слухаў ні мацер, ні бацька.* Луткі.

БАЗУ'РНІК *м.* Тое ж. Талмачава.

БАЗУ'РНЫ *прым.* Дураслівы, свавольны, распушчаны. *Дзеўка хітрая, неспакойная, але не вельмі базурная.* М. Малешава. *Там такіе базурные молодые, роспушчэные!* В. Малешава.

БАЗУ'РЫЦЬ *незак.* Распешчваць, патураць. *Базурыце дзіця. Чому вы не спыняеце ёго́?* Луткі.

БАЙ *м.* 1. Міфічны казачнік. *Бегаў бай по сцене́ ў чырвоным жупане́... Ці баяць ці не?* М. Малешава. 2. Байка, фланель. *Кноцік уставяць з баю ў газоўку.* Пагост.

БАЙБАКОВА́ЦЬ *незак.* Гуляць, лодарнічаць. *Шчэ байбакуе сын, не жэніцца.* Запясочча.

БА́ЙБУС, БЕ́ЙБУС, БЭ́ЙБУС *м.* Гультаяваты падлетак, лайдак. *Ну і байбус росце, только по селу волóчыцца, нема ёмý роботы.* Верасніца. *От, кажэ, вурос здорову, ек байбус.* М. Малешава. *Бе́йбус.* Аздамічы. *Бэйбус.* Буразі.

БАЙБУСІ́ЛО *н.* Перарастак. *От это байбусіло, велікі, нічого не робіць!* Луткі.

БАЙБУСІ́НА *ж.* Лайдак. *Байбусіна на жонку скажэ, ек вона здорова да леніва.* М. Малешава.

БА́ЙДА *ж.* Вялікая луста чаго-небудзь. *От байду хлеба отвалі́ў!* Запясочча.

БАЙДА́ *ж.* Дурань, балван. *Дурна́ байда, я хóчу чоловека собе й дзецям бацьку!* М. Малешава.

БАЙДА́К *м.* Лайдак, гультай. *От байдак, поле продаў, а сам байдыкуе.* М. Малешава. *Поле на трацяк, а сам на байдак* (прымаўка). Тураў.

БАЙДУ́ЖЭ *прысл.* Абыякава, усё роўна, без патрэбы. *Ему байдужэ ці дождж, ці погода.* В. Малешава.

БА́ЙДУР *м.* Лайдак, абібок. Запясочча.

БАЙДУ́РА *ж.* 1. Лайдак, абібок. *Шо за хлопец, байдуры кусок.* В. Малешава. 2. Вялікі кавалак (сала, хлеба і інш.). Запясочча.

БА́ЙДЫ *мн.* △ Б а й д ы  б і ц ь. Адвільваць ад працы, займацца глупствам. *Байды б'е, байдыкуе, не хочэ робіць.* М. Малешава.

БАЙДЫКОВА́ЦЬ, БАЛДЫКОВА́ЦЬ *незак.* Гуляць, лодарнічаць, займацца глупствам. *Нічога не робіць, байдыкуе.* Тураў. *Балдыкуе по селу, не жэніцца.* Пагост.

БА́ЙЗЭЛЬ *м.* Беспарадак (шум, гоман, свавольства). *Хіба такі байзэль робілі, як цепера по нóчах? Колісь, як прыдзе ноч, то ані пік.* Луткі.

БА́ЙЗЭР *м.* Тое ж. *Байзэр такі ў хаці, ніякого нема порадку.* В. Малешава.

БА́ЙКА *ж.* 1. Байка, пустаслоўе. Тураў. 2. Чутка, гісторыя. *Это мне Каця росказала байку, я того не чуў.* Аздамічы.

БАЙЛІ́ЦЬ *незак.* Гаварыць няпраўду. *Не байлі, знаём му вас!* Верасніца.

БА́ЙЛО *н.* Брахун. *Ну і байло, зроду праўду не сказаў.* Верасніца.

БАЙРА́К *м.* 1. Даліна, равок, кар'ер. *Нізкое место між полем, лужча́віна е така, то кажуць байрак.* Луткі.

2. Высокае пустазелле, бур'ян. *Байрак — то зелье высокое.* Запясочча.

БАЙРА'Н *м.* Бур'ян. *Байран росце на хатах колісніх.* Пагост.

БАЙСІ'ЦЬ, БАСІ'ЦЬ *незак.* Размаўляць, балакаць. *Поселі дай байсімо: той тэ байсіць, той тэ.* Цераблічы. *Басіць.* Верасніца.

БАЙСТРУ'К *м.* Байструк. *Хоць байструк, абы з хорошых рук* (прымаўка). Аздамічы. *Не плач, байстручку, дам тобе хлебца ў ручку, а сама пойду гуляці да другого доставаці* (прыказка). М. Малешава.

БАЙСТРУ'ЧКА *ж.* Байстручка. *Вона нашла байструка й байстручку дай годуе сама.* Цераблічы.

БАЙСТРУЧО'К *м.* 1 *памянш. да* байструк. *Байстручка́ нагуляла да годуе сама-саменькая.* М. Малешава. 2. Чацвярцінка гарэлкі (жартаўлівая назва). Мачуль.

БАЙСТРУЧЭНЯ' *н.* Байструк. *Повело некуды Хведорынэ байстручэня дзецей, мо то зноў за реку черепаху шукаць.* Пагост.

БА'ЙСЦЁР *м.* Тое ж. *Нагуляла байсцёра да не рада.* Пагост.

БА'КОН *м.* 1. Бакен, сігнальны паплавок на якары. *Стаўляць на рэццы бакон.* Сямігосцічы. 2. Бляшаныя начоўкі для мыцця бялізны. *Корыто баконом зовуць.* Сямігосцічы.

БА'КОНШЧЫК *м.* Бакеншчык. М. Малешава.

БАКУ'ЛА, БОКУ'ЛА *ж.* Нараст, гуз, шышка (на дрэве, на целе і г. д.). *З бакулы можно коўганку зробіць.* Аздамічы. *Мах бокулу нажэне на той бэрозі і не разоб'еш.* Мачуль. *Як даў, то й бокула зробіласа.* Аздамічы.

Паводле павер'я, *баку́ла* з'яўляецца на дрэве ў выніку закляцця. Аздамічы.

БАКУ'Н *м.* Сорт тытуню. *Бакун такі ў цебе ёдкі, ек смола.* В. Малешава.

БАЛАБА'НІЦЬ, БАЛАБО'НІЦЬ, БОЛОБЕ'НІЦЬ *незак.* Балбатаць. *Баба балаба́ніць усю ноч будзе.* В. Малешава. *Вона балабоніць не сціхаючы, а вон моўчыць, як сцена.* М. Малешава. *Болобе́ню дзень з жонка́мі.* В. Малешава.

БАЛА'БУХА, БЕЛА'БУХА *ж.* 1. Булавешка. *Гармоніст грае, а вон усе балабухою по бубну б'е.* Верасніца. 2. Булачка. *Беры белабуху і мочай у мед.* Цераблічы.

БАЛА'БУ'ШКА, БАЛА'БОШКА, БУЛА'БУШКА, БОЛОБЕ'ШКА *ж.* 1. Булавешка. *Балабушку беры да дай хорошэнько у бубон!* Сямігосцічы. *Болобешка.* Запясочча. 2. Галоўка ў расліны, бутон, насенная каробачка, завязь. *Ужэ балабýшкі на помідорах, цвісці трэба ім.* Дварэц. *У оўёху бу така балáбушка на бадыліні, як квасóліна между плéшніку.* Хачэнь. *Ек булáбушкі на картоплях, то кажуць, шо будзе урожай картопляў добры.* В. Малешава. 3. Патаўшчэнне, гуз, наплыў, бародаўка. *Безмен з балáбошкою.* Дварэц. *Булáбушка на дзерэві.* Сямігосцічы. *На лісту бéрэста болáбушкі седзяць скрозь.* Цераблічы. *У ходзіках балáбушка.* М. Малешава. 4. Бурбалка. Сямурадцы. 5. Бразготка. Пагост. 6. Сопля. Пагост.

БАЛАВЕ'ШКА *ж.* Булавешка. Запясочча.

БАЛА'ГАН *м.* 1. Шум, непарадак, гармідар. *От балáган у хаці, не разберэш нічого.* Кароцічы. 2. Натоўп. *Цэлы балаган зобраўса да гомонім.* Цераблічы.

БАЛАЙДЫКОВА'ЦЬ *незак.* Лайдачыць, гультаяваць. *От балайдыкуе, ходзіць без роботы. От гульцяй!* Аздамічы.

БАЛА'КАЦЬ *незак.* Гаварыць, балбатаць. *От рано почаў балакаць, дай ек бач дзень скончыўса.* Луткі.

БАЛАМБУ'ШКА *ж.* 1. Шпуля нітак. Верасніца. 2. Бразготка. Пагост.

БАЛАМБУ'ШЭЧКА *ж.* Шарык, насенная каробачка. *У льну робіцца такая баламбушэчка, а ў ёй семенá.* Верасніца.

БАЛА'МКАЛО *н.* 1. Балабон. *Повесь корові баламкало, шоб не загубіласа ў кустах.* Верасніца. 2. Балбатун. *Баламкало вон, трэшчыць безугáву!* Верасніца.

БАЛА'МКАЦЬ *незак.* Балабоніць. *Як звон баламкаў, то далеко было чутнó.* Сямігосцічы.

БАЛАМУ'Т *м.* Баламут. *Баламут вон, не праўдзіву вон чоловек, не вер ему.* М. Малешава.

БАЛАМУТНЯ' *ж.* Брахня, дурман. *Баламутнéю свет пройдзеш да назад не вернешса* (прыказка). Мачуль.

БАЛАМУ'ЦІЦЬ *незак.* Баламуціць, казаць няпраўду, адурманьваць. *Праўды не кажэ, а одно баламуціць.* Мачуль.

БАЛАНДА', БО'ЛОНДА *ж.* Калатуша з мукі. *Муку заколоцім у горшку, да сем'я стоўком, да поджарым, да ту баланду емо.* Дварэц. *Бóлонду неку з калін варацъ, муку туды розколочваюць.* Хачэнь.

БАЛА'НТА *ж.* Дзіцячая гульня ў цурку. В. Малешава.

·БАЛАХВА' *м.* і *ж.* Балбатун, гаварун. *Вон так, балахва, гаворыць і толку мало.* Цераблічы.

БАЛАХВІ'ЦЬ *незак.* Балбатаць. *Я молочу, а вон прышоў балахвіць, плеце плот без колкоў.* М. Малешава.

БАЛБЕ'ХІ *мн.* Шарыкі з гразі, гною на авечай воўне. Аздамічы.

БА'ЛБУТОМ *прысл.* Гуртам, роем. *Сені не можно прочыніць, мухі балбутом у хату.* М. Малешава.

БАЛБУ'ШКА *ж.* Пухір (пасля апёку). М. Малешава.

БАЛВЕ'ШКА *ж. зневаж.* Недарэка, дурань, балван. *Я стара́ балвешка, да не знаю.* Цераблічы.

БАЛДЭ'КАЦЬ *незак.* Невыразна гаварыць, плявузгаць. *Стоіць п'яны-росп'я́ны і балдэкае.* М. Малешава.

БАЛДЭ'ШКА *ж.* Недарэка, дурань, балван. *Балдэшка стара́, памеці нема, не знаеш, шо гэто!* М. Малешава.

БАЛЕ'Я *ж.* Балея. *Наліла воды цэлу балею.* М. Малешава.

БА'ЛМАТ *м.* Шум, гвалт. *Крык, балмат у той больніцы.* Дварэц.

БАЛО'БАН *м.* 1. Балван. *Балобан бежыць, болото дрыжыць* (загадка). *Баран бежыць, а воўна на ём дрыжыць* (адгадка). Сямурадцы. 2. Дурань. *Не понімаеш, як балобан, тое́ команды!* Цераблічы.

БАЛОВА'НКА *ж.* Балаўніца. *Ну і балова́нка ты, зусім мене не слухаеш.* М. Малешава.

БА'ЛОВА'ЦЦА *незак.* Балавацца. *Ба́лова́цца годзі, посечы дрова.* Верасніца. *Хлопцы балуюцца з дзеўка́мі.* М. Малешава.

БАЛОЎНІ'К *м.* Балаўнік. *Такі балоўнік, таке́ роско́шнэ дзіця!* М. Малешава.

БАЛОЎНІ'ЦА *ж.* Балаўніца. *Нічога ты дзеўка, балоўніца.* М. Малешава.

БАЛОЎНЫ' *прым.* Балаўны. *Розбазу́рыў дзіця, балоўнэ́ на нет.* М. Малешава.

БАЛОЎСТВО' *н.* Балаўство. *Цепер таке балоўство: хлопча́к нарве яблук да кідае.* В. Малешава.

· БА'ЛЬКА, БА'ЛКА *ж.* 1. Бэлька ў столі і ў гаспадарчых будынках. *Трам колісь тоўсты клалі, а балкі на ём.* Дварэц. 2. Паля, якой паварочваюць вятрак. Хотамель.

БАЛЬКОВЭ' *прым. у знач. наз.* Пачастунак цeслярам пасля ўскладвання бэлек пры будаванні хаты. *Як под*

*вокны зробіш, було океннэ, а як балькі поставіш, то — бальковé.* Сямігосцічы.

БА'ЛЯ' *ж.* Падрыхтаваная для сплаву калода, абчасаная з чатырох бакоў. *Мой чоловек бáлі робіў.* Бярэжцы. *Баля́.* Пагост.

БАЛЯ'СА *ж.* 1. Баляса (у драбінах, у парэнчы, у станку). Аздамічы. 2. Баля́сы *мн. перан.* Доўгія зубы. *Балясы вушчэрыў!* Запясочча. *Памянш.* б а л я́ с к а. *Баля́скі на мосту́, шоб худоба не ўпала.* Дварэц. *Закрый баляскою, коб не вуйшоў конь.* Там жа.

БАМБУЗА' *м.* і *ж.* Высакарослы недарэка. *Нека дзеўка бамбуза така.* Запясочча.

БАМБУЛА', БАНБУ'ЛА *м.* і *ж.* Дурань, недарэка. *От ты бамбу́ло, доўбешковáты чоловек!* Луткі.

БА'НДА *ж.* 1. Банда, група злачынцаў. *Вон у банду улез.* М. Малешава. 2. Чарада свавольных дзяцей. *Банда усе яблука порвала дай картоплі потоптала.* М. Малешава.

БАНДЗЮГА'Р *м.* Бандзюга, разбойнік. *Убілі бандзюгары, убілі бандзюгі учыцеля, от неборака!* Хачэнь.

БА'НДУР *м.* Высакарослы хлопец, бамбіза. *Конік сіроваты, ходзіць бандур нежэнаты* (з песні). Хачэнь.

БАНДУ'РА *м.* і *ж.* 1. Тое ж. *Ну й бандура вурос! А робіць нічого не хочэ.* Верасніца. *От бандура, такі неповоротны чоловек!* М. Малешава. 2. Снегавая баба. *Зімою дзеці качаюць з снегу бандуру.* М. Малешава.

БАНОВА'ТЫ *прым.* З мяшкамі пад вачамі. Сямігосцічы.

БА'НЬКА, БА'НКА *ж.* 1. Пухір, вадзянка, прыпухласць. *Опáрылаcа укрóпом да посхапваліса банькі.* Запясочча. *Ногою ступіш у жабер, вона зробіцца на бáньках.* Там жа. *Намулеў порадочно банёк, колі біў груду на сотках.* М. Малешава. *Бáнка.* Запясочча. 2. Гляк. М. Малешава. 3. Насенная каробачка (у гарлачыкаў). Сямігосцічы.

БАНЬКОВА'ТЫ *прым.* З мяшкамі пад вачамі. В. Малешава.

БА'НЯ *ж.* 1. Пухір, вадзянка, прыпухласць. *Вот такіе бáні под подошвамі!* Запясочча. *Подбіў око, аж бані подзелаліса.* Сямігосцічы. 2. Пасудзіна. *Му бралі карасіну ў тые бані да свецілі.* Дварэц. 3. Купал у царкве. Запясочча.

БАРАБА'Н *м.* 1. Выбіты выпас. *От пашы нема, одзін барабан.* В. Малешава. 2. Барабан. Верасніца.

БАРАБА'НІЦЬ *незак.* Барабаніць. *Я по-вулічному Бубéнчыкоў, бо мой бацько добрэ барабаніў у бýбон.* М. Малешава.

БАРАБО'ЛЯ *ж.* Бульба. *О, вырослі бараболі!* Запясочча.

БАРА'Н *м.* 1. Баран. *Которого барана на плод кідаюць, того не лейчаюць, а которого думаюць прырэзаць, то лейчаюць.* М. Малешава. 2. Двухручны рубанак. *Бараном чышчаць дошкі на подлогу.* М. Малешава. *Памянш.* б а р á н ч ы к, б а р а н é ц. Луткі. △ З а в я з а ц ь б а р а н ó м (хустку). Закруціць хустку вакол галавы і завязаць. Запясочча. Н é с ц і (б р а ц ь) н а б а р á н. На плечы, на ашыек. *Понеслі, бедные, дзіцяткоў на баранóх.* В. Малешава. *Бэрэ дзед мэне на баран да несе.* Мачуль. Я к м ý т ы б а р а н. Спакойна, панура. *Мне говорацъ, а я стою, як муты баран.* Цераблічы.

БАРАНІ'ЦА *ж.* Аўчыннае пакрывала, пацягнутае сукном, для ахутвання ног у санях. *Паны бараніцэю ногі укручвалі.* Сямігосцічы.

БАРА'НОК *м.* Абаранак. *Шчо ранку — по боранку, а вечором — два* (прымаўка). Луткі.

БАРА'НОЧОК *м.* Павязка паверх хусткі вакол галавы. В. Малешава.

БАРАХЛЕ'ЦЬ *незак.* Брынчаць (пра трэснутую пасуду). *Поколаны глёк будзе барахлецъ, ек ёгó постукаеш.* М. Малешава.

БАРАХЛЯ'ВУ *прым.* Благі, кепскі, недабраякасны. *Барахлявую хату купілі у тые жонкі.* М. Малешава.

БАРВЕ'НОК, БЕРВЕ'НОК, БАРВІ'НОК, БЕРВІНО'К *м.* 1. Барвенак. *Барвéнок і зімой зелёны.* Запясочча. *Барвенок, як робяць веселье да коровая, то шышкі з его строяць.* Чэрнічы. *Бервéнок.* М. Малешава. *Бервінóк.* Бярэжцы. 2. Амяла. *Барвéнок на берёзах росце, а гаворацъ, што е і на дубе.* Пагост. *Бервéнок.* Хачэнь. *Барвінок.* Альшаны.

БАРДЗЕ'ЦЬ, БАРЗДЗЕ'ЦЬ *незак.* Кранаць, хвалявацъ, непакоіць, думаць. *А тобе й не бардзé, шо свіньй не кормлена.* Сямурадцы. *А мне й не барздэ́, й не думаецца.* Там жа.

БА'РЗДОВАЦЬ *незак.* Панаваць, раскашавацца. *Ву учотырох зойдзеце на поле да там барздуеце.* Луткі. *Вона барздовала пры ём.* М. Малешава.

БА'РКА *ж.* Барка, баржа. *Уцекаймо, барка ідзе!* Запясочча.

БАРКА'Н *м.* Паркан, плот, перагародка. *Я поставіла собе вусокі баркан, шо і ку́ра не перэлеціць.* М. Малешава. *Собака чэрэз баркан — і к «паненцы»!* Хачэнь.

БАРЛІ'НА *ж.* Барка, баржа. *Тольні барліна коліся казалі, а цепэр — баржы.* Сямігосцічы.

БА'РОК *м.* 1. Ворчык. *Велікі барок — сталюга.* Аздамічы. *За того ёрчыка барка чэпляюць, а тогды коня запрэгаюць.* Луткі. 2. Танец абэрак. *Заграй но ба́рка, послухаемо.* Сямігосцічы. 3. Вялікі шчупак. *О баркоў наловіў!* М. Малешава.

БАРЫ'ЛО, БОРЫ'ЛО *н.* 1. Невялікая двухдонная бочачка з дзіркай збоку для напіткаў, вады. *У нас ко́ліся ў гэто барыло лілі горэлку.* Сямігосцічы. 2. Брухач. *Барыло, цішэй трохі, шчоб цебе ломе́ц узяў!* Верасніца. 3. Упрыгожванне з цеста на вясельным перніку. *З борілами перніні.* Альшаны. *Памянш.* б а р ы́ л ц э. *Хросны бацько ек ідзе ў поезд, то несе барылцэ горэлкі.* М. Малешава.

БАРЫ'Ш *м.* Барыш. *Зробілі хату дай барыш попілі.* М. Малешава. *Баба ковеню купляла і та барыш піла* (прыказка). Сямігосцічы.

БАСАРЫ'НКІ *мн.* △ Б а с а р ы́ н к і з б і р а ц ь. Спраўляць гулянку. *Для своей дочкі і басарынкі збірала, а его трое дзецей прыехалі, то повесіла замка́ і пошла.* Хачэнь.

БА'СНЯ *м.* △ Б а́ я ц ь б а с н і. Апавядаць, расказваць. *Басні баяла мне, што нечысты дух можэ яўляцца панічом у гу́зах бліскучых.* В. Малешава.

БАСОВА'ЦЬ *незак.* Басіць, спяваць басам. *Басуе тоўстым голосом.* Цераблічы. *Басуюць гру́зно.* Альшаны. *Одзін басуе, другі подголо́швае.* В. Малешава. *Той, шо басуе, зачынае, а з вусокім голосом подводзіць.* Пагост.

БАТ *м.* Пуга, сплеценая з расшчэпленых частак дубца, бізун. *Беруць дзерэво, угэ его колюць, уюць, то кажуць бат, або бату́г.* Сямігосцічы.

БАТОВА'ЦЬ *незак.* Звязваць. *Батуюць у тры рады гэтые го́нчкі.* Хачэнь.

БАТО'Г, БАТУ'Г *м.* Пуга, сплеценая з расшчэпленых частак дубца (значнай яго часткі), бізун. Мачуль. *Бату́г.* М. Малешава.

БАТРА'К *м.* Батрак. *Воны лічыліса батракі, земле́ не мелі ні на крок.* Сямігосцічы.

БАТРАКОВА'ЦЬ *незак.* Батрачыць, парабкаваць. *Батрак, ек у его землё не було, ужэ вон батраковаў.* Сямігосцічы.

БАТУ'ЖЫЦЬ *незак.* Біць батагом. *Як не пойдзеш, то тебэ будуть батужыть* (у час прыгону). Рубель.

БА'ЎКАЦЦА *незак.* Боўтацца, ківацца. *Баўкаюса, іду за ім.* Запясочча.

БА'ЎКАЦЬ *незак.* Бомкаць. *Бык баўкае да на Рыгора ідзе.* Цераблічы. *У бочку нехта баўкае, шоб на мошыну шлі.* Бярэжцы. *Шчо гэто звон баўкае?* Верасніца.

БА'ЎКНУЦЬ *зак.* Бомкнуць. *Ек баўкне булавой у звóна, то ў Турове чутнó.* Верасніца.

БАХА'НКА *ж.* Баханка. *Усю зарáз з'емо ту баханку.* М. Малешава.

БА'ХАЦЬ *незак.* Бахаць, біць. *За рекою дзень бахаюць, вутоў стреляюць.* Пагост. *Покладзе кóсу на бабку і бахае молотком.* Сямурадцы. *Я буду бахаць Валерыка* (у размове з дзецьмі). Запясочча.

БАХМА'ТО *прысл.* Шырока, мехавата. *Бахмато седзіць одзёжа на ём.* Сямігосцічы.

БАХМА'ТЫ *прым.* Шырокі, мехаваты. *Бахматы пінджак купілі хлопцу.* Сямігосцічы. *Бохматые чóботы.* Запясочча. *От ты бахмáтэ рэптушóло!* Там жа.

БА'ХНУЦЬ *зак.* 1. Грукнуць. *Бахнуло, як гром.* Сямігосцічы. *А вон бах дзверыма і поехаў.* Цераблічы. Нечакана здарыцца. *Бах за тэ лето трэба воўкóм з'есці корову — остаўса, ек чэрэ́ціна на пожарэ́.* Цераблічы. *Седзімо, а тут бах дождж!* Верасніца. *А мы, бы дурэнь, с печы: бах — на тобе ейцэ́!* Лутківі. 2. Спаць. *Коцік бах хочэ і Ленка.* В. Малешава. *Памянш.* бáшкі. *Ідзі на кровать, башкі будзеш.* Хачэнь.

БАХО'Р, БАХУ'Р *м.* Палюбоўнік, распуснік. *Бахóр.* Аздамічы. *У одной жонкі згорэла хата, то казалі, шо бахурэ́ спалілі.* Запясочча.

БАХОРОВА'ЦЬ, БАХУРОВА'ЦЬ *незак.* Распуснічаць. *Бахорýе, к чужым жóнкам ходзіць.* Аздамічы. *Не жэніцца, бахурýе.* Пагост.

БАХТА'ЦЬ *незак.* Буяць, добра расці. Сямігосцічы.

БАХТО'РЫЦЬ *незак.* Празмерна напаўняць. *Чого ты бухторыла воды багато.* В. Малешава.

БА'ЦЕ *м.* Тата, бацька. *У нас звалі баце, а ў шляхты — тато, а цепер дзеці зовуць папа.* Цераблічы. *Тут кажуць баце, а ў Хочэні — тато.* Верасніца. *Не було ў*

*нас раньшэ поняція говорыць тато, а говорылі баце або ба.* Сямігосцічы.

БА'ЦЕНЬКО *м.* 1. Ласкальны зварот да дзяцей. *Ой, мой баценько, хорошэнькі ты мой, ходзі спаткі!* Верасніца. 2. Ласкальны зварот да бацькі. *Баценько, дай мне на чоботы грошэй.* Цераблічы. △ Б а́ ц е н ь к і-с в е́ ц е н ь к і. Выказванне здзіўлення, вялікага хвалявання. В. Малешава.

БА'ЦЕНЯ *м.* Той, хто падобны да бацькі. *Петро баценя, дажэ ўсе кра́пінкі позабіраў.* Верасніца.

БА'ЦЦА *часц.* Здаецца, як быццам. *Я бацца бачыла ўчора цебе.* М. Малешава.

БА'ЦЬКО *м.* Бацька. *Мацi ўмерла, то й бацько ослёп* (прыказка). В. Малешава. *Хто як хочэ по свойму бацьку плачэ: хто ў кулак, а хто ніяк* (прыказка). Хачэнь. *Еке дрэво, такі клін, екі бацько, такі й сын* (прымаўка). М. Малешава. △ Б а ц ь к о  х р о с н ы. Хросны бацька. *Бацька й мацер хросных на веселле сама позаві.* Пагост.

БАЦЬКІ' *мн.* 1. Родныя бацька і мацi. *Бацькі мое булі з того села, а я тутока родзіласа.* М. Малешава. 2. Карэнныя зубы. Пагост.

БАЦЬКОВІ'НА *ж.* Бацькава спадчына. *У кого бацьковіны нема, то нову посе́лю робіць.* Запясочча.

БА'ЦЬКОЎ *прым.* Бацькаў. *Ба́цькові спадкі оста́ліса.* Сямігосцічы.

БАЦЬКО'ЎСКІ *прым.* Бацькоўскі. *Бацькоўска хата була веліка.* Хачэнь.

БА'ЦЬКОЎШЧЫ'НА *ж.* Бацькаўшчына. *Я на своей ба́цькоўшчыне хату поставіла.* Луткі. *Бацько́ўшчы́на.* Тураў.

БА'ЦЮХНО *м.* Бацька. *Я була прыоста́ласа, я з бацюхном прошчаласа* (з вясельнай песні). Сямурадцы. *Мой бацюхно буў добры.* Луткі.

БАЧ, БА *часц.* Бач, пабач, ба. *Бач, як слюз стоіць, то рыба е.* Пагост. *Ба, і ў вас хрэн зовецца!* Там жа. *Ба, ека шырына пшэніцы!* Цераблічы. *Ба, і вон мукі схоце́ў!* В. Малешава.

БАЧНО' *прысл.* Бачна. *Мне усе ба́чно, але ж ек круз сіто.* Тураў.

БА'ЧЫЦЬ *незак.* Бачыць. *Поле чуе, а лес бачыць* (прыказка). Хотамель. *Усе бачаць, шо на мне, а не бачаць, шо во мне* (прыказка). М. Малешава. *Бачылі очы, шчо купля́лі, ежце, хоць поўлазьце* (прыказка). Луткі.

*У чужом воцці порушыну бачу, а ў своём і бервена не бачу* (прыказка). Верасніца. △ Б а ч ы ц ь г о́ р э. Гаравацъ, мецъ непрыемнасці. *Баба з сыном горэ бачыць: п'яніцы кусок, п'е дай годзе.* В. Малешава. Б а ч ы ц ь с т р а х. Перажываць жах. *Бачыў страх: лецело поверх лесу, прылецело і село на вугоні* (пра першае ўражанне ад верталёта). В. Малешава. Б а ч ы ц ь у с в о і х в о ч а́ х. Быць сведкам. *Сама бачыла ў своіх вочах таку пужа́ку жонку ў белым.* Сямігосцічы. С в о і́ м а о ч ы́ м а б а ч ы ц ь. Прысутнічаць непасрэдна пры якім-небудзь здарэнні. *Своіма очыма бачыла, як тые лісты на́гле лета́лі от пожару.* Дварэц. Ш о б т а к д з е ц і с в о е́ б а ч ы ц ь. Пацвярджэнне праўдзівасці сказанага. *Ей богу, шоб я так і дзеці свое бачыла, шо гэто праўда!* М. Малешава. Ш о б о ч ы н е б а ч ы л і! Пра нежаданне бачыць каго-небудзь. *Беры да йдзі, шоб мое очы не бачылі!* Хачэнь. Я к б а ч ы ш. Хутка. *Як бачыш сохне!* М. Малешава. *П'ятніца, субота да недзеля, як бачыш ужэ будзе конец.* Лутві.

БАШКА' *ж.* Галава. *Ну й башка́ ў цебе, это ж трэ додумацца до такого!* Верасніца.

БАШКОВІ'ТЫ *прым.* Вельмі кемлівы, разумны. *Башковітая вона, шо ўбачыць, то ўсе зробіць. Коб побачылі, екіе коўры поўтыкала!* М. Малешава. *Башковіты чоловек, колі на льбе дзве жылкі е.* Луткі. *Та была башковейша, а гэта тупейша.* Запясочча.

БАШЛЫ'К, БАШЛА'К *м.* Башлык. *Башлык на голову і кругом шыі, то і ве́цёр не продуе.* М. Малешава.

БАЮ'РА *ж.* 1. Яма, якую выкруціла вада, глыбокая гразкая лужына. *Така здоро́ва баюра — водою вырыла.* Цераблічы. 2. Аб'ёмны прадмет. *Баюра — тоўстэ шчо таке.* Сямурадцы. 3. Нараст на дрэве. Пагост. 4. Балбатун. Аздамічы.

БА'Я *ж.* Баваўняная тканіна байка. *Купіла мацер ба́і на су́кню.* В. Малешава.

БА'ЯЦЬ *незак.* 1. Складна гаварыць. *Ёго́ і жонка ўмее баяць.* Хотамель. 2. Расказваць казкі. *Бегаў бай по сцене́... Ба́яц ці не?* Запясочча. △ Б а я ц ь б а й к і. 1. Апавядаць, расказваць. *Пособіраліса да байкі баюць.* В. Малешава. 2. Абманваць. *Дурэнь байкі бае, а розумны веры мае* (прыказка). Запясочча.

БЕ'БЕХІ, БЭ'БЕХІ *мн.* 1. Вантробы. *Бе́бехі.* Сямігосцічы. *Бэ́бехі.* Альшаны. 2. Сухія камячкі гною на воўне ў авечак. М. Малешава.

БЕГ *м.* Бег, беганне. *На бегу́ нешчо сказаў.* Верасніца.

БЕГА′ *ж.* 1. Тое ж. *За бегóю і ход пропадае* (прымаўка). Запясочча. *За бегою і ходу́ погубіла* (прымаўка). Луткі. 2. Бягуння. *Твоя корова проворна, бегá, сперэду бегае.* Хачэнь.

БЕГАНІ′НА *ж.* Вялікая беганіна. *То ёй цепер беганіны е!* В. Малешава.

БЕ′ГАЦЬ *незак.* 1. Бегаць. *Годзі бегац поперэд нас!* Запясочча. *Жабкі бегаюць по мурогу́.* Дварэц. *Косім, а сорокі бегаюць по радках, то будзе негода.* В. Малешава. 2. Знаходзіцца ў стане цечкі (пра кароў). М. Малешава.

БЕГО′М *прысл.* Бягом. *Бегом усю дорогу ехалі.* М. Малешава. *От бегом бежыць, аж земля стогне!* Там жа.

БЕГУ′Н *м.* Бягун. *Конь бегун усе бежыць да бежыць, а ленівого не попхаеш.* В. Малешава.

БЕГУ′ХА *ж.* Бягуння. *Вот бегуха, нідзе і ніхто ее не поперэдзіць* (пра жанчыну). В. Малешава. *От бегуха, не успееш ее перэняць ніколі* (пра карову). М. Малешава.

БЕГУ′ЧЫ *прым.* Рухавы, хуткі. *Буў конь а конь, і здоровы, і бегучы, нешчотне бегоў быстро!* Луткі. △ Б е г у ч а  в о д а. Цякучая, праточная вада. *Бегу́ча вода лечэбна.* Чэрнічы.

БЕ′ГЦІ *незак.* 1. Бегчы, хутка ісці. *Поросяткі к рукам бегуць.* М. Малешава. *Одно кажэ, бежэ́м, друге кажэ, поседзéм, трэце кажэ, поклóнемс* (загадка). *Вода, ку́піна, чэрэ́ціна* (адгадка). Цераблічы. *Бежэ́ць, бежэ́ць! Кругом чотыры селе, у неўкотóрое село забежэцé* (на валоў). Луткі. *Не варт бéгці, оннó іду.* Там жа. 2. Хутка рухацца (на лодцы, веласіпедзе і інш.). *Моторка бегла рэкóю.* Дварэц.

БЕДА′ *ж.* 1. Бяда, гора, ліха, няшчасце. *Чужу́ беду, то я й пальцэм розведу, а к своей і ума не доберу* (прыказка). Хачэнь. *Мойму беду́ нема ладу́* (прымаўка). М. Малешава. *Хвароба — беда, а вода не беда* (прымаўка). В. Малешава. *Не беда, ек п'еццa вода* (прымаўка). Верасніца. 2. Хвароба. *Беда узялá мене моцно за лівого бока.* Аздамічы. 3. Невялікі выязны возік, двухколка. Цераблічы. △ Б е д а  е г о  б е р ы! Б е д а  і х  п о б е р ы! Праклёны. В. Малешава. Д з е  в а с

б е д а   д з е р ж а л а? Пра працяглую затрымку. М. Малешава.

БЕДНЕ'ЦЬ *незак.* Бяднець. *Часамі беднее, беднее, а потом богаты стане.* Бярэжцы.

БЕ'ДНО *прысл.* Бедна, мала. *У этом месяцы дожджоў було бедно.* Верасніца. *Ходзь бу бедно ўродзіло жыто на той пожні!* М. Малешава.

БЕДНО'ТА *ж.* Бедната, беднасць. *У беднóці да ў голóці жыла.* В. Малешава.

БЕ'ДНЫ *прым.* 1. Бедны. *Ек на яку бедну, то Парасуля, а богата — Параска* (кажуць). Чэрнічы. 2. Нешчаслівы, які выклікае спагаду. Хачэнь. *Удовá — бедна голова* (прымаўка). Цераблічы. △ Б е д н а я   к у ц ь я. Абрадавая крупяная каша. *Бедная куцья варыласа ў піліпоўку і на крэшчэ́нье.* М. Малешава. Ж ы ц ь   у   б е д н о м   д в о р э. Гаравацъ. *Вон у бедном дворэ, як той кажэ, жыве.* М. Малешава.

БЕДНЯ'К *м.* Бядняк. Верасніца.

БЕДНЯ'КА *м.* Небарака. *Вон, бедняка, продаў коройку да жыве так.* Хачэнь.

БЕДНЯ'ЦКІ *прым.* Бядняцкі. Бярэжцы.

БЕДОВА'ЦЬ *незак.* Бедаваць. *Не бедуй, Хома, колі гора нема* (прымаўка). Запясочча.

БЕДО'ВУ *прым.* Гаротны. *Бедову нек іхні род.* Пагост.

БЕ'ЖКО'М *прысл.* Бягом, подбегам. *А вон бéжком бегаў коло госцей.* Хачэнь. *Вон ніколі хóдом не ходзіць, а навек бежкóм бегае.* Цераблічы.

БЕ'ЖЭНЕЦ *м.* Бежанец. *Бежэнцы ледве дўшы неслі.* В. Малешава. △ П о й ц і   ў   б е ж э н ц ы. Пайсці ў бежанцы. *Мы пошлі ў бежэнцы ў другé село.* Сямігосцічы.

БЕ'ЖЭНКА *ж.* Бежанка. *Онь і Мар'я бежанка, она пры немцах к нам прыблудзіласа.* Верасніца.

БЕ'ЖЭНСТВО *н.* Бежанства. *Былі ў бежэнстве ў войнў.* Хотамель.

БЕ'ЖЭЧКО'М *прысл.* Бягом, подбегам. *Дзеўка бéжэчком до того дзеда!* Цераблічы.

БЕ'ЖЫШЧЭ *н.* Бежанства, уцёкі. Хотамель.

БЕЗ 1. *м.* Бэз. *Вельмо там без той заўёўса.* В. Малешава. 2 *прыназ.* Без. *Там без сілы не зробіш.* Верасніца. *Лецéло без крыл, упало без ног, зварылі без огню, з'елі без рота* (загадка). *Снег* (адгадка). Хачэнь. △ Б е з   с о р о м á   к á з к а. Выбачэнне за непрыстойнасць у

паводзінах, за вульгарнасць у выказваннях. *Без сорома казка, і сорома тобе нема, абу-шчо плевузкаць! Не стыдзіцца, не соромеецца, да так воно без сорома казка.* Сямурадцы. *Кўмочко, без сорома казка, прышла, мо позычыце міску мукі, нема чым замесіць хлеб.* Там жа. *Без сорома казка, от я хочу цебе просіць, шоб ты даў мне жыта гáрцоў два.* Верасніца. Без урóку. Каб не сурочыць. *Але ты, без уроку, похорошэў, поправіўса.* Тураў.

Выразы *без сорома казка, без уроку* называюць *прымóўка.*

БЕЗБО'ЖНО *прысл.* Бязбожна, звыш усякай меры. *Ох, п'яніца, п'е безбожно!* В. Малешава.

БЕЗВЕ'РШНІК *м.* 1. Крынічнік-дуброўка. Запясочча. 2. Расліна, падобная да незабудкі. Луткі.

БЕЗГЛУ'ЗДНЫ, БЕЗГЛУ'ЗНЫ *прым.* Бесталковы. *Безглуздна, нема ў цебе клёпок!* Аздамічы. *Шчо ты безглуздны ці шчо, не можэш зробіць?* Сямігосцічы. *Безглўзны.* М. Малешава.

БЕЗГОЛО'ВУ *прым.* 1. Безгаловы. *Купіла безголову рыбу ў лаўцы.* М. Малешава. 2. Безразважны. *От безголову хлопец!* Сямігосцічы.

БЕЗГОЛО'ЎЕ *н.* Адсутнасць розуму, кемлівасці. *На нашэ безголоўе хлеб такі* (удаўся). В. Малешава.

БЕЗДЗЕ'ТНІ *прым.* Бяздзетны. Луткі.

БЕЗДЗЕ'ТУХА *ж.* Бяздзетуха. Верасніца.

БЕЗДО'ЛНЫ *прым.* Бяздольны. *Нейкіе мы бездолные народзіліса.* Дварэц.

БЕЗДО'ЛЬЕ *н.* Бяздолле, няшчасце. Верасніца.

БЕЗДО'ННЫ *прым.* Бяздонны. В. Малешава.

БЕ'ЗДОРОЖ *м.* Бездараж. Верасніца.

БЕЗДУ'ШНЫ *прым.* Без клёку, сілы. М. Малешава.

БЕЗЗУ'БУ *прым.* Бяззубы. *Порóдня моя така беззуба.* Цераблічы.

БЕ'ЗЛЮДЗЬ *ж.* Глуш, бязлюддзе. Цераблічы.

БЕЗЛЮ'ДЗЬЕ *н.* Тое ж. *Я годоваласа ў безлюдзьі, у лесу.* В. Малешава. *Ек безлюдзье, то й жонкі людзі, ек безрыб'е, то й рак рыба* (прыказка). Хачэнь. *На безрыб'і й рак рыба, а на безлюдзьі й дзяк чоловек* (прыказка). Верасніца.

БЕЗЛЮ'ДНЫ *прым.* Нелюдзімы, недарэчны. Пагост.

БЕЗМА'ТЧЭЦЬ *зак.* 1. Страціць пчаліную матку. *Пчолы безматчэюць.* Запясочча. 2. Асірацець. *Безмат-*

*чэлі хлопцы без бацька.* Луткі. 3. Згубіць маёмасць. *Безьматчэў, зостаўса без нічого.* Цераблічы.

БЕ'ЗНА, БЕ'ЗДНА *ж.*, БЕ'ЗНО *н.* 1. Бездань, гразь, балота. *Попаў у безну і коні положыў.* Сямігосцічы. *Бе́здна.* Пагост. *Бе́зно.* М. Малешава. 2. Гушчар. *Забіўса у безну, не можно прошыцца.* Аздамічы.

БЕЗНО'ГІ *прым.* Бязногі. *Ідзе, як безногі.* Сямігосцічы.

БЕЗО'ГЛЯДКІ, БЕЗО'ГЛЯДКУ *прысл.* Не аглядаючыся. *Ек дала жару, то безоглядкі поп'ёр.* Верасніца. *Безо́глядку.* Луткі.

БЕЗО'ДНЫ *прым.* Бяздонны. *Безоднэ болото, коб проваліўса, то й пошоў на той свет. Ну й грузо́та!* Луткі.

БЕЗПЕРЭ'СТАНКУ *прысл.* Бесперастанку. *Безперэстанку лье дождж цепер.* Цераблічы.

БЕ'ЗПУЦЬ *ж.* Бездараж. *Там така́ безпуць, шчо ні пройдзеш.* Сямігосцічы.

БЕЗРОБО'ТНІК *м.* Гультай. М. Малешава.

БЕЗРО'ГІ *прым.* Бязрогі. *Ты целя безро́ге!* Луткі.

БЕЗРОЗУ'МНЫ *прым.* Безразважны. Хачэнь.

БЕЗРУ'КІ *прым.* Бязрукі. *Шчо ты безрукі, шо ты не мо́жэш подняць снопа́?* Сямігосцічы.

БЕЗРЫ'Б'Е *н.* Бязрыб'е. *Шо то цапе́р там безрыб'е.* Азяраны.

БЕЗУГА'ВУ *прысл.* Бесперастанку, бесперапынна. *Безугаву робіць і робіць.* Кароцічы. *Безугаву грыміць.* Сямігосцічы.

БЕЗУГА'ЎНЕ *прысл.* Тое ж. *Безугаўне рогочу цэлы ранок.* Луткі.

БЕЗУГА'ЎЯ *прысл.* Тое ж. *Ку́рыць безугаўя.* М. Малешава.

БЕЗУ'МЕННЕ *н.* Безразважнасць, някемлівасць. Верасніца.

БЕЗУ'МЕННЫ *прым.* Безразважны, неразумны. М. Малешава.

БЕЗШЧО'ТНО *прысл.* Страшэнна, бясконца. *Бешчотно бедно жыла́!* Запясочча.

БЕЗШЧО'ТНЫ *прым.* Страшэнны, непамерны. *Була бешчотна голодоўка.* Хачэнь.

БЕЗЫ'МЕНКА *ж.* Дошка, таўсцейшая за шалёўку. *Эту колоду порэжу на безыменку.* Тураў.

БЕ'КАЦЬ *незак.* 1. Бэкаць, бляяць. *Целя бекае — піць хочэ.* Дварэц. *Там птушка бекала.* М. Малешава.

2. Невыразна гаварыць. *Стара́ бекае: «Поехала, кагу́».* Сямігосцічы. 3. Няўмела чытаць. В. Малешава.

БЕКЕ'ЗА *ж.* Шкода. △ На бекёзу. На пагібель, на згубу, на шкоду. *Заўёз туды на бекезу.* Луткі. *Гэто ты зробіў мне на бекезу, на ўрэд.* Там жа.

БЕКЕТА'ЦЬ *незак.* Бляяць (пра авечку). Запясочча.

БЕ'КОС, БЕКЕ'С *м.* Бекас, баранчык. *Бе́косы біў вон і глусцы́.* Альпень. *Беке́с.* Запясочча.

БЕКОТНЯ' *ж.* Гулянне. *Шум, бекотня, ек ове́чок розбіраюць.* М. Малешава.

БЕЛА'Й *м.* Светлавалосы і белатвары хлопец, мужчына. Цераблічы.

БЕЛА'ЙКА *ж.* Светлавалосая і белатварая дзяўчына, жанчына. Цераблічы.

БЕЛАНЫ' *мн.* Гатунак белай бульбы. *Некіе беланы картоплі булі, 'марка́нкі — чырвоные.* Хачэнь.

БЕЛЕ'ЗНЫ *прым.* Бялюткі. *Яке белезне полотно!* М. Малешава.

БЕ'ЛЕНЬ *м.* Гаркота. *Белень у році бувае, гарко́та нейка.* М. Малешава. *Горкае, шчо белень, гово́раць на я́блуко, а белень е таке зелье.* Сямігосцічы. *Горка цыбуля, як белень.* В. Малешава.

БЕЛЕ'ЦЬ *незак.* Бялець, рабіцца белым. *Белёе ў вочáх ечмень, хот ты жні!* В. Малешава. *До Любовіч белела вода по полі.* Верасніца.

БЕЛІ'ЗНА *ж.* Рыба бялізна. Альшаны.

БЕЛІЗНА' *ж.* Белізна, белата. Тураў.

БЕЛІНА' *ж.* Тое ж. *Бач, колькі м'яса* (з шчупака)! *Да чышчына́, да беліна!* Луткі.

БЕЛІ'ЦЦА *незак.* 1. Выбельвацца. Верасніца. 2. Чысціцца. Верасніца.

БЕЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Выбельваць. *Натчэцца полотно да пото́м нада беліц.* Запясочча. 2. Пакрываць белым. *Бралі гліну да белілі хаты́.* Сямігосцічы. 3. Ачышчаць, даводзіць да белага колеру шляхам спецыяльнай апрацоўкі. *Шкуру ове́чкі белілі і віроблялі кожу́хі.* Сямігосцічы. 4. Забельваць. *Не можна було й боршчу беліць.* Запясочча.

БЕ'ЛКА *ж.* 1. Вавёрка. *Белка вельмо плы́гае.* Сямігосцічы. 2. Белавалосая жанчына. *Вона белка, его́ баба, у ее белые косы.* Цераблічы. 3. Жывёла светлай масці. *Ек бе́лэ целя, то зовуць белка.* М. Малешава. △ За чы́сту бе́лку. Са смакам, вельмі ахвотна, з

вялікім задавальненнем. *Навару крупніку, то дзетвора поесць за чысту белку.* Верасніца.

БЕЛО′ *прысл.* Бела. *Бело не бело, абы ў водзе побуло* (прымаўка). Запясочча.

БЕЛОВА′ТЫ *прым.* Белаваты. *У кобулы очы беловатые.* Цераблічы.

БЕЛОГРЫ′ВУ *прым.* Белагрывы. *Конь белогрыву.* М. Малешава.

БЕЛОЗО′РЫ *прым.* Блізарукі. *Я молода белозора була.* Сямігосцічы.

БЕЛО′К *м.* Бялок у яйку. *Вон жоўткá не есць, а одно белок.* Верасніца. *Балóк.* Мачуль.

БЕЛОКО′СЫ *прым.* Белавалосы. Хачэнь.

БЕЛОМУ′СЫ *прым.* З белай мысай, белахрапы. Пагост.

БЕЛОО′КІ, БЕЛОО′ЧІ *прым.* З блакітнымі або светлымі вачамі. Кароцічы.

БЕЛОПОЯ′СЫ *прым.* З белымі палосамі, плямамі (пра масць жывёл або афарбоўку насякомых). *Вол белопоясы, як пéрэд чорны і зад чорны, а серэ́дзіна бела.* Сямігосцічы. *Е чмелé такіе белопоясые.* Верасніца.

БЕЛОРУ′СЫ *прым.* Белабрысы, белавалосы. М. Малешава.

БЕЛОСПІ′НЫ *прым.* З белай спіной (пра масць жывёл). *Белоспіна корова.* Запясочча.

БЕЛО′ТА *ж.* Белізна. Сямурадцы.

БЕ′ЛЫ *прым.* 1. Белы. *Зубы — як той сноп, белые, хорошые.* Луткі. 2. Светлы, чысты. *Бела вода, чыста, як у стрýмені.* Запясочча. *Памянш.* б е л é н ь к і. *Беленькі лён.* М. Малешава. △ Б е л ы с в е т. Далёкі край, уся зямля. *Одзін сын шчэ у белом свеці нейдзе.* Дварэц. *Шкóда кідаць белы свет.* М. Малешава. Б é л а р ы б а. Агульная назва рачной рыбы. В. Малешава.

БЕ′ЛЫЕ *прым. у знач. наз.* Каноплі-маніцы. Запясочча.

БЕЛЬ *ж.* Белыя ніткі фабрычнай работы. *Наметкі перэтыкáлі белью.* Сямігосцічы. △ Б е л ь б е л í ц ь. Бяліць кужаль. Альшаны.

БЕ′ЛЬБЕХІ, БЕ′ЛЬБУХІ, БЭ′ЛЬБУХІ *мн.* 1. Вантробы. *Одбіў бельбехі.* М. Малешава. *Бéльбухі.* Запясочча. *Бэ́льбухі.* Кароцічы. 2. Пухіры, вадзянкі. *Набраўса жаберу на ногі: ек почэшэш, то бельбехі схапваюцца.* Цераблічы. 3. Б é л б е х *м.* Пра падушку. *От, одного бельбуха маю і перэсплю.* Цераблічы.

БЕЛЬБЕШЭ'НЬЕ *н. зб.* Вантробы. *Слабы вон на бельбешэнье.* Запясочча.

БЕ'ЛЬКА *ж.* Балотца сярод лесу. *У том остроўку е белька, на той бельцы я накосіў сена.* Пагост.

БЕЛЬКАНЫ' *мн.* Лупатыя вочы. *Чого наставіў свое бельканы? А ну, марш отсюль!* Пагост.

БЕЛЬМА'ТЫ *прым.* 1. Лупаты. Запясочча. 2. З бяльмом на воку. *Чоловек бельматы, як бельмом око зацегло.* Сямігосцічы.

БЕЛЬМАЧЭ' *мн.* Лупатыя вочы. *Вўтрашчыў своё бельмачэ.* М. Малешава.

БЕЛЬМО' *н.* Бяльмо. *Бельмо на око нацегло.* Альпень.

БЕ'ЛЬТВЫ, БЕ'ЛЬТУХІ *мн.* Вантробы. Дварэц.

БЕ'ЛЬЧЫН *прым.* Вавёрчын. Сямурадцы.

БЕЛЮ'ГА, БАЛЮ'ГА *ж.* Бялюга. *Белюга моль гоняе.* Запясочча.

БЕЛЮ'ШЧЫ *прым.* Бялюткі. *Белюшчэе полотно.* М. Малешава.

БЕЛЯ'ВУ *прым.* Бялявы. *Белява жонка на ліцо.* Луткі.

БЕЛЯКІ' *мн.* Агульная назва грыбоў белага колеру. *Белякі нейкіе, іх як смецця кругом.* Хачэнь.

БЕ'МБЕЛЬ, БЭ'МБЕЛЬ *м.* Пухір, вадзянка. *Бемблі получыліса, ек прыткнуў до горачое сковороды руку.* В. Малешава. *Як спечэш, то каа, схопіўса бембель.* Сямігосцічы. *Бэмблі поначэсваеш.* Мачуль.

БЕНКА'Ч *м.* Байструк. *Бенкача й вона нагуляла.* М. Малешава.

БЕ'НКО *м.* Тое ж. *Як дзеўка родзіць сама собе, то кауць, мае бенка.* Сямігосцічы.

БЕ'НОК *м.* Тое ж. *Вон жэ бенок, у его бацька не було.* Цераблічы. *Родзіць без бацька, без нічого, то бенок.* Запясочча.

БЕ'НЬКА *ж.* Байстручка. *Дзве бенькі е тутака.* Бярэжцы.

БЕРВА' *ж.* Кладка, дзе мыюць бялізну. *На берву пойду праць.* Альшаны.

БЕРВЕНО' *н.* Бервяно. *Як хату пачыналі робіць, то кажуць ужэ положылі дзве бервене.* Сямігосцічы.

БЕРДЗЁВА'ТЫ *прым.* Сітаваты, з выпаўшымі слаямі. *Хвоя бердзёвата, котора сто лет стоіць.* Цераблічы.

БЕРДЗЁЎКА *ж.* Настой з бярозавых пупышак. Запясочча.

БЕ'РДЗІЦЦА *незак.* 1. Ламацца (пра бёрда). *Як ччэш, то тросцінкі ломяцца, то кажуць, бердо бердзіцца.* Сямурадцы. *Ніт ніціцца, бердо бердзіцца.* Там жа. 2. Рабіцца рэдкім (пра палатно). *Рубцэ, бач, на полотне, бердзіцца.* Пагост.

БЕРДЗЬ *ж.* Падгніўшая слаістая драўніна. *Шукаём бердзь на лучыну.* Цераблічы.

БЕ'РДНІҚ *м.* Чалавек, які рабіў бёрды. Запясочча.

БЕ'РДО *н.* Бёрда. *Ты будзеш накідаць кросна ў ніт, а я лепш бачу, то ў бердо.* Қароцічы. *Бэрдо.* Хотамель.

БЕ'РҚО *н.* Танец абэрак. *Заграй-ко берка, послухаемо.* Сямігосцічы.

БЕРЛО'Г *м.* 1. Логава, бярлог. *Ек свінья опорошваецца, то берлогу не насцілаюць, бо поросятка там будуць хавацца, да можа і свінья затоптаць.* Верасніца. *Ночовала, казалі, і ў свінячым берлогу, шоб не стала трусіць ліхорадка.* Там жа. *Воўк у берлог под колоду да ў мох зашыўса.* Пагост. *Загрэбласа ў берлозі, як свінья.* Запясочча. 2. Беспарадак, хлам. *От берлогу на ложку!* Запясочча. *От некого берлогу наробіў у хаці!* Мачуль.

БЕРО'ЗА, БЕРЭ'ЗА *ж.* Бяроза. *Берэза, як голье ўніз, а берэза-самец, як голье уверх.* Цераблічы. *Магўлу вўперло на берозе.* Буразі.

БЕРО'ЗОВУ, БЕРЭ'ЗОВУ *прым.* Бярозавы. *Берозовы сок.* Цераблічы. *Берэзові сок спускаюць з берэзы да квасяць.* В. Малешава.

БЕРО'ЗОЎҚА, БЕРЭЗО'ЎҚА *ж.* Настой з бярозавых пупышак. *Берозоўка.* Запясочча. *Берэзоўка.* Верасніца.

БЕРО'ЗЬЕ, БЕРЭ'ЗЬЕ *н. зб.* Бярэзнік. *Берозья тут блізко нема.* Цераблічы. *Берёзье.* Пагост.

БЕРЭЗА'Қ *м.* 1. Бярэзнік. *Берэзаку богато поглуміла война.* Хачэнь. *Берэзак засеў молоды.* Сямігосцічы. 2. Бярозавыя дровы. *Одного берэзаку прыўёз.* Луткі. *Памянш.* б е р э з а ч о к. *Засеў берэзачок на градочцы.* Сямігосцічы.

БЕРЭ'ЗІНА *ж.* Бярэзіна, адно дрэва бярозы. *Қолісь я поехала ў лес да прычавіла мене берэзіна.* Верасніца. *Памянш.* б е р э з н і ч о к. Сямурадцы.

БЕРЭ'ЗНІҚ *м.* Бярэзнік. *Берэзнік молоды буў засеў на Қрасном Борку.* М. Малешава.

БЕРЭЗНЯ'Қ *м.* Тое ж. *Берэзняк мах, з небом говорыць!* Цераблічы.

БЕРЭЗО'ВУ *прым.* Сівой масці (пра каня). Сямурадцы.

БЕРЭЗЯ'НКА *ж.* Берагавая ластаўка. Пагост.

БЕРЭЗЯ'НКІ, БЕРЭЗЬЯ'НКІ, БЕРЭЗЫ'НКІ *мн.* Жанчыны з нявесціных гасцей у час вяселля. *Берэзя́нкі.* М. Малешава. *Берэзья́нкі.* Цераблічы. *Берэзы́нкі.* Луткі.

БЕ'РЦЭ *н.* 1. Дошчачка для вязання рыбалоўнай сеткі. *Бе́рцэ — то дошчэчка така набіраць о́чкі.* Аздамічы. 2. Бе́рца *мн.* Рэбры ў кошыку. Хотамель.

БЕ'РЭГ *м.* 1. Бераг. *Берэг пры́кры, шчо не можно вулезці.* Луткі. *Пойду на берэг плацье праць, то тута вода зелёна.* Дварэц. 2. Край поля, лесу, пасудзіны, пруг у палатне і інш. Луткі. *Памянш.* берэжо́к. *Цу́пкі берэжок у полотна.* Запясочча.

БЕРЭГЦІ' *незак.* Берагчы. *Берэжы одзежу ў плохую по́ру, а вона цебе зберэжэ́ ў хорошую по́ру* (прыказка). В. Малешава. *Еслі ў яблоку* (на дубовым лісце) *муха, то берэжы вухо* (прыкмета, пра марозную зіму). Мачуль.

БЕРЭГЦІ'СА *незак.* Берагчыся. *Берэжыса, шоб не заболеў.* М. Малешава.

БЕРЭ'ЖНЫ *прым.* Рачны. *Берэжна вода, ее беруць з рэчкі муць.* Хачэнь.

БЕРЭЛО'Г *м.*, БЕРЭЛО'ГА *ж.* Логава. *У мороз трэба робіць поросятам берэлог, шоб не померзлі.* М. Малешава. Подсціл. *Берэлогу нацегала свіньйя — будзе поросіцца.* Там жа.

БЕРЭЛО'З, БЕЛОРО'З, БЕРЛО'З *м.* Вербалоз. *Над рэкою навулёт берэлоз.* Сямігосцічы. *Белороз поўз рэ́ку росце, ек верба́.* Луткі. *Вон такі корчоваты берэлоз.* Дварэц. *У берлозе́ на одной нозе* (загадка). *Грыб* (адгадка). Луткі.

БЕРЭЛО'ЗІНА *ж.* Вербалозіна. Запясочча.

БЕРЭЛО'ЗНІК, БЕЛОРО'ЗНІК *м.* Зарасці вербалозу. Луткі.

БЕРЭЛО'ЗОВУ *прым.* Вербалозавы. *Шчэ ў мене берэлозовых дроў дзве клеткі.* Сямігосцічы.

БЕРЭ'М'Е *н.* Цяжарнасць. *Бо́льшым сыном ходзіла, да таке мое́ берэм'е плохе́ було, шо не могла есці.* М. Малешава. △ Поступіць у берэм'е. Зацяжарыць. *Поступіла дзеўчы́на ў берэм'е.* В. Малешава.

БЕРЭ'МКО *н.* Бярэмя. *Беры, кажэ, берэмко, а вон наўяза́ў ўя́зку.* М. Малешава.

БЕРЭ'МО *н.* Тое ж. *Хот ты на берэмо беры картоплі, мах поросلі!* М. Малешава.

БЕРЭ'МОК *м.* Тое ж. Любавічы.

БЕ'РЭСТ *м.* 1. Ільма. *В'яз суковаты, а берэст роўнейшы.* Аздамічы. *Бэрэст — цвёрдэ́ дзерэво, цёмнэ, але гладзеньке, не вельмо струповáтэ.* Сямігосцічы. *Дзерэво берэст óньо стоіць. На лісці бы пузыркі зверху.* Буразі. 2. Бяроста. *Надзером берэсту, дай огонь подпальваём.* Верасніца. *Берэ́стом верэньку поберэсціў.* В. Малешава. *З бéрэсту шылі закаблукé ў чобóцех.* Цераблічы.

БЕРЭСТОВА'ЦЬ *незак.* Пакрываць бяростай. *Берэстовалі верхнее веко ў верэньцы.* М. Малешава.

БЕРЭСТО'ВУ *прым.* 1. Ільмовы. *Дышэль берэстові.* В. Малешава. 2. Бяроставы. *Я до войны бачыла шапку берэстову. На с'ято носілі нашые дзéды.* В. Малешава.

БЕРЭСТО'К *м.* Берасцяны паплавок на рыбалоўнай сетцы. Пагост.

БЕРЭСЦІ'НА *ж.* 1. Ільма. *Высёк на дугу берэсціну.* Рубель. 2. Бяроставы кубак (для піцця вады на балоце, на полі). *Онь о берэсціна, ідзі да напіс воды.* Луткі.

БЕРЭСЦІ'ЦЬ *незак.* Пакрываць, аплятаць бяростай. *Верэньку робляць з лозы і бéрэстом берэсця́ць.* Кароцічы.

БЕРЭСЦЯ'НЫ *прым.* Берасцяны. *Берэсцяны поплавок.* Верасніца.

БЕРЭ'ШЧЭНЫ *прым.* Пакрыты, аплецены бяростаю. Верасніца.

БЕС *м.* Нячысцік. *Село — да не лес, не з'есць цебе бес* (прымаўка). М. Малешава. △ Хай цебе бес ухóпіць! У казках *бес* — істота, якая з'яўляецца ў выглядзе паніча, кошкі ці балбатуна-невідзімкі. Верасніца.

БЕСЕ'ДА *ж.* 1. Бяседа, збор гасцей з пачастункам. *Беседа зобраласа, п'юць, гуляюць — с'ятóк цепер.* Сямігосцічы. *Ек зобіраюцца по дзейку хлопéча беседá, то маршалкі б'юць горшкі на паліцы.* Луткі. *Прышоў молоды со своей беседой, дзéўчыны беседу зобрáў.* Там жа. 2. Размова, гаворка, гутарка. *Е гэтых бесед, коб мы булі.* Дварэц.

БЕСЕ'ДОВАЦЬ *незак.* Гаманіць, гаварыць, размаўляць. Цераблічы.

БЕСІ'ЦЦА *незак.* Шалець, захворваць на шаленства. Цераблічы.

БЕСКЛЕ'ПЕТНЫ *прым.* Дзівакаваты, дурнаваты. Сямурадцы.

БЕСКЛЕПЕ'ЧНЫ *прым.* Тое ж. В. Малешава.

БЕСКЛЁКВЕННЫ *прым.* Слабы, мізэрны, кволы. *Така́ цыбуля ў мене безклёквенна.* В. Малешава.

БЕСКО'НЦА *прысл.* Бясконца, бязмерна. *У хмелю́ бесконца сердзіты чоловек.* М. Малешава.

БЕСПАМЯ'ТНО *прысл.* Да непрытомнасці. М. Малешава.

БЕСПА'РНА *прым.* Адзінокая (без мужа). *Ты ж такая нешчаслівая, як я, ты безпарна, бездольна, як я.* В. Малешава.

БЕСПЕРЭ'СТАНКУ *прысл.* Беспярастанку. *Да сва́рыцца до бесперэстанку, крычыць.* М. Малешава.

БЕСПОЛІ'ТЫ *прым.* Страшэнны. Злодзюга бесполіты. Сямігосцічы.

БЕСПО'ЛЬНЫ, БЕСПО'ЛНЫ *прым.* Беззямельны. В. Малешава. *Бесполны.* Аздамічы.

БЕСПОНЯ'ТЛІВУ *прым.* Някемлівы. М. Малешава.

БЕСПОСТУ'ШНЫ *прым.* Бескантрольны, без пастуха, без нагляду. *Свіньe беспостушные ходзяць по селе, а коліся ў хашчо́ўніку самы́е опорашваліса.* М. Малешава.

БЕСПРЫТО'МНЫ *прым.* Нястомны. Верасніца.

БЕСПУ'ТНЫ *прым.* Шалапутны, бесталковы. В. Малешава.

БЕССМЕ'РТНЫ *прым.* Неўміручы. Луткі.

БЕССНЕ'ЖНЫ *прым.* Бясснежны. *Була морозліва і бесснежна зіма до роздва, то воны бада́юць, шо до Петра будзе жа́рке сухе́ лето.* В. Малешава.

БЕССО'ННІЦА *ж.* 1. Бяссонне. *Вот напала бессонніца, не спіца.* Альпень. 2. Той, хто не хоча спаць уначы. *От бессонніца ты, Ленка.* В. Малешава.

БЕССОРО'МНІК, БЕССОРЭ'МНІК *м.* Бессаромнік. *Бессоромнік чортоў, куды ты заглядваеш, там жэ дзеўкі!* Верасніца.

БЕССОРО'МНІЦА, БЕССОРЭ'МНІЦА *ж.* Бессаромніца. *Бессоромніца й бога не боіцца, й людзей не стыдзіцца.* М. Малешава.

БЕССОРО'МНЫ *прым.* Бессаромны. *Бессоро́мнэ, гідке́ сло́во.* Аздамічы.

БЕ'СТЫЯ, БЕ'СЦІЯ *м.* і *ж.* Нягоднік, паганец. *Ох бестыя, нарваў я́блок да уцёк.* Запясочча. *Него́дніку ты,*

*бестыя!* Сямігосцічы. *От бестыя росце, а грызецца, ек яшчэрка!* Верасніца.

БЕСХЛЕ'Б'Е *н.* Бясхлебіца. *Прожылі два годы на бесхлеб'і.* Азяраны.

БЕ'СЦІЦЬ *незак.* Ганіць, сароміць, лаяць. *Я ёго ганіла, я ёго бесціла, а вон хоць бы шчо.* Аздамічы.

БЕ'ЎКАЦЬ *незак.* Рыкаць. *Беўкае товар, почуў падліну.* В. Малешава. *Як стане беўкаць корова, то бороцца хочэ.* Луткі.

БЕШЧЫСЛЁНЫ *прым.* Бясконцы. *Вўродка народзіла, а вон лёжэнь бешчыслёны!* Луткі.

БЕ'ШЭНЫ *прым.* Шалёны. *Колі бешэны собака ўкусіць, і чоловек збесіцца.* В. Малешава.

БЗО'МКАЦЬ *незак.* Бзыкаць. Запясочча.

БЗЫ'КАЦЬ *незак.* Тое ж. *Бзыкаюць жукі маёшные на сліўках.* Дварэц. *Комар коло вуха бзыкае.* Сямігосцічы. *Хоцела прылёгці на часіну, то мухі бзыкаюць, хібá тут заснеш!* Верасніца.

БЗЫ'КНУЦЬ *зак.* Бзыкнуць. *Поўз цебе одно бзыкне муха да на мене.* Луткі.

БІ'ЗКАЦЬ, БЫ'ЗКАЦЬ, БІЗЫ'КАЦЬ, БЫЗЫ'КАЦЬ *незак.* Бзыкаць. *Муха бізкае, у мене по серцу рэжэ, ек вона бізкае.* Запясочча. *Под стрэхою бызкае нешчо.* Аздамічы. *Комары бізыкаюць, не даюць спаць.* В. Малешава. *Муха як начне бызыкаць, то я не могу заснуць.* Луткі.

БІ'ЗКНУЦЬ *зак.* Бзынкнуць. *Як бізкне пчола коло вуха, то аж прысядзеш з пўду.* В. Малешава.

БІ'ЛО *н.* Брусок, планка. *Заготоўляюць на дзверы ў хлеў два біла і чотыры стоўбцы.* В. Малешава. *Зарэ біла ў воротах робяць, а вóрото не стаўляць.* Цераблічы. *Дзержы дзіця, а то об біло ложка удырыцца.* Луткі. *У возі чотыры біла, куды лёсточкі ўстаўляюць.* М. Малешава. *У набілках у ткацкіх то ж біла, а як жэ!* Там жа. *Біла к опечкам прыбіты, шоб насцілаць пол.* Верасніца. *Памянш.* б і л ь ц э. *Форточка зусім роз'ехаласа, більцэ погніло, трэ меняць.* Верасніца. *Робяць чотыры більца, обшываюць полотном — і кольбéль.* Там жа.

БІ'НДЖА *ж.* Клышаногі чалавек. *Зімою познаеш, шо бінджа пройшоў по снегу, бо шырóку дорогу прогроб ногамі.* В. Малешава.

БІНДЖА'ТЫ *прым.* Клышаногі. Верасніца.

БІНДЖОНО'ГІ *прым.* Тое ж. *У бінджонóгого колено об колено трэцца.* Сямігосцічы.

БІ'НДЗІКІ *мн.* △ Біндзікі біць. Гультаяваць, лодарнічаць. *Біндзікі б'е, а робіць хто будзе?* М. Малешава.

БІНДОО'КІ *прым.* 1. Аднавокі. Пагост. 2. З слязлівымі вачамі. Сямурадцы.

БІ'НДРА *ж.* Лесаматэрыял на клёпкі, паркет. *Біндру робілі з дубового дзерэва.* Аздамічы. *Біндра ўжэ сáма мелка клепка, на бочкі ішла.* Пагост.

БІ'НДЫ *мн.* △ Бінды біць. Гультаяваць, лодарнічаць. *Цэлы дзень бінды б'е, робіць анічого не хочэ.* М. Малешава.

БІ'РЗНУЦЬ *зак.* Пырснуць. *Просо бірзне зо ступі, як убок попадзеш тоўкачэм.* В. Малешава.

БІ'РКА *ж.* Бірка. *Бірку кóлісь на овéчкі хозяіны чэплялі.* Аздамічы. Драўляная зашпілька. Запясочча. Метка. *Поставіць трэ бірку, коб було відаць, хто зробіў стóга.* М. Малешава.

БІРКОВА'ЦЬ *незак.* Чапляць біркі, меціць. *Комісія йдзе бірковаць стогі.* М. Малешава.

БІРУ'ЛЬКА, БІРУ'ЛКА, БІРЫ'ЛКА *ж.* 1. Костка ў галёнцы. *Бірулька е такая косточка ў корóву ці кобана.* Луткі. *Еслі сухіе ногі, то торчаць бірулькі.* М. Малешава. *Бірулка.* Сямігосцічы. 2. Драўляная зашпілька. *Палкы поўшывае, дай ужэ гэто бірулкы.* Сямігосцічы. 3. Блок у кроснах для нітоў. *Бірулькі роб'яць з любого дзерэва, да іх волóчкамі прыўязваюць ніты.* Верасніца. *Бірулкі у крóснах вісяць поверх кросён.* Сямігосцічы. *Бірылкі робілі з верэцён.* В. Малешава. 4. Берагавая ластаўка. *Бач, як бірулькі розлéталіс над водою, скоро дождж пойдзе.* Пагост С. *Памянш.* бірýлочка. Кароцічы.

БІРУ'ЛЯ *ж.* 1. Костка ў галёнцы. Верасніца. 2. Блок у кроснах для нітоў. Запясочча.

БІТВА' *ж.* 1. Бойка, калатня. *Ек бітвá, то уцекай, бо попадзе і тобе пóвуху.* В. Малешава. *Ці будзе колі у моей хаці ціхо, навек бітва да цвелéнка, тоўкотнá.* М. Малешава. 2. Вайна. *Раз бітвá, то б'юць людзей нáгле.* Чэрнічы.

БІ'ТКА *ж.* Пабітае ў час гульні яйцо. *Не знае кошту ў яйцах, а лезе бітку вубіць.* М. Малешава. △ Бíткі біць. Стукаць яйцо аб яйцо ў час гульні. М. Малешава. У бíткі гуляць. Разбіваць адным яйцом другое. М. Малешава.

БІТКУ'ЧЫ *прым.* Бадлівы. *Біткучы бугай б'ецца.* Цераблічы.

БІ'ТЫ *прым.* 1. Біты, разбіты, забіты. *Бітые яйца лежаць на столе, озьмі да еж.* М. Малешава. *Бітые лежаць у хатах. Було бітых і ўсякіх.* Чэрнічы. 2. Збіты, звалены. *Бітые валёнкі.* Кароцічы. △ Б і т ы ш л я х (дарога, сцежка). Утаптаная, уезджаная дарога. *Едь смело, там дорога бітая!* Альпень. *Шоб ты ўпала на бітум шляху і ногі повукручвала собі!* Сямігосцічы. *Шоб цебе господзь побіў да победзіў на бітой дорозі!* (праклён). Сямурадцы.

БІ'ЦЕЛЬНО *н.* Дзіцячая гульня ў мячыка, лапта. Верасніца.

БІ'ЦЕЛЬНЫ *прым.* △ У б і ц е л ь н о г о м я ч ы к а. У лапту. Верасніца.

БІ'ЦЦА *незак.* 1. Біцца, тузацца. *І шо за жонка? Біцца кінуласа з Матруною.* Дварэц. Басціся. *Бугай буў, да вэльмі біўса.* Бярэжцы. Брыкацца. *От нічога корова, б'ецца ногамі і рогамі.* В. Малешава. Стукацца. *Ек пташка ў вокно б'ецца, то госць будзе.* М. Малешава. 2. Знаходзіцца ў стане цечкі (пра кабылу). *Кобула б'ецца, трэба до жэрэбца завесці.* М. Малешава. 3. Нераставаць. *Дзе б'юцца езі, там бўйстра вода́.* Цераблічы. *Карасі б'юцца кожны месец.* Там жа. 4. Пульсаваць. *Серцэ б'ецца.* Бярэжцы.

БІЦЬ *незак.* Біць, разбіваць. *Пліцье ходзіў біці на сотках.* Цераблічы. *Кум того горшка́ б'е.* Чэрнічы. Біць, наносіць удары. *До вознесе́ньня не б'юць палкою по земле, не можно* (павер'е). Лутки. *Я його́ б'ю, а гаворкі вон не понімае!* Сямігосцічы. Аббіваць. *Як лён посох, білі.* Запясочча. Стукаць. *Дошч той лье, громы́ б'юць, бліска́е.* Мачуль. Збіваць (пра масла). Альпень. Выціскаць (пра алей). *Робілі бойку таку́ да білі олёі.* Кароцічы. Валіць. *У Семурадцах дзед біў валёнкі.* В. Малешава. Раздзяляць. *Б'юць на ўчасткі* (поле). Бярэжцы. Зношваць (пра абутак і інш.). *Не хочэм, шоб ты нам своімі возамі біў моста́.* Мачуль. Тачыць (пра шашаля). *Почаў шашэль біць дзерэво.* Верасніца. △ С т у п у б і ц ь. Таўчыся (пра камароў). *Комарэ́ ступу б'юць перэд дождж́эм.* М. Малешава. Б і ц ь м е́ с е ц а. Спаборнічаць у час вяселля. Цераблічы.

БІЧ *м.* Біч (у цэпе). *Біч дубові, а цэпільно сілеговэ ці лозо́вэ бувае.* В. Малешава. *Го́ле, як біч, і о́стрэ, як меч* (прымаўка). Запясочча.

БІЧОВА′ *ж.* Жэрдка ў перадку воза, да якой на ворчыку прыпрагаюць каня. Пагост.

БІЧОВА′ЦЬ *незак.* Бічаваць, біць, лупцаваць. В. Малешава.

БІЧОВІ′К *м.* Біч, бізун. *Бічовік плецецца з волóчэк.* В. Малешава.

БІЧО′ЎКА *ж.* Вяроўка, на якой цягнулі ўверх па цячэнню ракі баржу, лодку. Альпень.

БІЧУГА′ *ж.* Жэрдка ў перадку воза, да якой на ворчыку прыпрагаюць каня. Сямігосцічы.

БІЯ′НКА *ж.* △ У б і я н к у. У выбіўнога (дзіцячая гульня з мячом). Велямічы.

БІЯ′Х *м.* Катах рагозу. Аздамічы.

БЛАГА′ЦЬ *незак.* 1. Блюзніць, блазнаваць. *Седзіць цэлы дзень і благáе з гэтымі дзéцьмі.* Пагост. 2. Лаяцца, павучаць. *Седзіць да благае.* М. Малешава.

БЛАГІ′ *прым.* Слабы, маламоцны, дрэнны. *Колі благі, то не грэе* (пра старасць). Альшаны. *Сеголета благéе жыто поросло.* Луткі. *Коройка благá, пустá.* Запясочча. *От благі хлопец, нікого не слухае.* М. Малешава.

БЛАЖ *ж.* Дурасць, дзівацтва. *Одна блаж у голове, розуму ніякого.* М. Малешава.

БЛА′ЗЕНЬ *м.* Блазнюк, гарэза. *Ох, ты блазень! Молоды, а ругаесса.* Запясочча. *Ну й блазень, толькі ўрэд робіць.* М. Малешава.

БЛАЗНО′ТА *ж.* Блазнота. *Зобраласа блазнота — ніхто нічого не цяміць.* Сямігосцічы.

БЛАЗНЮ′К *м.* Блазнюк. *От блазнюк, годзі, вучворáй!* Верасніца.

БЛАМБУ′ШКА *ж.* 1. Шпуля. Сямурадцы. 2. Гуз. Сямурадцы.

БЛА′НКА *ж.* Брусок, планка. Пагост. *Памянш.* б л á н о ч к а. Дварэц.

БЛЕ′ДНЫ *прым.* Бледны. *Такі бледны, бы сценá, стай.* Сямігосцічы. *Від бледны, ек полотно.* М. Малешава.

БЛЕСКОВА′ЦЬ *незак.* Бліскацець, зіхацець. М. Малешава.

БЛЕША′НКА *ж.* Бляшанка. *Булі кóлісь блешанкі такіе, рылцэ малéнькэ, на сенокос вóду бралі.* Сямігосцічы. *Гáзу ў Турові куплялі ў блешанку.* М. Малешава.

БЛЕША′НЫ *прым.* Бляшаны. *Заслонка блешáна, а коліся дубова була.* Лутки.

БЛЕ′ШНЕВУ *прым.* Бледны, няяркі. Лутки.

БЛЕШНЁВА'ТЫ *прым.* Бледнаваты, бляклы, няяркі. *Ек носіш еку одзежыну доўго, то вона стане блешнёвата тако́.* В. Малешава.

БЛЕЯ'ЦЬ *незак.* Бляяць. *Овечкі блеюць.* Запясочча.

БЛЁКОТ *м.* Блёкат. *Малы́ блёкот то курацъ, як зубы болять.* Бярэжцы. △ Блёкоту наёсціса. Здурнець. *Шо ты блёкоту наеўса?* Верасніца.

БЛЁСК *м.* Бляск, яркае святло. *Дро́ва тлеюць, нема ні огню ні блёску.* Запясочча.

БЛЁЎКАЦЬ *незак.* Плёскаць. *А му, та́то, каме́ньчікі ў во́ду кідаём да слу́хаём, як воны блёўкаюць.* Пагост С.

БЛЁЎКНУЦЬ *зак.* Боўтнуць, плёскнуць. *Не заглядвай — блёўкнеш у во́ду і пота́неш.* М. Малешава.

БЛЁЎТАЦЬ *незак.* Боўтаць, плюхаць (пра вадкасць). *У коня ў чэрэве блёўтае.* Луткі. *Рыба ў водзе блёўтае.* Там жа.

БЛЁХАЦЦА *незак.* Боўтацца, плёскацца. *Ходзём блёхацца по водзе.* Цераблічы.

БЛЁХАЦЬ *незак.* Плёскаць. *Блёхало ў лотаці нешчо.* М. Малешава. *Коні блёхають по водзе.* Аздамічы.

БЛЁХНУЦЦА *зак.* Боўтнуцца, плёснуцца. Запясочча.

БЛЁХНУЦЬ *зак.* Плёснуць. *Покоўзну́ўса да блёхнуў у доліну.* Сямурадцы.

БЛІ'ЗКІ *прым.* Блізкі, недалёкі. *Вон мой бліскі сусед.* Сямігосцічы. △ Не блізкі свет. Далёка. *Не бліскі свет йці босымі ногамі по той горох.* Луткі.

БЛІ'ЗКО *прысл.* Блізка. *І блізко не ходзе́ць коло жыта, бо з жыта вуйдзе русаўка і ўхопіць вас* (да дзяцей). В. Малешава. *Бліжэй к собе кошуля, чым каба́т* (прыказка). Там жа. *Памянш.* блізю́ленько. *Гэто зусім недале́ко, блізюленько!* Там жа.

БЛІЗНА' *ж.* Блюзна, памылка пры тканні палатна. *Блізна, як у водну тросціну́ укінецца чотыры ніткі.* Аздамічы. *Блізна робіцца, колі кобылку мінём.* Цераблічы.

БЛІЗНЕ'Ц *м.* 1. Блізнюк. *Дзве блізнецы́ разом ходзяць у школу і седзяць разом на одной парці.* Луткі. 2. Спарыш. *Блізнецы ў колосі е.* М. Малешава.

БЛІЗНІ'ЦА *ж.* 1. Блізніца. *У одное́ мацеры двое блізнят було: одзін раз два хлопцы, а другі раз — блізнюк і блізніца.* В. Малешава. 2. Памылка пры тканні. В. Малешава. 3. Блізніцы *мн.* Спарышы. *Слівы —*

*блізніцы, а два ко́лоса — блізнюкі.* Сямігосцічы. *Памянш.* б л і з н і ц к а. Цераблічы.

БЛІ'ЗНІ'ЦЦА *незак.* Падвойвацца, памнажацца. *Я пометáю, баба моя шчэ дзержала тые орэшкі-блізнюкі ў кошэльку, шчоб грошы блізніліса, шчоб не звóдзіліса.* Хачэнь.

БЛІЗНЮ'К *м.* 1. Блізнюк. *Схожые точка ў точку блізнюкі.* Запясочча. *Два блізнюкі пошлі разом у áрмею і разом служылі.* В. Малешава. *Оцéліць корова двое целят, то й блізнюкі.* Цераблічы. 2. Спарыш. *Блізнюкі орэхі, у іх дзве косточкі зрослоса.* М. Малешава. *Ек побачыш блізнюка, то шчасліві будзеш!* Луткі. *Памянш.* б л і з н ю ч ó к. *Хлопцы-блізнючкі восенью у армію пойдуць.* В. Малешава. *Колісь, як у жыце жалі, да як знайдзеш блізнючкі, то кажуць: будуць овечкі весціса.* Луткі.

БЛІЗНЯ' *ж.* 1. Блізнюк. *Недоноскі былі блізнята.* Хотамель. 2. Спарыш. *Посейце блізню, а то будзе гулядь земля.* Луткі.

БЛІСКА'НЬЕ *н.* Бліcканне, міганне (маланкі). *Шчэ до гэтого бліcканья вона подоіла корову.* Пагост.

БЛІСКА'ЦЬ *незак.* Бліскаць. *Дождҗу йшчэ нема, але ўжэ бліскае і нейдзі далеко погомóньвае.* Тураў.

БЛІ'СКОВІ'ЦА *ж.* Маланка. *Як бліcковіца, то не можно, шчо рэжэ, дзержаць у руках.* Хачэнь. *Бліcковíца к погодзе бліскáе чáсом.* М. Малешава. *Була бліcковіца да погорэло картоплíнье.* Там жа. *Пшэніцу опаліла местáмі бліcковíца.* Луткі.

БЛІСКУ'ЧЫ *прым.* Бліскучы. *Бліскучые чóботы.* Аздамічы. *Гузікі бліскучые.* В. Малешава. *Памянш.* б л і с к ý ч э н ь к і. *Моль бежыць скоро, бліскучэнька така.* Аздамічы.

БЛІ'СНУЦЬ *зак.* Бліснуць. *А цепэ́р бліснуў свет, і ўсё віднó.* Дварэц. *Вон батарэйкою блісь!* Кароцічы.

БЛІШЧА'ЦЬ *незак.* Блішчаць. *От вода блішчыць ік сонцу.* Запясочча. *Кот буў глáдкі, аж блішчáў.* Пагост.

БЛІ'ШЧЫКІ *мн.* Бліскучыя іскрынкі ў адзенні. Бярэжцы.

БЛОХА' *ж.* Блыха. *Ох, блоха, бі копа!* В. Малешава. *Чорненька, маленька, хоць еку колоду, то поверне* (загадка). *Блоха* (адгадка). М. Малешава.

БЛОША'НКА *ж.* Жаночая кашуля з грубага палатна. *Трэ пэрэмэніць блошанку.* Сямігосцічы.

БЛО'ШКА *ж.* Блошка. *Блошка нападзе на лён і под-*

*зірковáцее вон.* В. Малешава. *Блошка напала на росаду, трэ попелом посыпаць.* М. Малешава.

БЛОШЧЫ'ТНІК, БЛОШЧЫ'ЧНІК *м.* Казялец. *Блошчытніку бояцца блошчыцы.* М. Малешава. *Блошчычнік.* Луткі.

БЛОШЧЫ'ЦА *ж.* Клоп. *Коліся булі блошчыцы, блохі, гніды... Птху! Аж сцёпае от тоé насекóмосці.* М. Малешава. *Той сáмы клап — блошчыца.* Луткі. *Е блошчыца полевая, е і хатняя.* Альпень.

БЛУД *м.* 1. Блуд, разбэшчанасць. Бярэжцы. 2. Стан замарачэння. В. Малешава.

БЛУДЗІ'ЦЦА *незак.* Блудзіць. *Ой, дзе ж Пушок блудзіўса?* В. Малешава.

БЛУДЗІ'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Ек ту палку, што з дзерэва ўпадзе, перэступіш, то будзеш блудзіць.* Луткі.

Каб не блудзіць, то трэба ў царкве спытаць у чалавека, з якой ён вёскі, і абавязкова атрымаць ад яго хуткі адказ (павер'е). Верасніца.

БЛУДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Валачашчы, блудлівы. *Кагý, блудзяшчы ты, блудзіш, дзе не трэ.* В. Малешава. *Блудзяшча корова.* Сямігосцічы.

БЛУ'ДНІК *м.* Валацуга. *Блуднік ты, дзе ты блудзіўса?* Верасніца.

БЛУ'ДСТВО *н.* Блуд, разбэшчанасць. *У блудство пошла, кінула свого чоловека.* Сямігосцічы.

БЛУ'КА'ЦЦА *незак.* Сланяцца, валачыцца. *Блýкаецца Міхалко по свету, нема ёмý навек прыстанішча.* М. Малешава.

БЛУКА'ЦЬ *незак.* Блукаць. М. Малешава.

БЛУ'ТАНІЦА *ж.* Блытаніца, няяснасць. Хачэнь.

БЛУ'ТАНЬЕ *н.* Тое ж. *Не трэ мне этэ блутанье!* В. Малешава. *Пошлі по лесý блутацца, а шо толку з того блутанья!* Там жа.

БЛУ'ТАЦЦА *незак.* Блытацца. *Чого блутаешса под ногамі, уцекай!* М. Малешава. *Не жывуць добрэ, а однэ по судах блутаюцца.* В. Малешава. *Блутаецца мой зяць по свету.* Хачэнь. *Му з ею блутаемса: пісьмо напішуць єй, а я получаю.* Запясочча.

БЛУ'ТАЦЬ *незак.* 1. Блытаць. *Дзерэзá лён блутае.* М. Малешава. 2. Блукаць. *По лесý блутала сколько!* В. Малешава.

БЛУТНЯ' *ж.* Глупства, блытаніна. М. Малешава.

БЛЫ'НДАЦЬ *незак.* Бадзяцца. *Блындаюць дзеці по*

*селу, нема роботы.* М. Малешава. *Дзе быў? — Блындаў по корчах.* Альшаны.

БЛЯ'ХА *ж.* 1. Тонкае ліставое жалеза, ліст такога жалеза. *Купіў бляху на стрэху.* В. Малешава. 2. Тонкі ліст жалеза з загнутымі краямі для сушкі яблыкаў, грыбоў і інш. *Сушым рыбу, яблука, зёрнета на блясі.* М. Малешава.

БЛЯША'НІК *м.* Тое, што з бляхі. *Быў комін бляшанік.* Хачэнь.

БЛЯША'НЫ *прым.* Бляшаны. *Бляшана крыша.* Аздамічы.

БЛЯ'ШКА *ж.* 1. Бляха для сушкі яблык, рыбы і інш. Сямігосцічы. 2. Металічная пласцінка на вупражы. Цераблічы.

БО 1 *злучн.* Таму што, бо, а то. *У хаце дух, бо цёпло на дворэ, а на дворэ холодно́, то і ў хаце мороз.* Мачуль. *Не сейце лну на ушэсце, бо будзе лён шорсткі.* В. Малешава. *Вона ўрэдна, бо маці два раз цыцку давала.* Хачэнь. *Не радуйся чужой бедзе, бо своя на градзе* (прыказка). Аздамічы. 2 *часц.* Так. *Бо з дождж́у гэто? — Не з дождж́у.* Дварэц. *Дурная, я ее не пускаў, а вона пошла.— Неўжо? — Бо.* Сямігосцічы. *Ідзі налій супу, дочка. Попрэбуй, бо?* Аздамічы. *Бо й праўда хороша — красавіца.* В. Малешава. *Я бо думаю, дзе ў бабы грошы.* Верасніца.

БОБ *м.* Фасоля. *Боб на тычке́ ўецца.* Аздамічы. *Капшук надуну́ць да ўсерэдзіну насыпляюць бобу да коту к хвосту прыўяжуць, да боб тарамціць, то кот бегае, с ума сходзіць, а ўсем поцеха.* М. Малешава. △ Боб седун. Фасоля. Луткі. Боб цыга́нка. Хотамель. Тычко́вы боб. Фасоля. Хотамель. Боб едо́му. Боб. *Боб едому сыры едзяць.* М. Малешава. *Просты боб.* Боб. Запясочча.

БО'БЕЛЬ *м.* Карантыш. Аздамічы.

БОБЕ'Р *м.* Бабёр. *Той жэ прыканавок ужэ загаціў бобер.* Хачэнь. *Бобэр мае свою нору і не дбае собе.* В. Малешава. *Жыве, бы бобер, сам.* Сямігосцічы. *Слёзы льюцца, ек з бобра́.* Луткі. *Як той бобер, дзесець вер.* Бярэжцы. *Памянш.* бо́брык. Цераблічы.

БО'БІК *м.* Печаная галушка з цеста. *На с'ято* (саракі) *пекуць сорок бобікоў.* Запясочча.

БОБІ'НА *ж.* Фасоліна. М. Малешава.

БОБО'ВУ *прым.* Бабовы. Сямігосцічы.

БОБО'К *м.* Печаная галушка з цеста або часцінка

каржа, які пяклі на саракі. Запясочча. *Памяни.* б о б о ч о к. Сямігосцічы.

БОБО'НІК *м.* Корж, праснак, аладка з крухмалу мёрзлай бульбы, якая зімавала на бульбянішчы. *Бобонікі з гнілых картопляў елі ў войну.* Хачэнь.

БОБО'ЎНІК *м.* Балотны капытнік; бабок; лазаніца. *Шо людзі рвуць, то бобоўнік, крэсто́мі росце.* Хачэнь. *Той бобоўнік, шо свіньям кормяць, з одным лістом, а той, шо лечаць,— у тры лісты́.* Пагост. *Е два сорты́ бобоўніку — горкі і солодкі. Зажурыўса, нужда екая, то п'юц горкі бобоўнік.* Запясочча. *Бобоўнік парылі от кашлю.* Альшаны.

БОБО'ЎНЯ *ж.* Балотны капытнік. Луткі.

БОБРОВІ'НЬЕ *н.* Бабрыныя норы. *Вы́бралiса бобры, покінулі своё бобровіньe.* М. Малешава.

БО'БРЫК *м.* Божая кароўка. Хотамель.

БОБУ'ЛЬ *м.* 1. Стары халасцяк. *Чого загуляўса, ходзіш, як бобуль, жэніцца пора.* М. Малешава. *А дзе ж тые хлопцы? Одны́е бобулё ходзяць.* Там жа. 2. Вясковы жыхар, які не меў ніякай гаспадаркі. *У бобыля да нёчого загоняць.* Верасніца.

БОГ *м.* 1. Бог. *Май бога ў жывоце* (прыказка). М. Малешава. *Не дай божэ богато раз жэніцца й селіцца* (прыказка). Там жа. *Ваш бог у чэрэ́ці седзіць* (да бессаромнага недаверка, чараўніка). Там жа. 2. Абраз. *За образы́ стаўля́лі, за богі.* Хачэнь. *Вона хоцела прыстроіць того бога на сцене да ўпала.* Там жа. △ Б е з б о г а. Бязбожна, вельмі. *Курыў, без бога курыў!* Дварэц. *А вон ужэ без бога п'е.* Луткі. Н і я к і м б о́ г о м. Ніякім чынам. *І травіла, і не можно було ніякім богом звё́сці* (каларадскіх жукоў). Верасніца. Е й-б о́ г у. Так, праўда. *Ну, ей-богу не браў! Могу сто раз забожыцца тобе, шо не браў.* М. Малешава. Б о ж э м о й. Выгук пры хваляванні. *Ох, божэ мой, ох, свёце мой!* Хачэнь. Н е д а й б о г! Выгук пры выказванні бязмернага захаплення. *Було сцегло́ бога́зно, шчо не дай бог.* Дварэц. Е к у б о г а з а д з в е р ы́ м а. Без клопатаў, заможна, у поўнай бяспецы. *О, вона жыве добро, ек у бога за дзверыма.* Сямурадцы. Б о г в е д а е. Невядома. *А бог ёго́ ведае, шо вон за чоловек?* Пагост.

БОГОМО'ЛЬНЯ *ж.* Гаварыльня, пустая размова. *От розвелі богомольню,— нема роботы!* Верасніца.

БОДА'Й *часц.* Хай, няхай, бадай. *А бодай его хо-*

*лера з'ела, не йдзе на сéдало!* Пагост. *Тпр! Голóдна нáгле, бодай ты вýдохла!* Верасніца.

БОДА'К *м.* Качарэжка, кій з металічным шпянём на канцы. *Бáбо, айдзе бодак, я йду на болонье, слізко.* Сямігосцічы.

БОДЗЯ'ГА *ж.* Прэснаводная губка. *Бодзяга у водзе росце, лапкамі такімі.* Пагост. *Бодзягу от кашля п'юць, отвар робяць.* М. Малешава.

БОДЗЯ'К *м.* Качарэжка, кій з металічным шпянём на канцы. Аздамічы.

БОДЛІ'ВУ *прым.* Бадлівы. *Малы бучок, а бодліву.* Пагост.

БО'ДНЯ *ж.* Кубел з векам для адзення, сала, солі і інш. *Тые бонне́ за кухрэ́ былі.* Мачуль. *Такі ўжэ кабан буў велікі, шо дзве бонні наложылі сала.* М. Малешава.

БО'ДРО *прысл.* Бадзёра, жвава. В. Малешава.

БО'ДРЫ *прым.* Бадзёры, жвавы. Запясочча.

БОДЫ'ЛЬЕ *н. зб.* Бадылле. Любавічы.

БО'ЕЗНО *прысл.* Боязна, страшна. Малешава.

БО'ЕЦ *м.* Задзіра. *Дзед боец ёгó ковéнькою похлудýе.* Пагост.

БОЁ'ВУ' *прым.* Баявы. *Вот у нас була дзёўчына, вот була боёва, була башковіта да нет.* Цераблічы. *Боёву.* Хачэнь.

БО'ЖКАЦЬ *незак.* Божкаць, бедаваць. *А шо то ты божкаеш?* Хачэнь.

БО'ЖОВУ *прым.* Божы, богаў. М. Малешава.

БО'ЖЫ *прым.* Тое ж. *Божы вон чоловек, не займай ёгó!* Пагост. △ Божа слабосць, бож'е ліхо. Эпілепсія. *Божа слабосць его мучыць.* Мачуль. *Падýшча болезня, божа слабосць напала.* Сямігосцічы. Божа короўка. Божая кароўка. В. Малешава. Божые слёзы. Дрыжнік, слёзкі. Сямігосцічы. Божэ дзéрэво. Спаржа. *Божэ дзерэво з вішэнькамі.* Запясочча. Бóжэе мáцер сон. Расліна рагулькі. М. Малешава. Божэе мáцеры сон. Купальнік, арніка горная. Запясочча. Бóжа росá. Расянка. Хачэнь. Бóжое мáцер сон. Сон-трава. Сямурадцы. Божэй мацеры тройца. Званец. Луткі. Бож'я травá. Спаржа. Запясочча.

БОЖЫ'ЦЦА *незак.* Бажыцца. *Не можно дзецьмі божыцца або клесціса.* М. Малешава. *Прысéй-бóгу, так божыцца жонка, шо праўда.* Сямурадцы.

БОЙ *м.* 1. Лупцоўка. *Слова мáцерыного не бояцца,*

*а бою бояцца.* М. Малешава. 2. Нераст. *На бой рыбы напалі.* Запясочча.

БО'ЙКА *ж.* 1. Пасудзіна для збівання масла. *Му й цепер б'ём ішчэ масло ў бойцы.* М. Малешава. *Памянш.* б ó е ч к а. *Му б'ём масло, боечкі ў нас е!* Запясочча. 2. Церніца. *Мо б ты мне позычыла на цеперэшні дзень бойку, а то моя ўчора побіласа, да немашэка чым побіць льну.* Кароцічы. *Бойка мае два езыкі, а церніца — одзін.* М. Малешава. 3. Прэс для выціскання алею. Кароцічы. 4. Трамбоўка. М. Малешава. 5. Бойка. *Бойка між пéўнямі була.* Пагост.

БО'ЙКІ' *прым.* 1. Бойкі. *От, бóйке дзіця, до кáжного подойдзе.* В. Малешава. 2. Бадлівы. *Бóйкая корова.* В. Малешава.

БО'ЙЛО *н.* 1. Бойка, калатня. *До бойла дойшло з-за слова.* М. Малешава. 2. Нераст. *То рыбечэ бойло, а то людскé.* В. Малешава.

БО'ЙНЯ *ж.* Бойня. В. Малешава.

БОЙСА' *м.* і *ж.* Хлус. *Эты бойса набойсіць!* Лутκі.

БОЙСІ'ЦЬ *незак.* Хлусіць. Луткі.

БОЙЧА'К *м.* Бойкі чалавек, задзіра. *Коб бойчак, то б добіўса.* В. Малешава.

БОК *м.* 1. Старана, кірунак. *Зоўзýлька, зоўзулька, угадай мне, у екі бок я замуж пойду!* М. Малешава. *Поплóў на той бок рэкі дай потаў.* Дварэц. *У том бóцы сенокосы.* Альгомель. 2. Бок. *Есці хочý, аж бóкі уцягло́.* М. Малешава. *Чого стоіш, узелас у бóкі?* В. Малешава. *На сітовáтым дубі на боку будзе губка, ек кулак.* Верасніца. *У якім бóцы боліць?* Сямурадцы. *У рыбака голы бокá, а обед паньскі* (прыказка). Луткі. △ Н а ў с е ч о т ы р ы б ó к і. Выдатна, вельмі добра. *Вона знае гэто зелье на ўсе чотыры бокі.* Хачэнь. Н а б о к ý. Асобна. *Дочкá замужэм, а сын на боку.* М. Малешава. *Хлеб буў на боку, а не тáма, дзе хорóму стояць.* Там жа. Б ó к і р в а ц ь, п о р в á ц ь. Рагатаць. *Шо там дзеці учварáюць, то бóкі порвеш!* М. Малешава. *Му бóкі рвалі з его, уміралі зо смéху.* Луткі. У б ó к і. У розныя бакі, няўпэўнена. *Повеласа, бу певень, у бокі.* Луткі. *У бокі водзіцца п'яны, бо дурнá голова.* Дварэц. О т о б р á ц ь б ó к а. Паралізаваць. Хачэнь.

БОКЛА'ГА *ж.* Біклага. Запясочча.

БОКЛА'ЖКА *ж.* Біклажка. *Боклажка — то бочáлочка на ободва дна, колісь горэлку бралі.* Сямігосцічы.

БОКЛА'ТЫ *прым.* Пукаты. *От така буклата бутэлька глінявая!* Запясочча. *Товар такі некі вон боклаты.* Дварэц.

БОКОВІ'НА *ж.* Бакавіна. В. Малешава.

БОКОВІ'ЦА *ж.* 1. Бакавая частка (калоды, рамы, ложка і інш.). *У его дошкі е на боковіцы дуба.* Кароцічы. 2. Бакавая вяроўка, якой увязана сена ў возе. *А дзе, баце, боковіцу кінуў?* Цераблічы. *Боковіцэю воза обовеў, шоб сено не трусілосо.* Там жа. *Памянш.* б о к о в і ц к а. В. Малешава.

БОКОВУ' *прым.* Бакавы. *Бокова сцена.* Запясочча. *Боковуе доскі.* Аздамічы.

БО'КОМ *прысл.* Бокам. *Обышоў боком нас.* Аздамічы. *Скмеціў его да боком од его.* М. Малешава. *Хмара вуступіла і пошла боком, а дожджу ў нас і нема.* Там жа. △ В у л е з ц і б о к о м. Не прайсці дарэмна. *Боком вулезе тобе гэто!* М. Малешава.

БОКОЎНЯ' *ж.* Бакавая палоска (кары і інш.). *Одну бокоўню оддзёр з лозіны.* В. Малешава.

БОЛБОТА'ЦЬ *незак.* 1. Балбатаць. *Ек дзеркач дзерэ, то коса берэ, а ек цецерук болбочэ, то й коса браць не хочэ* (прыказка). Луткі. *За сценою косценою цецерук болбочэ* (загадка). *Езык* (адгадка). Там жа. 2 *перан.* Гаварыць. *І болбочэ без перэрыву.* В. Малешава. *Жонкі поюць, а мужчыны седзяць нішком, не болбочуць.* Там жа.

БОЛБОТЛІ'ВУ *прым.* Балбатлівы. *Езык болботліву, то і ўмешаецца ў сварку.* М. Малешава.

БОЛБОТУ'Н *м.* Балбатун. *Шо ты болбочэш, болботун!* Сямігосцічы. *Годзі, болботун, брэхаў!* Азяраны.

БОЛБОТУ'ХА *ж.* Балбатуха. Запясочча.

БО'ЛБОЦЕНЬ *м.* Балбатун. *Я ж добры болбоцень!* Запясочча.

БОЛБО'ЦЬКО *м.* Тое ж. *Змоўчы на мінуціну, болбоцько!* Верасніца.

БО'ЛБУТ *м.* Тое ж. М. Малешава.

БОЛВАНЕ'ЦЬ *незак.* 1. Днець, світаць. *Днее, чуць толькі відаць, булванее.* Цераблічы. *Ужэ заніма́ецца на свет, ужэ болванее.* Аздамічы. *Я ўжэ, чуць окно болванее, пошла.* Запясочча. 2. Ледзь віднецца. *Кауць, болванее — то відно, але не разобраць: ці гэто чоловек, ці то баба, ці то пень.* Альшаны. *Онь болванеюць гусі на поплові.* В. Малешава.

БОЛДЭ'КАЦЬ *незак.* Лапатаць, несці лухту. *Ні болдэкай чого не варто!* М. Малешава.

БО'ЛЕЙ *прысл.* Болей, больш. *Водзічкі болей піць не можно, вава.* Любавічы.

БОЛЕ'ЦЬ *незак.* Балець, хварэць. *Коб болець болело, а перэстаць перэстане.* Аздамічы. *Летучого буська побачыла — ногі болець не будуць.* В. Малешава. *Давай поброхаем по пупок, коб не болеў жывоток* (прымаўка). М. Малешава.

Паводле звычаю, жняя перад зажынкамі, каб не балела спіна ў час жніва, павінна была выжаць дзве жмені збажыны і, паклаўшы накрыж, пасядзець на іх або, як першы раз загрыміць гром, прыціснуцца спіной да дрэва ці сагнуцца і правай рукой цераз спіну кінуць травіну, або, нарэшце, падняць аглаблю. Верасніца.

БОЛО'ЗЬ *злучн.* Балазе, добра што. *По-твойму выходзіць так: цегні, волочы усе чысто, болозь ніхто не бачыць.* Тураў.

БОЛО'НА *ж.* Абалона (у драўніне). *Стрыжня мало — одна болона.* М. Малешава.

БОЛО'НІСТЫ *прым.* Абалоністы. *Болоністэ дзерэво.* Пагост.

БОЛО'НОЧКА *ж.* Узор на тканіне ў выглядзе прамавугольнікаў. *Скацерсцé ткалі у лаўкі і ў болоночкі, а цепер у мóды ткуць.* Луткі.

БОЛО'НЬЕ *н.* Выган, прырэчны луг перад вёскай. *На болонье погенóм товар.* Альшаны. *Усе болонье на озёрах.* Там жа.

БОЛО'ТНЕШНІ *прым.* Балотны. *Балотнешне сено.* Бярэжцы.

БОЛО'ТНЕШЧЫ *прым.* Тое ж. *Болотнешчы сенокос.* Цераблічы.

БОЛО'ТНІ *прым.* Тое ж. *Болотне сено товар не хочэ есці.* В. Малешава. *Болотніе людзі не бояцца болота.* Запясочча.

БОЛО'ТО *н.* Балота, сенажаць. *Вода спала, скоро почнем болото косіць.* Аздамічы. *Лежыць колода серэд болота, ні гніе, ні сохне* (загадка). *Язык* (адгадка). В. Малешава. *П'етровіца сушыць болотá, а спасоўка — рэкі* (прыкмета). Луткі. *Не бувае болото без чорта, а село — без п'яніцы* (прыказка). М. Малешава. △ М о х і б о л о т о. Абы-што. *Ек вып'е, то накідае на цебе мох і болото.* М. Малешава. *Памянш.* б о л ó т ц э. *На боботцы да на чыстом упалі вэселцэ.* Рубель.

БОЛО'ТЧЫНА *ж.* Балаціна. *Болотчына була топкая, а цепер вона ужэ высохла.* В. Малешава.

БОЛО'ЦВІНА *ж.* Тое ж. *Болоцвіна больша за ярўгу.* Сямігосцічы. *Я відзела, ек жабу шлі з одное болоцвіны ў другую.* Пагост.

БОЛО'ЦІ'НА *ж.* Тое ж. *От, дзе болота ковалок, то кажуць болоціна.* Сямігосцічы. *Болоціна.* В. Малешава.

БОЛОЦІ'ЦЬ *незак.* Балбатаць. *Шо там баба та болоціла?* Запясочча.

БОЛОЦІ'ШЧЭ *н.* Вялікае балота. *Лозішча несходзімае, болоцішча страшные!* М. Малешава.

БОЛЬ *м.* і *ж.* Боль. *Хот ты подвесса, боль нецерпімая!* М. Малешава. *Поговорыў — і ек понёс той боль!* Верасніца. *Шчоб ее боль з'ела!* (праклён). Чэрнічы.

БО'ЛЬКА *ж.* Болька. *Без колкі німа болькі* (прымаўка). Запясочча.

БОЛЬШ *прысл.* Больш. *Больш за дзвесце чоловек.* Пагост. *Раншэ було угодзьеў больш.* В. Малешава.

БОЛЬША'К *м.* Высакарослы падлетак. *За одзін год такі большак наш хлопец стаў, усю одзежу тре нову ёму купляць.* Пагост.

БО'ЛЬШАЦЬ *незак.* Большаць. *Ужэ дзень меньшае, а ноч большае.* Запясочча.

БОЛЬШУ'Н *м.* Бальшун. *Такі большун, а зь дзецьмі ходзіць.* М. Малешава.

БОЛЬШУ'ХА *ж.* Бальшуха. *Такая большуха, а вона віндуе.* М. Малешава.

БО'ЛЬШЫ' *прым.* 1. Большы. *Я сама больша була, то хватало роботы.* Луткі. *Большу часць пітулькою звалі.* М. Малешава. 2. Вялікі. *Вода большая цепер.* Запясочча. *Муха біскае большая да не дае спаць.* М. Малешава. *Малые дзеці спаць не даюць, а большые, то жыць* (прыказка). В. Малешава. *Памянш.* б о л ь ш э н ь к і. М. Малешава.

БО'ЛЬШЭЙ *прысл.* Больш. *І большэй не сталі говорыць.* В. Малешава.

БОЛЮ'ЧЫ *прым.* Балючы. М. Малешава.

БОЛЯ'ЧКА *ж.* Болька. *Села на ногу болячка і боліць вельмі.* М. Малешава. *Седзі, шоб тобе села болячка, мне ж трэба працї!* Верасніца. *А болячка іх ведае, дзе воны ходзяць!* Там жа. *Часы стояць, хай ім болячка стане!* Хачэнь.

БОЛЯЧЭ' *прысл.* Балюча. *З одного боку горачэ, а з другого — болячэ!* (прымаўка). Аздамічы.

БОМ *м.* Будка на плыце. Запясочча.

БО'МБЕЛЬ, БО'МБОЛЬ *м.* Пухір. *От, такія бомбелё посхапваліса от жаберу!* Луткі. *Поробіліса тые два палца, як бомболі*. Хачэнь.

БО'МКА *ж.* Будка ў лодцы. *Залез у ту бомку да спіць.* Альшаны.

БО'МКАЦЬ *незак.* Бомкаць. *Я чую, што вон бомкае под тым кустом, той шэршэнь.* Луткі. *Хваціць, не бомкай, сціхні!* М. Малешава.

БО'МЧЫК *м.* Насенная каробачка. *У капелюшніку ростуць бомчыкі.* Сямурадцы.

БО'НДАР *м.* Бондар. *Бондар у нас называлі того, шчо бочкі, дзежкі потчыняў.* Сямігосцічы.

БОНДА'РКА *м.* 1. Бондар. *Сыны его бондаркі да бочкі робяць.* Запясочча. 2. Бандарныя вырабы. *Дзед бондароваў, робіў усю бондарку.* Сямурадцы.

БОНДА'РНЯ *ж.* Бандарня. М. Малешава.

БОНДАРОВА'ЦЬ *незак.* Бандарыць. *Вон на комбінаце бондаровацъ вучыўса.* Дварэц.

БОНОВА'ЦЬ *незак.* Затрымліваць лес бонамі пры лесасплаве. Запясочча.

БОНОВЕ'ЛА, БОНАВЕ'ЛА, БАНАВЕ'ЛА *м.* і *ж.* Прыдурак, нелюдзь. *Вон і роботнік, і поможэ, ек попросіш, але боновела некі, говорыць, говорыць, а разумного нічого не скажэ.* Пагост. *У, ты дурна боновела! Боновела дуровата*! Хачэнь. *Буў бонавела ведзьмар.* Сямурадцы. *Бановела — ўрэдны чоловек.* Там жа. *Того чоловека боновела цвелілі, вон знаў людзей перэводзіць.* Там жа. *Павел.* б о н о в е́ л і ш ч э *н. Таке боновелішчэ меньшы ее сын, розумнэ не скажэ, добрэ не зробіць, усе, ек на зло ў ёго́.* Пагост. *Боновелішчэ ты, вона ж молодзе́нька шчэ, нашчо тобе ее зоймаць.* Там жа.

БОНТ м. Невялікі плыт, на якім ездзяць у час паводкі. Запясочча.

БО'НЮХ *м.* Свіны страўнік, начынены мясам. Мачуль.

БОНЯ'ЧКА *ж.* Гуз, жаўлак. *Ек мошкі накусаюць, то боничкі посхопваюцца на віду.* Сямурадцы.

БОР *м.* 1. Высокае месца. *На бору зем'я плохая.* Запясочча. *Пешчаная земля, то ў нас бор зовуць.* Хачэнь. *Шоб у том бору лес узяць, то б була хата!* Пагост. *Кажна сосна свому бору шуміць* (прыказка). Хачэнь. 2. Расліна сямейства злакавых, у якой зярняты падобныя да прасяных. *Бор такім дубцэм тоўстым росце, вон*

*жэ такі, бы метла.* Чэрнічы. *Бор росце не веткамі, а шышкой.* Бярэжцы. *Бор буў у просе. Одзін год сеелі сам бор.* Дварэц.

БО'РАЦЦА *незак.* Дужацца. *Дзе пескова́ поляна е, то воны прыходзяць борацца* (дзікі). Лутксі.

БОРОВУ' *прым.* Баравы. *Борові мед самы хорошы.* В. Малешава. *Боровая вода уродзі болотня, рыба любіць.* Запясочча. *Борова вода прышла, подперла Прыпець угэ́ нас потопіць.* Сямігосцічы. △ Борова́ трава. Сівец. *Борова трава, бы шчотка.* Альшаны. Борова соро́ка. Сойка. Цераблічы.

БОРОДА' *ж.* 1. Пярэдняя частка ніжняй скіўіцы. Сямігосцічы. *Борода уверх подымаецца, ек зу́бу поўпадваюць у бабы, так і ў дзеда. Ім і говорыць ва́жко.* Сямурадцы. 2. Валасяное покрыва ніжняй часткі твару. *Бо́роду вон отросціў.* М. Малешава. 3. Барада (у пеўня). М. Малешава. 4. Пучок каласоў, які спецыяльна звязвалі пры заканчэнні жніва. *Як кончаюць жаць, то бо́роду покідаюць, а на спаса колоскі з ее несуць свеціць.* Запясочча. *Бо́роду не покідалі на полі, а зрэжуць да несуць, положаць у хаце за образамі, а на спаса свецяць разом з я́блукамі.* Лутксі. *З бороды колос перэмешае з жытом і сее.* Там жа. *Як до́жынкі, то вуберуць столькі колосоў, сколькі душ, і звяжэ красною лентою і хлеб-соль посерэ́дзіне. Казалі: покінулі бо́роду.* Дварэц. *Бо́роду под склад кідалі, а не на разоры.* Верасніца. 5. Спецыяльны выступ у сякеры для вымання цвікоў. В. Малешава.

БОРОДА'Й *м.* Каранiстая расліна. *Его звалі бородай, то зелье, вельмі корэнья богато.* Хачэнь.

БОРОДА'ТЫ *прым.* Барадаты. *Борода уперод у ёго́, то вон бородаты.* М. Малешава. *Бородаты ў селе ўсёго́ одзін буў дзед Е́ўхім.* Пагост.

БОРО'ДАЎКА *ж.* Бародаўка. *От боро́давок говорылі, шо як лежыць костка дзе ў траве заро́стана, то трэба подняць да пошморгаць, да назад так покласці, да загібнуць.* Хачэнь. *Трэ обо́драное во́зом дзерэво не глэ́дзя поцерці бородаўкамі тры разы перэд захо́дом сонца, і пропадуць.* Там жа. *Я шчэ була́ молода́, на вейцы поселіліса боро́даўкі да нічо́го не помогло́са. От мне і кажэ тая жонка: озьмі ленточку, полічы ў люстро, колькі у цебе іх е, заўяжы́ толькі ву́злікоў, а одзін розўяжы́. Одну бородаўку розорві і той кроўю помаж усе, да пойдзі на росходные дорогі, да кінь церэз себе тую лен-*

*точку і ідзі, не оглядвайса, то згінуць.* Там жа. *Ек узойдзе молодзік, то беры землі з-под ногі і бородайка загібае.* Цераблічы.

БОРОДА'Ч *м.* Каранiстая расліна. *Бородач у дубовух корчо́х росце.* Хачэнь. *Бородач беленькім цветочком росце, корэньчык вельмі бородаты.* Там жа.

БОРОДЗЕ'Й *м.* Каранiстая расліна. Верасніца.

БОРОЗЁННЫ *прым.* Якi ідзе па баразне ў час ворыва (пра вала, каня). *Подру́чны вол цэліко́м ішоў, а борозённы ролёю.* Цераблічы. *Борозённы конь, вон ідзе по роўцу, вон водзіць, вон ёго́* (прыпражнога) *у ровец не пусціць.* В. Малешава.

БОРОЗНА' *ж.* Баразна. *От, кажэ, отваліў бо́розну на ўсего плу́га.* В. Малешава. *Беры ву́жэй бо́розну, а то будуць гранкі шырокіе.* Там жа. *Стары́ вол борозны́ не псуе́, да мелко орэ* (прыказка). Альпень.

БОРО'ЛІК *м.* Катах у аеры. *Боро́лікі на лепешніку́ не елі, а перэкрывалі, чый крэпчэйшы.* Цераблічы.

БОРОНА' *ж.* 1. Барана. *У ко́лішней бороне дубовэ зуб'е було.* М. Малешава. *Двацця ць п'яць на дзерэві седзяць, хлеб пашуць, хлеба не едзяць* (загадка). *Борона* (адгадка). Хачэнь. 2. Печыва на саракі. *Борону́ строяць для хлопчыкаў.* Запясочча. *Борону́ з'еў і готуйса к посеву.* М. Малешава.

БОРОНІ'ЦЬ *незак.* Бараніць. *То́піцца, то трэ ехаць ротоваць, б'юцца, то трэбо бороніць.* Бярэжцы. △ Боро́нь бог, божэ боро́нь, бороні́ го́сподзі. Засцерагальныя выгукі. *Боронь бог, шоб этого не було!* В. Малешава. *Бороні господзі, не будзь отметны!* Верасніца.

БОРОНОВА'ЦЦА *незак.* Баранавацца. *А сотку глеёву далі, не боронуецца, узела суш.* Мачуль.

БОРОНОВА'ЦЬ *незак.* Баранаваць. *Трэ бороноваць, бо травы богата на сотках.* М. Малешава. *Бороноваць картоплі удоўж трэ, а ўпоперэк, то воны поўбороноўваюцца.* Луткі. *Хто орэ, а хто боронуе, то ўсіх бог пороўню́е* (прыказка). Буразі.

БОРО'ЦЦА *незак.* 1. Бароцца, барукацца. *Лез бороцца, то поборо́ўса, шо поднелі да понеслі.* Мачуль. *Во́дзяцца, потомяцца, не можэ ні той, ні той того поло́жыць, боруцца.* В. Малешава. 2. Басціся. *Бе́ўкае корова, то бороцца хочэ.* Бярэжцы. *Бараны́ боруцца, рогамі б'юцца.* М. Малешава.

БОРО'ШКАЦЦА *незак.* Барукацца, бароцца. *Борошкацца як сталі удвох, як схопіліса!* Запясочча.

БОРСА'ЦЬ *незак.* Барсаць. *Борсáлі волóкі ў лапці, зацягáлі тые волокі ў вушы.* Мачуль.

БОРСУ'К *м.* Барсук. *Борсука не едзяць, оно почкі беруць.* Мачуль.

БОРСУКО'ВУ *прым.* Барсуковы. *Борсуковое сало пілі от сухот.* Луткі. *Борсукова струя.* Запясочча.

БО'РТНІК *м.* Бортнік, пчаляр. *Ой, екі з цебе бортнік, шо й меду нема!* В. Малешава. *У нас у колхозе хорошы бортнік.* Сямігосцічы.

БОРТОВА'ЦЬ *незак.* Прынаджваць пчол у пусты вулей. Запясочча.

БОРУХА'НЬЕ *н.* Пажыткі. *Усе боруханье свое зобраў і поехаў до мацер.* Аздамічы.

БОРУХА'ЦЦА *незак.* Штурхацца, пхацца. *Чого ві борухáецес, мо біцца хочэце?* В. Малешава.

БОРУХА'ЦЬ *незак.* Штурхаць, пхаць. *Ідуць, однэ одного борухаюць.* Цераблічы.

БО'РУШНО *н.* Пажыткі, рэчы. *Мóцё, ідзі заберы борушно на межы!* Запясочча. *Малэ́ дзіця́, а ў ёгó вóрох борушна.* М. Малешава.

БОРУШЭ'НЬЕ *н.* Тое ж. Аздамічы.

БОРЦЬ *м.* 1. Выдаўбанае ў сасне гняздо для пчол. Бярэжцы. Прарэз, аконца ў калодзе. Мачуль. 2. Доўж у калодзе. Запясочча. 3. Дрэва з борцю. *Одна борць стояла у Перэпелі́чынах.* Альшаны.

БОРШЧ *м.* Боршч. *Учора буў булён, хай бі ты, баба, зварыла боршчá.* Сямігосцічы. *Еж боршч з грыбамі, дзержы език за губамі* (прыказка). Чэрнічы. *Ек будзе чоловек голодны, то будзе есці боршч холодны* (прыказка). Хачэнь. *Памянш.* б ó р ш ч ы к. *Смачны боршчык, да мáлы горшчык* (прыказка). В. Малешава.

БОРЭ'Ц *м.* Барэц. *От борэц, поборэ каждого.* Сямурадцы.

БОСА'К *м.* Босы, басаногі чалавек. *А зачым прозвалі босакі. Бо бóсые булі.* Луткі. △ Н а  б о с á к. На босую нагу. *На босак обула чóботы дай ногі померзлі.* В. Малешава.

БОСЕКА' *прысл.* Басанож. *Босека шпарылі до воды.* М. Малешава

БО'СІКО'М *прысл.* Тое ж. *Куды бóсіком пошла, ножкі покаля́еш!* Хотамель. *Куда ты босікóм бежыш по інею?* М. Малешава. *Босекóм пошлі усé.* В. Малешава.

БОСІ'НЫ *мн.* △ Седзéць у босінах. Гаравацць, тужыць. *Я ў босінах не буду седзець.* М. Малешава.

БОСОНО'Ж *прысл.* Басанож. *Чого ты босонож бежыш?* М. Малешава. △ На босонóж. На босую нагу. *Куды ты спешыў, шо чоботы на босонож одзеў?* М. Малешава. *На босынóж.* Альпень.

БОСО'ТА *ж.* Басота. *О, шо там зобрáлосо добрэ? — Зобраласа одна босота!* В. Малешава.

БО'СЫ *прым.* Босы. *Чо ты вуйшоў босы, холоднó цепер!* Сямігосцічы. *Кóлісь босымі колёсамі ездзілі, ўязóвуе ободы робілі.* Лутк і.

БОСЯ'К *м.* Басяк. *Як нікóго не слухае, ні маткі, ні бацькі, то кажуць босяк.* Сямігосцічы.

БОСЯКА' *прысл.* Басанож. Сямурадцы. △ На босяк, на босякá. На босую нагу. *Настроіў на босяк чоботы, без онуч і побег.* М. Малешава.

БОТВА' *н.* Націнне. *Моркоўка буяе, ідзе ў ботвý.* Сямігосцічы.

БО'ЎДЫ'Р *м.* 1. Недарэка. *Бóўдыр на чоловека кажуць, гáньба такá, ек екі дуровáты, нехлем'яжы.* Цераблічы. 2. Пра вялікую пасудзіну. *От наварыла боўдыр кулешу, шо страшно гледзець, і ўсе з'елі.* М. Малешава.

БО'ЎЗНУ'ЦЬ *зак.* Шурхнуць. *Цéмно, ніхто нідзе не боўзнé, сýмно, бóязно.* Пагост. Хіснуць. *Па вáлах колоўнýласа лодка моцно, дзіця не ўдзéржалосо да бóўзнýло з нóса ў рéку.* Пагост.

БО'ЎКАЦЦА *незак.* Корпацца. *Годзі боўкаў там, скорэй робі!* Сямурадцы.

БО'ЎКАЦЬ *незак.* Бомкаць. *У барабан там боўкае.* Запясочча.

БО'ЎКНУЦЬ *зак.* Бомкнуць. *Ні однэ́ слово не бóўкнуло.* Бярэжцы.

БОЎКУ'Н *м.* 1. Ярмо на одного вала. *Бэўкýн волу робіўса з бэрóзы.* Мачуль. 2. Балван, недарэка. Запясочча.

БО'ЎНАЦЦА *незак.* Поркацца. *Эт, боўнацца дзень будзе!* Альшаны.

БО'ЎТАЦЦА *незак.* Плюхацца. *Здóрово нешчо боўтаецца, так брóхае моцно, неўжэ там рыба е?* Лутк і. *Порося бóўтаецца, а не есць.* М. Малешава.

БО'ЎТАЦЬ *незак.* Плюхаць. *Як почалі ў той канаві колоціць і боўтаць!* Лутк і. *Собака боўтае, як плуве.* Аздамічы.

БО'ЎТНУЦЬ *зак.* 1. Боўтнуць. *Боўтнуло з дуба дзіця ў вóду.* Кароцічы. *З лоткі ў вóду боўць і поплоў.* В. Малешава. *Сказаў, ек у бочку боўтнуў.* М. Малешава. 2. Балбатнуць. *Боўтнé немўтым езыкóм.* М. Малешава.

БОЎТУ'Н *м.* Баўтун. *Не насéдзела кўра — одные боўтунэ́.* Сямігосцічы.

БО'ЎЦЕЛЬ *м.* △ Б ó ў ц е л ь-к ó ў ц е л ь. У дзіцячай лічылцы. *Боўцель-коўцель, вылі вóду на колоду. Ці на дождж, ці на погоду?* Аздамічы.

БОЎЦІНА' *ж.* Баўтуха (пра вадкае рэчыва). *Я навéк кажу дзéцям: ленўюцца жыць у дзерэўні, то нехай боўціны поп'юць.* Хачэнь.

БОЎЦЮ'К *м.* Баўтун. *Дванáнцаць боўцюкоў знайшлі ў броківе.* Кароцічы.

БО'ХАЛО *н.* Той, хто кашляе з надрывам. *Годзі бóхаў, бохало, ужэ надодзéў з своім кашлем.* В. Малешава.

БО'ХАН *м.* Бохан. *Ох, колькі ты бохано́ў насаджáла!* Верасніца.

БОХА'НКА *ж.* Буханка. *Бохан — велікі, а меньша — боханка.* Сямігосцічы.

БО'ХАЦЬ *незак.* Бохаць, бухаць. *Да тымі солдацкімі сапогамі бох, бох!* Хачэнь. *Бох тое цесто ў бляху!* Цераблічы. *Шо ты бохаеш, ек у бочку!* М. Малешава. *Бéрэга обдымеш сеткою, а бохаеш гонцэ́м.* В. Малешава. *Ой ты бог, ой ты бог, чого бохаеш? Да на небі седзіш, не работаеш?* М. Малешава.

БОХІ'КАЦЬ *незак.* Бохаць, кашляць. *Говоріла я тобе цеплéй одзевацца, а ты не послухаўса, да от цепер бохікаеш.* Пагост С.

БО'ХНУЦЦА *зак.* Бухнуцца. *Да об э́тэ ведро ек бохнуласа!* М. Малешава.

БО'ХНУЦЬ *зак.* Бухнуць. *Як бохнула ў тую яму, так я от тогó очомрэ́ла.* Хачэнь.

БОЦ, БОЦЬ *выкл.* Вокліч, якім спыняюць вала або прыцішаюць яго хаду. *Боц, боц і чэшэ букá, то вон рохмáнее.* М. Малешава. *Боць.* Сямігосцічы.

БОЦВІ'ННЫ *прым.* Прыгатаваны з бацвіння. *Боцвінны боршч.* М. Малешава.

БОЦВІ'НЬЕ, БОЦВЕ'НЬЕ *н.* Малады бурачнік, бацвінне. *Не ўлезці, боцвіньe по колено.* В. Малешава. *Боцвеньe.* Запясочча.

БОЧА'ЛКА *ж.* Бочачка. *Ек у бочалку, кварту воды*

*ўрэжэ — і нішчо.* М. Малешава. *Памяні.* бочáлочка. М. Малешава.

БОЧА'НКА, БОЧО'НКА *ж.* Бочачка. Чэрнічы. *Бочóнка.* М. Малешава.

БОЧ'Е' *н. зб.* Бакі. *Боч'е вýшэй клýба ў товара, так понаедáліса.* М. Малешава.

БО'ЧКА *ж.* 1. Бочка. *Бочка з клёпок, а кáдоўбы не.* Бярэжцы. *О, бочка насыпнáя! — По крайні меры чоловек, харчэ не пропалі на мне!* М. Малешава. *У ёгó дочóк, так п'яць бочóк, і ўсе тоўстые да гладкіе* (прыказка). Аздамічы. 2. Канец, смерць, пагібель. *Поношу разоў два* (кофту) *да ей будзе бочка.* Луткі. △ Бóчкі качáць. Нагаворваць. *Зноў почалі на ее бочкі качаць.* Хачэнь. *Памянш.* бóчэчка. *Поўна бочэчка віна, а ні дзірочкі, ні дна* (загадка). *Ейцо* (адгадка). Верасніца. *Поўна бочэчка мукі, а зверху жукі* (загадка). *Попел і вýголь* (адгадка). Хачэнь.

БО'ЯЗНО *прысл.* Боязна, страшна. *Боязно у хаці седзéць.* Дварэц.

БОЯ'РЫ, БОЯ'РЫЕ *мн.* Вясельныя госці. *Прыехало сем сот боярóў на мой двор. Познáй, познай, дзеўчынóнька, которы твой. Шо ў сінём, у зелёном, то не мой, а шо ў вóтлозі, у золотом пóесі, то мой* (з вясельнай песні). Сямурадцы. *Да гукáлі баярые, через село éдучы: ці ж усе му, лю́бое боярые, через село переехалі?* (з вясельнай песні). Пагост.

БОЯ'РЫН *м.* Важны чалавек. *Отó, ты будзеш боярын зарэ.* Запясочча.

БОЯ'ЦЦА *незак.* Баяцца. *Жонкі ніхто не боіцца, і волы не бояцца.* Хачэнь. *Полешукі воды бояцца зроду.* Дварэц. *Не бойса мéртвого, да бойса жывого* (прымаўка). В. Малешава. *Розумны не скажэ, а дурного нема чого бояцца* (прымаўка). *Рыба не боіцца полóву, да помóру* (прыказка). Аздамічы. *Лес не боіцца топорá, да огня* (прыказка). Там жа. △ Ветру бояцца. Быць крохкім, ламацца. *У плотніка топор ветру бояўса!* Дварэц.

БРА *часц.* Для выказвання сяброўскіх адносін. *От бра шо на свеці робіцца!* М. Малешава. *От бра хата!* Там жа. *Я от бра тобе не скажу, як.* Там жа. *Але бра гэто не вона.* Там жа. *Не бра, не було, як му ехалі.* В. Малешава. *Бра не знаю, сколько гусенят у Федора, п'яць ці дзесець.* Там жа. *Вот бра гетого ў нас не чутнó.* Альгомель. *От бра колі було й не забýласа!* Луткі. *Поба*

*бра, дзёўбáе. А кіша, кіш!* Там жа. *Ужэ бра покорміла свіньяǃ* Цераблічы. *Да подай бра коўшá* Кароцічы. *Пугáч мáхіна бра а ніяк не боіцца.* Запясочча.

БРА'ГА *ж.* Брага. *От бра брага, шо й лучына тухне, будзе горэлка добра.* М. Малешава.

БРА'ЖНІ'К *м.* 1. Частка самагоннага апарата. *Бражнік.* Цераблічы. 2. П'яніца. *Ужэ берэ без чўсцвія горэлку, настояшчы брáжнік.* В. Малешава.

БРАЖНІ'ЦА *ж.* Пражэрлівая жывёла. В. Малешава.

БРА'ЖНЫ, БРА'ЖНІ *прым.* 1. Бражны. *Бражны дух пошоў по хаці от ягод, от варэнья.* М. Малешава. 2. Пражэрлівы. *От брáжная корова.* В. Малешава.

БРА'ЖЫ'ЦЦА *незак.* Брадзіць, кіснуць. *Брáжыцца.* Чэрнічы. *Бражáцца яблука на сок.* М. Малешава.

БРА'ЖЫ'ЦЬ *незак.* 1. Брадзіць, кіснуць. *З настойкі каліны можно оп'янець, бо вона брáжылá.* Хачэнь. *Кампот почаў бражыць.* Верасніца. 2. Піць гарэлку. *Седзіць і брáжыць горэлку.* М. Малешава. 3. Пахнуць гарэлкаю. *От ёгó бражыць, хоць ты закусіць давай, як дыхне.* Верасніца.

БРА'ЗКАЦЦА *незак.* 1. Бразгацца, стукацца. *Ведро брáзкаецца на возі.* Верасніца. 2. Лаяцца, плявузгаць. *Не хочэцца брáзкацца з ім.* В. Малешава.

БРА'ЗКАЦЬ *незак.* 1. Бразгаць, ляпаць. *Докýль ты будзеш ведром брáзкаць, перэстаньǃ* М. Малешава. *Прыдзержвай клямку, шо ты там бразкаеш еюǃ* Пагост. 2. Балбатаць. *Шчо ты бразкаеш, ек звонецǃ* М. Малешава.

БРАЗКОНЕ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. *Да бразконяць тые шпорыǃ* Запясочча. *Коні лецяць, а джынджакі бразконяць.* Мачуль.

БРА'ЗКОТ *м.* Бразгат. В. Малешава.

БРАЗКО'ТКА *ж.* Бразготка (у бубне, на вупражы і інш.). Запясочча.

БРАЗКОТЛІ'ВУ *прым.* Балбатлівы. В. Малешава.

БРАЗКОЦЕ'НЬЕ *н.* Бразгат. *От бразкоценье развелá вéдрамі ні свет ні зорá — спаць не дае.* Верасніца.

БРАЗКОЦЕ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. Верасніца.

БРА'ЗНУЦЦА *зак.* Бразнуцца, пляснуцца. В. Малешава.

БРА'ЗНУЦЬ *зак.* Бразнуць. *Шáшку скінуў і бразнуў об подлогу так, шо звон пошоў.* М. Малешава.

БРАЗЧА'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. М. Малешава.

БРАК *м.* Брак, недахоп. *Коліся було брак хлеба, у кого веліка сем'я.* Цераблічы.

БРАКО'ВАНЫ *прым.* Бракоўны. *Град побіў, то бракованэ жыто.* М. Малешава.

БРАКОВА'ЦЬ *незак.* 1. Шкодзіць, дрэнна ўздзейнічаць. *Бракуе саду вода: нема яблук, нема груш.* М. Малешава. *Мак у просі сеялі, бо однэ одному не бракова́ло.* Цераблічы. 2. Выбракоўваць. М. Малешава.

БРАКО'ЎНЫ *прым.* Бракоўны. *Бракоўнэ дзэраво на будоўлю не ва́рто.* Цераблічы. *У его ногі бракоўные, а вон поброў.* Луткі.

БРА'МА *ж.* Брама. *Брама колісь толькі ў помешчыкоў була, дзе вон уежджаў у свой двор.* Сямігосцічы.

БРА'НКА *ж.* Світэр. *Дзе моя бранка, ма?* Сямігосцічы.

БРАНО'К *м.* Тое ж. В. Малешава.

БРА'НЫ *прым.* Плецены. *Браны пояс красным убіра́лі, ек го́рынь е.* М. Малешава.

БРАТ *м.* Брат. *Чолове́кі брат з братом сталі біцца.* В. Малешава. *Стрэ́дні брат і двоюро́дны брат однэ і тэ.* Цераблічы. *Брат мой, а еж хлеб свой* (прыказка). Пагост. △ К р а́ м е н е ў б р а т. Здаравяка. *Гэты чоловек здоро́ву, шчо кра́мень, або кажуць — гэто ўжэ краменеў брат.* Аздамічы. Б р а т і с е с т р а. Зарніца (травяністая расліна). Запясочча.

БРАТА'НІ'Ч *м.* Пляменнік. *Мой брата́ніч вучыцца ў Москве.* В. Малешава. *Братані́ч.* Буразі.

БРАТАНІЧО'Ў *прым.* Пляменнікаў. *Братанічо́вые дзеці.* В. Малешава.

БРАТА'НКА *ж.* Пляменніца. *У ее дзве братанкі оста́лосо.* В. Малешава.

БРА'ТКІ' *мн.* 1. Маніцы. Бярэжцы. 2. Браткі і падобныя да іх расліны. *Этые, шо дзецей купаюць, браткі, то ў пожні, а е́сцека лесовые.* Хачэнь. *Браткі, ко́лісь казалі, от простуды.* Луткі.

БРА'ТКО *м.* Браце. *Бра́тко, не гне́вайса, я пошэпчу.* Мачуль. *Браткó.* Хільчыцы. *Памянш.* б р а́ т о н ь к о. *Братонько мой, не обіжайса, шо не прышла.* В. Малешава.

БРА'ТОВУ *прым.* Братаў. Луткі.

БРАХОНЕ'ЦЬ *незак.* Плюхаць. *Пе́рэд хмарою рыба берэцца добро да брахоніць, да зроду, зроду так.* Луткі. *Ек рыба будзе брахоне́ць, то дождж будзе.* Верасніца.

БРА'ЦЕ *выкл.* Браце. Бярэжцы. *Памянш.* б р а́ ц е й к о. *Брацейко, як я по тобе убіва́ласа, думала, ці скоро*

*ты прыедзеш!* М. Малешава. *Ох, брацейко мой родненькі, а дзе ты е!* В. Малешава.

БРАЦЕ'НІК *м.* Браценік. *Браценік — то могó дзя́дзька сын.* Верасніца.

БРАЦІ'ХА *ж.* Браціха. *Наша браціха вельмі сварлівая.* М. Малешава. *У нас говóраць браціха, а ў селян — небóга.* Дварэц.

БРАЦІ'ШЫН *прым.* Які належыць братавай жонцы. *Браціўшыну корову погналі пасці.* Дварэц.

БРА'ЦЦА *незак.* 1. Брацца. *Берэцца молоды дубок і раскóлваецца.* В. Малешава. *Бра́ліса за за́городу, така́ веліка вода була.* Дварэц. 2. Жаніцца. *Ім не можно брацца, воны свое.* Цераблічы. 3. Лавіцца (пра рыбу). *Свéтла вада́ пóсле дождж́у, не будзе брацца рыба.* Цераблічы. 4. Набірацца. *Як стала вода ў човен брацца, то вон крутнуў да вельмі пры́кро.* Дварэц. 5. Ручацца. *Гэто ж кот, за его брацца нечого.* Дварэц. 6. Прымацца. *Не браўса вучыцца.* Дварэц. *Берэцца вóза зробіць да не ўмее.* М. Малешава. 7. Прымаць выгляд. *От оўёс у трубку берэцца, за́раз вúсыплецца.* В. Малешава. *Расколóціш, ек на ола́дкі, онó не берэцца ў голу́шку.* Бярэжцы. 8. Узнімацца з намаганнямі. *Іду-іду, беруса на ту гору.* М. Малешава. 9. Ліпнуць, ляпіцца. *А вонэ ж не берэцца* (цеста). *Вонэ́ ні ў вóшчо не поберэ́цца, ні ў голушку, ні ў вошчо.* Бярэжцы. 10. Разгарацца. *Брацца огнéм.* Запясочча.

БРАЦЬ *незак.* 1. Браць, захопліваць. *Берэ́ць снéдайце, годзе вы піса́лі.* Луткі. *Пройдзе спас да беры руковіцы про запа́с* (прымаўка). Там жа. *Туроў до Озера́н буў, пока́ турок не бра́ў.* Чэрнічы. 2. Збіраць. *Мы навéк ра́зом з імі берем журавіны.* Бярэжцы. *Бралі ягоды грэбёнкаю.* Луткі. *Грыбу́ берóм у лесі, а печэры́цы на пóжні.* М. Малешава. 3. Рваць (пра лён, каноплі). *Жонкі цэлую недзелю беруць лён.* Верасніца. 4. Набіраць. *Кожушля́т по мешку́ бра́лі.* М. Малешава. 5. Жаніцца. *Хочу браць старшынову дочку́.* Хачэнь. 6. Уздзейнічаць. *Ніяка отрава іх не берэ, тых жукоў.* Запясочча. *Пролупіла очы да ўжэ і сон не берэ.* В. Малешава. *Як дзеркачэ́ дра́лі, то й косы бралі* (прымаўка). Мачуль. *Як хлеб глізавы, то его і нож не берэ.* Пагост. 7. Вязаць. *Моя маці дзерэўяными кручкамі руковіцы берэ.* Луткі. 8. Заўзята кідацца. *Снег, кру́ча, а собака берэ!* Хачэнь. 9. Мацнець. *Мороз берэ под вéчор.* Пагост. △ Б р а ц ь  н а  ó к о. Заўважаць. Мачуль. Б р а ц ь  у  г ó л о в у.

Запамінаць. Верасніца. Браць на спісок. Запісваць. Верасніца. У поняція не браць. Не цікавіцца, не імкнуцца ведаць. *А дзейкі ў поняція не беруць у нас!* Бярэжцы. Дох ёго беры! Ліха яго бяры. Кароцічы.

БРОВА′ *ж.* Брыво. В. Малешава. *Бро́ву нахмурыць твой коппа́н і строіцца.* М. Малешава. *Толькі ў мене е долі, шо чо́рные бро́ву* (з песні). Хачэнь.

БРОД *м.* 1. Брод. *Окро́ме бродо́ў, не пройдзеш нідзе.* Лутків. *Булі броды́, шо товар плоў.* Цераблічы. *Не знаеш броду — не йдзі ў во́ду* (прыказка). В. Малешава. 2. Сцежка, пракладзеная жывёлай. *Худоба ву́топчэ брод настояшчы, відно, і за́рэ там броды́ ты́е.* Сямігосцічы. *Ідзе брод із су́ха на су́ха.* Велямічы. *Памяниш.* бро́дзік. *Ме́жду за́рослямі товар ідзе і вубівае таку́ я́мінку і получаецца бродзік.* В. Малешава. Бродо́к. *Жа́беру ў бродку́ нема.* Верасніца.

БРОДЗІ′ЦЬ *незак.* 1. Брадзіць, хадзіць па вадзе. *У лапця́х до́бро бродзіць: вода не трымаецца.* Аздамічы. 2. Лазіць, шкодзіць, красці. *Хло́пцы на́шые бро́дзяць по градах і рвуць клубніку.* М. Малешава. 4. Хавацца ў хмарах (пра сонца). *Сонцэ бро́дзіць — будзе дождж.* Хачэнь.

БРОДЗЬКОВА′ЦЬ *незак.* 1. Цягаць брэдзень. *Хоць бродзькова́лі цэлы дзень, зато́ ж і рыбу багато поймалі.* Пагост. 2. Цягацца па балоце, плюхацца. *Наш собака бродзькуе навіе́к у водзе.* Пагост.

БРО′ДЗЬКОМ *прысл.* Уброд. *Бродзьком броў по болоту.* Сямігосцічы.

БРОДЗЯ′ГА *м.* і *ж.* Брадзяга, валацуга. *Бродзяга, дзе ты цэлы дзень волочысса?* В. Малешава.

БРОДЗЯ′ЖНІК *м.* Тое ж. *Вон шутнік, вон не бродзя́жнік по жонка́х.* В. Малешава.

БРОДЗЯ′ЖНІЧАЦЬ незак. Бадзяцца. *Дзе ты бродзя́жнічаеш цэлы дзень?* В. Малешава.

БРОДЗЯ′ЖЫЦЬ *незак.* Тое ж. *Бродзяжылі людзі по сёлах* (як была война). М. Малешава.

БРОДЗЯКО′М *прысл.* Уброд. *Було усяк, бродзяком ходзіў.* Луткі.

БРОДЗЯ′ШЧЫ *прым.* Бадзячы. М. Малешава.

БРОДЛІ′ВУ *прым.* Тое ж. *Кот бродлівы.* Аздамічы.

БРОДНІ′К *м.* Браднік. *Броднік малы́, а во́лок велікі.* Сямігосцічы.

БРО'ЗКІ *прым.* Пухкі, нездаровы. *У цебе від брозкі от сну.* Цераблічы.

БРОЗКО'ТЛІВЫ *прым.* Золкі. *Брозкóтлівы дзень.* Запясочча.

БРОКІ'ВА *ж.* Крапіва. *У нас у горóдзі і под плóтом стонькі броківу нарослó.* Кароцічы. *За зáвалку броківу затыкáлі, шчоб ведзьма не доіла коро́ў.* Сямігосцічы.

БРОХ *м.* Жэрдка з папярочкай ці металічнай шынкай на канцы, якой заганяюць рыбу ў сетку. Пагост. *А-я-яй, брох забулі ўзяць, ім жэ так добре рыбу з тровý загоняць.* Пагост.

БРО'ХАЦЦА *незак.* Плюхацца, боўтацца. *Брóхаецца ў водзе бобёр.* М. Малешава.

БРО'ХАЦЬ *незак.* Боўтаць, плюхаць. *Товáрына брóхае дзень по водзе, то екé молоко!* Цераблічы. *Пéрэд дожджэ́м рыба брохае.* М. Малешава. *Кóлісь свіньє брохалі ў хаце, а цепер чыстотá!* Там жа.

БРОХНУЦЦА *зак.* Плюхнуцца, боўтнуцца. *Гледзі, коб дзіця не брóхнуласа ў вóду.* М. Малешава.

БРО'ХНУЦЬ *зак.* Плюхнуць, боўтнуць. *Шоў по мокрой кладцы, покоўзнуўся да брохнуў у канаву, увесь вумок.* Пагост С. *Ой і здóрове шо то брóхнуло, мо то сом.* Пагост.

БРУД *м.* Насякомыя-паразіты на целе чалавека. *Сейчас бруду нет: ні вóшэй, ні блошчыц, ні гнід.* В. Малешава. *Чомарыца е такая, ее парылі от этого бруду усякого.* Там жа. *Колісь бруд заедаў людзей.* М. Малешава.

БРУ'ДНО *прысл.* Брудна. *Брудно ў хаці, даўно не мýто.* В. Малешава.

БРУ'ДНЫ *прым.* Брудны. *Чого ты такі брудны, хоць помýйса сходзі.* М. Малешава.

БРУІ'ЦЬ *незак.* 1. Бурліць. *Вода бруіць чэ́рэз гатóк, ажно свішчэ.* Верасніца. 2. Кішэць. *Рэкá бруіць от людзей.* Верасніца.

БРУК *м.* Брук. *На дорозі положылі брук, і стало сýхо.* В. Малешава.

БРУ'КВА *ж.* Бручка. *Брукву саджаць ходзéце, бо расáда посóхне.* В. Малешава.

БРУКВЕ'ЛЬНІК *м.* Бручкоўнік. *Бруквельнік пообрэзáй!* В. Малешава.

БРУКВЯ'НІК, БРУК'Я'НІК *м.* Тое ж. *З брýкву бруквянік, а з буракоў боцвінье.* М. Малешава. *Брук'янік.* Там жа.

БРУНДУ'К *м.* Жэрдка, пры дапамозе якой кіравалі плытом. Хачэнь.

БРУНЕ'ЛЬКА, БРУНЭ'ЛЬКА, БУРНЕ'ЛЬКА *ж.* Гарлянка. *Брунéлька.* Луткі. *Брунэльку от горла п'юць.* Там жа. *Бурнéлька.* Хачэнь.

БРУС *м.* 1. Трама. Запясочча. 2. Брус, абчэсанае на два ці чатыры канты бервяно. Бярэжцы. 3. Тачыльны брусок. *Брýсом попраўляюць жалó косы.* М. Малешава.

БРУСЛЕНІ'НА, БРУШЛЕНІ'НА *ж.* Брызгліна. *У брусленіны ягоды такіе грáнные.* М. Малешава. *З брушленіны робілі ложкі і верэцёна.* В. Малешава.

БРУСЛЕНІ'ЦА *ж.* Брусніца. Аздамічы.

БРУСЛЕНІ'ЦЫ, БРУШЛЕНІ'ЦЫ *мн.* Брусніцы. *Брусленіцы тожэ кіслые.* Запясочча.

БРУСЛЕНІ'ЧНІК *м.* Бруснічнік. Луткі.

БРУСНІ'ЦЫ *мн.* Брусніцы. *Брусніц купіла на варэнье.* М. Малешава. *От я нашла брусніц багато.* Альпень. *Ты бачыла, брусніцы шчэ зелёные.* Верасніца.

БРУСНІ'ЧНІК *м.* Бруснічнік. *Колі боляць ногі, то бруснічнік параць і п'юць.* Хачэнь. *Я той бруснічнік зімочку піла за чай.* Там жа.

БРУСО'ВАНЫ *прым.* Брусчаты. *Лес брусованы, але дóрого просіць.* В. Малешава.

БРУСО'К *м.* Брусок, тачыльны асялок. *Брускóм попраўляюць жалó, ек коса зрэжэ кýпіну.* М. Малешава. Брусок, прадаўгаваты кавалак. *Брусок цукру далá дзіцяці.* Дварэц. *Брусок масла.* Там жа.

БРУСЦІ' *незак.* Ісці ўброд. *Холóдна водá, снежніца, сáмы роствóр буў весною, а трэ брусці.* М. Малешава. *Було вельмо много воды і мы брулі цэлую дорогу.* Там жа. *Брыдзі, тут цýпко, не загрузнеш.* Луткі. *Дождҗык, сыпені, шоб калюжкі булі, по коленца брулі. Дождҗык, сыпені, мамку з поля прожэні!* (дзіцячая песенька). М. Малешава.

БРУХА'ТЫ *прым.* Брухаты. *От брухата корова, ёй і сена не набрацца.* М. Малешава.

БРУХА'Ч, БРУХЛА'Ч *м.* Брухач. *От ты брухач, брухо наеў.* Сямігосцічы. *Брухлач наставіў своé брухло і ходзіць.* М. Малешава.

БРУХЛА'ТЫ *прым.* Брухаты. *Брухлáтой корові богато сена трэ на зіму.* В. Малешава.

БРУХЛЕ'Й *м.* Брухач. *Брухлей вýставіў черево да на село тупае, мо то похваліцца ім хочэ.* Пагост.

БРУХЛЕНІ'Н *м.* Рахітык. *Дзіця е брухленін, от хар-*

*чэй бувае. У брухленіна жывот надуты і ногі больные.* В. Малешава.

БРУХЛО′ *н.* Вялікае чэрава, бруха. *Брухло настaвіць і ходзіць.* В. Малешава.

БРУ′ХО *н.* Тое ж. *Наеў собе брухо, то й ног не бачыць.* Верасніца.

БРУ′ЧКА *ж.* Пярсцёнак. *Зробі мне бручку з копеёк.* М. Малешава. *Як венчаласа, хорóша бручка ў ее була.* Кароцічы.

БРЫДА′ *ж.* Брыда. *Куды ты лезеш за стол, брыда ты, ідзі ўмуйса!* Верасніца.

БРЫ′ДЗІЦЬ *незак.* △ Шо віджу, то і брыджу (прымаўка). Гаварыць непатрэбства, брыду. Хачэнь.

БРЫ′ДКІ′ *прым.* Брыдкі, пачварны, непрыемны. *От пошло чоловезнó такé брыдке.* М. Малешава. *Такі брыдкі чоловек, як его земля носіць!* В. Малешава. *Пах брыдкі.* Аздамічы.

БРЫ′ДКО *прысл.* Брыдка, непрыемна. *Фэ! Шчо за брыдко пáхне.* Сямігосцічы. *Згідзіўса, аж брыдко, неко пáдло лежыць.* Там жа.

БРЫ′ДНО *прысл.* Тое ж. *Брыдно пáхне той буз.* Аздамічы.

БРЫ′ЖКІ *прым.* Жвавы, вёрткі, прыткі. *Мой Сцепан буў брыжкі, пóкі звяжу ногі, то ўжэ рукі на версі, поўцегáе.* Луткі. *От брыжкі конь, не постоіць.* Сямігосцічы. *Пацан брыжкі такі, то бацька спыняе.* Луткі. *Але й брыжка! Тут е, тут нема.* Там жа.

БРЫЖКОВА′ЦЬ, БРУШКОВА′ЦЬ *незак.* Дурэць, гарэзаваць. *Годзі брышковалі, дзеці, а то напулілі ў хаці, шо й дыхаць не можно.* Пагост С. *Хопіць ты брышковáў гам з дзеўкамі, хто за цебе кóпу цегаць будзе!* Пагост. *Брушковáць.* Цераблічы.

БРЫ′ЗНУЦЬ *зак.* Пырснуць. *Засёк нóгу, а кроў як брызнула по бокам.* В. Малешава.

БРЫ′КА′ЦЦА *незак.* Брыкацца, біцца нагамі. *Е′ты конь брыкаецца, не подыхóдзь до ёгó ззáду.* Пагост.

БРЫ′КНУЦЦА *зак.* Раптоўна ўпасці. *Брыкнуўса вон одрáзу і рэ́чы не було, пом'ёр.* М. Малешава.

БРЫ′КНУ′ЦЬ *зак.* 1. Брыкнуць. *Ек брыкнé ногóю товáрына ў ведро!* Цераблічы. 2. Перакінуцца, перайсці. *Жыў на Полéсьі, а далéй брыкнуў до другóе жонкі.* М. Малешава.

БРЫКОЦЕ′ЦЬ *незак.* Прытанцоўваць. Пагост.

БРЫЛЬ *м.* Капялюш, брыль. Запясочча. △ Брыля́

о п у с ц і ц ь. Засумаваць, страціць настрой. *Чого брыля опусціў?* М. Малешава.

БРЫ'ЛЯ *ж.* Карніз (у печы). *І як ето му не ўгледзелі, што не роўные печнік брылі зробіў: з іх жэ спічкі падаюць.* Пагост.

БРЫ'НЕЦ *м.* Скрутак. *Надзерэ лозы́, покро́іць на дзя́гі і скручвае брынец з вухом, шоб носіць на попрузі.* М. Малешава.

БРЫ'НЗА *ж.* Пасолены і шчыльна складзены ў дзежку сыр, заліты зверху маслам. *Сыр солілі ко́лісь да ў боча́ночку клалі, да маслом замазвалі, то казалі брынза.* Хачэнь. Сухі салёны сыр. Мачуль.

БРЫ'ТАН *м.* Чалавек моцнага целаскладу. Аздамічы.

БРЫ'ХНУЦЬ *зак.* Прыгнуць. *Пра́мо у рэ́ку брых!* Дварэц.

БРЫ'ЦІЦЦА *незак.* Брыцца. *Вон наве́к брыціцца.* Цераблічы.

БРЫ'ЦІЦЬ *незак.* Брыць, галіць. *Дзед ча́сом брыціць тую бо́роду.* Дварэц.

БРЫ'ЧАНЫ *прым.* Брыты. *І стрыжаны і брычаны чоловек хо́рошэ вугледае.* В. Малешава. △ І с т р ы ж а н е і б р ы ч а н е. Іменна так, усё ў парадку. *Ему говоры і стрыжанэ і брычанэ, а вон свое право правіць, хоць кол на голове чэшы́.* М. Малешава. Ё м у́ к а ж у ц ь с т р ы́ ж а н э, а в о н — б р ы́ ч а н э! Пры выказванні нязгоды, упартасці, пярэчання. *Ему кажуць стрыжа́нэ, а вон кажэ брычанэ.* В. Малешава.

БРЭ'ЗГОВАЦЬ *незак.* Грэбаваць. *Не брэ́згуйце, госці, нашым частова́ннем. Садзіцеса да поесце.* Пагост.

БРЭЗКОЛІ'НА *ж.* Брызгліна. Дварэц.

БРЭЗКО'ЛЬНІК *м.* Зараснік брызгліны. Пагост.

БРЭ'МКАЦЬ *незак.* Бомкаць. *Везуць тую невесту і ўжэ брэмкаюць.* Аздамічы.

БРЭХА'ЦЬ *незак.* 1. Брахаць, гаўкаць. *Шо гэто такое, шо не во ўрэм'е собака брэшэ?* Хачэнь. *Не бойса того собакі, шо брэшэ, а бойса того, шо моўчыць* (прымаўка). М. Малешава. *Собакі не брэхалі, а порося укралі* (прыказка). Запясочча. 2. Маніць. *Хоць брэха́ў бі да меру знаў бі.* В. Малешава. *От брэ́шэш, ты ёго́ і не побачыш.* Верасніца. *Кажуць старые, я то не ходзіла і не бачыла. Брэхаць жэ не буду. Не люблю брэхаць.* Бярэжцы. 3 *перан.* Балбатаць, выдумляць, хлусіць. *Як му позбіра́емса на колоду, седзімо, тэй тэе брэшэ, тэй*

*тэе.* Кароцічы. *Брэ́шэ як шые.* М. Малешава. △ Д у ш а б р э ш э. Пра адрыжку. Цераблічы. Б р а х а́ ц ь н а в о́ д у. Прагнуць піць. В. Малешава.

БРЭХЛІ'ВУ *прым.* 1. Брахлівы. *Брэхліві собака, хоць ніхто не йдзе, то вон гаўкае.* В. Малешава. 2 *перан.* Хлуслівы. *А вон такі брэхлівы, шо можэ обмануть.* Рубель. 3. Балбатлівы. *Ваш брат усёй брэхлівы.* Луткі. *Она ж така́ брэхліва.* Пагост.

БРЭХЛО' *н.* Манюка. *Шо вон за брэхло таке?* М. Малешава.

БРЭХНЯ' *ж.* Мана. *Не слухай, то ўсе непраўда, усе́ брэхня.* Сямігосцічы.

БРЭ'ХТА *ж.* Манюка. *Така́ брэхта, шо чорт ее ведае!* М. Малешава.

БРЭХТУ'Н *м.* Тое ж. В. Малешава.

БРЭХУ'Н *м.* Тое ж. *Трэба праўдою жыць, то не будзеш брэхун.* М. Малешава.

БРЭХУ'ХА *ж.* Тое ж. *Моя това́рышка не брэхуха, а за праўду стоіць.* М. Малешава.

БРЭХЦЕ'ЛЬ *м.* Тое ж. Тураў. *Памянш. брэ́хцелько.* В. Малешава.

БРЭХЦЕ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. В. Малешава.

БРЭШЧА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Ко́сточкі бабіной дочкі ў кошыку брэшчаць* (з казкі). Кароцічы. *Брэшчы́ць туда-сюда забулдэ́шка.* Бярэжцы. *Пу́галкі брэшчаць* (адганяюць птушак ад проса). В. Малешава.

БУ *злучн.* Бы, быццам, як. *Бу мак у градзе, так тые дзеці.* М. Малешава. *От кожу́шок шырокі, бу плотка, бо з'еў другого кожу́шка.* В. Малешава. *Бы чэрэ́ціны вол рэве́.* Дварэц. *А чого ж вона бы пчола́ і не кусаецца?* (пра муху). Мачуль. *Поха́тніца, ходзіш бі тая походзю́шча корова.* В. Малешава. *Бы плотка гэты чорнока́л, да до́ўга рыба така.* Сямігосцічы.

БУ'БА *ж.* Семечка, зернетка, ягадка (у размове з дзецьмі). *Не плач, я тобе дам бу́бу.* Запясочча. *Еж бубу — се́мечкі со́ношніе, зе́рнеты гарбузя́ные — да не плач, ма́монько, я цебе прыгорну́.* М. Малешава.

БУ'БЕЛ *м.* Таўстун, недаростак (пра дзяцей). Луткі.

БУ'БКА *ж.* Семечка, зернетка, ягадка. *Ек бубка цвёрдая, то ўжэ можно рваць орэхі.* Верасніца. *Ніно, дай мне бубкі!* Луткі.

БУ'БЛІК *м.* Шарык. *У хаці не пра́лі плацье, а ходзілі на полонку, аж бублікі позамерза́юць на сподніцы.* М. Малешава. *Побуялі картоплі, а под корчэ́м однэе*

*бублікі.* Там жа. *Бу́блікі нашыва́лі на краёх чорнай хусткі-шшы́ванкі.* Там жа.

БУБЛЫ′ *мн.* Шарыкі. *Зародзілі одные бублы, хоць у руж'е́ да стрэляй* (пра бульбу). В. Малешава. *Бублы былі на хустка́х у тых сёлах, а ко́лісь і ў нас булі.* Там жа.

БУБНЕ′ЦЬ *незак.* Бубніць. *Дуда́р грае на дудцы, а бубе́нщычык на бу́бон бубніць.* Цераблічы. *Буў бондар стары́, сам бу́бна дзелаў і бубне́ў сам на весельях.* В. Малешава. *Бубнець под нос.* Бярэжцы.

БУ′БНОЧКА *ж.* Устаўка пад пахай у мужчынскай сарочцы. Альпень.

БУ′БОН, БУ′БЕН *м.* 1. Бубен. *Бу́бон трохі потара́хкае.* Кароцічы. *Бу́бен.* Запясочча. 2. Выбітая паша. *Пасе коровы́ на голом бу́боні.* М. Малешава. △ Т у р э́ ц к і б у́ б о н. Вялікі барабан. В. Малешава.

БУВА′ЛО, БА′ЛО *часц. у знач. пабочн. сл.* Бывала. *Бувало, качо́к було, стада́мі лета́лі.* В. Малешава. *Ба́ло, гэтых оводо́ў, як з ву́лье.* М. Малешава.

БУВАЛЬЦЫ *мн.* △ Б у́ ц ь у б у в а́ л ь ц а х. Зведаць цяжкасці ў жыцці. *Не бuваў ты ў бувальцах і гора не бачыў.* В. Малешава.

БУВАЦЬ *незак.* Бываць. *Ніколі не бувае, шоб голова́ спокойна була. Бувае, чоловек з першого разу і не ўпадзе ў очы.* М. Малешава. △ Б у в а́ й ц е. Да пабачэння. *Ужэ еду я, бувайце!* М. Малешава.

БУГАЕ′ *мн.* Буякі. *Ягоды сіву́е бугае.* Альпень.

БУГА′Й *м.* Бык. *Корова полюе, трэба до бугая повесці.* Аздамічы. *Повела корову на бугай.* Запясочча.

БУ′ГАЦЬ *незак.* Крычаць (пра чаплю). *От пуга́ч бу́гае. Только цепер всны звеліса.* Буразі.

БУГО′Р *м.* Вугор. *Лечыў бугрэ́ на віду́, ніяк не мог злечіць, а ек вурос, то самі пропалі.* Пагост.

БУГРЫ′СТЫ *прым.* Бугрысты, вуграваты. *Увесь від ёго́ бугрысты, на ём бугроў багата.* В. Малешава. *Бугрысты від у кого оспа була.* М. Малешава. *Ро́пуха не гладкая, бугрыстая, вона ў картоплях жыве.* Там жа.

БУ′ДА *ж.* Будка. *Зробіў бу́ду для собакі.* Аздамічы.

БУДА′Н *м.* Будан, шалаш. *Косіць пойдуць, то зробяць собе будана́.* В. Малешава.

БУ′ДЗЕНЬ, БУ′ДДЗЕНЬ *м.* Будзень. *Цепер не с'ято́к, а будзень.* М. Малешава. *Андаракі булі на буддзень.* Альшаны.

БУДЗЁННЫ *прым.* Будзённы. *Кожын дзень ідзі, ні сетого, ні будзённого нема мойму сыну.* Луткі.

БУДЗІ'ЦЬ *незак.* Будзіць. *Церас нескулька урэм'я ідуць ужэ тых молодых будзіць.* Запясочча. *Па́йле, будзём его.— Не, не будзі.* Луткі.

БУ'ДКА *ж.* Будка. *Будку робяць собачцэ, а ку́чку ву́тва́м.* Цераблічы.

БУДЛІ'НА *ж.* Жывёліна. *Чуствуе і будліна, шо вода прыбудзе.* Кароцічы.

БУДЛЯ' *ж.* Жывёла. *Як здохне будля, то туда цягнуць.* Сямігосцічы.

БУ'ДНІ *прым.* Будзённы, будні. *Колісь у празнішные дне не пеклі хлеба, а пеклі у будніе дне аржаны хлеб, а пшэнічные пампушкі і пірогі у недзелю.* М. Малешава. *Нема ему ні буднёго дня ні светого.* Верасніца.

БУДОВА'ЦЦА *незак.* Будавацца. *Ек я будоваласа, то трудно було самой.* М. Малешава. *Не за дзень Москва будоваласа* (прымаўка). Цераблічы.

БУДОВАЦЬ *незак.* Будаваць. *Без рук, без ног, а моста́ будуе* (загадка). *Мороз* (адгадка). М. Малешава.

БУДО'ЎЛЯ *ж.* 1. Будаўніцтва. *Роспочаў вон будоўлю, а лесу не хваціць.* М. Малешава. 2. Пабудова. *У нас стара́ хатка, а цепер то, слава богу, яка́ будоўля.* В. Малешава. *Веліко шчасце, шо осталáса будоўля од войны.* Пагост.

БУ'ДТО *часц.* Быццам. *Прыглéдзьса, будто днее.* М. Малешава.

БУ'ДТОМ *часц.* Быццам. *Буттом тобе нема чого робіць дома, шо ты на село вушла да ўсе ж жонка́мі говорыш.* Пагост. *Сніцца мне, буттом чырвоны коні до сонца скачуць.* Там жа. *Памянш.* б у́ д т о ч к і. *Будточкі я тобе не говоріла, Іва́нко.* Пагост.

БУ'ДУШЧЫ *прым.* Будучы. *Гэты свет, як макоў цвет, а там будушчы век* (прыказка). В. Малешава.

БУДЫ'МЕР *м.* Буй. *Ты змерзнеш на тым будымеры.* Цераблічы.

БУДЫНОК *м.* Будынак. *Распочаў будынка, да лесу нема.* М. Малешава.

БУЕХОВА'ТЫ *прым.* Абалоністы. *Буеховаты лес.* Сямурадцы.

БУЗ, БЫЗ *м.* 1. Смецце, адкіды. *Буз плуве по рэцэ́.* М. Малешава. *Убрэдзь ловілі і стока бу́зу, шо не можно доцягну́ць волока.* Там жа. *У боровóм жыце нема бу́зу.* Мачуль. *Быз.* Цераблічы. 2. Гной у ранах. *Буз з*

*раны выходзіць.* Буразі. *Ляснула болячка і столько бузу вўцекло!* В. Малешава.

БУЗА'Н *м.* △ З а б і в а́ ц ь з а б у з а́ н. Зневажаць, здзекавацца. *Ходзь бу зробілі шо пеўню тому, а то мойго забівають за бузан.* Сямурадцы. *І чоловека забівають за бузан.* Там жа.

БУЗДЗЕ'РЭВО *н.* Расліна сямейства міртавых. Запясочча.

БУЗДЫ'ХНУЦЬ *зак.* Кінуцца, рвацца. *А вона, та корова, буздых праз іх да пошла собе.* Дварэц.

БУ'ЗКАЦЬ *незак.* Бзыкаць. *Як быскаеш корові, то вона залўпіць хвост і бежыць.* Аздамічы.

БУЗОВА'ЦЬ *незак.* Хваляваць, назаляць. *От бузўе мене, шо ёго́ нема.* Аздамічы.

БУЗЯ'НО *прысл.* Гразка. *Вот тут бузяно, як тут пэрэйці!* Запясочча.

БУ'ЙБАЛО *н.* Лодар. Рубель.

БУ'ЙДА *м.* і *ж.* Балван, дурань. *Под злом гово́рыць: ой ты буйда, абі-шчо ты, шчо ты цяміш?* Сямігосцічы.

БУ'ЙНО *прысл.* Хутка, імкліва. *Дуб так бўйно не росце, як хвоіна.* Цераблічы.

БУ'ЙНЫ' *прым.* Рослы, высокі, гонкі. *Ото буйны лес! Вон і то́ўсты, але вусо́кі.* Альшаны. *Воны, твое картоплі, такіе буйные.* М. Малешава. *Страшно бўйны лён ложыцца.* В. Малешава. Урадлівы. *Этэ ж бўйная земля, а лён лапушысты такі!* М. Малешава. *Бўйная земля, удо́брэная.* Там жа.

БУЙСТРА' *ж.* Хуткае цячэнне, быстрыня. *Поўз той берег буйстра́, поехалі поўз еты.* Пагост.

БУ'ЙСТРО *прысл.* Хутка, імгненна. *Наша баба буйстро скачэ, а ек сядзе да ўстае, то й плачэ.* Хачэнь. *Як молоды́, то буйстро гледзіш, а як стары́, то блўтаешса, як овечка.* Там жа. *За ўсе жырне́йшэ земля, за ўсе быстрэй вода.* Хільчыцы. *На верста́ці буйстро, а на ставў важэ́й і медлене́й* (ткаць). Сямурадцы.

БУ'ЙСТРЫ *прым.* Быстры, хуткі. *Буйстры конь так хутко плуга цягне, шо не ўспеваеш йсці за ім.* Пагост. *У роўчакў вода буйстра, дзержы лотку ў руках, бо сетку порво́м, на кусты занесе.* Верасніца. *Як хто бістры на очы, то ўбачыць.* В. Малешава. *Бы́йстры.* Рубель. *Бўстры.* М. Малешава. *Быстры.* Хачэнь.

БУК *м.* 1. Бык, бугай. *Два го́ды булі целушкі, а цепер бук у моей коро́ву.* М. Малешава. *Бук роў, роў і заціх, бо воды хоцеў, а напіўса да ўжэ й заціх.* Там жа.

*Бук лейчэны, але не робіць, а як робіць, то вол.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Лянівы падростак. *Нема букý ні сорамá, ні стыду — з дзёткамі забаўляецца.* Верасніца. 3. Бутон, суквецце (з сцяблом). *Тур кустом велікім росце і бук такі велікі.* Хачэнь. *У нас на лілії кажуць букі. Е й букі с плёшніку, с цубулі букі, і на шчáверу букі.* Запясочча. *Памянш.* б ý ц і к. *Цепер буцік у нас рабý, ек корова.* Верасніца. *Гýска одцвіце да выходзіць такі зелёны буцік.* М. Малешава. Б у ц ó к, б у ч ó к. *Чые буцкі, то буцкі, а вáшы целятка* (прымаўка). Аздамічы. *Подай голос, то бучкі рэвот подымуць.* В. Малешава. *Буцкі на берозе і на олешыне е.* М. Малешава. *Шчáвер, як попускае бучкі, то збіралі насенье да тоўклі.* Дварэц. Б у ц ó ч о к. *Гарбýзы пусцілі буцóчкі.* Луткі. Б ý т ó ч к і. Запясочча.

БУК-БУК-БУК, БУ'КІ-БУ'КІ-БУ'КІ, БУ'КІШ-БУ'КІШ-БУ'КІШ *выкл.* Выгукі, якімі забаўляюць дзіця. *А букі-букі-букі!* М. Малешава. *Прыгóртае дзіця до себе, до лóба і кажэ : букіш-букіш-букіш баран!* Луткі.

БУКА'Т *м.* Вырабленая цялячая скура. В. Малешава. *Памянш.* б у к á ц і к. Хільчыцы.

БУКА'ТОВУ *прым.* Ялавы. *Букáтовіе чóботы.* В. Малешава.

БУ'КАЦЦА *незак.* Стукацца лбамі. Луткі.

БУ'КВІЦА, БУ'КОВІЦА *ж.* Расліна буквіца. *Буквіца на Пáўловай ніўцы росце.* Луткі.

БУКОВЕ'ЛА *м* і *ж.* Лянівы падлетак. *Шо, помáліўса, буковела! З малыімі гуляеш!* В. Малешава.

БУКОВЕ'ЛІШЧЭ *н.* Тое ж. *Буковелішчэ, а шчэ дзецініцца, з дзéцьмі гуляе!* В. Малешава.

БУ'КСА *ж.* 1. Утулка ў коле. *Букса устаўляласа у прóстые кола.* Сямігосцічы. 2. Калодка ў коле. Бярэжцы. 3 *перан.* Недарэка, дурань. *Букса — то с-под злосці, ек ганьба такая.* М. Малешава.

БУ'ЛАВА' *ж.* Булава, палка з патаўшчэннем на канцы. *За горою каменнóю стоіць талалай з булавою* (загадка). *Зубы, език* (адгадка). Пагост. *Булавá ў кійкý отламаласа.* М. Малешава. Нарасць на дрэве. *Бувае, бу борóдаўка на лозе, завом булавá або нáросць.* Цераблічы. *Булавá на дзёрэве выросла.* Луткі. Доўбня, кука. *Бýлавамі білі грýду на загонах.* Дварэц. *Зробіў булавý рыбу глушыць.* В. Малешава. Груз у бязмене. *Этэ, шчо ззáду у безмене, мі звалі булавá, цяжкé такé.* Сямігосцічы. Пажарнае жазло. Мачуль. Вялікая гала-

ва. *Твоя булава ці варыць шчо?* В. Малешава. Нарасці лёду на вокнах. *Замерзне окно да бўловы ўсю зіму.* Верасніца. Кучавое воблака. *По небу бўлаву, будзе дождж.* Луткі. *З булавамі небо, гарбўзы саджаць добрэ.* Там жа. Дурань. *От булава ты, нічого не понімаеш! Ой, булаво!* М. Малешава. *Памянш.* булаўка. Пагост.

БУЛАВА'ТЫ *прым.* Воблачны. Луткі.

БУЛА'НЫ *прым.* Буланы. *Буланы конь, вон такі жоўтоваты.* М. Малешава. *Буланы конь светловаты, под черевом беловаты, грыва чорна.* Пагост.

БУЛАВЕ'Й *м.* Чалавек з вялікай галавой, дурань. *От булавей ты, ці ты бачыў, ці ты чуў, а говорыш!* В. Малешава.

БУ'ЛАТ *м.* Тое ж. Аздамічы.

БУЛДЫ'КАЦЬ *незак.* Балбатаць. *Шо ты булдыкаеш, шо не трэба!* Сямігосцічы.

БУЛДЫ'КНУЦЬ, БУЛДЫ'ХНУЦЬ, БУЛТЫ'ХНУЦЬ *зак.* Плюхнуць. *Булдыкнуў, аж поплескі ўгору, от цяжкій!* Сямігосцічы. *Булдыхнуў у воду з чоўна.* Аздамічы. *Жаба бултыхнула ў воду.* В. Малешава.

БУЛЕ'НІКІ, БУЛЁНІКІ *мн.* Адвараная бульба. Запясочча.

БУЛЁН *м.* Булён. *От булён сыты, плаваюць одные скалкі!* В. Малешава. *Зварылі булёну з рыбою.* Там жа.

БУЛЁНЫ *мн.* Адвараная бульба. Тураў.

БУЛІ'НА *ж.* Быліна, сцябло. В. Малешава. *Памянш.* булінка, буліночка. *Жыцец — одна былінка, а стоколоса веткою росце.* Хачэнь. *Вўросла дзеўчына, як білінка, тоненька така.* В. Малешава. *Узяў дочку, як каліночку, а ссушыў, зморыў, як буліночку* (з вясельнай песні). Сямурадцы.

БУЛТЫ'ХНУЦЦА *зак.* Плюхнуцца, упасці. *З лодкі мой бацька не одзін раз бултыхнуўса да не пагінуў.* Сямурадцы.

БУЛТЫ'ХНУЦЬ *зак.* Плюхнуць, упасці. *Бултыхнуў у воду, ек топор, дай утопіўса.* Сямурадцы.

БУЛЬ *ж.* Быль, былое. *Гэтые бабы усю буль знаюць.* Пагост.

БУ'ЛЬБА *ж.* 1. Бручка. *Дзве гранкі усёго бўльбу на полі посадзіла, а ее аж два возы нарослó, да зімў корові хопіць даваць.* Пагост С. *Ходзець, жонкі, бульбу саджаць скорэй, а то росада посохне.* Любавічы. *І на брукву кажуць бульба, і на картоплі некаторые кажуць*

*бульба*. Запясочча. 2. Бульба. *Бульбу ворылі крышанамі*. Рубель.

БУЛЬБА'ТЫ *прым*. Лупаты. *Буў дзівер у сестры мое, вочы велікіе булі і звалі его бульбаты*. В. Малешава.

БУ'ЛЬБАХ *м.*, БУ'ЛЬБАХА *ж*. 1. Пухір, бурбалка. *На балоці дождж ек лінуў, то бульбахі такіе махінные лецелі*. Верасніца. *Бу́льбахі на водзе схапваюцца, будзе доўго дождж іці*. Луткі. 2. Шарык (пра плод, бутон, кутасік). *Ек на картоплях бу́льбахі, то кажуць, будуць уро́длівые картоплі*. М. Малешава. *Бульбахі на хустцы*. Луткі. *Бу́льбаха*. Аздамічы. *Памянш*. бу́льба́шка, бульбу́шка. *Бу́льбашкі бuваюць, як дождж ідзе*. Запясочча. *Ромёнок з бу́льбашкамі*. Луткі. Бульба́шка. Мачуль. Бульбу́шка. Запясочча. Бу́лбашка. Буразі. Бу́лбушэчка. Бярэжцы. Булба́шэчка. Сямурадцы.

БУЛЬБЕ'НІК *м*. Бручкоўнік. *Наклала бульбе́ніка і боцьвіньа, то коза ўсе поела*. Хачэнь.

БУЛЬБЕ'НЬЕ *н. зб*. Тое ж. *На розоры хоро́шэ бульбенье*. Хачэнь.

БУЛЬБОВЕ'НЬЕ *н. зб*. Тое ж. *Бульбовенье трэба зжаць, а то буяе*. Альпень.

БУЛЬБО'ВІШЧЭ *н*. Бульбянішча. *Бульбовішчэ перэо́рваюць*. Рубель.

БУ'ЛЬКА *ж*. Бурбалка. *Ек велікі дождж да бу́лькі скачуць, то будзе обло́жны дождж*. М. Малешава. *Памянш*. бу́лечка. *Лінок ложыцца бо́ком і бу́лечка з воды зо дна подымае*. Цераблічы.

БУ'ЛЬКАЦЬ *незак*. Булькаць, бурболіць. *Як прыбувае, ідзе под напором, то булькае вода*. Кароцічы. *От, годзе бу́лькало ў по́йле, не есі да бу́лькаеш*. В. Малешава. *У жывоце рэве́ і бу́лькае*. Луткі.

БУ'ЛЬНІК *м*. 1. Быллё. *Квасолю церабіла, а бульнік с квасолі целяці дала́*. Пагост. 2. Чарнобыль. *Нарві бульніку ў борщ*. Сямурадцы.

БУ'МКАЦЬ *незак*. Бубніць, мармытаць. *От, засэ́рдзіўса і бумкае нешчо*. Бярэжцы. *Шо ты сам собе под нос бумкаеш!* М. Малешава. *Бугай можэ бумкаць, ек ко́сіцца*. Цераблічы.

БУНТ *м*. Звязка, жмут, касмыль. *Ца́лы бунт грыбоў насушыла*. Цераблічы. *Сколько наўя́жэш цыбулі, то ўсе онно будзе бунт*. Мачуль. *Бунт кросён*. Луткі. *Бунт горы́ні*. Там жа. *Аж бунт воўны покінуў медзьведзь*. Хачэнь.

БУНТА'ЦЫЯ *ж.* Бунт. В. Малешава.

БУНТОВА'ЦЦА *незак.* Бунтавацца, бударажыцца. *Бунтуюцца корові, ек пёрві дзень гоняць на пашу.* В. Малешава. *Воны бунтуюцца з дзёцьмі.* Цераблічы.

БУНТОВА'ЦЬ *незак.* Бунтаваць, перашкаджаць. *Бунтуе товар собака, лётае й лётае, перэймаць не умее.* Луткі. *Нас не бунтовалі у тую войну.* Сямігосцічы. *Шчо я буду бунтоваць ноч ему!* Кароцічы. *Не бунтуй ему говорыць.* Аздамічы.

БУ'НЬКА *ж.* Бурбалка. *Ек бунькі схватываюцца, то дожджу будзе богато.* Альпень.

БУНЯ'К *м.* Пухір. *Поускаквалі во екіе бунякі.* Альпень.

БУ'РА *ж.* 1. Хваля. *Буры ходзяць по водзе.* Аздамічы. *Онно бура валіць, як ідзе той стог поперэк воды.* Цераблічы. 2. Бура, моцны вецер. *Буря така на озеры, шчо не поехаць лодкою.* Альшаны. 3 *перан.* Мажная жанчына. Запясочча. *Памянш.* б у р к а. Альшаны.

БУРА'К *м.* 1. Бурак. *Ох, буракі — страхота, ек гэты стул.* Верасніца. *Квас варылі з буракоу.* Луткі. 2. Галоуны корань у дрэве. *Ек груша росце бураком, то вона грушы не родзіць.* Хачэнь.△ К о н с к і б у р а к. Конскае шчауе. Запясочча.

БУРАКО'ВУ *прым.* Бурачны. *Бабо, наробімо буракового квасу на усю зіму.* В. Малешава.

БУРА'Н *м.* Буран. *Буран зняу крышу. Весной, як лецеу той буран, то усе тэ звэрнуу.* Мачуль.

БУРА'ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Не шурай, не бурай, свое лапці забірай* (прыказка). В. Малешава.

БУРАЧА'НКА *ж.* Самагонка з буракоу. Сямігосцічы.

БУРА'ЧНІК *ж.* Бурачны высадак. М. Малешава.

БУРАЧО'К *м.* Аксамітнік. В. Малешава.

БУ'РБАЛКА *ж.* Бурбалка. *Колі бурбалкі схапваюцца на лужах, то будзе ішчэ дождж іці.* Турау.

БУРДА' *ж.* 1. Гульня дзяцей і дарослых у зімовы час; круглая драуляная цурка, якую ганялі кіямі у час гэтай гульні. *Ходзёць, каа, хлопцы, у бурду гуляць.* Луткі. 2. Вялікі нос. *Павесіу свою бурду над столом.* Луткі.

БУРДЭ'БАЛЬ *м.* Пыл (з ільну). *У лёне богато бурдэбалю, куравы.* Мачуль.

БУРЗДЫ'КНУЦЬ, БУРДЫ'КНУЦЬ *зак.* 1. Боутнуць. *Здымі, чоловёчэ, дзіця з лодкі, а то бурздыкне у воду да шукай ёго.* Пагост С. 2. Адарваць з шумам, высліз-

нуць са свістам. *Рвала сітнік, то вон як бурзды́кнуў, быстро роспрыхну́ўса.* Сямурадцы.

БУ'РЗНУЦЬ *зак.* Пырснуць. *Бы́рзнула кроў да леце́ла-леце́ла...* Хачэнь. *Як бы́рзне тое просо, як убок попадзеш тоўкачэ́м* (у ступе). Там жа.

БУ'РКА *ж.* 1. Шырокая доўгая адзежына з башлыком. *Бурку шылі з сукна.* Сямігосцічы. 2. Дзіцячая цацка з костачкі або гузіка. Мачуль.

БУ'РКАЛКА, БУ'РКАУКА *ж.* 1. Дзіцячая цацка з костачкі або гузіка. Запясочча. *Бу́ркаўка гудзе на нітцы.* Сямігосцічы. 2. Каленца (у сцяблах злакавых і некаторых раслін). Цераблічы. 3 *іран.* Тонкая нага ў чалавека. Запясочча.

БУ'РКАЛО, БУ'РКАЙЛО, БЫ'РКАЛО *н.* 1. Дзіцячая цацка з костачкі або гузіка. *Порва́ўся шнурок і буркало у лоб як трэсне!* Цераблічы. 2. Балбатун. *Быркало нешчо бы́ркае, плеце абы́-шчо.* Цераблічы. *Бу́ркайло.* В. Малешава.

БУ'РКАЦЬ *незак.* Гудзець, буркаць. *Шчэ бу́ркае самолёт, кропіць картоплі.* В. Малешава. *Біркаюць жукі на него́ду.* В. Малешава. *Дакуль ты будзеш буркаць, ідзі ужэ домоў.* В. Малешава. *Чого ты бы́ркаеш?* Аздамічы.

БУ'РКНУЦЬ *зак.* Бзыкнуць (пра пчалу), пырхнуць, фыркнуць (пра птушак). *Як бу́ркне пчола́, так і упадзе́ на снег.* Хотамель. *Горобе́й бу́ркнуў і полецеў.* В. Малешава.

БУРКОВА'НЬЕ *н.* Падразанне доўгіх пер'яў на крылах у гусей, курэй. Сямурадцы.

БУРКО'ВАНЫ *прым.* Падрэзаны (пра пер'е на крылах), надрэзаны (пра перапонкі на лапках). *Мое гусі буркованы, познакова́ла.* Сямурадцы.

БУРКОВА'ЦЬ, БОРКОВА'ЦЬ, БУРКА'ЦЬ *незак.* Пазначаць, памячаць. *Трэ гусей буркова́ць, обрэ́заць крыло́.* М. Малешава. *Гэто новое слово бурковаць, колісь казалі знакова́ць.* Там жа. *Бурка́ць.* Аздамічы.

БУРКУ'Н *м.* Баркун (расліна). *Ек корову шчо-небудзь го́ніць, а вона мо́кра робіцца, то бурку́н на шыю вешаюць.* Луткі.

БУРЛА'К *м.* Бядняк. *Ек ні кола́, ні двора, то бурлак зовуць.* М. Малешава.

БУРЛА'КА *м.* Тое ж. Запясочча.

БУРЛЕ'ЦЬ *незак.* Бурліць. *Вода бежыць, бурліць.*

Самігосцічы. *Трэ так бурле́ць водзе ў роўчаку́!* М. Малешава.

БУРЛЯ'ЦЬ *незак.* Шпурляць, кідаць. *Ек пача́лі бурляць разные сло́ва!* В. Малешава.

БУРНО' *н.* Вялікая бура; гам, шум. *От бурно подняў!* Запясочча.

БУ'РНУЦЬ *зак.* 1. Загудзець. *Толькі бу́рнула машына і поехала.* М. Малешава. 2. Шпурнуць, штурхнуць. *Як бурну́ла на кота́ поле́но!* Пагост. *Ек прыдзе́ржыць шырх, то як бырне́, то той чоловек ажні ў рэ́ку леціць.* Цераблічы.

БУРОВА'ЦЬ *незак.* Круціць. *Сюды буру́е, буруе ветром снег.* Сямурадцы.

БУРО'ВІЦЬ *незак.* 1. Круціцца (у вадзе). *Ек начне сом буровіць, то не удзержыць мотылёк.* Верасніца. 2. Несці бязглуздзіцу. *Шчо ты буро́віш?* Верасніца.

БУ'РСКАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Трэ бы́рскаць вулей, коб пчолы булі.* Луткі. *Наберэ ў рот творбі і бі́рскае туды ў вулей.* В. Малешава.

БУРУРУ'ХНУЦЬ *зак.* Выплюхнуць, выліць. *А вон ту смета́ну да буруру́х туды!* В. Малешава. *Нешчо на жонку́ зазлі́ўса да з глёка буруру́хнуў молоко у корыто і з хаты вуйшоў.* Пагост.

БУ'РХНУЦЬ *зак.* Боўтнуць. *Выплуў ды і бы́рхнуў назад.* Запясочча.

БУРЧА'К *м.* 1. Ручай. *Пошлі на бурчак купацца.* Цераблічы. 2. Пратока. Пагост. 3. Бурлівае цячэнне. Сямурадцы.

БУРЧА'ЦЬ *незак.* 1. Булькаць, струменіць. *Бурчы́ць вода́ с стрех.* Запясочча. *О така́ канава, да вода́ бурчы́ць, я ж боюса лезці.* Верасніца. 2. Вурчаць. *Годзе тобе бурчаць, бо выгоню на двор.* М. Малешава.

БУРЧЫ'ЛО *н.* Буркун. *Годзі ты, бурчыло, ву́ркаеш і вуркаеш!* Пагост.

БУ'РЫ *прым.* Буры. *Буры конь мае і буру грыву.* М. Малешава.

БУ'РЫЦЬ *незак.* 1. Моцна дзьмуць. *Бурыць ве́цёр, бурыць. Эты олешнік аж до землі ложыцца.* Луткі. *Ужэ орэ́цца небо, а учора бу́рыло-бурыло!* Там жа. 2. Разбураць. *Не трэба бу́рыць плот, нехай стоіць, дзе навек стояў.* Цераблічы.

БУРЫ'ЦЬ *незак.* Шпурляць. *Вечором гэто вон буры́ў ве́драмі за ей.* Дварэц.

БУР'Я'Н, БАР'Я'Н *м.* Бур'ян. *Бур'ян росце коло пло-*

*ту*. Хачэнь. *Бур'яны́ порослі на ёго́ посе́лі*. В. Малешава. *Бар'я́н*. Пагост.

БУ'СЕЛ, БУ'СЁЛ *м*. Бусел. *Як бусел на одной нозе стоіць, то будзе холод*. Запясочча.

БУСЕЧКІ' *мн*. Бусельнік (расліна). Луткі.

БУСЛЕНЯ' *н*. Бусляня. *Бу́сько подзівіўса, шо бусленя́та лежаць* (мёртвыя), *дай зноў накрыў іх соломою*. Сямігосцічы. *Памянш*. б у с л е н я́ т к о. *Бусленя́тка не подле́таюць да седзяць у кубле, то будзе дождж*. Верасніца.

БУСЛЕЧКІ' *мн*. Бусельнік (расліна). Луткі.

БУ'СЛІКІ *мн*. Тое ж. Хачэнь.

БУСЛІ'НЫ *прым*. Бусліны. *Мой малы́ ейцэ з буслі́ного кубла ўзяў да дзе́цям показвае*. Пагост. △ Б у с л і́ н э м о л о к о, б у с л і́ н ы м о л о ч 'я́ к. Малачай кіпарысавы. Запясочча.

БУСЛІ'ХА *ж*. Бусліха. *Наша бусліха вельмі зво́нко клеке́чэ*. М. Малешава.

БУ'СЛО *н*. Бусел. *Однэ́ бу́сло ухопіў гусеня*. Дварэц.

БУСТРА'К *м*. Быстрак. *Езі б'юцца на бустраке́*. М. Малешава. *На быстраку́ гото́ве й лотку перэвернуць*. Там жа. *От быстрак, ду́бом ехаць нельзя*. Альпень.

БУСЧЫ'ХА *ж*. Бусліха. *Бусчыха е, а бу́сько нема, дзе-то по доро́зі загінуў*. В. Малешава. *Бушчы́ха вувела бусленят*. М. Малешава.

БУСЧЭНЯ' *н*. Бусляня. *Однэ́ бушчэня ве́цёр здуў з кубла́*. М. Малешава. *Памянш*. б у с ч э н я́ т к о. *Ужы́ бушчэня́тка е*. Альшаны.

БУ'СЬКІ' *мн*. Бусельнік (расліна). *Нарослі одны́е бу́ські*. Луткі.

БУ'СЬКО' *м*. Бусел. *Буські робяць кубло́ на соло́менной стрэ́сі*. М. Малешава. *Бу́сько жаб хапае*. Там жа. *Бусько на 'дной нозе стоіць — на мороз*. Там жа. *На Лексе́я бусько прылеціць, а на благове́шчэнье ейцо до́лжэн знесці*. Там жа. *Ек бусько вукінуў яйцо з кубла, то это не к добру*. Там жа. *Бусько понёс лома́ку ці гной, то будзе дошч*. Запясочча. *Ек бусько несе віш, то будзе дождж*. Верасніца. *Казалі, як гнездо скінеш, то голове́шку бусько вопрэ́* (у страху). Хачэнь. *Ек побачыш вэсно́й бу́ська лету́чого, то будеш бегать, а як стоячого, то ногі будуть болеть*. Альпень. *Бу́сько мо богу моліцца, шо на ноч клеке́чэ?* Луткі. *Ек упадзе́ш, то бусько, кажуць, побачыў*. Там жа. *Як убачыш стоячого і лежа́чого бу́ська, хай чорт ёго́ о́зьме, то будзеш цэлы год хворэць.*

Там жа. *Лецючого бýська побачуць, кажуць: о, і я летáціму!* Там жа. *От стоячого буська углед*зеў, *ногі болець будуць.* Сямігосцічы. *Бусько прозываюць Яковом. Кажуць: наш Яша прылецеў у госці. Я з малéнства так чуў.* В. Малешава. *Бýсько, клéчко, клекетýн, поймаў бабу за коўтун. Волочыў, волочыў, по колено намочыў! Бусько, клечко, знесі мне еечко. А ек не знесеш, то й сам пропадзеш!* (дзіцячая вясенняя песенька, якой вітаюць прылёт бусла). Цераблічы. *На готóвэ кублó бусько нáйдзецца* (прымаўка). Сямурадцы. *Бусько, бусько, клекетун, поймаў бабу за коўтун, волочыў, волочыў да ў боршч умочыў, а дзеці не ведалі да той боршч пообéдалі* (дзіцячая песенька на прылёт бусла). Там жа. △Ч ó р н ы б ý с ь к о. Чорны бусел. *Чорны бусько у лесі мае кубло.* Запясочча. *Чóрные бýські, іх мало, воны лесные, воны ў лесу на дубох.* М. Малешава. *Памянш.* б ý с е ч к о. *Надзелі, бусечко, здороўем!* (гавораць, як першы раз убачаць бусла, пры гэтым куляюцца). М. Малешава.

БУ'СЬКОВУ *прым.* Буслаў, бусліны. *Хто бýськово кубло роскідáе, того бог покарае* (прыказка). Верасніца. △ Б ý с ь к о в ы н о с к і. Бусельнік (расліна). Луткі. Б ý с ь к о в э м о л о к ó. Кіпарысавы малачай. *Буськовэ молоко жоўтым цветом цвіце і кучно росце.* В. Малешава. *За гэтым буськовым молоком до нас прыежджаў одзін урач, воно мужчынам помогае. Ее чоловек копае, да корэнь гэты дáўні трэбо, коб буў, воно моцно вулечвае.* Луткі. Б ý с ь к о в а п л ю ш н я́. Касач. *Гуркоў нарваў на буськовой плюшне.* М. Малешава.

БУТ *м.* △ Б ý т у н е м á. Пра бесперапынную дакуку. *Колі у той хаці хлопцы, то дзеўкам буту нема.* М. Малешава. *Мне буту от вас нема, надоделі ву своімі вýтвáмі.* Там жа. Б ы т у н е д а в а ц ь. Не даваць спакою. *Комарэ́ бýту не даюць.* Аздамічы. *Прыстаў ко мне: давай жэніцца — буту не дае.* В. Малешава.

БУ'ТА *ж.*△ Б ý т ы н е д а в á ц ь. Не даваць спакою. *Хопіць, ты мне буты не давала, жóнко.* Пагост С.

БУ'ТЛЯ *ж.* 1. Бутля, гляк. *Бутля з вýшком, чэрэвáценька такá і дзюбóчок малéнькі.* Цераблічы. 2. Пасаж у гульні *у балáнту.* Аздамічы.

БУ'ТНОСЦЬ *ж.* Бытнасць. *Пры моей бутносці не було.* Дварэц.

БУТОВА'ЦЦА *незак.* Бударажыцца, хваляванца. *Як первы раз вугоня́юць на пашу, то корóву бутýюцца, да колюцца, боруцца.* Хачэнь.

БУТЭ'ЛЬКА *ж.* Гляк. *Бутэлька з гліны для горэлкі булá кóлісь.* Верасніца. *Бутэлька з вýхом такá.* Сямурадцы.

БУХ *выкл.* Бух. *То от толькі ляж, то ото ўжэ ў вокно бух, бух!* Бярэжцы.

БУ'ХАЛО *н.* Буслава гняздо. *Ходзілі праць Под Бýхало. То там стояў дуб да на ём було буськовэ бухало, то так воно і осталóса з кóлішнёго.* Луткі.

БУ'ХАЦЬ *незак.* 1. Бухаць, стукаць. *Пральнікам бухае полотно.* Верасніца. 2 *перан.* Кашляць. *Годзе тобе бухаць на ўсю хату!* М. Малешава.

БУХЛА'ТЫ *прым.* Брухаты. *Рослы ее чоловек, бухлаты.* В. Малешава.

БУ'ХНУЦЦА *зак.* Бухнуцца. *Лез на воз і бýхнуўса нáўзнак.* В. Малешава. *Дзеці, бýхнецесь у вóду і плывéце на той берэг.* М. Малешава.

БУ'ХНУЦЬ *зак.* 1. Выбухнуць. *Бýхнуў огонь, затоб вочы поўпáльвало.* М. Малешава. 2. Кінуць, лінуць. *Повéзлі его да бух у яму!* Хачэнь. *За ведро воды да бухóць у печ!* Цераблічы. *Бух тóе цесто ў бляху да ў печ!* В. Малешава. 3. Упасці. *Не лезь, то бухнеш.* Запясочча. 4. Стрэліць. *Бухнуў з ружжа да ў вушы ек удырыло!* Пагост.

БУ'ХТА *ж.* Бухта, вір. *На бýхці круціць вода.* Цераблічы. *Там вір круціць, там бухта нейкая.* Луткі. *У тые бухты попадалі да попотонýлі.* В. Малешава.

БУХТОВА'ЦЦА *незак.* Карабаціцца, круціцца. *Сосна не так бухтýецца, это олехова.* В. Малешава.

БУХТОВА'ЦЬ *незак.* Віраваць, круціць. *Вода бухтýе ў бухці.* Мачуль.

БУХТО'РЫЦЬ *незак.* Празмерна напаўняць. *Годзі бухторыў, ужэ онь полілóсо молоко.* Верасніца.

БУЦ, БЭЦ *выкл.* Вокліч, якім падганяюць вала. *Подбодрáе вола: буц, буц!* В. Малешава. *Бэц, бэц,— так кірують вола, шоб ішоў.* М. Малешава.

БУ'ЦАЦЦА *незак.* Стукацца. *Дзеці буцаюцца лоб об лоб.* М. Малешава.

БУ'ЦЁЛ *м.* Гляк з носікам (каля 2 л). *З бýцёла молока собе налі, хлопче, а то з гладышкі розольеш.* Пагост С.

БУЦЦА *незак.* Адбывацца, быць. *Жылóсо і ўсего булóсо.* М. Малешава. *Усего на веку будзе бýцца.* В. Малешава.

БУ'ЦЦОМ *часц.* Быццам. *Буццом казалі, шо поспе-*

*лі ўжэ ягоды.* В. Малешава. *Буццом бачіў ёго дзеўку у Пётрікові.* Пагост.

БУЦЬ *незак.* 1. Быць. *Ек було ў гумне, то було і ў горшкў* (прыказка). В. Малешава. *Корова хвостом накрыласа — дождж будзе.* Мачуль. *Шляхта гаворыть быў, а тые, на том концэ — буў.* Рубель. *Дождж ідзе — грыбў будуць, хлопцы помруць — дзеўкі будуць* (прыказка). Хачэнь. 2. Жыць. *Ягод було гэтых чорных, то я колько була не бачыла!* Хачэнь. *Так мне й буць, тут я й помру.* Буразі. △ Б у л á н е б у л á. Рызыкаваць, адважвацца. *Була не була — поплыву!* Кароцічы. Б ы ц ь н а к о н é і п о д к о н é м. Быць або не быць у пашане. *Буў на коне і под конем — така жытка була.* М. Малешава. Н е ў м о е й м é р э б у д з ь с к á з а н о. Агаворка пры паведамленні аб непрыемным або небяспечным. *Не ў моей мерэ будзь сказано, на шыі нóры пороб'яцца.* Хачэнь. Б ý д з ь ц е з д о р ó в у. Пажаданне. Дварэц.

БУ'ЧА *ж.* Буча, калатня. *Збіў бучу на ўсе село!* Хачэнь. *За онучу збілі бучу* (прымаўка). Запясочча.

БУ'Ч'Е *н. зб.* Галлё, хвораст. *Быч'е, шчо грэблю гáцяць.* Альгомель.

БУ'ЧНЫ *прым.* Бойкі. *Белюга, то бýчна рыба, попадзе у вóлок, то так бóхае!* В. Малешава. *Бýчная корова б'е увесь товар у нашым тáбуне.* М. Малешава.

БУШАНУ'ЦЬ *зак.* Лінуць, пайсці вялікімі хвалямі. *А потом як бушанула вода і розмула мост.* Сямурадцы.

БУ'ШВАР, БУ'ЧВАР *м.* Прыстасаванне на носе лодкі, пры дапамозе якога падымалі якар плыта. *На бýчвару на дýбі на носі воротóк, на ім льняны канат.* Хачэнь.

БУ'ШКАЦЬ *незак.* Басці. *Мужчын збівае да бýшкае, покуль отгóняць.* Луткі.

БУШОВА'ЦЬ *незак.* 1. Бушаваць. *Вода бушуе, аж шýмом ідзе.* М. Малешава. 2. Бууяніць. *Годзе горлопáніў, сядзь, не бушуй!* М. Малешава.

БУШЭЎНІ'ЦА *ж.* Свавольніца, буянка. *Бушэўніца була, а маці долеговáла, коб не ўпала з груш'я.* М. Малешава.

БУЯ'К *м.* Абалоністы хваёвы лес. *Буяк — одна оболона, росце на пескў, шáшэль ёгó с хóду крамсáе!* Сямурадцы.

БУЯ'Н *м.* Буян. В. Малешава.

БУЯ'НІЦЬ *незак.* Буяніць. *Вон буяніць п'яны.* М. Малешава.

БУЯ'НЫ *мн.* Буякі. Альпень.

БУЯ'РЫЦЦА *незак.* Буяніць. *Вон буя́рыўса, біўса.* Запясочча. *Вон буярыўса, прыстаўляўса.* В. Малешава.

БУЯХІ', БУЯКІ' *мн.* 1. Буякі. *Буяхі соло́шчіе за чорніцы.* Лутки. *Наесіса буяхо́ў богато, то будзеш блева́ць.* М. Малешава. *Буякі му не ввом.* В. Малешава. 2. Катахі на рагозе. *На рогозу́ росту́ць буяхі.* Луткі. 3. Рагоз. *Буя́х тэ са́мо, шчо глухі́ рого́з.* Луткі. *Буяхі ростуць у боло́ці разом з чэрэто́м.* Верасніца. *Памянш.* буяшо́к. Луткі.

БУЯ'ЦЬ *незак.* Буяць. *Буя́е картопля под яблоня́мі, ця́гне ўверх, да тоне́нька така́.* Дварэц. *Буя́е усе, росце нішчо́.* Запясочча.

БУЯ'ШНІК *м.* 1. Буячнік. Луткі. 2. Рагоз. *У болоці богато буяшніку і буяхоў.* Любавічы.

БЫ'ЛЕ *часц.* Быццам. *Воны так збуду́юць, быле оскода́ў, як кубло* (восы). Сямігосцічы.

БЭ'БОЧКІ *мн.* Катахі. *Верба́ роспукну́ласа, розвіла́са, ужэ бэбочкі е.* Хачэнь.

БЭ'БРЫЦЦА *незак.* Марудзіць. Сямігосцічы.

БЭ'ЙЛОЧКА *ж.* Балаўніца. В. Малешава.

БЭ'ЙЛЫ *мн.* Валасы, кудлы. *От бэйлы поплеліса!* Мачуль. *Бэйлы обрэж, а то на чо́рта похожы!* М. Малешава.

БЭЙЦУХІ' *мн.* Буякі. *Ба́ло, бэйцухі сушыла.* Хотамель.

БЭ'ХКАЦЬ *незак.* Утвараць адрывістыя гукі (пры пазяханні). *Ужэ нагуля́ласа, а цепер бэ́хкае.* Хачэнь.

# В

ВАБ *м.* Прыманьванне дзічыны гукамі. *Покойны дзед вабіў лосей, на ваб ездзіў і ў Баловежскую пушчу.* Мачуль.

ВА'БІК *м.* Вабік прыманьваць дзічыну (звычайна дзікіх качак). Аздамічы.

ВА'БІЦЬ *незак.* Вабіць, клікаць, прыцягваць увагу. *Крыкўха вабіць селезнёў.* Аздамічы. Прывабліваць, прыманьваць (дзічыну). *У трубку вабяць вóўка.* Альшаны. *Воўка можны вабіць у горшчóк.* Аздамічы.

ВА'-ВА'-ВА' *выкл.* Пра дзіцячы плач. *Дзіцятко крычыць ва-ва-ва.* В. Малешава.

ВА'ВА *ж.* Болька, ранка (у размове з дзецьмі). *Дзе, мамонько, вава, покажы.* Бярэжцы.

ВАГ *м.* Рычаг, вага. *Вагóм засільваюць колоду намёртво на столюзе. Той жэ ваг доўгі!* Цераблічы. *Трэба заважыць вáгом.* Аздамічы. Груз на канцы асвера. Хотамель. Рычаг у ступе. *Ступа ножная з вагóм.* Хотамель.

ВАГА' *ж.* 1. Вага, цяжар. *Ці з вагóю ці без вагі, конь ідзе, не отстае.* Луткі. *А як плáцяць? — От вагі, важаць* (аб прыёмцы ягад). Кароцічы. Груз на канцы асвера. Дварэц. 2. Гіра. Тураў. △ Н а к л а с ц і (н а л о ж ы ц ь) в а г ý н а п л е ч ы (н а с п і н у). Налажыць закляцце, часцей на скаціну, каб яна не магла зварухнуцца з месца. *Нéку вагý наклала на плечы, шчо і волы не поцягнуць тую короўку, стоіць як укóпана.* Хачэнь.

ВАГА'Н *м.* Начовачкі з пяском у касароў, у якія макалі мокрую мянташку. Запясочча. *Памянш.* в а г а н é ц, в а г á н ч ы к. Там жа.

ВАГА'НОК *м.* Коўшык. Альшаны.

ВАГКУ'ША *ж.* Печань. Запясочча.

ВА'ГОМ *прысл.* Няспешна. *Воўкі ідуць вáгом, не так, ек собакі.* Дварэц.

ВАГО'ТА' *ж.* Важкасць, цяжкасць, цяжар. *Ту вагóту несці було вáжко!* (пра ягады). Верасніца. *Поймéць, шо то було за ваготá!* Луткі.

ВА́ГОЦЬ *ж.* Тое ж. *Ну й вагоць несці эту траву.* Луткі. *Ку́ра моя такая вагоць була!* М. Малешава.

ВА́ДЗІЦЬ *незак.* 1. Шкодзіць, быць шкодным. *Чорнушка добра і ў хлеб, вона не вадзіць.* Запясочча. *Клімат вадзіць ёй, то прыехалі назад на родзіну.* Бярэжцы. Выклікаць дрэннае адчуванне. *Шчо ні з'ем, то ўсё вадзіць.* Запясочча. Муціць, цягнуць на ваніты. *Як не есі, да з'есі, так вонэ́ і вадзіць.* М. Малешава. Перашкаджаць. *Ей ва́дзіло, ек хто й стукне.* Верасніца. *Некі белы вон, нешчо ему вадзіць ці долегу́е.* Аздамічы. 2. Хапаць (звыч. з *не*). *Нічого ему не вадзіло, не браковало.* Хотамель.

ВА́ДНО *прысл.* Непрыемна, дрэнна (пра стан, калі нешта турбуе). *От нешчо ёму́ вадно, капрызіць.* Кароцічы.

ВА́ЖКІ́ *прым.* Цяжкі. *Важке́ сем'е, як камень.* Дварэц. *І бо́льша, і важэйша, і ву́шэйша за нашу корову.* Там жа. *У нас важка́ земля, у нас глей.* Пагост. *Чым важэйша робота, то для мене.* Мачуль.

ВА́ЖКО *прысл.* Цяжка. *І мого́ хлопчыка ей важко носіць.* Дварэц. *На́гле важко ў тых боцінках.* Там жа. *Крутэ́ дзерэво важко колоць.* Там жа. *Важко дэржаць корову і без корову важко.* Бярэжцы. *Това́рэчэ м'ясо важко ўварыць, не ўпрэвае.* Аздамічы. *Мне важко ходзіць по снегу́.* Альшаны. *Нешчо важко на душы!* В. Малешава. *Зоўзюлька леціць нізко да важко.* Хачэнь. *Очэпілі зубу — важко ў роце.* Чэрнічы. *Як лёгко рукам, то мозгам важэй.* Там жа.

ВАЖКОВА́ТЫ *прым.* Цяжкаваты. *Только шо вон важкі, важковаты.* Пагост.

ВА́ЖКОЕ *н.* Печань. *У кобана печэнь — важкое.* Запясочча.

ВАЖКОЦЕ́ЛЫ *прым.* Грузны, мажны. *Екі гладкі да важкоцелы, шчо цельпе́ш!* Верасніца.

ВА́ЖНЫ *прым.* Важнецкі. *Важные мне сын рукавіцы прывёз — з оўчыною, цепер у цепле мое рукі будуць.* Пагост.

ВАЖО́К *м.* Правес для адбіўкі ліній на калодцы пры падоўжнай распілоўцы. Аздамічы.

ВА́ЖЫЦЬ *незак.* 1. Важыць, узважваць. *Важылі бабы лён, печэны хлеб на росцежные безменчыкі.* Дварэц. *Важылі целят? Трохі е прывесу?* Бярэжцы. 2. Мець вагу. *Чэрэво важыць, донесці не можно!* (іранічна пра тоўстага чалавека). В. Малешава. *То буў кожу́шок наглый, мо*

*з поўпўда важыў.* Тураў. 3. Наважвацца, вагацца. *От, важыла, важыла, да не пошла, да не зробіла.* Аздамічы.

ВАЖЭ′ЗНЫ *прым.* Вельмі цяжкі. *От кўра була важэзна!* Сямурадцы.

ВАЗО′Н *м.* Вазон, пакаёвая расліна. *Набрала ў горшчок земле і посадзіла вазона картопляніка.* Лутқі. *Қартоплі добрые, бы вазоны зробіліса.* В. Малешава. Альяс. *Вазоном загоіла вайку.* Хачэнь. Гаршчок для пакаёвай кветкі. Запясочча. △ В а з о н к о л ю ч ы. Альяс. *Қолючого возона нехай есць* (пры хваробе на страўнік). М. Малешава. *Осот на водзе, ек вазон колючы.* Альшаны. Қактус. Верасніца.

ВАЛ *м.* 1. Хваля (вялікая). *Ек розольецца, то здоро́вуе ва́лы ходзяць по водзе.* Пагост. 2. Валок сена. *Дождж намочыў сено ў вало́х.* Тураў. *У вал зграблі сено, а того вала́ беруць вілка́мі і ў ко́пу.* Альшаны. 3. Ніткі з адходаў валакна. *Вал на дзерўгу.* Лутқі.

ВА′ЛЕВО, ВА′ЛІВО, ВАЛЕВА′ *прысл.* Шмат, многа. *Валева́, бага́то — это одно́ і тэ са́мэ.* Альгомель. *У етым годзе валіво ягод.* Аздамічы. *Пісаніны валіво вам.* Там жа. *Ох валіво картопляў!* М. Малешава.

ВА′ЛЕ′Ж *м.* Павал, буралом. *Ва́леж — то як поўва́лівае дзе́рэво ў лесе.* Лутқі. *Валёж гнілы лежыць.* Мачуль.

ВАЛЕР'Я′НҚА, ВАРЕЛЬЯ′НҚА *ж.* Расліна валер'ян і настой з яе. *Валер'янку от серца п'юць. Варельянка — то таке зелье, ёго́ ек накопаеш, то ховай, шчоб коты не з'елі.* Хачэнь.

ВА′ЛЁ′НҚІ *мн.* Валёнкі. *Қо́лісь ва́лёнок ніхто і не бачыў.* Хачэнь. *За́ре ек мороз, то валёнкі і пошоў.* Сямігосцічы. △ Б і т ы е в а́ л ё н к і. Від валёнак. *Буркі лучшэ, чым біты́е валёнкі.* М. Малешава.

ВАЛІ′ЗА *м.* і *ж.* Таўстун, маруда. *Як гладкі, неповоро́тны, то ў нас зовуць валіза.* Запясочча.

ВАЛІ′ЦЦА *незак.* Валіцца (пра сукно). *У паровой валюшы добро валілоса, вона ўкатвае плотно.* Лутқі.

ВАЛІ′ЦЬ *незак.* 1. Валіць, рухацца вялікай масай. *Ва́ліць дым на город с хаты.* Дварэц. *Валіць снег.* Бярэжцы. *Прыдзе вечэрня пора, то та́бун за та́буном* (дзікіх качак) *ва́ляць і валяць на болото.* В. Малешава. 2. Валіць, збіваць (пра сукно). *Валілі сукно ў ногах, ек валюшы не було.* Хачэнь. *Суконные штаны валілі навек у нас.* Цераблічы.

ВА′ЛНА′ *ж.* Хваля. *У Роздзёрах меншые ва́лны, чым*

*на рэццэ́.* Тураў. *Ва́лны б'юць у край, то едзь посерэдзі-не, на серэ́дзіне ва́лнуў нема.* Дварэц. *Як ве́цёр велікі, то ва́лны плешчуць кругом мое хаты.* М. Малешава.

ВАЛОВІ'К *м.* Тоўста спрадзеныя ніткі. *Як прадзеш, да вельмі то́ўста пража, то кажуць — воловік.* Запясочча. *Воловік поверх белы, а основа чорна.* Верасніца.

ВАЛО'К *м.* 1. Валок (сена). *У валок сухе́ сено згрэ́-баюць, кладуць у ко́пу і цегаюць коне́м до сто́га.* Луткі. 2. Невялікі вал (дэталь у машыне). *У Церэблі́чах була машына, олейніца називалі, з дзерэўянымі валка́мі.* Луткі.

ВА'ЛО'М *прысл.* Вялікай масай, натоўпам. *Отчыні хату, так мухі вало́м у хату лецяць, так лецяць!* Хачэнь. *Людзі валом ідуць на рыбалку.* В. Малешава. Шмат, многа. *Ва́лом там ягод.* М. Малешава.

ВА'ЛЬНУЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць, урэзаць. *Ек вальнуў, то ўвесь лоб россёк.* Верасніца. *Я гэтым топором ёго́ ва́льну, і будзе золото мое.* В. Малешава.

ВА'ЛЬНЯ *ж.* 1. Праграванне (для лячэння). *На печы под кожу́хом добра вальня.* В. Малешава. *Багато вальню роб'яць з по́тры, ка́меня грэюць, і седзіць чоловек, лечыцца на цэ́бры.* Цераблічы. 2. Сукнавальня. *Сукно свое́ валілі на вальнях наве́к.* В. Малешава.

ВАЛЮ'ША *ж.* Сукнавальня. *У водзяны́х млінох булі і валюшы, дзе звальвалі сукно свого́ ву́робу.* Тураў. *Чох-ма́рня була ко́лісь у Турові, а валюша ў Верэсніцы.* М. Малешава.

ВАЛЯ'ЦЦА *незак.* 1. Валяцца, ляжаць у беспарад-ку. *Валяецца, як шчо не на месцы лежыць, трэба ж по-добраць ёго́.* Бярэжцы. *Дзе рыбакі ночуюць, там косці валяюцца, а дзе охотнік ночоваў, там остопкі* (прыказ-ка). В. Малешава. 2. Валачыцца, цягацца. *Валялас по свеце ўсю жытку.* Аздамічы. Дрэнна жыць, існаваць. *От так валяліса, не жылі.* Верасніца. *Шоб не валяцца по чужым кварцірам, мы ў вас пожывом.* В. Малешава. △ З в е т р у в а л я ц ц а. Ледзь стаяць на нагах ад слабасці. *Той Міхась з ветру валяўса, а не то, шоб мешкі понесці.* Верасніца.

ВАЛЯ'ЦЬ *незак.* Валіць, спускаць, рэзаць (пра дрэ-ва). *Валялі лес ты́е годы.* Запясочча. *Валялі тые дро́ва ў лесі.* Дварэц. *С пня валяюць дзерэво.* Хотамель. Аб-вальваць, абрушваць. *Прыкладна́я круча ў рэцэ, ее ва-ляе.* Пагост.

ВА'НЧОС *м.* Від лесаматэрыялу. *З дубоў ванчос ро-*

*білі, удоль роспілуюць, трохі обчэшуць, шоб жоўта кора була.* Пагост.

ВА'НЬКА *ж.* △ У з я ц ь в а́ н ь к у. Узяць за звычку. *Таку ваньку ўзела дай ходзіць по но́чах.* Запясочча. *Ульяна собе такую ваньку ўзела — натрэцца бодзягой і ходзіць чырвоная.* Луткі.

ВА'ПНА *ж.* Вапна. *Трэба ва́пной каліць хлеў.* Бярэжцы. *Шука́емо вапну да белім у мотка́х.* Хачэнь.

ВАР *м.* Вар, шавецкая смала. Запясочча.

ВАРВА'РШЧЫНА *ж.* Харчовыя прадукты, сабраныя пастухом ад гаспадароў жывёлы ўвосень (на свята Варвары). *Пастух не пасе ўжэ коні, а по договору збірае шчэ варваршчыну.* Цераблічы.

ВА'РКА *ж.* Варка, гатаванне. *Шо тут варыць? Хто ёго́ ведае з етой варкою.* Запясочча.

ВА'РКАЦЬ *незак.* Падаваць голас, вуркаць (пра ката). *Кошка ва́ркае.* Верасніца. Шыпець. *Таке малое, а наёжылося і ва́ркае.* Хачэнь.

ВАРОВА'ЦЬ *незак.* Тармазіць плыт пры дапамозе якара. *Вару́й, бо понесе!* Запясочча. Падсоўваць бервяно на сталюзе пры дапамозе тапара (пры падоўжнай распілоўцы). Там жа.

ВАРСО'БА *м.* і *ж.* Нязлосная лаянка на дзяцей. *Это кажуць на тых, хто ўжэ нешчо понімае: я на Галю, коб не вельмо плохо сказаць, крычу варсоба.* Луткі.

ВАРТ, ВА'РТЫ *прым.* Варты, годны. *Мы не варты ёго́.* Тураў. *Шчо, я не варта хлеба ва́шэго, мое дзеткі?!* М. Малешава. *Зразу бачу, чого он варт.* Мачуль. Каштоўны. *Тэ, шо на окне́ лежыць, то вартчэ́йшэ.* М. Малешава. Здольны да работы, здаровы. *Коб я варт, то накошу собе сена.* Альшаны. У стане. *А нагружа́ць зерно ў машыну воны вартые?* Луткі. *От ха́мкае, не варт прочытаць.* М. Малешава. *Я ўжэ вам не варт горэва́ць, не варт грошы даваць.* В. Малешава. *Не варты ногі носіць — не ва́рто і жыць.* Сямігосцічы. *Варт не варт, а ішла б до ўпаду.* М. Малешава. Здольны, умелы. *Вон не варты ёздзіць.* Верасніца.

ВА'РТА *ж.* 1. Варта, ахова. *Я пошоў на варту, поселі на ганок і седзімо.* Кароцічы. *Там стояла будка для варты, пограні́чнікі булі.* В. Малешава. *От варта заспала, не чула, шо горыць.* Мачуль. 2. Спецыяльны знак у вясковага вартаўніка. *Эй, Пайле, варта ў цебе!* Аздамічы.

ВАРТОВА'ЦЬ *незак.* Вартаваць, пільнаваць. *Мо*

*Федзька пчолы вартуе?* Запясочча. *Мой стары вартоваў горох, ек хто подлезе, то крычыць.* Пагост. Сцерагчы, сачыць. *Вартуе, коб не отыйшоў от ее.* Хачэнь.

ВАРУ'ХА *ж.* Апалонік. *Варуху вырэзвалі з дзерэва.* Сямігосцічы. *Ложку варуху з доўгім дзержаком робілі.* М. Малешава.

ВАРЦЭ'ПКІ *мн.* △ У в а р ц э п к і. У шашачкі (пра ўзор). *Шче вўтку дзеругу ў варцэпкі ў два цвета — голубове з белым.* Пагост.

ВА'РЫВО *н.* Варыва, страва. *От богато ў пече варыва, чыгунам тесно.* Альпень. *Дзе можно тэ варыво сховаць? З'есці!* Хачэнь. Квашаная гароднiна. *Бочкі, шо варыво ставяць.* Сямурадцы.

ВАРЫЎНЫ' *прым.* △ В а р ы ў н а б о ч к а. Бочка для засолу гароднiны. *У мене шчэ п'яць бочок варыўных, шчо я сам робіў.* Чэрнічы. *Варыўна бочка не чэчэ.* Бярэжцы.

ВАРЫЎНЯ' *ж.* Варыўня, кладоўка для захавання гароднiны. *Варыўня кое у кого бувае оддзельно на дворэ, а чашчэй у сенях.* Тураў. *Сцёпка ў хоромах, а варыўня окром на дворэ.* Сямігосцічы.

ВАРЫ'ЦЬ *незак.* 1. Варыць, гатаваць (страву). *Вона багато варыць горшкоў.* Дварэц. *Як воны ворылі да мне давалі, то я еў.* Хачэнь. *Я буду кашку варыць, а ты погенеш товар.* В. Малешава. *На Петра ні ворыла, ні пекла* (з песні). Верасніца. 2. Парыць. *У рэзіне* (у гумавых ботах) *вельмо варыць.* В. Малешава. *Вельмі ж варыло, пекло ў обед.* Запясочча. *Так варыць, прыварвае, вісіць ек у мешку.* Луткі. *Так варыць, земля паруе, будуць грыбў.* Там жа. *Варыло цепер, цяжко было дыхаць.* Сямігосцічы. △ В а р ы ц ь е к у м е ш к у (у к о т л е). Пра гарачае і вільготнае надвор'е. М. Малешава. *Варіць бі ў котле.* Хотамель. В а р ы ц ь в о д у. Здзекавацца, сварыцца. *Вон глуміўса з жонкі, воду варыў.* В. Малешава.

ВАРЭ'ЙКА, ВЭРЭ'ЙКА *ж.* Невялікі гаршчок. *Долі водою, шоб не была вэрэйка порожня.* Велямічы. *Варэйка.* Там жа.

ВА'РЭНЫ, ВАРО'НЫ *прым.* Вараны. *Варэны хлеб, абў-екі цепер у лаўцы.* Хачэнь. *Воны вароные смашнейшые.* Сямурадцы.

ВАСІ'ЛЕЙ *ж.* Традыцыйнае свята ў дзень Новага года па старому стылю. Запясочча.

ВАСІЛЁК *м., мн. васількі.* Чальчак. *Васілёк велікі*

*такі, чырвоным цветом цвіце, а вон шырокі, ёгó ў гуркі кідаюць.* Хачэнь. *Васілёк кідаюць і ў квас, да чырвоны квас робіцца.* Пагост. *Васількі.* Хотамель.

ВАСІ'ЛЬЧЫКІ *мн.* Аксамітнік. *Васільчыкі тожэ можна рваць свіньям, оны поедзяць.* Верасніца.

ВАТОВІ'НА *ж.* Ватоўка, фуфайка. Альпень.

ВАТРОБ'Я'НКА *ж.* Вантрабянка. *Вантроб'янку робяць з серца, лёхкіх, печонкі.* Альпень.

ВА'ЎКА *ж.* Болька, ранка. *Ваўка ў мэнé, бо на гвоздá ногý пробіў.* Мачуль. *Здзерла ваўку, то кроў цечэ.* Бярэжцы. *Була ваўка, то гóіць чысто подорожна трава.* Цераблічы. *Гэто тожэ к ваўцы кладуць* (пра зелле). М. Малешава. *Серпорэзнік ваўку гоіць хорошэ́.* Хачэнь. Балячка, хвароба. *Зубы — ваўка ліхá.* Хачэнь. *Гэто плохая ваўка, той оўёх корова з'есць, то здувае.* Там жа.

ВА'ЦОК *м.* Кавалак. *Уцекай, а то вацок гразé залепіць цебе.* М. Малешава.

ВАШ *займ.* Ваш. *Баця, у сеня́х вашы чоботы.* Кароцічы. *Як вашы дзеці, дýжые, здорóвуе?* Хачэнь.

ВЕ'ДАЦЬ *незак.* Ведаць. *Усé ведаю, только не ведаю, шчо чоловек думае.* Луткі. *Коб ведаў, дзе ўпадзеш, прослаў бу* (прымаўка). Чэрнічы. *Будзеш ведаць, почом сыры́ ў Мозыры́* (прымаўка). Запясочча. △ Не ведаць і не знаць. Не мець уяўлення. *Не ведаю і не знаю, як гэто ў іх получылоса.* М. Малешава. Хто егó ведае. Пра адсутнасць уяўлення. *Хто егó ведае, шчо то.* Кароцічы. Дох его ведае. Тое ж. *Дох его ведае, шо вуж не кусаецца.* Мачуль. Чорт вед (ведае), шчо (куды́). Пра неразуменне. *Чорт вед, шчо тут робіцца.* Бярэжцы. *Чорт вед куды перэбегаеш по гэтой мóлі* (на сплаве). Верасніца.

ВЕДЗЕ'РЦЭ *н.* Вядзерца. *Ведзерцэ той рыбы неслі.* Луткі. *Вона ж мне ведзéрцоў чотыры дала.* Бярэжцы.

ВЕ'ДЗЬМА *ж.* 1. Ведзьма. *Як сонцэ свеціць і дождж ідзе, то кажэмо: ведзьма масло колоціць.* Бярэжцы. *У Купалну ноч за зáвалку броківу затыкалі, шчоб ведзьма не доіла короў.* Сямігосцічы. *Палілі ворох лапцей і крычалі: «Цепер Купайло, заўтра Йван, чорт хапае ведзьмы церэз баркáн».* Луткі. 2. Від карточнай гульні і той, хто прайграў у гэтай гульні. *У кого дама пікова, той і ведзьма.* Верасніца.

ВЕДЗЬМА'Р *м.* Чараўнік. *Ведзьмар або ведзьмарка мóжэ молоко зобраць у короў.* Сямігосцічы. *Ведзьмар ек умрэ, то на порозі свінячые копылы знаходзілі.* Сяму-

радцы. *Ведзьмары елі коньські пом'ёт* (каб набрацца цудадзейнай сілы). Бярэжцы.

ВЕДЗЬМА'РКА *ж.* Ведзьма, чараўніца. *Ведзьмарка прывороживае, шоб хлопец дзейку ўзяў.* Пагост.

ВЕ'ДЛУГ *прыназ.* Паводле. *Вéдлуг ёгó, то там нічого не було.* Тураў. Па, згодна. *Ведлуг моіх год, то вон не стары.* Мачуль. У параўнанні. *От ужэ ў колхозі ведлуг лётошнего не ўвесь уроджай собралі, шчўплэ зерно.* Чэрнічы.

ВЕ'ДОМО *прысл.* Вядома. *Ведомо, знаеш, то й говорыш.* Хачэнь. *Ведомо, сова заб'е соколá* (прымаўка). Хільчыцы.

ВЕДРО' *н.* Вядро. *Хто з вéдрамі, хто з сокéрою бегуць на пожар.* Запясочча. *У мене е ведро ягод вўсушыць.* Дварэц. *Перэйшла дорогу з нішчымнымі ведрамі.* Цераблічы. *Ох, е сова, а очы, ек этэ ведро.* Верасніца. *З одного кóрэня тых лосéй ведро нарэжэш.* Хачэнь.

ВЕДРЫ'ШЧЭ *н.* Вядро для памыяў, памыйніца. *Ведрішче.* Пагост.

ВЕ'ЕЛКА *ж.* Веялка, шуфлік. *Водў вулівáць у лодцы — вўліўка, а веелка, шоб веяць.* Любавічы. *Веелкою веелі жыто на токў.* Цераблічы. *Памянш.* в е ё л о ч к а. *Веёлочка кідаць жыто.* Кароцічы.

ВЕЗА'ЦЦА *незак.* △ В е з á ц ц а ў ó ч ы. Надаядаць, чапляцца. *Вон усе ўрэм'я ўяжэцца ў очы, як вуп'е.* Сямігосцічы.

ВЕЗА'ЦЬ *незак.* Вязаць. *Везаць лес. Везаць гонкі.* Запясочча. *З отавы робілі перэвесло везаць лён.* Дварэц. *Вяжэм снопочкі на стрэху.* Хотамель. Завязваць, павязваць. *Баба везала пўпа.* Лутки.

ВЕ'ЗЕНЫ *дзеепрым.* Вязаны. *Той пояс росцегáецца, як седнó вéзенэ.* Сямурадцы.

ВЕ'ЙКА *ж.*, ВЕ'ЙКО *н.* 1. Века, павека. *Шчо гэто на вочку? — Гэто на вейцы нешчо зробілоса і жыве.* Кароцічы. *От джыгнула пчола ў вейку.* Аздамічы. *А мороз, аж вейка зліпáюцца!* М. Малешава. 2. Веялка. Альшаны.

ВЕК *м.* 1. Век, вечнасць. *Старые ўжэ жжываюц век.* Запясочча. *Мой дзень — век* (прымаўка). В. Малешава. Цэлае жыццё, перыяд існавання. *Гэто его коціны век, кот больш не жыве.* Дварэц. *А ему ж век жыць.* Лутки. *Два вéкі не жыціме.* М. Малешава. *Колько тóго веку, нешчáсного, і то его трэба так абу-як прожыць* (пра п'яніц). Хачэнь. Узрост, гады. *Сколько тобе было тогды веку?* Мачуль. *Екі то ему век? — Ужэ ўвосень у армію.*

Там жа. 2 *прысл.* Вечна, заўсёды, увесь час. *Воны век на тра́птах булі* (плытагонамі). Сямігосцічы. *Вон его век ненавідзіць.* Аздамічы. Даўно. *Я его век не бачыла.* Ніколі. *З нашого кага́лу век ніхто не напі́ўса.* Сямігосцічы. *На дзежы́ век шапкі не положы* (прымаўка). Цераблічы. *Думалоса тоды́, век нічого такого не перэжывеш, не перэбудзеш.* Бярэжцы. Спрадвеку. *Век не пускалі свіньи по вуліцы ходзіць.* Луткі. △ Век ве́ком. Ніколі. *Век веком не була б я тут.* М. Малешава. З веко́ў век. Спрадвеку. Аздамічы. Із ве́ка векоў. Спрадвеку, здаўна. *Із века векоў стрэчаюць у нас весну.* Запясочча. От ве́ку. Тое ж. *От веку на Звіжэнье ў нас ке́рмаш, а ў Вільчы на Міхайла.* Верасніца. З про́дкоў веко́ў. Тое ж. *З продкоў векоў так называюць.* Любавічы.

ВЕ́КО *н.* 1. Века, накрыўка (у дзежцы, куфры, скрыні). *Коровай стаўляць у веко.* Бярэжцы. *Кошэль бувае з ве́ком і без века.* Велямічы. 2. Павека. Пагост.

ВЕКОВА́ЦЬ *незак.* Векаваць, жыць свой век. *Хай мое́ дзіця веку́е без стра́ху.* Верасніца. Доўга, здаўна жыць. *Я векую ў Запесоч'і, шчэ ў мене і маці е.* Запясочча. Жыць бязвыезна. *Коб я больш ходзіла по свету, а то ж я дома векую.* Дварэц.

ВЕ́КШЫ *прым.* Даўні, стары. *Вона дзеўка була ве́кшая, век замуж не йшла.* Луткі.

ВЕ́ЛЕЗНЫ *прым.* Вялізны, высачэзны. *Прымол той ве́лезны, да бо́язно купацца.* Дварэц.

ВЕЛІ́ЗЕЗНЫ *прым.* Вялізны, велізарны. *Ко́лісь носілі коўпакі́ велізезные, умотае косы ў того коўпака́ і пошла.* Хачэнь.

ВЕЛІ́ЗНЫ *прым.* Вялізны, велізарны. *Рукамі под корчо́м вокуня велізного поймаў, ек порося.* Пагост. *Е ба́бкі велізные, белые.* Дварэц. *Велізные, ек долоні, лапы* (пра лісты ў расліны). Хачэнь.

ВЕЛІ́КДЗЕНЬ *м.* △ Ме́ртвых велі́кдзень. Свята ў чацвер велікоднага тыдня. *У чэцьве́р после паскі — мертвых велікдзень.* Запясочча.

ВЕЛІ́КІ *прым.* Вялікі. *Веліка ношка, ледва прынёс.* Тураў. *Сені велікіе булі, то й сцёбку там зробілі.* Дварэц. *Веліка бура схопілас.* Чэрнічы. *У страха вочы велікіе* (прымаўка). Верасніца. *После велікое погоды ожыдай велікое негоды.* В. Малешава. *Сын хоць велічшы, но ўсе зробіць.* Там жа. △ Велі́ка вода́. Паводка. *У прошлом году вода була веліка по доліне.* Луткі. Велікі палец. Вялікі і ўказальны пальцы. Аздамічы.

В е л і к і  п о с т. Вялікі пост. *Як велікі пост, то сем недель ні м'яса, ні молока не ем.* Альпень. В е л і к і-в е л і к і  р о с ц і! (пажаданне дзіцяці за добры ўчынак). Аздамічы.

ВЕЛІКОВА'ТЫ *прым.* Велікаваты, завялікі. *Велікова́ты чо́бот, трэ онуч больш навернуць.* Лутюі.

ВЕЛІ'КОНЬЕ *н.* Вялікдзень. *Веліконье скоро, да будуць яйца варыць да кра́сіць.* В. Малешава. *На веліконье паехаў дай нема.* Хотамель.

ВЕЛІЧЫ'НКІ, ВЕЛІ'ЧЭНКІ *прысл.* Велічынёй. *Жураве́ль як бу́сько велічэнкі.* Цераблічы. △ Н а  в е л і ч ы́ н к і. Тое ж. *Пацы́ под подлогой пікаюць, с кота́ на велічынкі.* Цераблічы.

ВЕ'ЛЬМІ, ВЕ'ЛЬМО *прысл.* Вельмі, надта. *Я не вельмі гоня́юса за етой рыбою.* Запясочча. *Не вельмо даўно пралі шчэ ў нас.* В. Малешава. *Ён нічогі вельмо буў.* Сямігосцічы. *Лінок — рыба смашна вельмо.* Там жа. *Коза вельмо есць ожыннік.* Хачэнь. *Вельмо польку мало гуляюць цепер.* Бярэжцы. *Була ў ягодзёх — вельмі ягод богато.* Там жа. *Не вельмі даљо́ко і не вельмі блізко до бору.* Цераблічы. Многа. *Ох, вельмо ж, до ліха накосіў?!* Верасніца.

ВЕНГЕ'РЫ *мн.* Сорт сліў. *Венге́ры — гэто сліву такіе велікіе, тут у одного дзеда булі да звеліса.* Лутюі. *Памянш.* в е н г е́ р к і, в а н г е́ р к і. *У этом годзі вангеро́к морэ.* М. Малешава.

ВЕ'НДЗІЦЬ *незак.* Капціць. *Хто робіць жывосол, да просольвае тые сцёгна пару недзель, да вешае, шчоб засохлі, а потом вендзяць.* Сямігосцічы.

ВЕНДЫ'К *м.* Індык. Аздамічы.

ВЕНЕ'Ц *м.* 1. Вянец, вянчанне. *С стрэме́ц да прамо на венец* (прымаўка). Аздамічы. Вяселле, вясельны поезд. *Ужэ ў цэркву чотыры венцэ прыехало.* М. Малешава. 2. Вянец (у зрубе). Хотамель. △ В е н ц а́  л а́ д з і ц ь. Вянчацца. *Договораюцца венца́ ладзіць.* Лутюі.

ВЕ'НІК *м.* 1. Венік. *Зробіла собе веніка.* Запясочча. *Сухей Стахей по моёй хаці скачэ* (загадка). *Венік* (адгадка). Хачэнь. Пук сцяблоў. *Жукі об'елі картоплі, шо одзін венік остаўса.* Запясочча. 2 *мн.* Расліна, падобная да канапель, з цвёрдым сцяблом, з якой робяць венікі. *Посеяла собе венікі — тая здорова, устойчыва трава, можно месці доўго.* Верасніца.

ВЕ'НО *н.* Пасаг (звычайна карова). *Ек кажуць, бацько даў до́цы вено, то даў корову.* Запясочча. *Вено — пе-*

*рэпой, колі молодую завезуць к молодому, сядуць за стол — ее родня — і перэпіваюць корову, седзяць і му́каюць, а тые, шчо на веселье прыглашоные, веселные, спеваюць: «Ек на праўду, то нехай бог спасе, а не на праўду, хай воўк несе».* Дварэц. *Даю тобе вено і тры копі сена* (з вясельных прыгаворак). В. Малешава. *Шчэ з мого вена ведзецца товар.* М. Малешава.

ВЕНО′К *м.* 1. Вянок. *У мене ў городзі — ек у венку ўсе!* М. Малешава. Папяровы вянок, адзеты на маладой, які здымаюць на пасадзе. *Ужэ вeнка знімаць будом.* Цераблічы. Круг (сланечніка). *Венок соўнечніка.* Аздамічы. Рогі ( у лася, аленя), злучаная пара рог. Альшаны. Вянок, звязка (цыбулі і пад.). Запясочча. *Ек у венок поўецца, то посохне цыбуля.* Луткі. 2 *мн.* Тканы ўзор на посцілках. Сямігосцічы. 3. Вянок (у зрубе). *Венок коліся клалі круглым дзерэвом.* Верасніца. *Ужэ венок у колодзезь заложыў.* Цераблічы. *Одзін вэнок положыў на подваліны.* Мачуль.

ВЕ′НЦЭ *н.* Венчык, верхні край у глінянай пасудзіне. *Горшчо́к мае вушко́, венцэ, дно.* Хотамель.

ВЕНЧА′ЦЬ *незак.* Вянчаць. *Моя гэто дзеўка, крычыць, воны ее сілуюць, не венчайце!* Альгомель.

ВЕ′НЧЫК *м.* 1. Вільчык (хаты). *Венчык кострыцэю покрыём.* М. Малешава. Вершаліна дрэва. *Яблонь снегом замело, оно венчык торчаў.* Там жа. 2. Паперка з малітвай, якую кладуць на лоб нябожчыку. *Венчык бацюшко дае, его на лоб небожчыку кладуць, нешчо там по-славянску напісано.* Луткі.

ВЕПРУ′К *м.* Кабан, парсюк (па словах інфармантаў — устарэлае). *Доброго вепрука́ угодова́ў!* Цераблічы. *Наш вепрю́к не прышоў.* Альшаны. *Вепрук і на кабана, і на целя, і на дзіця гладке́ могуць сказаць.* Хачэнь.

ВЕ′РА *ж.* 1. Веравызнанне, вера. *У бога веры цепер нема.* Пагост. *Наша вера провославная.* Бярэжцы. *Як той бобе́р, дзесяць вер* (прымаўка). Там жа. 2. Ліра. *У веру грае старэц і Лазара пое.* Цераблічы. △ Не ймаць веры. Не верыць, не даваць веры. *Не йма́лі веры, шчо гэто не могуць выгодоваць цецерука́.* Мачуль.

ВЕ′РБА′ *ж.* Вярба (звычайна вярба ломкая). *Е верба́ жілова, а е верба́ крохка.* Хотамель. Пучок вярбовых дубчыкаў, якія свяцілі ў вербную нядзелю ў царкве. *Вербу свецілі, да ў дзверы затыка́лі, да як вугоняюць корову* (у першы раз на пашу), *то ве́рбою махаюць.* Хачэнь.

*Не я б'ю, верба́ б'е, будзь здороў на весь год, ек осе́нній лёд* (прыгаворка). Верасніца.

ВЕРБІ'НА *ж.* Вярба (адно дрэва). Альгомель.

ВЕ'РБІ'Ч м. Вербная нядзеля. *Ве́рбіч не пройшоў, то кожу́ха не кідай* (прыкмета). В. Малешава. *Прыдзе вербіч — кожу́ха торбіч* (прымаўка). Верасніца.

ВЕ'РБНІК *м.* Зараслі вярбы. *На том бе́рэзі одзін вербнік росце.* Верасніца.

ВЕ'РБНЫ *прым.* △ Ве́рбная недзе́ля. Вербніца. Вербны тыждень. Тыдзень перад вербнай нядзеляй. *Гэто ж було на ве́рбном тыжні.* Бярэжцы.

ВЕ'РНІК *м.* Давераная асоба і адзін з каляднікаў, якому давяралі насіць сабраныя грошы, сала, гарэлку. *Булі вернікі такіе, ему сало давалі, да шчоб тое сало не з'еў.* Сямігосцічы. Сторaж-прыёмшчык у арцелі рыбаловаў, якога назначаў гаспадар промысла, каб рыбу не кралі. Альшаны.

ВЕРНУ'ЦЦА 1 *незак.* Паварочвацца, варочацца. *У воўка́ шыя не вернецца, вон цалко́м вернецца.* Цераблічы. Абсыпацца, аб'язджаць. *Подбіла вода землю і вона вернецца.* В. Малешава. 2 *зак.* Вярнуцца. *Тут оно зру́бішчэ було, ек вернуліса.* Чэрнічы. *Вернецца тэ назад, шчо було.* Велямічы. △ Не гнуцца і не верну́цца. Не дбаць, не прымаць мер, не клапаціцца. *Вон не гнуўса і не вернуўса, нічого ему не трэбо було.* Дварэц.

ВЕРНУ'ЦЬ 1 *незак.* Варочаць, пераварочваць. *Вон ідзе з сенокосу, вон сено вернуў.* Хачэнь. Паварочваць, скрыўляць. *Як вутва нарэжэцца, то воле набок верне.* Кароцічы. Рабіць, выконваць. *Я дома вернула роботу, а вона ходзіла ў брыгаду.* Дварэц. Кіраваць, запраўляць. *Летося на цэліне быў, да вернуў там усім.* Аздамічы. Цягнуць, схіляць. *Так воняе, шо блёваць верне.* Луткі. Валіць, ісці вялікай масай. *Як ідзе велікі снег, то кажуць: ну і верне снег.* Там жа. 2 *зак.* Вярнуць, аддаць назад узятае. *Цепер вернуў грошы, шо позычаў колісь.* Пагост.

ВЕРОБО'Й *м.* Расліна зверабой. Чэрнічы.

ВЕРО'ЎКА, ВЕРЭ'ЎКА *ж.* Вяроўка. *Дзе короўка, там і вероўка* (прымаўка). Верасніца. *Вероўкі повеселі да гутата́юцца людзі.* Там жа. *Верэўка — то доўга і тоўста, а поводзе́ц — коро́ценькі.* Кароцічы. *Верэўкою прыўязваюць рублю, шоб не обернуўся воз.* М. Малешава. *Памянш.* веро́вочка. Хотамель.

ВЕРО'ЎЧЫНА *ж.* Вяроўка (звычайна кароткая). *Такі нічогі буцок, неспокойны, то на вероўчыну, спушчу*

*ведро́, попою́.* Дварэц. *Памянш.* в е р о̂ ў ч э н к а. *Я прывела на вероўчэнцы корову.* Дварэц. *Супоня з веро́ўчэнок.* Там жа.

ВЕРСТА′ *ж.* Вярста. *Верста — 500 сажэне́й.* Аздамічы.

ВЕРСТА′Т *м.* Варштат, сталярны станок. Аздамічы.

ВЕРСТА′ЦЬ *ж.* Ткацкі станок, кросны. *Е і верстаць — там одное́й руко́ю ткуць.* Верасніца.

ВЕРТА′ЧКА *м.* і *ж.* Гарэза, непаседа. *Неспокойны хло́пец, такі верточка.* М. Малешава. Ветрагон, легкадумны чалавек. *Я верточка була, а вон хозяйственны, а я его не хоцела.* Там жа.

ВЕРХ *м.* 1. Верх, верхняя частка (дрэва, хаты і інш.). *Не́хто верха́ дзерэвіны забраў.* Хачэнь. *Згорэў верх, оно струб застаўс.* Аздамічы. *Вершыць сто́га Зіновей, кончае верха.* Сямігосцічы. *Як сорока на самом верху садзіцца, то ожыдай мороза* (прыкмета). Пагост. 2. Вяршок, смятанка. *Цыбуля е, а верху нема, то ежце так.* Верасніца. *Шчэ з ве́рхом як помешаюць, то вельмі смашнэ.* В. Малешава. 3 *мн.* Вядучая каманда ў гульні (прадстаўнік якой быў «верхнім», калі мераюцца на палку, каму вадзіць). *Верхі корпа́юць цурку по порадку.* Хачэнь. △ Н а т о б е́ в е р х. Пра таго, чый верх, перавага. *На тобе верх, тобе корпа́ць.* Хачэнь.

ВЕ′РХІ *прысл.* Вярхом. *Седайце верхі да ўцекайце.* Запясочча.

ВЕРХНЯ′К *м.* 1. Верхні камень у жорнах. Альшаны. 2. Верхні пільшчык (пры пілаванні падоўжнай пілой). *Ек попадзе верхняк, онно вісіць на руццы, то много не попілу́еш.* Цераблічы.

ВЕРХОВО′Д *м.* Верхаводка. *Верховоды ў нас прокіда́юцца, но цепер зво́дзяцца.* Дварэц. *Верховод по верху воды ходзіць.* Верасніца. *Памянш.* в е р х о в о́ д з і к. *Верховодзікі стайкамі плаваюць.* Верасніца.

ВЕРХОВУ′ШКА *ж.* Вадзяны клоп. *Верховушкі галяюць на водзе коло рэкі.* Луткі.

ВЕРХОВУ′ *прым.* Верхні, які кладзецца наверх. *Прыкла́д той верхову́ на вільчык, шчоб не здуў ве́цёр солому.* Дварэц. Вытканы з грубых нітак. *У том лугу́ сціраеш верхове́ шо таке.* М. Малешава.

ВЕРХОЛЁД *м.* Лёд на зямлі пасля раставання снегу. *Снегу нема, а наверху верхолёд.* Хачэнь. Другі лёд, які ўтварыўся пасля таго, як вада заліла першы. Мачуль

ВЕРХОЛЁДЗІЦА *ж.* Галалёд. *Такая верхолёдзіца, шо ісці не можно.* М. Малешава.

ВЕРХО'М *прысл.* 1. Верхам. *Садзіса на его верхом.* Пагост. 2. Праз верх. *То лез бу верхóм тогды, тудóю, дзе куры седзяць.* Дварэц.

ВЕРХО'ЎЕ' *н.* 1. Сена з самага верху стога, верхняя частка стажка. *Стог позацёкае, то верхоўя воз будзе.* Дварэц. *Обязацельно ў стожку дзвесце кілограм верхоўя спорціцца.* В. Малешава. 2. Верхнія зубы. *Установіла собе верхóўе і жыву.* М. Малешава.

ВЕРХОЎНІ'К *м.* Дзяржанне ў памяле. Аздамічы.

ВЕРЦЬ *выкл.* △ К р у ц ь - в е р ц ь. І так і сяк. *Круць-верць, у чэрэпóчку смерць* (загадка). *Уюн* (адгадка). Хачэнь.

ВЕРЧ *м.* 1. Скрутак лыка ці лазовай кары (у выглядзе «васьмёркі»). *У верчэ́ свое полóсье погорнуў.* Запясочча. *Верч у вóду положыш, вон отходзіць.* Луткі. *Верч круціцца накрэст, так ёгó добрэ розматваць.* М. Малешава. 2. Гарбун. *Ох, верч чортоў, гледзі, онь ек горб цебе скруціў!* Верасніца.

ВЕРЧА'ЦЬ *незак.* Скручваць у верчы. *Поўдня́ вэрча́лі лозу́ у вэрчы́.* Мачуль. *Можэ вэрчаць вэрчоў шэсцьдзесят за дзень.* Там жа.

ВЕРШКО'ЎКА *ж.* Вяршковая дошка. Запясочча.

ВЕРШО'К *м.* 1. Вяршок, верх (галавы, дрэва, хаты і пад.). *Сова́ села ему на гóлову, на са́мом вершку́, усé бегалі ратова́ць.* Верасніца. *На самой вершок злез.* Луткі. *На самом вершку пташка седзіць.* Сямігосцічы. *У кого буў вершок, той б'е мячыка.* Хачэнь. *Усё заліло, одные вершкі* (пагоркаў) *осталіса.* М. Малешава. *мн.* в е р ш к і. Канцы агурочніка (па-за градкай). *Вубрала гуркоў ужэ на вершкох* (не на градцы). Луткі. 2. Вяршок, смятанка. *Вершку́ ложка була, то ўлілá.* Луткі. 3. Вяршок, старая мера даўжыні. *У вершку́ десеть ліній було.* Альпень.

ВЕРШУ'НОК *м.* Лес, які накатваецца наверх на плыт. Запясочча.

ВЕ'РШЫК *м.* Вусце (у жаку або кашы). *Вёршок к кошу прышываецца.* Аздамічы. *У кошы́ вершок робіцца, а кошыца без вёршка.* Луткі. *За этым вёршыком карась не попадзé ў ту дзірочку, у яку ўлез.* В. Малешава.

ВЕРШЫ'ЛЬНЫ *прым.* △ В е р ш ы́ л ь н ы е в і л к і. Вілы з доўгім дзяржаннем для завяршэння стога. В. Малешава.

ВЕРШЫ'ЦЬ *незак.* Вяршыць (стог). *Светкуюць у недзелю, а я стожка́ вершу́ і не зацечэ.* Дварэц. *Ве́ршыць сто́га Зіновей, кончае ве́рха.* Сямігосцічы. *Трэба вершыць того стожка́, бо дождж пойдзе.* Лутки.

ВЕРШЭ'ЛЬНІК *м.* Укладальнік стога. *Вершэльнік ву́вершыў ве́рха. Вершэльнік граблі́ма подбівае к собе сено.* Цераблічы.

ВЕРШЭ'ЧОК *м.* Вершалінка. *На са́мом вершэчку.* Лутки. Узгорачак. *Шо у вас, то ў нас по поля́х вершэчкі. Шо ў нас, то ў вас хлопцы, як овечкі* (прыпеўка). М. Малешава.

ВЕРЫ'ВОК *м.* Невялікая вяроўка, павадок. *Узяў сома́ на верывок і прывезаў до ве́тлы.* Верасніца. *У верывок в'язку навезала.* Лутки. *Верывок — это ужэ часць верэўкі. Такі похопны.* В. Малешава.

ВЕ'РЫЦЬ *незак.* Верыць, прымаць за праўду. *Хот ты землі ў рот наберы, а вон не верыць.* Лутки.

ВЕРЭ'Д *м.* Верад. *Вэрэт потхопіў, як шулу подняў.* Хотамель.

ВЕРЭ'НІК *м.* Варэнік, від вараных (або печаных) піражкоў. *Хто помогае ў дожынкі, тому давалі верэніка.* Дварэц. *На Варвары верэнікі варылі, хозяін должэн пастуху верэніка занесці.* В. Малешава. *Наварыла б варэнікоў, коб сыр, да мукі нема* (жарт). Сямурадцы.

ВЕРЭНІ'ЦА *ж.* Уваход у кашару; жэрдкі, якімі закладаюць гэты ўваход. *Стоіць над верэніцэю да беўкае.* Лутки.

ВЕРЭ'НЬКА *ж.* Кошык з накрыўкай, сплецены з кары. *Верэнька, шчоб хлеб носіць, як едуць куды. Пастух з верэнькой ходзіць, у сваты ідуць з верэнькой.* Лутки. *Вэрэнька з лозы, а кошэль з дубцоў плетуць.* Велямічы. *Бацько і маці ідуць у сваты, наза́дзі варэнька з лозы, там хлеб і соль.* Мачуль. *Наберы ў верэньку есці да ідзі за товаром.* Кароцічы. *Узяў верэньку дай пойшоў помаленьку* (прымаўка). Хачэнь.

ВЕРЭ'НЯ *ж.* Кашэль з накрыўкай, сплецены з кары. *Верэня з веком, а шаня без века.* Сямігосцічы. *Верэню несе хросны бацько* (як ідуць у сваты). Там жа. *Верэня хлеб носіць, а шанька на ягоды.* Бярэжцы.

ВЕ'РЭС, ВЕ'РЭСТ *м.* Верас. *Верэс цвіце ў спасоўку.* Аздамічы. *У ве́рэсу грыбы ростуць.* Цераблічы. *Вэрэс у нас у бору, там е і пчолы.* Мачуль. *Верэс добры од обпаленого.* Д.-Гарадок. *Бувало, як весной сена мало, то на верэс коровы выгонялі.* Лутки. *Грыб у верэс, заец на не-*

*рэс* (прыкмета). Хачэнь. *Му верэс у войну елі, лісцейко тэ обсоўвалі да елі.* В. Малешава. *Борові мед з верэсту качэсцвенны.* Там жа.

ВЕРЭСЁННІК *м.* Від змяі. *Е ўсякое ужо́ўе — лозўшкі, ківу́шкі, верэсённікі.* Мачуль.

ВЕРЭСКО′ВЫ *прым.* Верасовы. *Верэсковы мёд плохо вука́чваецца, дзе́ржыцца ў сотах.* Альпень.

ВЕРЭЦЕНО′ *н.* 1. Верацяно. *От, му́чыліса верэценом гэтым бабу́!* Хачэнь. *На верэценó напраду ручайку веліку.* М. Малешава. *Самопра́дкі больш на Поле́сьі, а ў нас то на верэцёна пралі.* Луткі. *З окна ў окно золотэ верэценó* (загадка). *Сонцэ* (адгадка). Там жа. *У верэцена́ е пятка, шпень і пе́рснікі.* Хотамель. 2. Млён (у жорнах). *Вероцёно, шо круцяць жо́рна.* Альгомель. Слуп, на якім паварочваўся вятрак. Альшаны.

ВЕРЭЦЁНІЦА *ж.* Вераценніца, від бязногай яшчаркі. *Е така́ верэцёніца, оно рабэ, наподобіе п'еўгі.* Луткі.

ВЕРЭЦЁНКА *ж.* Тое ж. *Верэцёнка такóе ма́сці, як чэрэціна.* Цераблічы.

ВЕРЭШЧА′КА *ж.* Верашчака. *Роcколоцяць рэдзенько мукі пшонічное, як на блінцы́, нажа́раць сала з мясом, шоб наполовіне було з мукою, да ў печ поставяць, накрыюць, коб воно ву́жарылос з мукою, да на веселье ставяць гэту верэшча́ку.* Луткі. *Жа́рым муку́, почырвоне́е вона, жжарым м'яса, сала, цыбулі, перцу туды, от ужэ і верэшчака.* Бярэжцы. *Верэшчака з свіньé, а моча́ньe з коровы.* Цераблічы.

ВЕРЭШЧА′ЦЬ *незак.* Верашчаць, крычаць. Тураў.

ВЕС *м.* Мера вагі, роўная 6 пудам. *Ек молоды́ буў, то вон буў здоровы, той горба́ты, вес солі понёс.* Дварэц.

ВЕСЕЛЕ′Ц *м.* Журавель. *Весною весельцэ́ лецяць, а восенью жураўлі, бо журацца.* Запясочча. *Мы кажэм: «Жураўле́ лецяць», — а воны нас клянуць: «Шоб вы журыліс ца́льны год»,— то мы зовом іх весельцэ́, так воны люб'яць.* Талмачава. *Весельцы прылецелі, як одзовуцца, то дале́ко чутнó.* Альгомель. *Лецяць веселцы́ ў поўрэй, кру́ком табуняцца.* Сямігосцічы.

ВЕСЕ′ЛІК *м.* Тое ж. *Весе́лікі нізенько лецяць, гéўкаюць.* Хачэнь.

ВЕСЕЛІ′НА′ *ж.* Весялосць. *Веселіна ў нас ко́лісь була.* Верасніца. *От, бувало, спевалі, веселіна́ була, а цепер понеме́лі людзі.* Хачэнь.

ВЕСЕЛІ′ЦЦА *незак.* Весяліцца, быць вясёлым. *Як молоды́е, то і веселя́цца.* М. Малешава.

ВЕСЕЛІ'ЦЬ *незак.* Радаваць, ствараць добры настрой. *І конь хорошы, гладкі хозяіна веселіць.* В. Малешава.

ВЕСЕ'ЛНЫ, ВЕСЕ'ЛЬНЫ *прым.* 1. Вясельны. *Весельные песні скрыпач грае.* Дварэц. *Кóлішніе весéлные песні спевау́.* Луткі. 2 *мн.* Госці з боку маладога, запрошаныя на вяселле. *А тые, шчо на веселье прыглашоные, веселные, спеваюць.* Дварэц.

ВЕ'СЕЛО *прысл.* Весела. *Кому вéсело, а кому і не.* Кароцічы. *Зарэзалі, облупілі корову, завезлі дóдня у́ месцéчко да сталі веселéй жыць.* Верасніца.

ВЕСЕЛУ'Н *м.* Вясёлы чалавек, весяльчак. *Веселунá маці родзіла.* Запясочча.

ВЕСЕЛУ'ХА *ж.* Вясёлая жанчына, весялушка. *Веселуха та баба!* Аздамічы.

ВЕСЕ'ЛЫ, ВЕСЁЛЫ *прым.* Вясёлы. *Колісь веселые булі, а цепер і напіцены і наедзены — і не спеваюць.* Луткі. Шумны, людны. *Весёлэ село — не глухе.* Верасніца. Прыгожы. *Сіва, така весела кура, а твое рабуе.* Хачэнь. △ На весёлом месці. На высокім, выгадным месцы. *Ёго хата на весёлом месці стоіць, кругом вода.* Верасніца.

ВЕСЕ'ЛЬЕ *н.* Вяселле. *Як веселье едзе, тоды і кýхор везуць.* Цераблічы. *Зробілі вэселье доццы́ тэ, шчо трэба!* Альпень. *На веселье собіраецца богато людзей, мо больш ста чоловек соберэцца.* Луткі. *Хто бу́у на веселы, тому несуць короваю́.* Сямурадцы. *Поймáлі дрýжку на веселье і наложылі хамутá.* Цераблічы. *Нáшчо воны мне, этые весельи́!* В. Малешава. *Розгуля́уса, як дурэнь на вэселы* (прымаўка). Мачуль. △ Чóртово весéлье. Віхор. *Як бурá, да круціць, да стрэ́ху зорве, то кажэм: о, ехало чортово веселье да колесóм започэпіло.* М. Малешава.

ВЕСЕ'ЛЬНІК *м.* Гасцінец з вяселля. *Узя́у весéльніка і пошоу́ до того пана: «От, вам, пáнейко, весельніка».* Сямігосцічы. *Возьмі своім хлóпцам хоць весельніка!* В. Малешава.

ВЕСЕЛЬЦО'ВУ *прым.* Жураўліны. *Васільцóва цётка та жоу́тобрýшка, кажуць.* Мачуль.

ВЕСЛО' *н.* Вясло. *Весло з дуба, з есеніны.* Запясочча. *Правýем вeслóм.* Пагост.

ВЕСНА' *ж.* 1. Вясна. *Як весна, то дожыдаюць, шоб шчавер які вурос, бо есць не було чого.* Дварэц. *Весна — голóдніца, а осень богатая.* Хачэнь. *Весна кáге: «Я уроджý»,— а осень каге: «А вот як я погледжу».* В. Малеша-

ва. *Красне́ весна, і па́ша почне росці.* Там жа. 2. Тыдзень перад вялікім постам, калі «клічуць вясну». *Весна перэд по́стом, весну́ем, корова́я робяць.* Хотамель. Апошні дзень тыдня перад вялікім постам. *Як васна́, то васну́- юць малы́е і стары́е, гуля́ють ца́лу ноч.* Альпень. 3. Час выезду для гандлю насеннем (кветак і інш.). *У нас васна́ дзеньгі заробляе.* Мачуль. △ На весне́. Вясной. *На весне тэ було.* Бярэжцы. Ехаць на ве́сну. Ехаць прадаваць насенне кветак. *Паехала жонка на весну — семена продаваць.* Аздамічы. *Цветоў много е у тых, хто едзе на весну.* Альпень. Гука́ць (клі́каць) ве́сну. Сустракаць вясну (звычай). *Кажуць: добрэ весну́ гукалі — то вупілі добрэ на за́пускі.* Луткі.

Выезд на *ве́сну* — новы дадатковы занятак многіх жыхароў (жанчын) Давыд-Гарадка і навакольных сёл. Масавы выезд у розныя гарады адбываецца ранняй вясной. Насенне вырошчваецца на прысядзібных участках.

Звычай *гукаць весну* з'яўляецца традыцыйным для Тураўшчыны. Цяпер гукаюць вясну так: дзеці і маладыя дзяўчаты ўсаджваюцца на дрывах, якія навазілі за зіму, і спяваюць, зазываючы вясну: *«Дай ужэ ж ве́сна, дай ужэ ж кра́сна, і з стрэх вода́ ка́пле, ой, і з стрэх вода ка́пле...»*, частуюцца *півом* — ружовым самаробным квасам. Тураў.

ВЕ'СНЕНЫ', ВЕСНЯ'НЫ' *прым.* Вясенні, вясновы. *Дзень весня́ны — морэ.* Запясочча. *Весня́ных поросюко́ў було штук не́сколько.* Луткі. *Весняны́ ве́цёр добрэ сушыць дро́ва.* Там жа. *Май — ве́снены месяц.* Цераблічы. *Ужэ зара налье по́ўну рэку́, да будзе веснена́ вода.* Там жа.

ВЕСНОВА'ЦЬ *незак.* Святкаваць сустрэчу вясны ў апошні дзень перад вялікім постам (звычай). *Васну́ють малы́е і стары́е, гуляють цалу ноч.* Альпень. *Як весна, то веснуем, поём.* Хотамель.

ВЕСНОВУ' *прым.* Вясенні. *Весновы́ ве́цёр.* Бярэжцы. *Веснову́ дзень год корміць* (прымаўка). Хачэнь.

ВЕСНО'Й, ВЕСНО'Ю *прысл.* Вясной. *Розле́й весно́й цэ́бер воды́, то ложка гразе́, а у́восень розлей ложку воды, то цэбер гразе.* Сямігосцічы. *Весной як лецеў той буран, то у́се тэ звернуў.* Мачуль. *Тудою ішоў весною гончак з сольо.* Пагост. *Зайчыкоў часнок елі дзеці весной.* Хачэнь. *Не́ку бабу́сю спевалі, ек гулялі весной.* Сямурадцы.

ВЕСНУ'ШКІ *мн.* △ На весну́шкі (падае)

снег. Пра снег, які выпадае пасля прылёту птушак з выраю. *На веснушкі падае снег — кажуць, ек поўрэй весной да снег валіць.* Верасніца.

ВЕСНЯ'К, ВЕШНЯ'К *м.* Вясенні вецер. Запясочча. *Весняк проняў — сено плохое. Покладу дрова на дворэ, дак воны як бачыш на вешнякў вўсохнуць.* Цераблічы. *Весною весняк сквозніць, вон холодны.* Любавічы.

ВЕСНЯ'НКА *ж.* Воўна веснавога настрыгу. Запясочча.

ВЕ'СТКА *ж.* Вестка, навіна. *Вестка недобра.* Аздамічы.

ВЕСЦІ' *незак.* 1. Весці, суправаджаць. *Дзве бáбу конячкой прыехалі дай ведуць корову.* Дварэц. *Мне охотнéй будзе — я буду за поводзец весці, а ты будзеш подгоняць.* Хачэнь. 2. Цягнуць, пракладваць. *Трэ весці шлях.* Луткі. Весці партыю (пры спевах). *Каця надо шоб вышэйшы голос вела, ее голос вышэйшы.* В. Малешава. Паўтараць, гнуць сваю лінію. *Пошлі му, а вон одно ведзе — нічого не будзе...* Верасніца. 3. Выводзіць, нараджаць. *Годзюка ведзе дзеці.* Бярэжцы.

ВЕСЦІ'СА *незак.* 1. Працягвацъ пладзіцца, гадавацца. *Хочэ баба зробіць оброк, як дзеці не ведуцца.* Сямігосцічы. *Шчэ з мого вена ведзецца товар.* М. Малешава. 2. Працягвацца, быць звычаем, традыцыяй. *З тых дзедоў у нас так ведзецца.* В. Малешава. 3. Весціся, мецца ў дастатку. *Як на велікдзень на ўсюночну зоўзюлька першы раз закуе, то тарабáняць кішэнем, коб грошы веліса.* Хачэнь.

ВЕСЦЬ *ж.* △ Н е м á  в é с ц і. Немаведама. *По сўху можэш носіць нема весці колько* (пра бацінкі). Луткі. Н і  ч у т к і,  н і  в е с ц і  (н е м á). Пра бясследнае знікненне. *Загіб, нема ні чуткі, ні весці.* М. Малешава.

ВЕ'ТКА *ж.* 1. Мяцёлка, галінка, пладаноснае сцябло (звычайна з зернем, пладамі). *Ек унáдзяцца вороб'е просо піць, то ветка остаецца, а просіны ні одной нема.* Луткі. *Ваткé хорошые — будзе просо ядронэе.* Мачуль. *Ветка бобу.* Хачэнь. *Вéткі ягод.* Пагост. Жытні колас. *Выбіралі з снопоў кулé — трэба браць за вéткі і трусіць.* Хотамель. *Жалі да на прост клалі, вéткамі ўгóру, а гузырэ ўніз.* Верасніца. 2. Гравілат рачны (?). *У ветцы тры лісцінкі і колéнцэ чырвóное, вона бы бобоўнік.* Луткі. *Вéтку кладуць у горэлку, ек понос, то коўтнўў і готово.* Чэрнічы. *Бабы гомóняць, шчо по жэнской болезні п'юць*

*гэту ветку.* Хачэнь. *Жонкі зовуць ветка, а мужчыны — ра́меннік тэ зелье.* Там жа. *Памянш.* в е́ т о ч к а. *У стоко́лосы на ве́рсе богато веточо́к.* Бярэжцы.

ВЕ'ТЛА. *ж.* Вярба (звычайна вярба белая). *На ве́тлі сілега не росце.* Верасніца. *Весной воды до веце́л.* Кароцічы. *Ветла жілава, цвіце жоўценькім.* Хотамель. *Е сілега, е і ветла, у ве́тлы дробне́йшы ліст.* Любавічы. △ Б е л а я в е т л а. Вярба белая. *Белая ветла на ду́гі хороша, у ее ствол белы.* Луткі. П е с к о в а́ в е т л а. Вярба белая, якая расце на пяску. *Е ветлы пескову́е і просту́е.* Дварэц. *Памянш.* в е́ ц ё л к а. *Я пойду под ве́целкі да лягу.* Дварэц. *Жукі бізыкаюць, іх збіваюць з вецело́к дзеці.* М. Малешава. *З ве́цёлкі скруцяць дудку і іграюць.* Верасніца.

ВЕТЛО'ВУ *прым.* Вярбовы. *Ветло́ве ложкі робілі.* М. Малешава. *Ветло́ва м'екка́я, а дубова цвёрда* (пра драўніну). Цераблічы. *Дугі гнулі ветло́вуе.* Верасніца.

ВЕ'ТЛЫ *прым.* Ветлівы, далікатны, выхаваны. *Така вона ветла, красіва, хороша, така слаўна!* Кароцічы. *Ветлые людзі не говорацъ абу́-шчо.* М. Малешава.

ВЕТРА'К *м.* Ветраны млын. *Ветра́к з до́шок буў.* Хотамель.

ВЕ'ТРАЦЬ *незак.* Выветрывацца. *У тым це́неці вона ве́трае кругом* (рыба пры сушцы). Луткі.

ВЕТРО'ЎКА *ж.* Ятроўка. *Ветроўка — то жонка брата мужа.* Запясочча.

ВЕ'ТРЫЦЬ *незак.* 1. Дзьмуць. *Ветрыць — это на дождж.* В. Малешава. 2. Прынюхвацца. *Корова ветрыць, коб у шкоду.* Цераблічы. *Ве́тру, ве́тру вочамі, дзе вон тут жыве. Вон коло магазіна ветрыць, хочэ вупіць коб з кім.* М. Малешава.

ВЕТРЫ'ШЧЭ *н.* Вялікі вецер. *Ветрышчэ, то не відаць, як рыба торка́е.* Цераблічы.

ВЕ'ТРЭНІК *м.* 1. Вятрак, ветраны млын. *У Любовічах і ў Цераблічах ветрэнікі булі, крыла большые, обшытые полотном.* Луткі. *Ветрэнік млін стояў ге́.* Цераблічы. *У ветрэніку млінў е́ корыто на мукў, а зве́рху кош на жыто.* Там жа. 2. Флюгер. Кароцічы. 3. Жэрдка, якая звязвае кроквы са сцяной. *Ветрэнік прыбіваецца до сцены́ і кроквы, шоб дзержаласа кроква.* Сямігосцічы. *С серэдзіны этые ветренікі прыбіваюць, оны робяць подстропільну раму.* В. Малешава.

ВЕ'ТРЭНІЦА *ж.* 1. Дошка з бакоў шчыта. Запясочча.

2. Жэрдка, якая звязвае кроквы са сцяной. *Ветрэніца прыбіваецца до кроквіны і до сцены́*. Цераблічы.

ВЕ'ТРЭНЫ' *прым*. Ветраны. *Дзень хмурны, холодны, ветрэны́ такі, а вон пошоў на рыбу*. В. Малешава. △ В е т р э н ы́  м л і н. Вятрак. *Ветрэны́ млін буў з крыламі на погу́рку*. Цераблічы. В е́ т р э н ы  л і ш а́ й. Вятранка. *Ветрэны лішай лупіцца, плямы белые на віду́ е*. Луткі. В е́ т р э н ы  о х в а́ т. Хвароба коней (калі ўспацелага каня пройме халодным ветрам). *Як ветрэны охват, то за́волокі давалі*. Дварэц.

ВЕХА' *ж*. 1. Амяла. *У вехі ліпкіе ягоды такіе, рошчаві, так цягнецца крэпчэй за гуміера́біку*. Запясочча. *Вехо́ю яйца покрасілі, так воны жоўтые*. Аздамічы. *Веха на берозе росце, на хвоі рэдко, ягодкі е солодкіе, аж цягнецца з его*. Цераблічы. *Ягодкі беленькіе на весе́*. Там жа. 2. Вяха, знак забароны (пасці скаціну, таптаць і інш.). Запясочча. *Памянш*. в е́ ш к а. *Поставіў знак, вешку*. Запясочча.

ВЕ'ХОЦЬ *м*. і *ж*. Вехаць. *Ву́шуровала чыгуна́ ве́хцём*. Аздамічы. *Дзежа́-дзежа, хочэ ве́хця і ножа́* (прымаўка). Цераблічы. Факел у выглядзе вехця. *Трэба запаліць ве́хця*. Кароцічы. Пэндзаль у выглядзе вехця. *Поп кропіць ве́хоцью я́йца на паску, яблокі на спас*. Сямігосцічы. Вешка, скрутак галля ці травы на тычцы як знак забароны ці абмежавання. *Понаста́ўляў ве́хцёў, іх ста́ўляць, доку́ля товар пасці́, доку́ля косі́ць*. Луткі. *Ве́хці, дзе мелко, дзе глыбо́ко, ста́вяць*. Сямігосцічы. *Памянш*. в е́ ш ч ы к *м*. *Ве́шчыком мыюць чыгункі, кострулі*. Дварэц.

ВЕ'ЦЕ'ЛЬНІК *м*. Галінкі ветлы. *І з ве́цельніку плетуць кошэ́ль*. Хачэнь.

ВЕ'ЦЁР *м*. Вецер. *Вецёр і суша, то ўсе погорело*. Кароцічы. *Хата стоіць на са́мом га́лі — усе ве́цёр і вецёр кругом*. Луткі. *Як чорные жучкі моцно лета́юць, то кажуць, вецёр будзе* (прыкмета). Там жа. *Воўк за ве́тром чуе*. Верасніца. *Чы́рвоно захо́дзіць сонцэ — або ве́цёр або дождж будзе*. Там жа.

ВЕЦІ'СТЫ *прым*. Галінасты. *Рокіта веці́стая*. Цераблічы. *Вецісты оўёс*. Пагост. *Вецістэ просо*. Аздамічы.

ВЕЦЬ *ж*. Галіна. *Ве́ці на дзе́рэве ростуць*. М. Малешава.

ВЕЦЮ'-ВЕЦЮ'-ВЕЦЮ' *выкл*. Выгукі, якімі падзываюць свіней. Альшаны.

ВЕ'ЧКА *ж*. Авечка. *Я бувало вечкі па́сціла*. Хачэнь. △

Ве́чка дурна́я. Дурніца. *Вечко дурная, чого ты шчэ́рышса!* Верасніца.

ВЕ́ЧНО *прысл.* Заўсёды. *У нас вечно вода.* Бярэжцы. *Я кажу: не кагі на дзіця немка, бо стане дзіця говорыць да будзе немка вечно, усе зва́ціме его так.* Сямігосцічы.

ВЕ́ЧНЫ *прым.* Вечны, нязменны, старадаўні, пастаянны. *Вечные пустыні булі там.* Запясочча. *У вечном Полесьі ленты носяць на сподніцы.* Дварэц. *Вечны рай, вечное пекло.* Бярэжцы. *Вечны попас, то звёўса чэрэ́т од попасу.* Цераблічы. *Я то вечна ягодніца.* Верасніца.

ВЕ́ЧОР *м.* Вечар. *З ве́чора зо́ры булі. Ве́чэр.* Верасніца. *Твой конпа́н пошоў ужэ домоў строіцца, коб до вечора ўспець побро́хаць рыбу.* Лутні.

ВЕЧО́РКІ *мн.* Вячоркі. *Мо колі ідзеш на вечоркі к кому-небудзь, поседзець трохі, побалакаць?* Тураў. *Збіраюцца дзеўкі на вечоркі ў хату.* М. Малешава. *Пошлі на вечоркі — до суседа на цілівізор.* В. Малешава.

ВЕЧЭ́ЛІНА *ж.* Дубец з вярбы (ветлы). Запясочча.

ВЕЧЭ́РА *ж.* Вячэра. *Вечэру варым по́сну, а обед скоро́мны на дзеды́. У пятніцу ўвечэры варым вечэру, а ў суботу — обед.* Кароцічы. *Ні дам жэ вам за таку роботу ні обеду, ні вечэры.* Лутні.

ВЕЧЭ́РАЦЬ *незак.* Вячэраць. *Мар'е, о Мар'е, ходзі вечэраць, а то картоплі похоло́далі!* М. Малешава. *Я ўжэ строюса вечэ́рац.* Запясочча.

ВЕЧЭ́РНІ *прым.* Вячэрні. *Вечэрня пора.* В. Малешава. △ Вечэрня зора́ (зо́рка). Зорка Венера вечарам. *Вечэрня зора, бо першая з вечэра сходзіць.* Цераблічы. *Вечэрня зора вечэром, а уранку светова́.* Альпень.

ВЕЧЭРО́ВЫ *прым.* △ Вечэро́вэ молоко́. Малако з вячэрняга надою. Цераблічы. Вечоро́ва зо́рка. Зорка Венера вечарам. Запясочча.

ВЕ́ЧЭРО́М *прысл.* Увечары. *Значыць, убачымса ве́чэром.* Пагост. *Прыедуць вечоро́м.* Кароцічы. *Ек воды багато, то іх* (матылёў) *багато ве́чэром і рано.* Цераблічы. *Сло́нкі вэ́чэром шнуру́юць.* Мачуль.

ВЕЧЭРЭ́ЦЬ *незак.* Вечарэць. *Стало вечорэць, коб скорэ́й домоў.* Дварэц. *Як вечэрэ́цьме, то зачыняць трэбо окно, шчоб не лецело нішчо.* Там жа. *Сонцэ зайшло, ужэ вечорэ́е.* Пагост.

ВЕЧЭ́РЭШНІ *прым.* △ Вечэ́рэшне молоко́. Малако з вячэрняга надою ці якое засталося ад вячэры. В. Малешава.

ВЕША'К *м.* 1. Вешалка. *На вешакý твой пінджáк, чого ты на полý его шукаеш!* Кароцічы. *У сéнях на вешакý вісіць бýтля.* Луткі. 2. Вешалка ў адзенні. *Вешакá прышывай, стóнжэчку.* Луткі.

ВЕ'ШАЛКА *ж.* 1. Шыбеніца. *Вернуўса, а ёгó сем'я на вéшалцы вісіць.* Запясочча. *Перэд негóдою хоць ты на вешэлку ідзі, так усе боліць!* М. Малешава. *Коб на вас вешалка найшлá, ек ву ходзіце ў яблука!* Там жа. 2. Жэрдкі для прасушвання сена, сетак і інш. Аздамічы. 3. Нізка скруткаў лазы. *Цэла вэ́шалка вэрчóў тых была.* Мачуль.

ВЕ'ШАЛО, ВЕ'ШАЙЛО *н.* Вязка, нізка. *Вешало барáнкоў наніжэ да везе.* Аздамічы. *Назбіраюць вешало остóпкоў да несуць на купайло паліць.* Сямігосцічы. *На вешало верчы́ вéшалі і сушылі на зіму на хáці.* М. Малешава. *Вешало мо кілóў дзесяць рыбу попёр.* Луткі. Пэўная колькасць звязаных ці нанізаных прадметаў. *Трыццаць верчóў гэтэ вешало.* Цераблічы. *Лóзу надзеруць дваццаць верчоў — вéшэло.* Там жа. *Вешайло лапцей.* В. Малешава.

ВЕ'ШАЛОК *м.* Вязка. *Несе цэлы вéшалок верчоў* (25 штук). М. Малешава.

ВЕ'ШАЛЬНІК *м.* Шыбенік, вісельнік (самагубца). Бярэжцы.

ВЕ'ШАЛЬНІЦА *ж.* Шыбеніца. *Коб ты попаў на вешальніцу!* Мачуль.

ВЕ'ШАЛЬШЧЫК *м.* Вісельнік. *Вéшальшчыка й не помінаюць, ховаюць і по домах ідуць.* М. Малешава.

ВЕ'ШАЦЬ *незак.* Вешаць, чапляць. *Крынджóлы на полі поставіць да кольбéль вешае.* Верасніца.

ВЕ'ШНІЦА *ж.*, ВЕ'ШНІЦЫ *мн.* Весніцы, вароты з жэрдак. *Як вешніца, то бедны хозяін.* Запясочча. *Я вéшніцу зачыніла, корова ўжэ не ўлезе.* Дварэц. *Вéшніцы, оны вісяць на такой сцежэé.* В. Малешава. Брама пры выхадзе з вёскі. *Проведу цебе, унýчко, до вéшніцы ў конце села, а далей сама пойдзеш.* Пагост. Навясныя дзверы ў куранi. *Вéшніца.* Запясочча. *Памянш.* в é ш н і ц к а. *Тут вéшніцка е захóдзіць.* Запясочча.

ВЕШНЯ'К, ВЕСНЯ'К *м.* Вясенні вецер. *Вешняк дóбро сýшыць дрóва.* Луткі.

ВЕ'Я *ж.* 1. Века, павека. *Вéі нахмýрiў.* Альшаны. *От вéяты* (пагардліва) *напусціла!* Сямігосцічы. 2. Завея. Луткі.

ВЕ'ЯЦЬ *незак.* 1. Веяць. *Веялі жыто вéелкою.* Азда-

мічы. 2. Развявацца. *Вона вее, тая борода, і товар шчэ ходзіць по полі.* Хачэнь.

ВЕ́РТКІ *прым.* Жвавы, хуткі, энергічны. *Ек чоловек вёрткі, то і тэ і се ему трэба.* Верасніца. Вяртлявы. *Вёрткое дзіця, сю́ды-ту́ды кідаецца.* В. Малешава.

ВІ́ГЛЯ *ж.* Дурніца. *Ва́ле, чому цебе вігля баба зове? — Тому шчо нічога.* Цераблічы.

ВІД *м.* Твар. *Мой від огнём горы́ц.* Запясочча. *К ліхому віду отрэ́залі й но́са* (прымаўка). Дварэц. *Е́во, сядзь ві́дом, а то будзеш седзець плечы́ма на ка́ртоццы.* Луткі. *Ву́цолуе і ў рукі і ў від: не хворэ́й, бабо.* Аздамічы. *Трэба ж пчоле́ ўкусіць за від, то і домоў ледзь прышоў.* Мачуль. *Гледзі, Дземід, на свой від* (прымаўка). Там жа. *Як даў у від, то, ка́а, кроўю вочы пазаліва́ліса.* Альшаны. *Торкне́ш ёго́* (заткала) — *тобе на від со́пуха па́дае.* Сямігосцічы. △ Н а  в і д у́. У твар, з твару. *Прышлос мне его на віду́ побачыць.* Хачэнь. *Яка хороша на віду молодзіца.* Запясочча.

ВІДА́ТЫ *прым.* З вялікім тварам, круглатвары. *Поўна да така відата жонка.* М. Малешава.

ВІДА́ЦЬ *незак.* Відаць, бачна. *Відаць було, шо дождж будзе.* Верасніца.

ВІ́ДЗІЦЬ *незак.* Бачыць. *Што відзіў, то й бры́дзіў* (прымаўка). Кароцічы.

ВІДЗЮ́ШЧЫ, ВІДЗЮ́ЧЫ *прым.* Які добра бачыць. Аздамічы.

ВІ́ДЗЯ *дзеепрысл.* Бачачы. *Стрэляў так, по ком відзя.* Луткі.

ВІДНІНА́ *ж.* Бачнасць, яснасць. *От відніна, хот ты го́лкі збірай!* Луткі.

ВІДНО́, рэдка ВІ́ДНО *прысл.* 1. Бачна. *Цэгла відно́ на Ля́дзе.* Бярэжцы. *Да ўжэ не відно́, шо то коні.* Луткі. *З лесом роўно, да з лесу не відно* (загадка). *У дзерэві серцэ* (адгадка). Там жа. *Пошоў той «пан» з дзедовою люлькою, не відно́, дзе вон і дзеўса ў лозе.* Цераблічы. *Далеко відно трактора ў полі.* М. Малешава. *Ложыцеся спаць, а заўтра будзе ві́дно.* Хачэнь. *Відно пана па халявах* (прымаўка). Там жа. 2. Світае. *Ужэ відно́ — дзень.* Аздамічы. *Уставай, ужэ відно, да йдзі жакі похожа́й.* М. Малешава. *Ві́дно.* Альшаны.

ВІ́ДНЫ *прым.* Бачны. *По розорах була вода, а поградзе по цвето́х клубніка відна стала, зацвіла.* М. Малешава.

ВІДО́ЛІЦА *ж.* △ Н а  в і д о́ л і ц ы. На відавоку, на

адкрытым месцы. *Трохі дзе на відоліцы зобрала.* Луткі. *На відоліцы стоіць хата.* Аздамічы.

ВІ́ЛІЦА *ж.* Прылада вязаць сеткі. *Віліца і берцэ— жакі везаць.* Аздамічы. *Віліца для ніток, це́нето везаць.* Цераблічы.

ВІЛКІ́ *мн.* 1. Вілкі (для печы). *Вілкамі цягаём чугуны, горшкі з печэ́.* М. Малешава. *У вілка́х простоя́ла дзень.* Дварэц. 2. Вілы. *З віло́к зуб.* Бярэжцы. *Вілкамі навоз трусяць на полі.* М. Малешава. *Як казалі тые людзі, му два сто́га без віло́к накла́лі* (жарт). Там жа. △В і л к í п о ч ы н а́ л ь н ы е̇. Вілы з кароткім дзяржаннем, якімі пачынаюць стог. М. Малешава. В і л к í п о д с т о́ ж н ы е. Вілы з дзяржаннем сярэдняга памеру, якімі падаюць на стог. Там жа. В і л к í в е р х о в ы́ е. Вілы з доўгім дзяржаннем, якімі завяршаюць стог. Там жа.

ВІЛКОВІ́НЬЕ, ВІЛКОВЕ́НЬЕ *н.* Дзяржанне ў вілах. *Вілковіньe однэ́ полома́лоса, едзь у лес да ву́сеч.* Луткі. *Обкорыць ножэ́м вілковенье троха трэба.* В. Малешава.

ВІ́ЛО́ЧНІК *м.* 1. Дзяржанне ў вілках (для печы). *А вілочнік — палка обукновенна, без рог, а наклада́юць ро́гі жэле́зные.* В. Малешава. *Віло́чнік.* Хачэнь. 2. Вілкі, качэргі, чапёлы разам. *Наруба́еш у лесі орешніку на ручкі для вілочніка, а то етые перегорацъ скоро.* Пагост.

ВІ́ЛЬЧЫК *м.* 1. Верх, верхавіна (дрэва, страхі). *На самым вільчыку на ёлцы шышкі.* Запясочча. *Сена под вільчык* (у адрыне). Кароцічы. *Чого-то ты на вільчык залез, от ек гры́мнеш, то й косцёй не зберoм.* Там жа. *Под вільчык м'яту солому покладзе і прыложыць ко́зламі.* Аздамічы. *У са́мом вільчыку дзе́рэва бу́ськовэ кубло.* Альгомель. 2. Макаўка (галавы). *На вільчыку на са́мом плеш у кс́ендза.* Верасніца.

ВІНДОВА́ЦЬ *незак.* Круціць, круціцца. *У гэ́том кошы́ так відну́юць ты́е у́юны́!* Луткі. *Віндуюць по полю віхры́, лецяць.* Цераблічы. Бегаць, насіцца кругом. *Увогна́лі у́ кошару да ек сталі віндоваць корову́!* Луткі. Дурэць, балавацца, буяніць. *Не віндуй, ліха твою мацер! Вон сам нічогі, навек віндуе.* Аздамічы. *От віндуе, не можно і у́дзержа́ць.* Там жа. *Ты віндуеш перва — хочэш перва й плакаць.* Цераблічы.

ВІ́НДЫ *мн.* △В і н д ы о т п р а ў л я́ ц ь. Гарэзнічаць, насіцца. *Такіе дзеці, ім дай погуляць, воны ж у хаці вінды отпраўляюць.* М. Малешава.

ВІ'НЕН, ВІ'ННЫ *прым.* Вінаваты. *Пятнанцаць сот вінен буў.* Дварэц. *Вы мене спро́сіце, ці вінно моё дзіця?* Луткі.

ВІНО' *н.* Віно. *Багатая мед-віно п'е, а сіроціна слёзы лье* (з песні). Сямурадцы.

ВІНОВА'Т, ВІНОВА'ТЫ *прым.* Вінаваты. *Була тры копейкі віновата.* Цераблічы. *Мой бацько нікому не віноваты: у того ўзяў, тому оддаў* (прыказка-жарт). Там жа. *Буха́нкі віновата, то трэбо оддаць.* Хачэнь. *Да шчо ж воны віноватые, тые людзі?* В. Малешава.

ВІНОВА'ЦІЦЬ *незак.* Вінаваціць. Верасніца.

ВІНОГРА'Д *м.* Вінаград. *Яблука шыпахáмі віселі, як віноград.* Хачэнь.

ВІР *м.* Вір. *Нехай там на том месці вíра вы́круціць!* Сямігосцічы. Яма, выкручаная вадой у час паводкі. *Віра́ вукопала вода на боло́ны.* Там жа. Крыніца на дне вадаёма. *Там вір глубокі да вода холодная.* Хачэнь.

ВІРО'К *м.* 1. Вір. *Вірок буў такі глубо́кі, шо звеза́лі тры весла́ і дна не досталі.* М. Малешава. Яма на затопленым месцы, выкручаная вадой у час паводкі. *Віркі — малы́е озерца́ на болоці.* Аздамічы. *Вірка́ вода вукруціла весною коло Антоновой хаты.* М. Малешава. *Було болото, то віркі булі.* Талмачава. *Вода ў вірку́ стоіць, нібі ў цэбры.* В. Малешава. 2. Прылада матаць ніткі ў клубок. Запясочча.

ВІС *м.* Тое, што вісіць (у песні). *О, віcу наш віcу! Ды наліймо воды ў місу. Ды ру́чэнькі помы́ймо, на вішэньку зліймо. Шоб вішэнька развіва́ласа, молоды́е красова́ліса* (з вясельнай песні). М. Малешава.

ВІ'СА *ж.* Тое, што вісіць( у загадцы). *Хо́да хо́дзіць, віса вісіць, віса ўпала, ход з'ела* (загадка). *Свінья́ і жолу́д* (адгадка). Пагост.

ВІ'СЕЦЬ *незак.* Вісець. *Но́ве сітцо на коло́чку вісіць, а старе́ под ла́вою лежы́ць* (прымаўка). Аздамічы. *Вісіць лёд, ек скала́, ек шопа́.* Цераблічы. *Оконіцы вісяць на ўсіх во́кнах у мене́ шчэ.* Сямігосцічы. *Коткі вісяць на осіне.* Там жа. *Коўбасы, карука́ начы́няць да подвешваюць, да воны вісяць.* Верасніца. Быць, знаходзіцца. *А наш бацько за па́робка вечно вісе́ў у пана.* Там жа. *А на́шчо, шоб вонэ там вісело, п'янэ́, за столо́м?* М. Малешава. Хмурыцца, навісаць (пра надвор'е). *Так вісіць, ек у коло́дзежы.* Кароцічы.

ВІСК *м.* 1. Віск, прарэзлівы крык. *Віску наро́б'яць жонкі.* Аздамічы. 2 рэдка ВІ'СКА *ж.* Вісок, скроня. *Так*

*як два гла́за, так і два віскі. Одзін віск.* В. Малешава. *Попуска́ў віскі.* Альшаны.

ВІ'СКАЦЬ *незак.* Падаваць голас, клікаць (пра свінню з парасятамі). *Віскае до малы́х, шчэ пе́рві ў ее́.* В. Малешава.

ВІ'СКНУЦЬ *зак.* Віскнуць, крыкнуць прарэзлівым голасам. *Нат ані віскнуло, ані піскнуло!* Запясочча. *Як віскне, як крыкне на тых мо́гліцах!* Луткі.

ВІ'СКОТ *м.* Віск. *Гэ́токі шум у голове́, гэтокі віскот!* Аздамічы.

ВІСО'К *м.* Скроня. *Корова ўды́рыла ёго́ ў вісок, до́ўго-до́ўго лежаў, пока вы́робіўса.* Запясочча.

ВІТА'ЦЬ *незак.* Вітаць. *А мацi одзе́не кожух, ставяць дзежу, молоды ставіць но́гу на ве́ко, а мацi ёго́ віта́е ме́дом тры раза.* Луткі.

ВІ'ТКАЛО *м.* Кулік. *Віткало, вон у водзе седзіць да ўсе фіт-фіт.* Цераблічы.

ВІТУ'ШКА *ж.* Матавіла. *Вітушка — две ралцэ́ і дзірочкі.* Хотамель.

ВІХА'ЦЦА *незак.* Калыхацца, гайдацца. *Зробілі колу́ханку да віха́юцца.* Верасніца.

ВІХА'ЦЬ *незак.* Калыхаць, гайдаць. *Нога́мі не віха́йце!* Аздамічы.

ВІ'ХО'Р *м.* 1. Віхор. *Віхо́р подхваціць копу сена дай рострусіць по одной сеніне.* Дварэц. *Віхо́р рве, то чорт жэніцца.* Бярэжцы. *Віхор, шчо пул круціць, то мо той сотана, нечысты?* Луткі. *Віхо́р церэз рэку перэходзіць.* Верасніца. *Віхо́р песок круціць, пашню ўсю вы́дуло.* В. Малешава. *Вы́ворот поддзеты гэтым абу-чым, віхром, то му его не бралі.* Хачэнь. 2. Неслух. Аздамічы. 3. Завіхрэнне валасоў на галаве. *Віхор на голове.* Аздамічы. *Памянш.* в і х р ы к, в і х о́ р ч ы к. *Начало віхрэць, віхрыкі ходзяць.* Верасніца. *Віхрык у коровы ніжэй очей — на молоко бі лепше.* Хотамель. *Віхорчык на голове у дзіцяці мого е, а ў твого два е.* М. Малешава.

ВІХРОВА'ЦЬ *незак.* Насіцца, гарэзнічаць. *От віхрова́ты, віхру́е наве́к.* Аздамічы. *Віхрэ́ лецяць. А хто то віхру́е? Сотана!* Цераблічы.

ВІХРЫ'ЦЬ *незак.* Круціць (пра вецер). *Начало́ віхрэ́ць. От віхрыць, зато́б вочы позапору́швало!* Верасніца. *Е прыкме́та: ек віхрыць, то і на дождж воно стане.* Луткі. *Коні ек бегу́ць, то за во́зом віхрыць, от ве́тру эта піль подніма́ецца.* В. Малешава.

ВІ'ЦЦА *незак.* Віцца, завязвацца. *Кочаны́ не ўю́цца гэты год.* Хачэнь.

ВІЦЬ *незак.* Віць. *Цыбу́лю ўюць на веро́ўчэнку і зовуць венок.* Дварэц. *Ую́ць поводца́ с конопе́ль.* Кароцічы. *Ее́ ж* (конскую волосню) *як не вець, то вона роскру́чваецца.* Луткі. *Ве́дра булі дзерэўя́ные, да ду́жкі вілі́ з лозы́.* Верасніца.

ВІШ *м.* Сухая леташняя або перастаялая трава. *Трава ў вішу́ оста́лас, завішэ́ла.* Луткі. *Віш ша́мае, нема ніякого клёку ў вішу́.* В. Малешава. *Віш косяць, а за́ра не можно доста́цца до того места, воды́ багато.* Сямігосцічы. *Бувало, бусько несе віш, то кажуць — дождж будзе.* Луткі. *Весно́ю худоба назбіра́еца вішу́, дзе голі́ну скусіць, дзе му́чку.* Там жа. Дрэннае, няякаснае сена. *Подсціла́ють коро́вам віш.* Альпень. *Віш на подсцёл, него́дное сено.* М. Малешава. *Курэ́нь кры́ты буў вішэ́м.* Сямігосцічы.

ВІШНЁВА'ТЫ *прым.* Блізкі да вішнёвага колеру. *Осот вішнёва́тым цвіце.* Дварэц.

ВІШНЁВУ *прым.* Вішнёвы. *Это вішнёвы цвет.* В. Малешава. *Возьмі но вішнёвой попрэ́буем настойкі!* Там жа. *Памянш.* в і ш н ё в е н ь к і. *Вона жоўценька, а ўсерэ́дзіне вішнёвенька.* Бярэжцы. △ К л е й в і ш н ё в ы. Смала на вішні. Мачуль.

ВІ'ШНЯ *ж.* Вішня (плод і дрэва). *Дзеці начавілі вішо́нь.* Дварэц. *Вішэнь було, ек росы́, по́ўно іх.* Хачэнь.

ВІШУГА' *ж.* Дрэннае, няякаснае сена. *Така́ вішуга́, шо ўзяцца не можно, вонэ рэ́жэцца.* В. Малешава.

ВІШЧА'ЦЬ *незак.* Вішчаць, крычаць прарэзліва. *Чую, на городзі вішчы́ць порося, шо да нет вішчыць!* Луткі. *У нас бояцца ўсёго́, шчо вішчыць, пішчыць, я ж сама боюса.* Там жа. *Вішча́ла, ек свінка ў плоце, так болело.* М. Малешава. *Вішчыць, шо ў небі чутно́.* Сямігосцічы. *Ек села кошка на собаку, на плечы, от вішчаў!* Хачэнь.

ВІШЭ'ЦЬ *незак.* Высыхаць, старэць, рабіцца непрыгоднай на корм (пра траву). *Вішэ́е трава, вісохла на пне.* В. Малешава. *Старэе трава, под віш подхо́діць, вішэ́е.* Альпень.

ВО 1 *часц.* Вось. *Во, мо не про́йдзем?* Запясочча. *Осё во, поба́, гэты нож, на столе́.* Луткі. *Думала, не забаўлюса, аж во еко́е поры́ прышла.* Хачэнь. *Во спаў, шо выспаў коня з огло́блямі.* Мачуль. 2 *прыназ.* У. *І во льне́ за́віток не рві, не беры, казалі.* Верасніца. 3 *прыназ.* На.

*Пошоў во ўсю ноч, будзе ісці п'яны до чотырох часоў.* В. Малешава.

ВО'БЗЕМЛЮ *прысл.* Вобземлю. *Вобземлю ударыў шапку.* Аздамічы.

ВО'БЛІЎКА *ж.* Адвар для насычэння снаванай пражы. *Му́ка — са́ма лу́чча вобліўка.* Луткі.

ВО'БМЕШКА *ж.* Абмешка, мучная запраўка корму скаціне. *У во́бмесцы аж шыпіць, ек увольеш воды.* М. Малешава.

ВОБРА'ЦЬ *зак.* △ В о б'р а́ ц ь б о́ к і. Схуднець. Кароцічы.

ВОВЁРКА *ж.* Вавёрка. *За рэкою ў дубі воўёрка жыве.* Верасніца. *Вовёрка орэхо́ў нанесе га́рцоў п'яць.* Любавічы.

ВО'ГКІ' *прым.* Вогкі, сыраваты, вільготны. *Росо́ю прыпало сено, да ўжэ вогке́.* Дварэц. *Воно робіцца кво́лэ на негоду, сено, вогке́.* Пагост. *Подцягло́ сено, стало вогке́е.* Цераблічы.

ВОГКОВА'ТЫ *прым.* Сыраваты. *Нельга грэсці сено, воно вогковатэ, можэ ў сто́зе курэ́ць.* Мачуль.

ВО'ГРУДКІ *прысл.* Загрудкі. *Беромса вогрудкі і бо́рэмса.* В. Малешава.

ВОДА' *ж.* 1. Вада. *После ры́бу вода п'еццa.* Хачэнь. *Як купа́емса, то скачэм на одной нозе і крычым: «Бу́сько, бусько, скінь коло́ду, ці на дождж, ці на погоду».—Як е́ вода́ у вуху, то будзе дождж.* В. Малешава. *Воды́ не давалі ў празнік за столом, коб гороб'е́ просо не пілі.* М. Малешава. 2. Плынь, цячэнне. *По вою́ бу́йстра вода́ ідзе.* Пагост. *Ціхая вода берэгі муе* (прымаўка). В. Малешава. 3. Вадаём, водная прастора. *Вода́ — не родны брат* (прымаўка). Дварэц. *Я на водзе шчэ ні ра́зу не буў у гэтом годзе.* Аздамічы. *До спа́са чорт на я́блуні седзіць, казалі, а як посве́цяць я́блука, то чорт у воду пошоў, после спаса ўжэ не купаліса.* Хачэнь. 4. Паводка, разводдзе. *На гэтом пого́рку стояла худоба ўся, як була вода.* Дварэц. *Тут булі такіе во́ды, шо колі ко́сіцца, колі не.* Альгомель. *О, цепер толькі почала запада́ць вода.* Чэрнічы. *Тры раз прыбува́лі во́ды.* Альшаны. 5. Вадкасць. *Воды богато ў са́ле на сковородзе.* Хотамель. △ К у м і н а́ в о д а́. Шырокі вір, месца ў рацэ, дзе ваду каля берага закручвае супраць цячэння. *Куміна вода поўз са́му кру́чу, дзе пры́кро.* Дварэц. П р ы б у т н а́ в о д а́. Паводкавая вада, якая прыходзіць з вярхоўя ракі (у адрозненне ад мясцовай вады, якая сцякае ў раку ў час раз-

воддзя, яна мае іншы колер). *Як вода розліла́са, то мы ка́ам: от прыбутна вода пошла.* Сямігосцічы. Х а́ т н я в о д а́. Летняя, чуць цёплая вада. Дварэц. З а в о д о́ й. Па цячэнню. *Караван ідзе за водой.* Дварэц. З в о д о́ й. Тое ж. *Сеў і з водою поехаў.* Луткі. П р о д а́ ц ь в о́ д у. Здаць у арэнду вадаём для лоўлі рыбы. Мачуль. Е к в о д ы́ ў р о т н а б р а́ ў ш ы. Маўкліва. *Седзіць ціхо, ек воды ў рот набраўшы.* Луткі. Ш ч о в о д ы́ н а п і ц ц а. Вельмі прыгожы. *Зробіласа така молодзіца, шчо воды напіцца!* Дварэц.

ВОДЖА'ЦЬ *незак.* Нараджаць, прыводзіць. *Котора жонка дзецей не воджа́е, то вона шо елі ногі цега́е.* Тураў.

ВОДЖЭ'НЬЕ *н.* Вышыванне. *Таке ўсе хорошэ воджэнье, усе ручнікі го́рыном во́джэны.* Цераблічы.

ВОДЗЕНІ'К *м.* Пухір. *Водзенікі на пальцах от роботы посе́лі. Ек гара́чэ во́змеш, то посхо́пваюцца водзенікі.* Луткі. *Водзенікі поўсхо́пваліса од прокіівы.* Цераблічы.

ВО'ДЗЕНО, ВОДЗЯ'НО' *прысл.* Водзяна, шмат вады. *Тут у нас во́дзено, про́сто ўсе поле поўмока́ло.* Луткі. *Во́дзено було, то не було молока.* Цераблічы. *Ты́е го́ды на́гле водзяно́ було.* Дварэц. *У нас водзя́но.* Кароцічы.

ВО'ДЗЕНЫ' *прым.* 1. Водны, вадзяны, звязаны з вадой. *Му — водзены́е лю́дзі, а полешукі боя́цца воды́.* Пагост. 2. Мнагаводны, у час паводкі. *Яцель — сця́га така́, боло́то, вельмі воно водзяне́.* Запясочча. *Тогды́ го́ды булі во́дзеные й водзеные.* Верасніца. △ В о д з е н ы́ п а у́ к. Вадамерка вялікая. Аздамічы. М я́ т а в о д з е н а́ я. Расліна, якая расце ў вадзе і падобна да мяты. *Мята водзеная од простуды до́брэ.* Бярэжцы.

ВОДЗЕ'ЧА *ж.* Шматводдзе, вялікая паводка. *От водзеча, водзішчэ большо́е.* Хотамель.

ВО'ДЗІК *м.* Гарлачык (кветка). *Вэсняные водзікі поспелі, і можна іх макоўкі есць.* Мачуль. △ В о д з і к і в о д з і ц ь. Вышываць. *Водзікі водзілі на сароцы.* Кароцічы. *Вона хорошэ водзіць водзікі на ручніку.* Луткі.

ВОДЗІНА' *ж.* Шматводдзе, вялікая паводка. *Да тогды́ водзіна́ була!* М. Малешава.

ВОДЗІ'ЦЦА *незак.* Хадзіць, хаўруснічаць, цягацца. *Водзіласа с тым жэніхо́м до́ўго.* Запясочча.

ВОДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Выводзіць, нараджаць. *Квоктýха во́дзіць ціпля́та, а буве́, так кво́кчэ да не садзі́цца, не па́дае ў кубло́.* М. Малешава. *Байструко́ў водзіла і родзі-*

*ла восем такіх хорошых дзёвочэк.* Сямігосцічы. *Кóлісь водзілі дзéці, а цепер не вóдзяць* (жарт). Верасніца. 2. Весці, цягнуць. *Добры трэ́бо голосóчэк, шоб пéсню водзіў.* Верасніца. 3. Вышываць. *Ручнікá воджý ёй, вóдзікі ўшывáю.* Аздамічы. *Наша баба любіць водзіць.* Цераблічы. △ Водзíць корогóд. Хадзіць, трымаючыся за рукі і спяваючы. *Корогод на Юр'я вóдзяць.* Бярэжцы. Водзíць плоты́. Ганяць плыты, займацца плытагонствам. Верасніца. Головá вóдзіць. Пра галавакружэнне. *У мене голова водзіць, усё рóўна, як п'яны.* Хачэнь.

ВОДЗІ'ШЧЭ *н.* Шматводдзе, вялікая паводка. Хотамель.

ВОДЗЯ'ГА *ж.* Бадзяга. *Е таке зелье, водзяга зовецца, коб нацéрса, то від горэў бы огнём.* Сямурадцы.

ВОДЗЯ'К *м.* Пухір. *Не дзеры, пораздзіраеш, то будуць водзякі.* В. Малешава.

ВОДЗЯНІ'К *м.* Вадзяны млын. В. Малешава.

ВОДЗЯНІ'ЦА *ж.* Вадзяная расліна з доўгімі лістамі, якія расцягваюцца па вадзе. Альшаны.

ВОДЗЯ'НКА *ж.* Пухір. *Не хвора короўка, глáдкі товар, а ў некатóрых лёгкіе ў водзянкáх.* Дварэц. *Не трэ дзерці, а то водзя́нкі посхóпваюцца.* Цераблічы.

ВО'ДЛУГ *прыназ.* Паводле. *Водлуг цебе я гэто зробіў?* Луткі.

ВОДНЯ' *ж.* Нараджэнне (дзяцей), выводжванне (птушанят і інш.). *Як ты тэ́е дзéці наводзіла стóлько? — Такáя ім і водня́ була: одно попéродзе, другé за плечы́ма.* Кароцічы.

ВОДОПО'СЦЬЕ, ВОДОПО'ШЧ'Е *н.* Дзень посту перад хрышчэннем. *Водопóсцье перэд крэшчэ́ньем, колі пóсцяць шчы́рым постом до вечэ́ры.* Луткі. *На водопóсцье вечэру вараць, а котóра хóчэ гадáць, то самá собе навáрыць солёных з лушпáйкамі картóпляў, ні с кім не говóрыць і ложы́цца спаць, а ўнóчы прысніцца сон, шо хлóпец вóду подаé, за тогó пóйдзе.* Там жа. *Водопóшч'е.* Запясочча.

Згодна са звычаем, у гэты дзень дазвалялася да вечара толькі ваду піць. Было таксама павер'е, што ў гэты дзень не трэба таксама коней паіць, каб не баяліся апою.

ВОДОПРОЦЁК *м.* Вадзяная жыла. *Под землéю процекáла така цеч, водопроцёк у рэ́ку.* Луткі.

ВОДО'РОСЛІ *мн.* Водарасці. *Рóпуха ў водзé, там дзе водóрослі.* Любавічы.

ВОЕВА'ЦЦА *незак.* Змагацца, спрачацца. *Воны за ту пшэніцу воевáліса. Вон кажэ: моя пшэніца, а вона кажэ: і моé тут грошы é.* М. Малешава. Буяніць, бушаваць. *Прышоў да тут воюесса?!* Хачэнь.

ВОЕВА'ЦЬ *незак.* Ваяваць, весці вайну. *Ту́рок кóлісь воевáў да зробіў у Турове Туркóў колóдзезь, вода хорóша була.* Дварэц. *Гэто було, ешчэ як старызною* (у 1915 г.) *немец воевай.* Верасніца.

ВОЕ'НШЧЫНА *ж.* Ваенныя, вайскоўцы. *Кóлісь там военшчына жылá.* Запясочча.

ВОЁБО'Й *м.* Зверабой. М. Малешава.

ВОЖА'К *м.* Важак. *А то вон вожак цыгáнскі.* Запясочча. *Вожак вóдзіць курэ́й.* Аздамічы.

ВО'ЖКІ *мн.* Лейцы. *Чэпляй вожкі коню́.* Верасніца. *Загубіў вожкі да рэмéнные.* Аздамічы. Тонкая канапляная вяроўка. *От возьму́ вожкі да ек отхрышчу́!* Верасніца.

ВОЗ *м.* 1. Воз, калёсы (рэдка — і брычка). *Пан вуеждáе, а собакі белые да усякіе бегуць за возом. Тогды ж не було машын, а ездзілі возáмі ў Туроў.* Верасніца. *От пішчáлі возы кóлісь!* Там жа. *Вóза ў дуб, а кóні поплулі поўз дуб.* Бярэжцы. 2. Мера вагі (звычайна сена), роўная 25 пудам. *Там на п'яць воз сéна.* Дварэц. *Воз сена кажуць, як на санях прывезé, а на вóзе — колеснíк сена, кажэ, прывéз.* Запясочча. 3. Сузор'е Вялікая Мядзведзіца. *Воз — сем зор.* Мачуль. △ Воз з дышлем поломáным. Сузор'е Вялікая Мядзведзіца. Кароцічы. Воз на карасёх. Від старога воза. Цераблічы.

ВОЗА'К *м.* Вазак. *Тые возакі заехалі, там і коні попускалі.* Цераблічы. Возчык леса, абознік. Запясочча. Той, хто вязе маладых. Хотамель.

ВО'ЗДУХ *м.* Дух, дрэннае паветра. *Под ду́бом дзéржыцца воздух, то там і ўдарáе гром, а на гáлі — не.* Хачэнь. Паветра. *Воздух недóбры, открый окно, коб свéжого воздуха найшло.* Сямурадцы.

ВОЗДУ'ШОК *м.* Кавалак палатна (2 м), за які ў царкве браліся ўсе прысутныя і чыталі памінальную малітву. Запясочча. △ Возду́шка знімáць. Адправа па нябожчыку ў 6 тыдняў, у 6 месяцаў і ў год пасля смерці. *У цэ́ркві небóшчыка памінаюць і возду́шкі знімáюць.* М. Малешава.

ВОЗЕ'НКА *ж.* Клопат, турбота. *Колькі з ёй возéнкі, себе не гледзі, да ўсе её.* В. Малешава.

ВО'ЗІК *м.* Вазок, ручная каляска. *Возьмі ў Я'ндрыка*

*возік да перевезом мешкі.* Верасніца. *Возік е, шоб дзіця посадзіць і возіць.* Аздамічы. *Носём кошэлём песок? — Коб вóзіком!* Цераблічы.

ВОЗІ'ЦЦА *незак.* Шморгацца. *Ласіца по корові возіцца, то мокра корова.* Сямігосцічы.

ВОЗІ'ЦЬ *незак.* Вазіць. *Ее возіць не перэвозіць, тую гліну.* Запясочча. *На тóлоку возяць хату, домóк, одрыну. Не возяць гной, як хто ўмрэ* (бо ўсё на полі загіне, павер'е). Луткі.

ВОЗІ'ШЧЭ *н.* Накладзены з вярхом воз. *Возішчэ мах накладзé!* М. Малешава. *Возішчэ лёну поўёз на слішчэ Петрó.* Там жа.

ВОЗОВУ'ХА *ж.* Вялікая вырабленая скура. Хільчыцы.

ВОЗО'К *м.* 1. Лёгкі выязны вазок або санкі. *Возкі робілі машчáне.* Мачуль. *Чым поехаў, саньмі? — Не, возкóм.* Любавічы. 2. Панцыр чарапахі. Мачуль. 3. Вялікая Мядзведзіца. Аздамічы.

ВО'ЗЬМА ж. Валтузня. *Прыедуць хлопцы і будзе на вуліцы возьма.* Аздамічы.

ВОЙ *м.*, рэдка ВОЕ' *н.* 1. Теравой, адзін рад матэрыялу пры пляценні бочак з саломы, агароджы з дубцоў, пры накрыванні страхі саломай і інш. *Зробіў плот на п'яць воёў.* Аздамічы. *Первы вой прошлі ў плóці.* М. Малешава. *П'яць-шэсць воёў наплетáем у колкі, кáжного воя збіваеш топором ці колкóм, шчоб буў густы плот,— і стояць рóўненько.* Там жа. *14 лáцін у стрэ́се, бо берэ́м сем воёў.* Хотамель. 2. Доўгая палачка ў бёрдзе, да якой прымацаваны трасціны. *У бéрдзе воі, тросць, лёсткі.* Луткі. *Вой лёг у бéрдзе, не дзéржыць, перэсыпáць трэба бéрдо.* М. Малешава. 3. Быстрак, стрыжань у рацэ. *Дзержысь воéм, шоб цебе не прыбіло* (да берага). Аздамічы. *Самым воéм ідзе шатва.* Верасніца. *Гэто там сама серэ́дзіна, дзе воé.* В. Малешава.

ВО'ЙМА *ж.* Пушок пад кроснамі. Хотамель.

ВОЙНА' *ж.* Вайна. *Нека война, стрэл у Турові узяўса.* Бярэжцы. *Кому война, а кому маць родна* (прымаўка). Верасніца. *Памянш.* в о́ й н о ч к а. *Кому война, кому войночка* (прымаўка). М. Малешава. △ В о й н у з в о ё в а ц ь. Прайсці ўсю вайну, перажыць вайну. *Я не бачыў такіх людзей, да шчоб войну звоёвáлі і так гуляць моглі!* Верасніца.

ВО'ЙСКО *н.* Войска. *Кажуць, царыца Еўга вела*

*своё войско. А була суша, да вукопала колодзедзь, і там вода ўсе ўрэм'е* (легенда). Хільчыцы.

ВОЙСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Мы поедом сокеры войстріць.* Пагост.

ВОЙЦІ' *зак.* Увайсці. *Войшоў у село да ўсе по пругменках дзіўлюса.* Цераблічы. *Войдзі ў хату, не стой.* Бярэжцы.

ВОЙЦЯ'ЦЬ *незак.* Крычаць, сварыцца. Бярэжцы.

ВО'ЙЧЫК *м.* Птушка чакан (?). А́льшаны. *Памянш.* в о́ й ч ы ч о к. Альшаны.

ВОЛ *м.* Вол. *Колі запрагаюць, то вол.* Аздамічы. *Чоловек не вол, у одной шкурі не жыве* (прымаўка). Запясочча. *Доброго вола не вупусцяць с села* (прымаўка). Чэрнічы. *Спіць, як волы продаўшы* (прыказка). Лутні. *Чэшыса вол з волом, конь з конём, а ты, свіньяа, з тым, шчо нема з кім* (прымаўка). В. Малешава. *Рэве як вол.* Бярэжцы. *Одзін вол за двух ко́ней повезе.* Хачэнь. △ Ч э р э́ ц е н ы  в о л. Бакас. *Чэрэцены вол маленькі, з доўгім носом, жоўты.* Запясочча. Н а с т у п і ц ь  ч о р н ы  в о л  н а  н о́ г у. Пра бяду. *Ек наступіць чорны вол на ногу, тогды познаеш.* М. Малешава. *Памянш.* в о л і к. *Я думала, молодзенька, шо волік пасецца, а то ж моя доля шляхом волочэцца* (з песні). В. Малешава. △ В о́ л і к і  п а с ц і́. Ляжаць на жывоціку (пра малое дзіця). *Ленка волікі пасе, кажу, ек вона на чэрэві лежыць.* В. Малешава. В о́ л і к  ч э р э́ ч ə н ы. Бакас. Запясочча.

ВОЛЕ', ВОЛЬЕ' *н.* Валлё, валляк, складкі на шыі. *От, ка, натоптала свое воле ку́ра!* Луткі. *От под'ела воле ў коровы мошка!* Цераблічы. *По волью у коровы молоко опрэдзеляюць.* Дварэц. *Воле наросло, як гладкі, то е, а як худы, то не.* Запясочча.

ВОЛЕВА'ТЫ *прым.* З вялікім падбародкам. *Волеваты мушчына, такі гладкі.* Луткі.

ВОЛЕ'ЧНЫ *прым.* З вялікім валлём. *До́бро, шо нашы куры волечные, у огород не лецяць.* Любавічы.

ВО'ЛКІ *прым.* Сыры. *Волкое сено неможно грэбці.* М. Малешава. *Еслі волке сено, то трэбо солі трохі, шчоб не згніло.* В. Малешава.

ВОЛКОВА'ТЫ *прым.* Сываваты. *Одна копа волковата, а тые сухіе.* М. Малешава.

ВОЛО'ВУ *прым.* Валовы. *Ежэлі шыя воловая, то недобра корова.* В. Малешава. △ Я к  у  в о л о́ в е  у́ х о  п о п а́ ў. Пра цішыню. *Ціхо ў лесе, як ў волове ухо попаў.* Дварэц.

ВОЛО'ГА *м.* Закраса (?). *Як корова, то й вологa* (прымаўка). М. Малешава.

ВОЛО'ДАЦЬ *незак.* 1. Валодаць. *Не володае языком, хочэ сказаць слово і не можэ.* В. Малешава. *Вон тры гóды рукамі не володаў, да нехто доказаў, то вон того гавеза корэня піў.* Луткі. Рухацца, дзейнічаць. *Рукі, ногі не володалі.* Дварэц. *Ужэ не володае рука, не можэ шапкі наложыць.* В. Малешава. 2. Валодаць, мець ва ўласнасці. *Ім ніхто не володаў, то було заéднэ поле і рэчка.* Хачэнь.

ВО'ЛОК *м.* Волак, рыбацкая сетка. *У нас волок, а ў людзей брэднік, вон мешком дзелаецца.* Запясочча. *Пошлі мы, узялі волока да обловілі тую долінку.* Дварэц.△ Плавýчы вóлок. Волак, рыбалоўная сетка, прымацаваная да двух вертыкальных і адной гарызантальнай (знізу) жэрдак. *Ловім по бустрэ, по рэке плавучым волоком. Плавучы волок не мае жадного грузу.* Запясочча.

ВОЛО'КА *ж.* Тонкая вяровачка, абора. *Раменные волокі лепш за вероўчаные.* Тураў. *Стою подперазана волокою.* Запясочча. *Одны волокі кажуць, другіе — оборкі.* Чэрнічы. *Як роздво ідзе, то ўюць этые волокі.* Луткі. *Волокою дай шчэ ўязовою богатые хлеб рэзалі.* Сямігосцічы. *Памянш.* волóчка. *Подпережэцца волочкою да лéтае, лéтае ў позыкі.* Луткі. △ На волóку. У круглых зборках (пра халявы ў ботах, у адрозненне ад ботаў, халявы якіх сабраны «на вуглікі»). Хачэнь.

ВОЛОКА'ЦЦА *незак.* Валэндацца. *Дзірэктор волокаўса з ею два годы, жалеў ее, не гнаў.* В. Малешава. Валаводзіцца, вазіцца. *Корова у мене, ужэ надо збуць, а я ешчэ волокáўса год з ею.* Там жа.

ВОЛОКІ'ТА *ж.* Бадзянне. *Пусціў Мікіту на волокіту* (прымаўка). Запясочча.

ВО'ЛОС *м.* 1. Волас (толькі не ў чалавека). *У хвосце у коня волос, ёго ж звезаць трудно, вон жэ прудкі.* В. Малешава. *У часах волос порваўса.* Там жа. 2. Воласападобны чарвяк у вадзе. *На весне волосоў богато плыве за водою.* Кароцічы. *Волос, которы ў рэцэ плавае, як муеш, то учэпіцца, тонюсенькі, як волос.* Цераблічы. *Чэр'як доўгі, той волос. Бояцца, шчо як купаешса да ўкусіць, то век не загоіш.* М. Малешава. 3. Валасень, хвароба костачак пальцаў. *Вучышчаеш, вода, лугі, берэгі, вучышч і палца од волоса* (замова). Запясочча. *Боліць ваўка і стане горшэ болець, то кажуць: волос подкінуўса.* М. Малешава. *От волоса ўсе косці вусупа-*

*юцца. Волос, як боліць, не зажывае доўго на палцы, то его вуліваюць.* Сямігосцічы. △ Н і  п о  в о́ л о с у. Ані гуку, ані руху. *Такая цішына, шчо дажэ ні по волосу!* Дварэц. *Духо́цье і ціхо, ні по волосу!* Лутки. *Кругом ціхенько, ані по волосу і не шэлегне!* Там жа. *Дзеці, ні по волосу!* Сямігосцічы.

ВОЛОСА′ТНІК *м.* Вадзяная расліна з доўгім сцяблом і невялікім лістом, які ляжыць на вадзе. Запясочча.

ВОЛОСНЯ′ *ж.* Валасня. *А екіе колісь жылкі булі? З волосні этое конское.* Лутки. *Нарвом волосне з хвоста ў коня, да скруцім і поўяжэм на плошчык, дай пошлі вудзіць рыбу.* М. Малешава.

ВОЛОСОЗА′Р, ВОЛОСУЗА′Р, ВОЛОЦОЗА′Р *м.*, ВОЛОСОЗА′РЫ, ВОЛОСОЗО′РЫ, ВОЛОСА′РЫ *мн.* Сузор'е Плеяды. *Волосозар — это кучка зор на небі.* Тураў. *Волосозар сходзіць пуд осень, много зорочэк у одным месцы, дробненькіе, ужэ дзень меньшае, а ноч большае.* Запясочча. *Досвета сем зорок узойдзе — волосузар зовецца.* Дварэц. *Шэсць зорок у одном месцы — то волосозары, ца́ры-волосоза́ры.* Альпень. *Волосозоры густо ідуць, на поўдне.* В. Малешава. *Волоцоза́р.* Аздамічы. *Як сем зорок у гуры, то кажуць волоса́ры.* Цераблічы.

ВОЛО′СЬКІ *прым.* △ В о л о́ с ь к і  о р е х. Грэцкі арэх. Бярэжцы.

ВОЛОСЯ′НКА, ВОЛОСЬЯ′НКА, ВОЛОСНЯ′НКА *ж.* Пліска. *Волосьянка водзіцца ў плоту з хворосту, а кубе́лцэ з волосне, з конского хвоста.* Лутки. *Волоснянка маленька, соўсём бы некая жоўта.* Запясочча.

ВОЛО′ЎІК *м.* Стайня для валоў. *Той волы доглядаў да ішоў з волоўіка домоў.* Бярэжцы.

ВОЛОЦУ′ГА *м.* і *ж.* Валацуга. *Волоцуго, ці у цебе хаты нема?* Верасніца. *Ленуецца дзело робіць ды цягаецца по дзерэўні, волоцуга.* Пагост.

ВОЛОЧА′ЙКА *ж.* 1. Невялікі волак, сетка. *Волочайкою з лодкі ловім удвоіх.* Альшаны. 2 *м.* і *ж.* Валацуга. Хотамель.

ВОЛОЧО′БНОЕ, ВОЛОЧО′НЭ, ВОЛОЧО′ЎНОЕ *прым. у знач. наз.* Валачобнае, гасцінец на вялікдзень (звычайна яйка). *На другі дзень на велікодне волочобное неслі хросной мацер.* Хачэнь. *На паску носілі волочоўное — еечкі, паску — бабе* (павівальнай), *хросному бацьку, хросной маці.* Пагост. Прыпасы, з якімі ідуць на могілкі для памінання. Хачэнь.

ВОЛОЧО′НЬЕ *н.* Гасцінец на вялікдзень. *Волочонье*

*несуць хрышчоной мацеры — пірога, п'яць еец, паску...* Запясочча. *Хрышчоные прыдуць з волочоньем на велікдзень.* М. Малешава.

ВОЛОЧО'ННІК *м.* Валачобнік. *Волочонніκі по хатах ходзілі колісь.* М. Малешава.

ВОЛОЧЫ'ЦЦА *незак.* Валачыцца, цягацца. *Волочыцца нейдзі, чорт его мацер ведае!* Лутκі.

ВОЛОЧЫ'ЦЬ *незак.* 1. Валачы, цягнуць. *Дзе вона ёго ні волочыла, то ўсе ездзіў за ёю.* М. Малешава. *Волочаць на озёра прадзіво.* Альшаны. 2. Баранаваць па ўсходах. *У нас однэ просо волочаць.* Альшаны. Раўнаваць раллю для сяўбы. *Волочылі бороною посеў.* В. Малешава.

ВОЛО'ШКА *ж.* Валошка, васілёк. *Валошка ў жыце, сіненька.* Кароцічы. *Нешчо як жонкáм недобрэ робіцца, то волошку п'юць.* Луткі. *Волошка, у ее на одном корчі сініе і муровáтые цветы е.* М. Малешава.

ВОЛО'ШНЫ *прым.* △ В о л ó ш н а я м е ж á. Мяжа паміж асобнымі гаспадаркамі ў мінулым. Альпень.

ВОЛОШЭ'БНІК *м.* Чараўнік. *Колісь буў дзед, а вон этты волошэбнік буў нейкі, туман накідаў на людзей.* Бярэжцы.

ВО'ЛЬНО *прысл.* Вольна, свабодна, без перашкод. *Столы там булі, а тут було вольно.* Дварэц.

ВО'ЛЬНЫ *прым.* Павольны, спакойны. *Наша река така вольна, но сільно острая.* В. Малешава. *А Прып'яць — вона вольного цечэнья река.* Там жа.

ВО'ЛЯ *ж.* 1. Воля, незалежнасць, уласнае жаданне. *Ходзіў по волі.* Запясочча. *На твоей волі, як на печэ* (прымаўка). М. Малешава. Улада. *Есцека шчо і жонка волю мае над чоловеком.* В. Малешава. *Кого сіла, того і воля* (прымаўка). Хачэнь. 2. Вызваленне ад прыгону. *Князе з'ехаліса на думу, бо цар волю хоцеў даць.* Мачуль. *Некоторые ўжэ продчувалі, што будзе воля.* Сямігосцічы. △ В ó л ю в ó л і ц ь. Выконваць волю. *Гэто ж я буду ёго волю воліць? Не дожджэ!* Любавічы.

ВОЛЯ'ЧЫНА *ж.* Мажны вол. *А собарнó седзіць коло машыны наперэдзе, во така волячына!* М. Малешава.

ВОМЛЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіцца мяккім, утушыцца. *М'ясо хоць і цвордó, але за дзень у печэ вомлее.* Тураў. *Картоплі вомлеюць, шо зробяцца м'якоць!* Цераблічы.

ВО'МПІЦЦА *незак.* Непакоіцца, турбавацца, сумнявацца. *Вóмпіласа — іці ці не.* Сямурадцы.

ВО'МПІЦЬ, ВО'НПІЦЬ *незак.* Слухацца, баяцца, па-

важаць. *Хіба вон цебе вомпіць?* Хотамель. Прызнаваць. *Васіль, цёцю не вонпіш?* Там жа.

ВОН 1 *займ.* Ён. *А вон зложыўса да цоп того глушца.* Мачуль. *Хай вон струбіцца, той посвёт!* Пагост. *А вон ешчэ з лесу домоў не прышоў?* Кароцічы. *Глухі пень, бо вон без голья.* Верасніца. 2 *выкл.* Вон. *Пошоў вон!* Дварэц.

Звычайна *вон* ужываецца старымі людзьмі як сінонім да слоў *вуж, гад, чорт,* якіх стараюцца пазбягаць (*Хай вон шчэзне, той вуж.* Верасніца). Назіраюцца таксама выпадкі ўжывання *вон,* калі жонка гаворыць пра свайго мужыка, толькі ў неабходных сітуацыях называючы яго імя (*Вон там косіць, да і я коло його шебёнькаюса.* Хачэнь).

ВОНА' *займ.* Яна. *Белая ветла, на дугі вона хороша.* Луткі. *Вона ўсім дочкам дала по перкалюсе.* Верасніца. *Надто хітры буў вон, і вона хітровала.* Хачэнь. *Куды пошла маці? — Вона ў чэрніцы пошла.* Старажоўцы.

Звычайна *вона́* ўжываецца старымі людзьмі, калі гавораць пра гадзюку, смерць, найменне якіх у размове стараюцца пазбягаць (*Ек трапіш, то вон уцекае, а вона укусіць.* Кароцічы. Размова ішла пра паводзіны вужа і змяі пры сустрэчы з чалавекам).

ВОНЁТА *ж.* Смурод. *Така там вонёта!* Сямігосцічы.

ВОНО' *н.* Яно. *Воно зняло ключыка дай закрыло.* Запясочча. *Зверá, усе ж такі воно чуе чоловека.* Мачуль. *Хай воно згорыць, тэ сено!* Бярэжцы. *Трэбо зложыць так, шоб воно доходзіло до толку.* Там жа. *То воно і не страшно, колі гром грыміць.* Кароцічы.

ВОНЫ' *займ.* Яны. *На нас воны кажуць замша́не, а мы на іх руднікі, бо з Рудні.* Бярэжцы. *Воны богато жылі, заможные людзі булі.* Пагост. *Я іх посылаю, шоб воны кошэ походжалі.* Мачуль. *Воны цепер усе по дубнічку седзяць, тые грыбу.* Хачэнь.

ВОНЭ' *займ.* Яно. *Трэба шоб вонэ набракло, намокло, набралоса.* Запясочча. *Вонэ вельмі ўрэднэ, гэто целя.* Кароцічы. *Вода прыбудзе, а вонэ остаецца, прыплаўнік той.* Хачэнь.

ВОНЮХА' *ж.* Смурод. *Вонюха зробіцца да обсядуць мухі!* Дварэц.

ВОНЮ'ЧКА *ж.* Смярдзючка. *Вонючка — это укор! Чого ты прымазаласа, вонючка!* В. Малешава.

ВОНЮ'ЧЫ *прым.* Смярдзючы. *Вонючы ек тхор.* М. Малешава. *Вонюча трава.* Альпень.

ВО'НЯ *ж.* Смурод. *Курыць усю ноч печ, да смердзіць, да вон.* Цераблічы. *Шо за воня?—Да там еке-то падло.* В. Малешава.

ВОНЯ'ЦЬ *незак., 3-я ас. адз. л. воняе* і *воніць.* Дрэнна пахнуць, смярдзець. *Будом воняць — закопаюць* (жарт). Запясочча. *А копціць да воніць!* Там жа. *Сало з кішок кóлісь елі, а тэпэр не хочуть, воняе.* Альпень. *Вона* (бадзяга) *вельмо воняе сыра.* Хачэнь. *Коза воняе падлом.* Там жа.

ВОПО'ЎНОЧ *прысл.* Апоўначы, позна. *Як була я молода, то прыходзіла домоў вопоўноч.* В. Малешава. *Чого ёго прыпéрло вопоўноч да побунтоваў нас?* М. Малешава.

ВОПХНУ'ЦЬ, ВОПНУ'ЦЬ *зак.* Запіхнуць, уціснуць. *Позмерзаюцца чобоці, то не можно ногі вопхнуць.* Цераблічы. *Вопне м'ясо ў корук і повесіць.* Запясочча.

ВОРВА'ЦЬ *зак.* Урваць, уварваць. *Як вона мне воρвала роботы! Я б ужэ нешчо робіла.* Дварэц.

ВОРКОВА'ЦЬ *незак.* Буркаваць. *Голубў воркуюць.* Хачэнь.

ВОРКО'ТА *ж.* Буркатун, бурклівы чалавек. *Эта воркота бормочэ дай годзі.* В. Малешава. *Мормóта прышоў да путаецца ў лепéты, ці дома воркота* (загадка). *Воўк, собака і кот* (адгадка). Хачэнь.

ВОРКОТЛІ'ВУ *прым.* Бурклівы. *Добрэ ему, еслі хороша жонка, а то мо воркотліва?* М. Малешава.

ВОРКОТНЯ' *ж.* Буркатня. *Там нека воркотня була.* М. Малешава.

ВО'РКУЦЕНЬ *м.* Буркатун. *Годзе тобе ворчаць, воркуцень!* М. Малешава.

ВОРНІ'КАЦЬ *незак.* Плакаць, капрызнічаць (пра дзіця). Хотамель.

ВОРОБЕ'Й, ОРОБЕ'Й *м.* Верабей. *Поўна хата вороб'ёў, іх не можно з хаты выгнаць* (загадка). *Сукі ў сценах* (адгадка). Запясочча. *От етых вороб'ёў нема рады, у просо да ў просо.* Верасніца. *Воробей кажэ: чымчым жыў-жыў!* Цераблічы. *Воробей не сее, не жне, а ему е.* Хачэнь. *Вороб'і з проса гонялі, шчоб не пілі.* Бярэжцы. △ В о р о б'і з а м о ў л я́ ц ь. Замаўляць проса ад птушак. *Мой дзед умеў вороб'і замоўляць. Бувало, то вон на стрэ́ценье казаў, шо не вуймай кашы, покуль не прыйдзем з цэрквы. А тогды як прыйдзем, то казаў: «Стаў на стол з горшком!» — То вон тую кашу берэ, посушыць і сховае. А потом посыпле кругом поля і скажэ:*

*«Шўгі на вўгі, вороб'і з поля!»* Хачэнь. *Памянш.* в о р о б е́ й к о, о р о б е́ й к о. *Оробейко купаецца — то будзе дождж* (прыкмета). Хачэнь.

ВОРОБ'ЕЎ *прым.* △ В о р о б'ё ў ш ч а́ в е р. Вераб'інае шчаўе. Бярэжцы.

ВОРОБІ'НЫ *прым.* △ В о р о б і н а я н о ч. Вераб'іная ноч. *Воробіная ноч — як цэлую ноч бліскае.* Запясочча.

ВО'РОГ *м.* Вораг, непрыяцель. *Нема ворога, так нажывеш, як та прыказка кажэ.* Лyткі. *Шоб моім ворогóм такая жытка, як мне!* Мачуль. *Не поіўшы, не корміўшы, не мецьмеш ворога* (прымаўка). Аздамічы. *Каша — ворог, бо гоніць з-за стала.* Цераблічы. *Накормі, напой, то будзе ворог твой* (прымаўка). Хачэнь.

ВОРОГОВА'ЦЬ *незак.* Злавацца, выказваць варожыя адносіны. *Вона ворогуе на мене, крывўе, шо ў мене е, а ў ее нема.* М. Малешава.

ВОРО'ЖКА *ж.* Варажбітка. *Ворожкі ворожылі, а чы праўду, чы не.* Альпень.

ВОРОЖЫ'ЦЬ *незак.* Варажыць, гадаць. *Ворóжыць— нашэптвае. Знае нешчо, толькі не прызнаецца.* Бярэжцы.

ВОРОЖЭ'НЬЕ *н.* Варажба. *Дай поворожу, погадаю.— На доха мне твое ворожэнье, шчо ты мне за ўга́дніца!* Бярэжцы.

ВО'РОН *м.* 1. Крумкач. *Сором не ворон, очэй не вудзерэ* (прымаўка). Запясочча. 2. Дзіцячая гульня і персанаж у гэтай гульні. *Поберуцца дзеўкі ззаду, а ворон крычыць: кра, есці хочу! А мы не пускаем і дразнім: кра, елыка́, выць собе езыка́.* Луткі.

За матку трымаецца многа дзяцей, адно за другое. Мэта ворана схапіць і адарваць хвост, пры гэтым ён не даецца, а матка ганіць ворана. Іншы варыянт дражнілкі: *ялыка́, выцегла езыка́!* Луткі.

ВОРО'НА *ж.* 1. Варона. *Ворона ўсе на дождж каркае.* Луткі. *Ворона чорна, а тут так бу сівовата.* Цераблічы. *Ек улез у вороны, то крач ек і вóны* (прымаўка). Верасніца. 2 *перан.* Разява. Хільчыцы.

ВОРОНЕ'Ц *м.* 1. Лясное зелле, бядрынец (?). *Воронец таке во, ек ёлка, зелье, од печэні вон бувае; хто кому плохо подумае і зробіцца недобре, то тэ зелье даюць. Воронец вугоняе голоўные болі.* Пагост. *Мо гэто воронец той зацвіў?* Хачэнь. 2 (?). *Зай, зай, воронец, вулій вóду за конец, вулій вóду за колоду!* (дзіцячая прыгаворка

пасля купання ў рэчцы. Скачуць на адной назе, схіліўшы галаву набок, каб вылілася вада з вуха). Хачэнь.

ВОРВО'ЛЯ, ВОРЫВО'ЛЯ *ж.* Варволь, каламазь. *Ворволя з землі набрана, колёса мазаць.* М. Малешава. *Пі, шчоб ты ворыволі напіўса!* (праклён). Запясочча.

ВОРО'НЕЧЫ *прым.* Варонін. *Воронечэ кубло́.* Запясочча.

ВОРОНЫ' *прым.* 1. Вараны (пра каня). *Вороны конь, то не вельмі чорны.* Альшаны. 2. Хуткі, бойкі (пра каня). *Вороны — это конь добры, можэ буць усякое масці, на ём не поўзуць, а едуць.* В. Малешава.

ВОРОНЯ'КА *ж.* Варона, грак, галка, крумкач. *Воронякі хопаюць гусенята.* Цераблічы. *Воронякі на дубох, а сорокі на лозе ку́бла робяць.* Хачэнь. *А тые воронякі, галкі, голье несуць у комін.* В. Малешава. *Е крумкач, така крупна вороняка.* Сямурадцы.

ВО'РОТ *м.* 1. Драўляная вось варот або дзвярэй. *Ворот у дзверах, к ему доскі прыбіваюць.* М. Малешава. 2. Ворат. *Ворот кру́ціць, дручком за сто́уп чэпляе.* Хотамель.

ВОРО'ТА' *мн.* 1. Вароты (звычайна аднастворкавыя), дзверы (у хляве, гумне). *Воро́та на зіму ста́ўлялі к пло́ту.* Лutкі. *А ў дворэ — то воро́та зовуць, на одну половіну.* Аздамічы. *Одные воро́та ў хлеў, а другіе ў двор.* Хотамель. *Отчыняйце ворота́, едзе дзеўка-сірота* (з песні). Хачэнь. 2. Праход у гатку або плаціне (дзе ставіцца жак, падаецца вада на кола млына і інш.). *Грэбля робіцца, шоб вода шла ў воро́та, а не йшла вольно рэкою.* Мачуль. *Воро́та ў гатку́ е.* Пагост.

ВОРОТНО' *н.* Дэталь у варотах. Альпень.

ВО'РОТО *н.* Біла ў варотах з бакавой галіной, да якой прыбіваюцца дошкі. *Ворото ў воротах, а ў одрыне хоць і з воротом, то дзверыма зовуць.* Аздамічы. *Ворото ставілоса ў шулу, а на ём віселі ворота.* Цераблічы.

ВОРОТОВУ' *прым.* △ В о р о т о в э́ ш у́ л о. Шула, у якое ўстаўляецца вось варот. Луткі.

ВОРОТО'К *м.* Ворат. *Як подсо́рац якора, то на вороток круцяць, да подаецца пас.* Дварэц. *Воротком сцягваем у́лье на хвою.* В. Малешава. △ С у х і в о р о т о́ к. Прымітыўная лябёдка. *Сухі вороток веліку сілу мае.* Дварэц.

ВО'РОХ *м.* Куча, гурба. *Буракі так і заночовалі на полі ў ворохах.* Тураў. *Ка́мені ў воросі лежац.* Запясочча. *Наглы ворох мехоў повезлі.* Дварэц. *Пушчэ́йшэ жы-*

*то зрэбваецца ў ворох.* Кароцічы. *Крот наточыў ворохóў.* Аздамічы. *Складзеш у ворох гной да стопчэш, то не загорыцца.* Луткі. *Насёк два вóрохі велікіе дроў.* Там жа. *Больш от того по ягоды не пошла, хай воны там будуць ворохáмі.* Хачэнь. *Мушы подохлі, ворохáмі лежаць.* В. Малешава. *Памянш.* ворошóк. *Ворошок яблок назбірала под яблонею.* Дварэц. *Лежыць той ворошок колючы* (пра вожыка). Луткі.

ВОРОЦІ'ЛО *н.* 1. Навой (у кроснах). *Навіваюць кросно на вороціло.* Аздамічы. *На вороціло ніткі мотаюць.* М. Малешава. 2 *перан.* Няўклюдны, непаваротлівы чалавек. *Ох, яке вороціло, не можэ повернуцца!* М. Малешава. △ Полотня́нэ (полоцéннэ) вороціло. Навой з палатном. Луткі. Пражнэ́ вороціло. Навой з ніткамі. *Вороціло однэ пражнэ, а другée полотнянэ.* Луткі. *Памянш.* вороцілцэ. *Полотнянэ вороцілцэ.* Хотамель.

ВОРО'ЧАЦЬ *незак.* Варушыць. *Ледво ворочае езы́ком.* В. Малешава.

ВОРОЧА'ЦЬ *незак.* Вяртаць. *Ворочаюць брытву государству, ек недобрэ зроблена.* Запясочча. Заварочваць. *Разоў тры ворочаў коня.* Дварэц.

ВОРОЧА'ЦЦА *незак.* Вяртацца. *Воны по сем раз ворочаюцца, коб больш узяць.* Сямігосцічы.

ВОРУШЫ'ЦЦА *незак.* Варушыцца. *А ціхенько було і ліcты́ не ворушыліса.* Дварэц. Хістацца. *Зуб ворýшыцца і торкáецца, кажуць.* Аздамічы. Рухацца, паказваць прызнакі жыцця. *Шчэ жывы буў, шчэ ворушыўса.* Чэрнічы. *Побі на кускі сліменя, усе одно ворушыцца.* Хачэнь.

ВОРУШЫ'ЦЬ, ВОРОШЫ'ЦЬ *незак.* Чапаць, краташь, варушыць. *У нас болóта нігдзе і ніхто не ворошыў.* Бярэжцы. *Укусіць! Не воруш собаку! Не трэ его ворушыць.* Цераблічы. *Не ворушце нічого, ходзеце сюды!* Сямігосцічы. Перасыпаць. *Я шчэ буду эту хату ворошыць другі раз.* Бярэжцы.

ВОРЧА'ЦЬ *незак.* Вурчаць пагрозліва (пра сабаку, ката). *Коты ворчаць злосно.* Бярэжцы.

ВОСВОЯ'ХУ *прысл.* Па сваіх справах. *Змея зноў пошла восвояху* (з казкі). Запясочча.

ВО'СЕМ *ліч.* Восем. *Восем недзель баба лежыць, такая кволая.* Дварэц. *Машына перэвернуласа, і ўсе восем душ утопіліса с пуду.* Луткі.

ВОСЕНЕ'Ю *прысл.* Восенню, увосень. *Веселцы весною зовом, а восенею — жураўлі.* Цераблічы.

ВОСЕНІ'НА *ж.* Збор у карысць пастуха пасля заканчэння паствы. *Восеніну збірае пастух увосень, пірог ему пеклі.* М. Малешава.

ВО'СЕНЬ *ж.* Восень. *Цэлу восень паслі товар на плаву, а вода така холодна под плавом!* Цераблічы. △ У в о с е н я́ х. Восенню. *У восенях есць таке урэм'е, то збіраюцца ў ворохах тые вужы.* Лутқі.

ВОСК *м.* Воск. *Куплялі воск і к роздву тоўсту свечку сучылі.* Дварэц. *Занесі воск у Городок, то воны дающь вошчыны.* Мачуль. *Памянш.* в о ш ч э́ ч о к. *Воск ростопіш і льеш над головою, той вошчэчок, ек вуговарваеш волос.* Лутқі.

ВОСКОБО'ЙНЯ *ж.* Прылада і майстэрня для выціскання воску. Запясочча.

ВОСКОВЕ'НЬ, ОСКОВЕ'НЬ *м.* 1. Мяшочак на сыр, клінок. *Подзержы трохі воскоўня, а ўволью гету суроватку ў его.* Кароцічы. *Я ў свой осковень тры гладышкі молока вуліла, да будзе к недзелі смашное мочанье.* М. Малешава. 2. Месца ў алейніцы, куды закладваецца мяшочак з семем ільну. Аздамічы.

ВОСКОВІ'К, ОСКОВІ'К *м.* 1. Мяшочак на сыр, клінок. *Як оццэдзяць у восковіку сыр, то ёго под камень ложаць.* Дварэц. *У осковік залівает кіслэе молоко, да онэ сцекае.* Верасніца. 2 *перан.* Куток. *От так і жывуць у том осковіку* (пра жыхароў в. Пагост, што пасяліліся ў кутку на месцы ўпадзення Сцвігі ў Прыпяць). Пагост.

ВОСКОВУ' *прым.* △ В о с к о в ы́ м а ш о́ к. Клінок для выціскання воску. Хотамель.

ВОСКОДА'ВІНЫ *мн.*, рэдка ВОСКОДА'ВІНА, ОСКОДА'ВІНА *ж.* Адыходы з воску (пасля ачысткі мёду). *Воскодавіны — гэто воск, што остаецца, як цадзяць мед.* Бярэжцы. *У воскодавіны крухо́вых ягод — і кропіць вулье.* Лутқі. *Як воск віцечэ з воскоўня, то ў воскоўню остаецца оскодавіна.* В. Малешава.

ВОСКОДА'Ў, ОСКОДА'Ў *м.* Мяшочак на сыр, клінок. *Гэто оскодаў, шчо сыр откідаемо.* Мачуль. Клінок для выціскання воску з вашчыны. *Воскодаў для пшона і оджымаць воск.* Альшаны.

ВО'СПІНА *ж.* Воспіна, знак ад воспы. Аздамічы.

ВО'СПІНКІ *мн.* △ Н а в о́ с п і н к а х. На кукішках. *На воспінках сеў.* Аздамічы. Н а в о́ с п і н к і. На дыбачкі. *Зопнуўся на воспінкі.* Альшаны.

ВОСЬ *ж.* Вось. *У перэдней восé.* Запясочча. *На вось чэпляецца колесó.* Верасніца.

ВОСЬМА'ЧКА, ОСЬМА'ЧКА *ж.* 1. Палатно ў восем пасмаў. *З осьмачкі шылі штаны.* Верасніца. 2. Тып бёрда. *Восьмачка — бердо у восем пасэм.* Дварэц.

ВОСЬМЕРНЯ' *ж.* Мера збожжа ў снапах (80 снапоў). *Восьмерня снопоў.* Цераблічы.

ВОСЬМЁРКО *ліч.* Васьмёра. *Да восьмёрко іх е, гусенят.* Запясочча.

ВОСЬМУ'ШКА *ж.* Асьміна, восьмая частка надзелу. Аздамічы.

ВО'ТВІЛЬ *прысл.* Збоку. *Кобыла мне вотвіль ек пальне по нозе!* Любавічы.

ВОТКНУ'ЦЬ, УВОТКНУ'ЦЬ *зак.* Уваткнуць, усадзіць. *Палка, як вілкі, шоб доставала воткнуць у вороціло.* Лyткі. *Воткнуць вочы.* Там жа. *Воткнуў жак у воду, ек побачыў, шчо рыба есць.* В. Малешава. *Носа ўсюды ўвоткнуць хочэ.* Запясочча.

ВО'ТМУЦЬ *ж.* Глыбокае месца ў рацэ. *Ек посерэд рэкі круціць, то там вотмуць.* Верасніца. *У вотмуцях чысто ўся рыба.* В. Малешава. *А шоб вас у вотмуці нашлі!* (праклён). Запясочча.

ВО'ТРОСЦЬ *ж.* Адросткі. *У хорошого куста дай хороша вотросць* (прымаўка). Цераблічы.

ВОЎК *м.* 1. Воўк. *Воўк у бэрлог под колодою да ў мох зашыўса.* Пагост. *Перэбег воўк дорогу, то добрэ* (прыкмета). Хачэнь. *Вóўка ногі кормяць* (прыказка). Верасніца. *Як туман покоціцца, то йдзе воўк охоціцца* (прыкмета). Аздамічы. *Бежыць воўк, а за ім шэрхне* (загадка). *Чоўнок і полотно* (адгадка). Лyткі. *Воўк подушыў нешчо, то хай ужэ есць до конца, му не бером.* Хачэнь. *Перэпіваю вóўка, шчоб жытка була лоўка* (з вясельных прыгаворак). В. Малешава. 2 *перан.* Нелюдзімы чалавек. Сямігосцічы. △ В о ў к о в é ч ы. Від ваўкоў. *Воўк овечы такі кудлаты, чырвоны.* Сямігосцічы.

ВОЎКОБОЯ'Н *м.* Ваўкаваты чалавек. *Воўкобоян, людзей боіцца.* Альпень.

ВОЎКОВА'ТЫ *прым.* Ваўкаваты, нелюдзімы. *То вон навек буў воўковаты, людзей бояўса.* Верасніца. *Воўковаты, шчо і слова не скажэ.* Сямігосцічы.

ВОЎКОЛА'К, ВОЎКУЛА'К *м.* 1. Ваўкалак, пярэверцень. *Воўколак робіцца з чоловека, перэкінецца церэз ножа і робіцца наподобіе вóўка.* Пагост. *Воўколак, хто*

*можэ перэкідацца вóўком.* Луткі. 2 *перан.* Нелюдзімы чалавек. *К людзям не подойдзе, сам ходзіць — то воўкулак.* Альшаны.

ВОЎКОЛА'П *м.* Хцівы чалавек. *Прыказка така е: от воўколап, багато трэба!* Хачэнь.

ВОЎКОРЭ'ЗІНА *ж.* Пагрызеная ці прыдушаная ваўком жывёліна, мяса з яе. *У нас воўкорэзіны не едзяць.* В. Малешава.

ВОЎКОЎНЯ' *ж.* 1. Мноства ваўкоў. Запясочча. *Там у орэшніку воўкоўня, там гібель воўкоў.* Цераблічы. *Уся воўкоўня зайшла на той остроў да перэдушыла тых вечóк.* Хачэнь. Пушча, густы лес (месца, прыдатнае для ваўкоў). *А то тут була така тыня, така воўкоўня, онно воўкі бегалі.* Цераблічы. 2. Лавушка на ваўкоў, сплеценая з лазы (у выглядзе спіралі). *Воўк у воўкоўню, у штылé ўлезе, то не вылезе.* Цераблічы. Ваўкаўня, яма на ваўкоў. *Воўкоўня — ямка на здоровым грунце, куды можэ ўпасці воўк, лось, а бывае і чоловек; было, ішоў музы́ка, упаў у воўкоўню і воўк упаў.* Мачуль.

ВОЎКОЧЭ'ЧА *ж.* Мноства ваўкоў. *Була тогды воўкочэча, то з собаком іду смело.* Луткі.

ВО'ЎНА *ж.* Воўна. *Весняна воўна коротка, вона на ўток, а осення — сновацЬ.* Верасніца. *Болóбан бежыць, болото дрыжыць* (загадка). *Воўна на барану* (адгадка). Хачэнь. Шэрсць звера. *Стоіць воўк, а з тое кудлатое воўны вода чэчэ́.* Там жа.

ВОЎНЯ'НЫ, ВО'ЎНЕНЫ *прым.* Шарсцяны, суконны, зроблены з воўны. *Коўдрою воўняною одзеваліса.* Велямічы. *Вóўненые клубкі понавозяць, шо страх!* Верасніца. *Вóўнены фартух.* Кароцічы.

ВОЎНІ'НА *ж.* Добрая воўна. *Самá воўніна на сукнянкі!* Альшаны.

ВОЎЧКІ' *мн.* 1. Дурнічнік. Луткі. 2. Ваўчкі. *Воўчкі по лугу ростуць, очэ́пваюцца.* Альпень. *Воўчкі, а по-научному чэрэда.* Хачэнь. △ Воўчкі сівенькіе. Канюшына пашавая. Верасніца.

ВОЎЧО'К *м.* 1. Птушка бугай малы. *Воўчок такі чорненькі, бы лознýха, дзюбка красна.* Луткі. *Воўчок усе погуквае: гу-гý!* Аздамічы. *Воўчок — пташка така небольшая, як чапля, усе — хо-о! хо-о! Крэпкі гук.* Мачуль. *Воўчок — вона жэлтовата, цыблата, дзюбата, прыгае у тычкáх, у хвóросце.* Альшаны. 2. Валік у ваўначосцы, які цягне воўну. Запясочча. 3 *перан.* Нелюдзі-

мае дзіця. *Воўчок, така дзеўка, не говорыць і не гуляе з дзецьмі.* Луткі.

ВОЎЧУ'ГА' *м.* і *ж.* Злосны, нелюдзімы чалавек. *Вон сердзіты, ек воўк, урэдны, воўчу́га.* Запясочча. *Воўчуга́ моўчыць, дзе воўчуга́ ў разговоры заходзіла!* В. Малешава.

ВОЎЧУ'К *м.* Ваўчок, малады воўк. *Вон ніколі не дасць здрастуй, так і посунецца, ек воўчук.* М. Малешава.

ВО'ЎЧЫ *прым.* Воўчы, ваўчыны. *Воўча руя бежыць, то уцекай.* Бярэжцы. *Воўчу печонку вусушаць, ее едзяць, ек паду́шчэ ліхо.* Цераблічы. *Воўчые слёды́.* М. Малешава. △ В о ў ч а ц ы ц к а. Нарост на целе. *Бувае наросце такая чорна, бі боро́даўка, ее дайжэ шэпталі, казалі, воўча цыцка.* Сямігосцічы. В о ў ч ы с у к. Стрыжань, які выпірае са ствала дрэва. *Воўчы сук, бі стрыжэнь, вупірае з дзерэва.* В. Малешава. В о ў ч ы е к і я х і. Шышка рагозу. *Рогоз, а на ём воўчые кіяхі ростуць.* Альшаны. В о ў ч ы е с м о р о́ д з і н ы. Крушына. Рубель. В о ў ч ы е я г о д ы. Любыя неядомыя ягады (звычайна гавораць на паслён, крушыну і інш.). *Як нарве, то прыложаць воўчые ягоды — гоіцца.* Д.-Гарадок. *Воўчые ягоды, то мо іх воўкі едзяць?* В. Малешава. В о ў ч э м о л о к о. Расліна, падобная на малачай (на зломе выдзяляецца малочны сок). Хачэнь. З в о ў ч ы х з у б о ў. Пра пакамечанае, памятае. *Што-то за незгра́ха, надзела одзежу, бы з воўчых зубоў.* Луткі. П о п а с ц і с а ў в о ў ч ы е з у б у. Апынуцца ў становішчы, з якога цяжка выбрацца. *Попадзешса ты мне ў воўчые зубу!* М. Малешава.

ВОЎЧЫ'ЦА *ж.* Ваўчыца. *За воўчыцою бегаюць во́ўкі.* Бярэжцы. *На воўка помоўка, а воўчыца нішком* (прыказка). М. Малешава.

ВОЎЧЭНЯ' *н.* Ваўчаня. *Лётала воўчыца, воўчэнят шукала.* М. Малешава.

ВОЎЧЭРНЕ'ЧА *ж.* Гушчар, месца, дзе водзяцца ваўкі. *Гэто цепер гало, а ко́лісь там воўчэрнеча була.* Хачэнь.

ВОЎЧЭ'ЧА *ж.* Мноства ваўкоў. *Воўчэча напала.* Запясочча.

ВОШ *ж.* 1. Вош. *Вошы е на целятах.* Запясочча. *Узеліс за дзело, ек вошы за цело* (прымаўка). Сямурадцы. 2. Тля. *На высадках вошы сівые чавілі рукамі.* Хачэнь.

ВОШО'НКА *ж.* Дзікі яблык. *Вошонку не з'есі, вона кісла.* Цераблічы.

ВОШО'ЎНІК *м.* Брызгліна. Запясочча.

ВОШЧА'НІК *м.* Клінок для выціскання мёду з сотаў. Аздамічы.

ВОШЧА'НКА *ж.* Залітае воскам яйка (выкарыстоўвалі на вялікдзень пры гульні ў біткі). *От вошчанкою біток наўбівала богато. Напусціць воску трэ поўно ейцэ, а ейцэ одтуля вупусціць трэ.* Цераблічы.

ВОШЧЫ'НА *ж.* Вашчына, вуза. *Бером вошчыну і ў саган ложым, шоб ростопіўса воск у печы, вынімаем і віліваем у восковень.* В. Малешава.

ВОШЧЫ'ЦЬ *незак.* Вашчыць, націрацьвоскам. *Вошчылі воском* (дратву), *шоб можно поцегнуць ее.* Луткі.

ВОШЫ'ВУ *прым.* △ В о ш ы в ы ж у к. Гнаявік, гнаявы жук. Кароцічы.

ВОШЫ'ЎКА *ж.* Вашыўка, неахайная жанчына. Бярэжцы.

ВОШЫ'ЎНІК *м.* Брызгліна. *Вошыўнік росце ў кустох, ліст доўговаценькі. Бацько зваў брэзколіна і ложкі з его белые робіў.* Дварэц. *Вошыўнік на бору росце, помый ім, да чыстая голова.* Хачэнь.

ВУ *займ.* Вы. *Вы намі глумéчаеце мо?* Мачуль. *Гукаю, то вы знаеце, одозваласа тая гусь.* Там жа. *А ву надоўго прыехалі?* Хачэнь. *У нас у Хочэні говорацьна мацер ву, а тут, у Верэсніцы, ты.* Верасніца.

ВУ'БАВІЦЬ *зак.* Выправіць, вывесці, выцягнуць (пераадольваючы нежаданне). *Ледзь вубавіла ёго з хаты.* Альшаны.

ВУ'БАНДЫЖЫЦЬ *зак.* Выправіць, выцягнуць, вытурыць. *Хоць бу як вубандыжыць с хаты!* М. Малешава.

ВУ'БАНІЦЦА *зак.* Папарыцца, памыцца ў лазні. *Одзін чоловек залез у печ да выбаніўса, то не сталі ёмў ногі болець.* Мачуль. *Зайдзе ў баню дай выбаніцца.* Хотамель.

ВУБАЧА'ЦЬ *незак.* Выбачаць, даравацьь. *О, вубачай, молодзіцо, я не хоцела!* Цераблічы.

ВУ'БАЧЫЦЬ *зак.* Выгледзець, убачыць. *Шчо там вубачыш? Нога ўже не пухне, отпухае.* Луткі.

ВУ'БЕГЦІ *зак.* Выбегчы. *Я схопіла ковеньку і вубегла на двор, бачу — на ганку дзіця седзіць і воўк стоіць коло его.* Сямігосцічы.

ВУ'БЕЛІЦЬ *зак.* Выбеліць. *Як ўбеліш* (полотно), *то*

*трэ горнуць у свойцы.* Хотамель. Памыць. *І тое дзіця трэба вубеліць тры разá і тры разá змазаць.* Кароцічы.

ВУБЕ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Выбельваць. *Вібельвающь полотно і качаюць у дзве сталочкі.* Хотамель.

ВУБІВА'ЦЬ *незак.* Выбіваць, выціскаць. *З землі вóду вубівае.* Цераблічы. Фармаваць. *Убівалі хлеб на руках, мочылі і клалі на лопату да ў печ.* Чэрнічы.

ВУБІЗДЫ'КВАЦЦА *незак.* Выкоўзвацца, выслізгвацца (раптоўна). *Ужэ стары, ніяк не ўбыздыкваецца сітнік.* Луткі. *Ідом рваць сітнік, ек поцягнеш, то вубіздыкваецца.* В. Малешава.

ВУБІЗДЫ'КНУЦЦА, ВУ'БЗДЫКНУЦЦА *зак.* Выслізнуцца, выскачыць (раптоўна). *Веройка вубздыкнулас з рук.* Хільчыцы. *Поймаў кожушка, а вон вубіздыкнуўса з рук.* В. Малешава.

ВУБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Выбіраць. *Вубіраць цыбулю трэбо после Ільі, а то вона немоцна будзе, нема хвосцікоў, чым віць на венок.* Дварэц. *Счоччыка на родзінах вубіраюць, вон грошы шчытае, а бабі тольki за горшка заплацяць.* Хачэнь. 2. Рабіць выемку (у бервяне). *Сокерой вубіраеш, як чоўнок, драчку.* Пагост. Выкопваць, разбіраць. *Людзі вубіраюць на рэцэ перэмелье.* В. Малешава. 3. Плесці. *Пóяса вубіраюць.* Альшаны.

ВУ'БІЎ *м.* △ На вýбіў гуля́ць. Гуляць у мячыка, якім адна каманда «выбівае» з «поля» членаў другой каманды. Запясочча.

ВУ'БІЦЦА *зак.* 1. Выбіцца, зрабіцца няроўным. *Вубіўса чэрэн, то трэбо вукладаць.* Цераблічы. 2. Выбіцца, з цяжкасцю знайсці шлях. *Аж у Озераны вубіліса.* Бярэжцы. △ Вýбіцца зо снý. Страціць сон. *От вубіласа зо сну і ніяк не засну.* Азяраны.

ВУ'БІЦЬ *зак.* 1. Выбіць, збіць. *Палкай вуб'е з яблыні яблуко да есць.* Хачэнь. Вывесці з гульні ўдарам мяча. *Як вуб'юць того, шчо бег за чэрту, то ўжэ воны ідуць у поле.* Хачэнь. 2. Пабіць. *Нехто качóк вубіў да вукраў.* Хачэнь. 3. Трохі накасіць. *Вукорчоваў лóзу і думае: вуб'ю нешчо, хоць копа сена будзе.* М. Малешава. 4. Страціць. *Сілы нема, вубіў сілы.* В. Малешава. △ Вýбіць на погóду. Распагодзіцца. *На погоду мо вуб'е, бо вечор здорову.* Хачэнь.

ВУ'БЛЕВОК *м.* Адрыгнутая шчупаком рыбіна. *Кожýшок кожушка ўхопіць да вукідае — то выблевок.* Аздамічы.

ВУ'БЛЁВАЦЬ *зак.* Выбляваць. *Усе выблюе, і тэ, шо*

*учоро еў.* Цераблічы. *Ані есць, ані выблёваць.* М. Малешава.

ВУ'БОЙ *м.* Выбоіна на дарозе. *Выбоé там, не можно проехать, воз можэ обернутса.* Альпень.

ВУБОРСА'ЦЬ *зак.* Выбарсаць. *Волокі гетые вуборсалі з лáпцёў да вожжы робілі.* Тураў.

ВУ'БРАЦЦА *зак.* 1. Выбрацца, вылезці. *Буў лес, пні, дубý до Плеса, не можно вубрацца.* Верасніца. 2. Выселіцца, выехаць. *Мы туда выбраліса і жылі то шчо нада.* Мачуль. *А дале воны ўжэ вубраліса од нас на Рыдчу.* Буразі. △ В ý б р а ц ц а  н а  м о р ó з. Паказаць на мароз. *Ужэ вубралос на мороз, будзе погода.* Альшаны.

ВУ'БРАЦЬ *зак.* 1. Вызбіраць. *Усе выберуць, усе вынесуць* (пра ягаднікаў). Мачуль. 2. Выбраць, знайсці. *Вубраў место таке, шчо тутока о, коло хаты, да міну подложыў.* В. Малешава. 3. Зрабіць выемку (у бервяне і інш.). *Вубраць паза трэбо.* Бярэжцы. 4. Звязаць (на прутках і інш.). *Трэ пончохі вубраць. Напрадом воўны да вуберэм на кручок.* Кароцічы. *Сама вубрала кохту.* М. Малешава.

ВУ'БРОДОК *м.* Брадок. *На Рубрын і на Кóлок було, як казалі, сорок бродоў і сорок вубродкоў: брод, поросéлька, вубродок.* Луткі.

ВУБРЫ'КВАЦЬ *незак.* Падбрыкваць. *Вона хóрошэ ела і вубрыквала.* В. Малешава. *От весёлэ да ўбрыквае целя!* Аздамічы.

ВУБРЫ'КВАЮЧЫ *дзеепрысл.* Падбрыкваючы. *Хвоста подняў і пошоў вубрыкваючы.* Луткі.

ВУ'БУТЛЕЦЬ *зак.* Спарахнець, страціць спажыўныя якасці. *Стары кортопель вубутлеў, порохно зробіўса.* В. Малешава.

ВУ'БУХНУЦЬ *зак.* Выбухнуць, раптоўна пачацца. *Колі вібухнула гэта война? У трыццаць дзев'ятом году?* В. Малешава.

ВУ'БУХТОВАЦЬ *зак.* Выправіць (касу). *Лóпотні выбухтоваў на косе.* Аздамічы.

ВУ'БУЦЦА *зак.* Добра абуцца. *Вубуесса роўненько, онучы беленькіе ў лапці.* Луткі.

ВУ'БУЦЬ *зак.* Прабыць (пастаянна). *Хто ў той хаце вубудзе?* Хачэнь. Адбыць. *Пока год не вубудзеш, то не пойдзеш.* Там жа.

ВУ'ВАЖЫЦЬ *зак.* Выважыць, вызначыць дакладна

вагу. *Сто грам — п'яць кацюшок, я ўжэ вуважыла.* Верасніца.

ВУ'ВАЛЕНЬ *м.* Лежабок, гультай. *Гэты вуваленъ і картоплі не прывёз.* Хачэнь.

ВУ'ВАЛІЦЬ *зак.* 1. Вываліць, вывернуць. *Корча́ вуваліў.* Аздамічы. 2. Выставіць, высунуць. *Езык вувеліла і гледзіць на мене.* М. Малешава. *Надо езыка вуваліць, то ўсе знайдзеш.* В. Малешава. 3. Вываліць, зрабіць шчыльным. *Баба вўткала, а дзед вуваліў* (загадка-каламбур). *Сукно* (адгадка). Верасніца.

ВУВА'ЛЬВАЦЦА *незак.* Вывальвацца, выпадаць. *Дзерэво ўвальваецца з хаты у сцене.* Хачэнь.

ВУ'ВАЛЯЦЬ *зак.* Паваліць. *Сколько там дубоў вывалялі!* Рубель.

ВУВА'РВАЦЬ *незак.* Выварваць. *Вуварвае простыні да воны беленькіе-беленькіе!* М. Малешава.

ВУ'ВАРЫЦЬ *зак.* Выварыць. *Вувару добрэ да застрою, то едзяць.* Бярэжцы. *Пачурыцы белые вуворым, перэмуем, перэжарым да емо — о смакоўе!* М. Малешава.

ВУ'ВЕДАЦЬ *зак.* Выведаць, дазнацца. *Вуведала, дзе вон ховаецца, дай сказала.* Хачэнь.

ВУ'ВЕЗЦІ *зак.* Вывезці. *Да ешчэ небораку вывэзлі далеко.* Мачуль.

ВУ'ВЕРНУЦЦА *зак.* 1. Абярнуцца. *Не дай бог на водзе вувернешса, то гвалту крычыш.* М. Малешава. 2. Выскачыць. *Положы на зёмлю дошку, ато вона вувернецца.* В. Малешава. Вывернуцца, вылезці з паза. *Ек сцена вувернецца, то ўпраўляюць і жжымаюць.* В. Малешава. 3. Вывернуцца, абмінуць. *Ему трэбо об'ежджаць, да вувернуцца, а вон поехаў прамо.* М. Малешава. 4. Вызверыцца, моцна крыкнуць. *А вон як вувернецца на дзецей тых!* М. Малешава.

ВУ'ВЕРНУЦЬ *зак.* 1. Вываліць, высыпаць. *Наварыла я картопляў і вуворнула ў корыто.* М. Малешава. *Вывэрнуў кішкі з кобана.* Рубель. 2. Выкруціць. *Яму таку вуверне вода!* Буразі.

ВУ'ВЕСЦІ *зак.* 1. Вывесці (пра птушак), нарадзіць (пра звяроў). *Кўра вувела ціпленята.* Запясочча. 2. Выцягнуць, вывесці партыю (у спевах). *Бувало, і я вуведу, ек спеваем, а цепер негожа.* △ В ў в е с ц і м о́ д у. Адвучыць. *Цепер ужэ вувелі тую моду коровай пекці.* Хачэнь.

ВУ'ВЕСЦІСА *зак.* Вывесціся (пра птушак). *Вувелі-*

*са шпакі ў той шпакоўні.* Цераблічы. *Яйца ненайграныя булі, да не вувеліса гусі.* Хачэнь. *Бусько вуўёўса.* Альшаны. З'явіцца на свет (пра некаторых жывёл). *Ужэ мушы вувеліса ў подзі.* М. Малешава. *Мо той собака там коло жонок і вувеўса, дзе жонкі там і вон.* Бярэжцы.

ВУВІ'ХВАЦЦА *незак.* Матляцца, задзірацца. *От танцуюць, аж тые споднiцы вывіхваюцца!* Цераблічы.

ВУ'ВІЦЦА *зак.* Праявіцца, звіцца. *А вон гэттыка, на нозе, вувіўса страшно той вуж.* Верасніца. *Той чоловек пошэптаў і вон, вуж, вувіўса на ўсю руку.* Хачэнь.

Існавала даволі стойкае ўяўленне, што ад шэптаў каля ўкушанага гадзюкай месца на целе з'яўляецца яе адбітак.

ВУ'ВОД *м.* △ Д а в а́ ц ь  в у в о д. Даваць жыццё, нараджаць (?). *Смерць берэ і вувод дае* (прыказка). Хачэнь. Е й ц э́  н а  в у́ в о д з і. Яйка з развітым зародкам. *Тэ чыстэ, а тэ на вуводзі ейцэ.* Цераблічы.

ВУВО'ДЗІЦЦА *незак.* Выводзіцца, нараджацца. *То мо п'еўговые хаты, з іх п'еўгі вуводзяцца?* Хачэнь.

ВУВОДЗІ'ЦЬ *незак.* Выводзіць. *Вуводзіць плота на серэ́дзіну рэкі.* Запясочча.

ВУВОЗІ'ЦЬ *незак.* Вывозіць. *Вывозіў возом сено з воды.* Хотамель.

ВУ'ВОЗКА *ж.* Вывазка, выцягванне сплаўнога дрэва на бераг. *Там була вувозка, гонку на гонку цягнулі.* Сямігосцічы. *У Ко́лкі і я ездзіў на вувозку.* В. Малешава.

ВУ'ВОЛЬНІЦА *зак.* Звольніцца, дэмабілізавацца. *Вувольніўса з арміі і поехаў у дзерэўню.* В. Малешава.

ВУВО'РВАЦЬ, ВУГО'РВАЦЬ *незак.* Выворваць. *Вуворвалі люлькі з белой гліны, чэрэпкі да усе таке колісьне.* Цераблічы. *Кругом усе вуворваюць плугом картоплі і грэбуць согнуўшыса.* В. Малешава. *На Со́лом'і у нас цепер горшкі вугорвалі, то, бувало, казалі на Старом Селе.* Хачэнь.

ВУ'ВОРОТ *м.* Вываратень. *Под вуворотом вода е да нап'емса хоць у еку жару ў лесі.* Луткі. *Дождж ішоў, да я седзела под вуворотом і не намочыў.* Цераблічы. *Як вуворот поддзеты гэтым абу-чым, віхром, то его тожэ не бралі* (павер'е). Хачэнь.

ВУВОРОЧА'ЦЬ *незак.* Выварочваць, вырываць. *Я на колёнках поўзу да ўсе вуворочаю, вуворочаю грыбу, коб ніхто не побраў.* Хачэнь.

ВУВОРО'ЧВАЦЦА *незак.* Выварочвацца, выкручвацца. *Я його кажны раз побору́, а вон вуворочваецца.* В. Малешава.

ВУ'ВУДЗІЦЬ *зак.* Вывудзіць, злавіць на вуду. *Лінька ніхто не вувудзіць, а воны лезуць у жакі.* Цераблічы.

ВУ'ВУЧЫЦЦА *зак.* Вывучыцца. *Дочушка була ужэ вувучыласа за настаўніцу.* Хачэнь.

ВУ'ГІ *мн.* △ Шугі на ву́гі, вороб'і з поля! Замова супраць птушак, якія *п'юць про́со.* Хачэнь.

ВУГА'РВАЦЬ *незак.* Высыхаць, выпарацца. *Як погода, то вода на болоці вугарвае.* Аздамічы. *Стала вугарваць вода, а то ўсе стояла.* Чэрнічы.

ВУ'ГІНУЦЬ *зак.* Прапасці, згінуць. *А цепер усе тэ вугінуло.* Хачэнь. △ Вугінуць, як руды́е мушы. Згінуць дашчэнту. *Вугінулі б усе, як рудые мушы, така прыказка е.* В. Малешава.

ВУГЛЕДА'ЦЬ *незак.* Выглядаць, шукаць. *Я прышла да коло магазіна вугледаю його.* М. Малешава.

ВУ'ГЛЕДЗЕЦЬ *зак.* 1. Выглядзець, убачыць. *Вышоў на гало, аж выгледзеў — стоіць конь под ве́рбою.* Мачуль. *Воны стояць тут і ўсё вуглядзяць, а после прыдуць да ўкраду́ць.* Хачэнь. 2. Выгадаваць. *Баба вугледзела ёй дзіця.* Любавічы.

ВУ'ГЛЕДКА *ж.* Люстэрка. *Ой, мамо, ето не я розбіў вугледку, ето певень на стол залецеў.* Пагост. *Поглёдзеласа ў вугледку, аж я ў сажы.* Чэрнічы.

ВУ'ГЛІКІ *мн.* Складкі (у ботах). *Ідзе жонка, у ее андарак мах, гармонікі вуглікамі на чоботах.* Сямігосцічы. △ На вуглікі. У зборках (пра халявы). Хачэнь.

ВУГЛО'Д *м.* Расліна глог. *Вуглод як груша росце, од серца добрэ.* Хачэнь. *Вуглод гэто, на ём красные ягодкі.* Там жа.

ВУ'ГЛЯД *м.* Выгляд. Бярэжцы.

ВУГЛЯ'ДВАЦЬ *незак.* Выглядваць, выбіраць. *Хлопцы ідуць у клуб дзево́к углядваць.* М. Малешава.

ВУ'ГНАЦЬ *зак.* 1. Выгнаць. *Чоловек ее вугнаў з хаты.* Запясочча. *А дале нас ужэ вугналі ў Верэсніцу, да стояла хата порожня.* Буразі. *Побудзіць Колю, то вон сам выгене целята.* Луткі. 2. Хутка вырасці, выперці. *Вугнало я́пу на дзерэве.* М. Малешава. *Бувае, на шыі в'япу выжэне.* Альшаны. 3. Зарабіць, выпрацаваць. *Учора выгналі дзесець рублей окром заработку.* Мачуль. △ Соба́кі не можно вугнаць (з хаты). Пра

дрэннае надвор'е. *Плюхота на дворэ, собакі не можно вугнаць.* Луткі.

ВУ'ГНІСЦІ *зак.* Выгнісці, пагнісці поўнасцю. *Бувае, вуросце грэчка да вугніе ўся.* Сямігосцічы.

ВУГНО'ЙВАЦЬ *незак.* Угнойваць. *Як выгнойвалі, то земля мусіла родіть.* Рубель.

ВУ'ГНОІЦЬ *зак.* 1. Згнаіць. *Вугноілі сена дожджы.* Хачэнь. 2. Угноіць. *Загородіть плот і выгноіть тое место, а после сее.* Рубель.

ВУГОВА'РВАЦЬ *незак.* Загаворваць, шаптаць. *У мене дзед буў да вон вуговарваў од оўёху.* Хачэнь.

ВУГОВОРА'ЦЬ *незак.* Вымаўляць. *Зуб боліць да не выговораю добрэ.* Сямурадцы.

ВУ'ГОВОРЫЦЦА *зак.* Выгаварыцца, абыходзіць цяжкасці ў маўленні. *Вон не можэ «рэ» вуговорыць, то так вуговорыцца, замест урэзацца скажэ лузнуцца, опходзіць так «рэ».* Луткі.

ВУ'ГОВОРЫЦЬ *зак.* Вымавіць. *Вон не можэ вуговорыць.* Альпень. Выказаць (незадаволенасць, жаль і інш.). *Шчо кому трэбо, то вон і вуговорыць.* Дварэц. *Выговорыць обіду свою на кого хоч.* Сямігосцічы. *Выговорыць свою жаль жонцы.* Там жа.

ВУ'ГО'ДА *ж.* Выгода, раскоша. *У нас выгода — і пашы доволі і попас блізко.* Луткі. *Дзеды помешчаліса там, дзе вігода.* В. Малешава. *Вігода шчыталаса — доволі травы косіць, дрова блізко, грыбі, ягоды.* Там жа. *Коту вўгода ў ценёчку.* Сямігосцічы.

ВУ'ГОДНО *прысл.* Зручна, раскошна, выгадна. *Вугодно жыць на чвэрцы ему було.* Чэрнічы. *На паству тут вугоднéй.* Бярэжцы.

ВУ'ГОДОВАЦЦА *зак.* Вырасці, стаць сталым. *Хлопец вурос, вугодоваўса, а такі здорову!* Хачэнь.

ВУ'ГОДОВАЦЬ *зак.* Выгадаваць. *Трэбо яке целятко вугодовацъ да продаць.* Хільчыцы.

ВУ'ГОІЦЦА *зак.* Загаіцца. *Вугоіласа корова од пожару.* Кароцічы.

ВУ'ГОІЦЬ *зак.* Загаіць. *Вугоілі ногу грызніком с салом.* Сямігосцічы.

ВУ'ГОЛ *м.* Вугал, злучэнне бярвенняў у зрубе. *Ходзі, Параска, зарэжэм вуглá.* Верасніца. △ Н е м é ц к і в у г о л. Гладкі, без выступаў вугал. Аздамічы. П р ó с т ы в у г о л. Вугал з выступаючымі канцамі бярвёнаў. Аздамічы. К р ý г л ы в у г о л. Тое ж (?). *Урубвалі хаты у круглы вугол колісь.* Цераблічы.

ВУГО'ЛІНА *ж.* Асобны вугольчык. *Тры вуголіны.* М. Малешава.

ВУ'ГОЛОДЗІЦЦА *зак.* Прагаладацца. *От вуголодзійса ўжэ Пушок, есці просіць.* В. Малешава.

ВУ'ГОЛОСІЦЬ *зак.* Нагаласіцца. *Шо вона вуплакала, вуголосіла!* Запясочча.

ВУ'ГО'ЛЬ, УГО'ЛЬ *м.* Вугаль (халодны). *Вугрэб мне вýголь.* Лутків. *Я рэзаў дрóва, а жонка вýголь паліла — і не голодовалі му.* М. Малешава. *Перэтрухáе дуб, бы вугóль робіцца.* Пагост. *Угóль.* Бярэжцы.

ВУГО'ЛЬЕ *н. зб.* Драўляны вугаль для кузні. *Як проб'е чэрэн у печé, то пропало вуголье.* Лутків.

ВУ'ГОН *м.* Выган, месца збору жывёлы перад пашай. *Е крáмень такі чорны на вугоні.* Хачэнь. *Я поселійса, шчытай, на вугоні.* В. Малешава. Прагоны, праходы, зробленыя жывёлай. *Тым вугоном пожэну.* Запясочча. Меравы след па траве праз сенакос. *Вугона зробіў по траве, значно.* Цераблічы. Вузкая вуліца паміж дамамі для прагону жывёлы. Пагост.

ВУ'ГОНІЦЬ *зак.* Выгнаць. *Коровы́ не можно було вугоніць, таке болото.* Сямігосцічы.

ВУГО'НШЧЫНА *ж.* Гасцінец пастуху пры першым выгане жывёлы на пашу. *Як там пасці? Рубéль да шчэ вугоншчына да петроўшчына.* Лутків.

ВУГОНЯ'ЦЬ *незак.* Выганяць. *Тэ зелье вугоняе голоўные болі.* Пагост. *Вугоняе корову досвета.* Хачэнь.

ВУГО'Р, УГО'Р *м.* 1. Вугор. *Му прошлы год поймалі вугра, мало іх е.* Запясочча. 2 *мн.* Лічынкі авадоў пад скурай у жывёлы. *Вугры седзяць на корові ш чорнымі головамі.* Запясочча. *У старой корові нема угроў.* В. Малешава.

ВУ'ГОРОВАЦЦА *зак.* Напрацавацца (цяжка). *Вуговаласа наймічкою і сыну хату поставіла.* Чэрнічы.

ВУ'ГОРЭЦЬ *зак.* 1. Выгараць. *Вугорэло болото і такіе ямы, баюры поробіліса, да вудзяць у тых баюрах.* Лутків. 2. Высыхаць, выпарацца (пра ваду). *Вугорыць вода за ноч з дзеругі.* Чэрнічы. *Збегу не було воды, то вона ў жару быстро вугорыць.* Цераблічы.

ВУГРЭБА'ЦЬ *незак.* Выграбаць. Запясочча.

ВУ'ГРЭБЦІ *зак.* 1. Выграбці. *Трэ жар вугрэбці у копку ковенéю.* Лутків. 2. Выкінуць. *Выгрэблі дзеўку з поезда.* В. Малешава.

ВУ'ГРЭБЦІСА *зак.* Вылезці, выкарабкацца. *Пошоў по журовіны, то ледво выгрэбса.* Бярэжцы.

ВУ'ГРЭЦЦА *зак.* Выграцца. *Лёг бу на печ да вугрэўса!* В. Малешава.

ВУ'ГРЭЦЬ *зак.* Прагрэць. *Дзень соўнейко вугрэе, а прыдзе ноч — холод.* Цераблічы.

ВУ'ГУКНУЦЬ *зак.* Выгукнуць, выкрукнуць. *І'буць як вугукне, бу вол.* Запясочча. *Чую, бацько выгукнуў — Адам!* Мачуль.

ВУДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Выдаваць (замуж). *Дзе́ўчыну бацько відае.* В. Малешава. 2. Паказваць, даваць знаць. *На дугу бумагі чэпляюць, як веселье, то воно й выдае.* Мачуль. *Выдае ўжэ, шо веселье едзе.* В. Малешава. Рабіць уражанне, выглядаць. *Веселец відае больш за бу́ська.* М. Малешава. 3. Здавацца, бачыцца. *З пуду ёй ўдае, што то воўк.* Кароцічы. △ У д а в а ц ь у в о ч а́ х. Здавацца, бачыцца. *Нам удае у вочах, шчо гэта не така бела мука, як та.* Луткі.

ВУ'ДАВІЦЬ *зак.* Выціснуць. *Вудавіў шыбку да ўлез у хату.* М. Малешава.

ВУДА'Р *м.* Вудзільшчык. *Гэты вудар нам наловіў рыбу.* Луткі.

ВУ'ДАЦЦА *зак.* 1. Выдацца, здарыцца. *Тыждзень ліў дождж, а недзеля вудалас хорошая.* Хільчыцы. 2. Здацца, паказацца. *Чую, шо кохкае, то мне вудалоса, шо ў хаці.* Луткі.

ВУ'ДАЦЬ *зак.* 1. Даць, зарадзіць. *Менш выдасць гектар да зерне едренейшэ.* Аздамічы. *Неважно выдала пшэніца, але намолоцілі шэсцьсот тон.* Мачуль. 2. Здацца, паказацца. *Вудало, шчо качка, а то палочка крывая плула.* Сямігосцічы. *Воўк вудаў у вочах, й от того годзі іці на во́ўка.* Верасніца.

ВУДЗЕ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Выдзяляць, выдаваць кожнаму. *Берыце, шчо я буду вам вудзельваць яблука!* Хачэнь.

ВУ'ДЗЕР *м.* Упершыню распрацаванае поле. *На вудзеры посеялі оўёс.* Хачэнь.

ВУ'ДЗЕРЖАЦЬ *зак.* Вытрымаць, захавацца. *Год можэ вудзержаць, еслі ў су́сі.* Дварэц.

ВУ'ДЗЕРЦІ *зак.* Выдзерці, абадраць кару. *Лозу выдзерлі, одные лупленікі осталіса.* Луткі. Выдраць, дастаць мёд, разбурыўшы калоду або вулей (пра мядзведзя або пра злодзея). *Булі вудзерлі тые злодзее цэлы вулей і ў мене.* Цераблічы.

ВУ'ДЗЁЎБЦІ *зак.* Выдзеўбці. *Воробей вудзёўбе пшэніцу, коноплі, веточкі голые стояць.* Сямігосцічы.

ВУ'ДЗІЛНО, ВУ'ДЗІЛЬНО *н.* Вудзільна. *Пойду вудзілно вурэжу.* Хачэнь.

ВУДЗІРА'ЦЬ *незак.* Выдзіраць, даставаць мёд, разбураючы калоду або вулей (пра мядзведзя або пра злодзея). *Е медзведзі, шо шкоду робяць, пчол вудзірають.* Луткі. *Вудзірае пчолы, шоб его короста вудзерла!* Хачэнь.

ВУ'ДЗІРОК *м.* Навіна, навараспрацаванае поле. *На вудзірку посеелі лён, коб на старополіцы, то поросло б.* Луткі.

ВУ'ДЗІЦЦА *незак.* Брацца на вуду. *Чуць-чуць упе́рэ́д, у недзелю, такіе плоткі вудзіліса!* Цераблічы.

ВУ'ДЗІЦЬ *незак.* Вудзіць. *Стояць на сусі й вудзяць карасе, плоточке́ маленькіе.* Луткі.

ВУ'ДЗЮЖЫЦЬ *зак.* Выцяць, урэзаць. *Я ему як вудзюжу, то вон мене по́йме!* Хачэнь.

ВУ'ДКА *ж.* Вуда. *Вудкою колісь не ловілі рыбу.* Запясочча. *Пэчкуры на вудкі беруцца добро.* Пагост.

ВУ'ДЛЫ *мн.* Цуглі. Альшаны.

ВУ'ДМУХАЦЬ *зак.* Выдзьмуха́ць. *Выдмухала піло́к з гладышкі.* В. Малешава.

ВУ'ДОЎБАНЫ *дзеепрым.* Выдзеўбаны. *Човен вудоўбаны колываецца вельмі.* Луткі.

ВУДО'ЎБВАЦЬ, ВУДО'ЎБАЦЬ *незак.* Выдзёўбваць. Цераблічы. *Вудоўбвае чоўна з смоліны.* Пагост. *Човен вудоўбають з дуба, шукають пра́вого.* Там жа.

ВУ'ДОЎБЦІ *зак.* Выдзеўбаць. *Выдоўбці дзірку трэбо.* Аздамічы.

ВУ'ДОЎЖ *прысл.* Уздоўж. Запясочча.

ВУ'ДОЎЖЫЦЦА *зак.* Выцягнуцца, стаць даўжэйшым. *На соломі наверсі так вудоўжыўса кабан!* Луткі. *То вон вудоўжыцца, то стане маленькі.* Сямігосцічы.

ВУ'ДОЎЖЫЦЬ *зак.* Выцягнуць, падняць угору. *Чапля як го́лову выдоўжыць, то веліка.* Кароцічы.

ВУ'ДОХНУЦЬ *зак.* Здохнуць. *Коб ты выдохла: улезла і бурчыш!* (пра муху). Альпень.

ВУ'ДРА *ж.* 1. Выдра. *Вудра ў чэ́чы плавае і зімою.* В. Малешава. *Вона вудра, да за ўсіх мудра* (прыгаворка). Цераблічы. 2 *перан.* Злая, сварлівая жанчына. *От вудра, прычэпілас, готова очы повыдзіраць.* Пагост.

ВУ'ДРАНЬ *ж.* Навіна, навараспрацаванае поле. *Вудраў полянку, то каа — вудрань.* Луткі. *Сеножаць подзе́рлі і на выдрані посеелі лён.* Там жа.

ВУ'ДРАЦЦА *зак.* Найсціся, нечакана з'явіцца. *Ву-*

*дралосо й на его ліхо.* Луткі. *Вудрайса жывот нейкі откуль* (жартам пра сваю фігуру). М. Малешава.

ВУ'ДРАЦЬ *зак.* Выдраць, выкалупаць кіпцюрамі. *Гледзі, у ліце плыгне, то очы кіпцямі вудзерэ.* Старажоўцы. Выдраць, нанава распрацаваць (поле). *Вудрай полянку под шчо хоч: под просо, под лён.* Цераблічы. Выдраць, дастаць мёд, разбурыўшы калоду або вулей (пра мядзведзя або пра злодзея). *Пчолы нашоў у лесі, давай выдзёром.* Хотамель. Адшукаць, дастаць. *Дзе ты его вудрай, таке хорошэ?* Луткі.

ВУ'ДРУЧКОВАЦЬ *зак.* Выдрэсіраваць. *Трохі баба вудручковала, а то не було рады.* М. Малешава.

ВУ'ДУБІЦЬ *зак.* 1. Выдубіць (скуру). *Выдубіць кожу.* Запясочча. 2. Выцягнуць, дастаць. *Вудубілі машыну з ерўгі.* Луткі. *Пабачце-пабачце, бўсько карпа вудубіў.* Там жа.

ВУ'ДУМАЦЦА *зак.* Надумацца. *Чо́ўна дзед выдумайса зробіць.* Альшаны.

ВУ'ДУМАЦЬ *зак.* Даць мянушку. *Була ў одного ольшанца дзевочка, на ее Сова вудумалі да зложылі таке: у Ольшанах чоловек Сову кладкою вёў, а сам поўз кладку ішоў* (жарт, т. зв. *смехоўе*). В. Малешава. *На его вудумалі, шчо вон кожан.* Там жа.

ВУ'ДУМОК *м.* Мянушка. *Екі на его выдумок у нас? Помча?* Аздамічы. Дражнілка. *То такі вудумок на нас, церэблюкоў,— кырр!* Цераблічы. *Вудумок вудумоў, шчо такого не було на селе.* Там жа. △ На вудумок зваць. Празываць. *Чого ты чоловека на вудумок зовеш? У его ж ім'я есць.* Луткі.

ВУДУМО'ЎВАЦЬ *незак.* Называць, празываць. *Нехто ж выдумоўвай усе урочышча ў нас.* Сямігосцічы.

ВУ'ДУРЫЦЬ *зак.* Выманіць, узяць падманам. *У дзецей дзед вудурыў копейкі красные, то казалі з золота булі.* В. Малешава.

ВУ'ДУШЫЦЬ *зак.* Выдушыць, перадушыць. *Воўк вудушыў, вутрушчыў тых вечо́к, дай оттого звеліса тые овечкі.* Хачэнь.

ВУДЫ'Р, ВОДЫ'Р *м.* Пухір. *Усхопіўса вудыр, прып'ёк.* Хільчыцы. *Водыры посхапвающа на ногах, ек походзіш по жаберу.* Любавічы. *Памяниш.* вудыро́к, вуды́рчык. *Прышчыцца рука, ек вудырчыкі робяцца.* Луткі. △ Жоўцяны вудырок. Жоўцевы пузыр. *Вудырка жоўцяного нема у коня.* Цераблічы.

ВУЕДА′ЦЦА *незак.* Наядацца. *Ты не ўедайса да не ўлежвайса, а пóдбегом!* В. Малешава.

ВУЕДА′ЦЬ *незак.* Выядаць, з'ядаць. *Наварыла захолоду, то ўсе уедай, не кідай.* М. Малешава. Знішчаць дашчэнту. *Птаство выедають буські, вутенята хватають.* Рубель.

ВУЕЖДА′ЦЬ *незак.* 1. Выязджаць, перабірацца (у другое месца). *Коб паўеждалі, але не хочуць віеждаць.* Хотамель. 2. Жыць за чый-небудзь кошт. *На ём, старом бацьку, вы выеждаеце.* Мачуль.

ВУ′ЕДЗЕНЫ *прым.* Укормлены, сыты. *Городска жэншчына выедзена, выспана, вона красіцца.* Мачуль.

ВУ′ЕЗД *м.* Выезд, цяжкі ўчастак дарогі. *Прышлі мы і рахаемса к тому выезду.* Мачуль. *Нізкі вуезд, було посталі коні.* М. Малешава.

ВУ′ЕМОК *м.* Выемка. *Только выемок зроб'яць у току.* Мачуль.

ВУ′ЕСЦІ *зак.* Выесці, з'есці. *Чайченята малые ўсе вуесць бýсько.* Запясочча. *Росомаха нападае на худобіну і кішкі вуесць.* Пагост. *Еж, як не вуесі, то на гóлову ўзолью!* В. Малешава.

ВУ′ЕСЦІСА *зак.* Наесціся. *Нашчо мне вода, я вэльмо сытого не выеўса!* Мачуль.

ВУ′ЕХАЦЬ *зак.* Выехаць. *Узяў да з сорома́ вуехаў отсюль.* Бярэжцы. *Не можно було нідзе вуехаць, кром лодкой.* Верасніца. *Уехаў у пенькі, затоб не выехаў.* Мачуль.

ВУЖ *м.* Вуж, змяя (агульная назва). *Казалі, шо вуж гóлову подыме і ссе корову.* Бярэжцы. *Напроціў сонца стань, то вон не бачыць, той вуж.* Лутκі. *У нас прокідаюцца вужэ, але не так, як у лесох.* М. Малешава. *Ек пойдзеш да побачыш вужа, то й ягоды не на ўме!* Верасніца. *Як вуж дорогу перэпоўзае, то будзе дождж* (прыкмета). Там жа. *І чорны і рабы — му ўсе кажэм вуж.* Хачэнь. △ У в у ж а. Дзіцячая гульня (чапляюцца адзін за аднаго і трымаюцца, каб не адарвацца, калі вядучы рэзка мяняе напрамак руху). Луткі.

ВУ′ЖАДАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Ужэ такі добрэ вужадаўса, трэбо снедаць.* М. Малешава.

ВУЖА′КА *м* і *ж.* 1. Вужака, гадзюка. *Поўзе, як яка вужака.* Луткі. *Я жала да бачыла на дарозі, шо лежыць вужака, то кажуць, будзе дождж.* В. Малешава. 2 *перан.* Гадзіна, гадаўка. *Ну, вужако, подождж ы, я ж до цебе*

*доберуса, не будзеш ты цегацца з ім!* Верасніца. *Вужако ты дай рабучэрэвы!* (лаянка). Луткі.

ВУ'ЖАР *м.* Выжар, яма з вадой на месцы выгаралага торфу. *Коўтоўбіна выгорыць, то выжары зовуць.* Аздамічы. *Выжар такі е на болоньі.* Альшаны.

ВУ'ЖАРКА *ж.* Выжарына, ямка з вадой на балоце. *Коровы прідуць, у выжарцы сколоцяць воду.* Альшаны.

ВУ'ЖАЦЬ *зак.* Выжаць, зжаць. *Я ўжэ хочу жыто выжать, коб не стояло.* Альпень.

ВУ'ЖЛУКЦІЦЬ *зак.* Выжлукціць, выхлябтаць. *От прыстаў да нажлукціўса воды, мо й з поўвэдра вужлукціў.* Сямігосцічы.

ВУЖО'ВІКІ *мн.,* ВУЖО'ВІК *м.* Агульная назва неядомых грыбоў. *Вужовікі ростуць, дзе навоз, у гразі.* Запясочча. *Гето ж ты некого вужовіка знайшоў, а не грыба, вукінь его.* Кароцічы. *Мо гэто то, шо му зовом вужовікі? Нічогіе грыбў!* Хачэнь.

ВУЖО'ВУ *прым.* Вужыны. *Вужовые яйца.* Луткі. *У кота вужове жало есцека ў хвосту, то его одрубаюць.* Чэрнічы. △ В у ж о в э  м о л о к о. Малачай. *То ўжэ неяк бу звелос вонэ, тэ вужове молоко.* Хачэнь.

ВУ'ЖОЛОБІЦЦА *зак.* Пакруціцца, выгнуцца. *Вужолобіласа дошка од сонца.* М. Малешава.

ВУЖО'ЎНЯ *ж.* Гадаўё, змеі. Аздамічы.

ВУЖЫНА'ЦЬ *незак.* Выжынаць. *Робілі бброду, а потом ужыналі ее.* Верасніца.

ВУЖЫ'ХА *ж.* Самка вужа або змяі. Мачуль.

ВУ'ЖЫЦЬ *зак.* Выжыць, ужыцца (разам). *Ек вужыву з гэтым сыном, то пойду ў подсўседы.* Луткі.

ВУЖЫ'ШЧЭ *н.* Вужышча, тоўстая вяроўка. *Вужышчэ, шо воза ўвязваць.* Лісовічы.

ВУЖЭНЯ' *н.* Вужаня. *От зараза курэнята, як вужэнята, вулазяць с-под курыцы.* Запясочча.

ВУ'ЖЭРЫШЧЭ *н.* Выжарына, месца пасля ляснога пажару. Луткі.

ВУ'ЗБІРАЦЬ *зак.* Вызбіраць, пазбіраць. *А зарэ зоднее — вузберуць ягоды.* Дварэц.

ВУЗДЭ'ЧКА *ж.* Вуздэчка. *Коня у нас, у шляхты, як казалі, на обрытё воділі, а тые, на том концэ, вуздэчка кажуть.* Рубель.

ВУЗЕ'НЬКІ *прым.* Вузенькі. *Вузенька полосочка, дзве борозне загончык.* Запясочча. *Загон вузенькі, ек шнурочок, на одну борону.* Луткі.

ВУ'ЗЁЛ *м.* Вузел. *Крута нітка скручваецца ў вузлы.*

М. Малешава. *Одна ўкідае ў кобўлку, а другая ў бердо да заўязвае вўзла.* Там жа. *На хітрого вўзла хітрая швайка* (прымаўка). Луткі. △ С о б а́ ч ы в у з ё л. Від вузла. Аздамічы.

ВУЗІРА'ЦЬ *незак.* Выглядваць, падглядваць. *Вузірай-вузірай і вас не бачыў.* Дварэц. *То ў тэ окно, то ў тэ вузіраеш.* Хачэнь. *Ты поедзеш, а мы вузіраць будзем цебе.* М. Малешава. Пазіраць, глядзець. *Онно ўзіралі, коб поесці.* Хачэнь. *Я ўзірала і на горо́д, да не відно́ було.* Бярэжцы.

ВУЗІ'РВАЦЬ *незак.* Выглядваць, час ад часу паглядаць. *Вузірваюць вас жонкі.* Запясочча.

ВУ'ЗІРНУЦЬ *зак.* Выглянуць, пабачыць. *Шчэ дзе́ўкі вузірну!* Кароцічы. *Вона зарэ вузірнула сюды-туды — усе цішына.* Сямігосцічы.

ВУ'ЗКІ' *прым.* Вузкі. *Холява вўзкая, цесная.* Бярэжцы. *З одного боку шырша, з другого — вўзша.* Запясочча.

ВУ'ЗКО *прысл.* Вузка. *Одну сторону шырэй робілі, а другую вужэй.* Хачэнь.

ВУЗЛЕНЯ' *н.* Маленькая жвавая істота. *Онь тэ вузленя* (парасятка) *сто́іць пецьдзесят рублёў.* М. Малешава.

ВУ'ЗЛІК *м.* 1. Звязка, клуначак. *Вона несла вузлік у руках і клунок за плечамі.* М. Малешава. 2 *памянш.* да в у́ з ё л. *Зав'яжы толькі вузлікоў, колькі у цебе е боро́довок, да пойдзі на росхо́дные дорогі да кінь церэз себе і ідзі, не оглядвайса.* Хачэнь.

ВУ'ЗНАЧКА *ж.* Адзнака, прыкмета. *Екіе е́сцека візначкі на вутоў?* Сямігосцічы.

ВУ'ЗОЛІЦЦА *зак.* Адбяліцца ў лузе. *Сорочкі ў жлукто, то ўсе хо́рошэ вузоліцца, а тогды на полонку муць.* Сямігосцічы.

ВУ'ЗОРНУЦЬ, ВЫ'ЗУРНУЦЬ *зак.* Вынырнуць, паказацца з вады. *Пойду на дно да вузорну і зноў на дно.* М. Малешава. *Дасць нырца да вызурне далеко.* Бярэжцы.

ВУ'ЙМА *ж.* 1. Шырокая палонка каля берага, праз якую выцягваюць невад з рыбай. *Вуйма на невода, шчоб вуцегнуць ёго́ на лёд.* В. Малешава. 2. Прарэх (у штанах). *Ты, шуле́па, вуйма росчэпіласа.* Цераблічы. 3. Пража асновы, якая не ўвайшла ні ў бёрда, ні ў ніт. В. Малешава.

ВУЙМА'ЦЬ *незак.* Вымаць. *Вуймаць колкі хто стане на загоне?* Дварэц. *Вуймаюць коровая з печэ́, ек спечэц-*

*ца.* Луткі. *Сцегняка вуймаю — слаўнэ, смашнэ тэ сало!* Хачэнь.

ВУ'ЙЦІ *зак.* Выйсці. *Плюхо́та на дворэ, не можна вуйці.* Луткі. *Лось з-за рэкі вушоў да почэхліў у лес.* В. Малешава. *Вуйду на ганок да глежу, дзе то наша сторона.* Хачэнь. Выбрацца, выехаць. *Вышла з сыновое хаты і не стала жыць.* Дварэц. Атрымацца. *Гвалт хоцела дзейку, да нема, хлопэц вышоў.* М. Малешава. З'явіцца, паказацца. *Кажуць, шчо тая стрэла церэз сем год наверх вуйдзе* (дзе маланка ўдарыла ў зямлю), *ею од хондзі лечыліса.* Хачэнь. Узысці. *За тры дні выйшло просо, росце, а веток нема.* Дварэц. Выйсці з ужытку. *Ужэ волы вышлі за нашой пам'яті.* Рубель. △ В у й ц і н а с в е т. Свет убачыць, пачаць бачыць. *Тры года болела на вочы, а цепер вышла на свет.* Бярэжцы.

ВУ'КАЗАЦЬ *зак.* Выказаць, перадаць словамі. *Як ты там прыдумаў этэ вуказаць?* Верасніца.

ВУ'КАРАЦЬ *зак.* Пакараць. *Выкарала Гальку за тэ.* Рубель.

ВУ'КАРАШКАЦЦА *зак.* Выкараскацца, выбрацца з цяжкага становішча. *Ле́два вукарашкайса про́слі войны.* М. Малешава.

ВУ'КАТ *м.* Выраз, выемка. *Полотняна кольбел була з вукатом унізе.* М. Малешава. *Выкатом вучэсвалі бабку зверху ў подсанках, то колода не покоціцца.* Там жа.

ВУ'КАЧАЦЬ *зак.* 1. Пакачаць. *Я вукачаю качалкой тую кохту, і хо́рошэ.* Запясочча. 2. Выгадаваць. *У дочкі семеро дзецей, усіх і вукочала я.* М. Малешава.

ВУ'КІДАЦЦА *зак.* З'явіцца ў выглядзе высыпкі на целе. *Там у ведрэ буў той поганы* (змяя), *одзін прышоў да напійса, то жывот схопіў і вукідайса той поганы на целі.* В. Малешава.

ВУКІДА'ЦЬ *незак.* Выкідаць. *А зе́бры вукідайце, бо горкіе.* Луткі. *До́рога ложка к обеду, а послі выкідай на двор* (прыказка). Хачэнь.

ВУКІ'ДВАЦЬ *незак.* △ В у к і д в а ц ь к о́ н і к і. Жартаваць. *Вон конікі вукідвае нам, не бачыш?* М. Малешава.

ВУ'КІНУЦЦА *зак.* Павярнуцца (злосна), вызверыцца. *Вона так вікінуласа і пошла, бі воўк.* Хотамель.

ВУ'КІНУЦЬ *зак.* Выкінуць, адкінуць. *Током як вукіне руку!* Запясочча. *Свою сокеру вукінуў у дрывотнік, а мою územ сховаў у стрэху.* Хачэнь. *Вукінулі вон лаву, а крэсла купілі.* Хільчыцы.

ВУ'КЛАСЦІ, ВУ'КЛАСЦЬ *зак.* 1. Палажыць, пабіць. *Под Ольшанамі і нашых вуклалі много.* Верасніца. 2. Вывернуць, укласці. *Гету місу ўсю вукладзь!* М. Малешава. △ Вукласці бокі. Наесціся (да адвалу). *Ужэ я выкладу бокі од слонечніка, наемса!* Мачуль. Вукласці вочы (бельмы). Вылупіць вочы, утаропіцца. *Я б вуклала вочы да ўсе гледзела б цілівізор.* Запясочча. *Шчо ты вуклаў вочы, мо шчо не так?* Сямігосцічы. Вукласці зубы. Выскаліцца. *Шчо ты зубы выклаў, шуляк ты!* Альшаны.

ВУ'КЛЕПАЦЬ *зак.* Выклепаць. *Вон ужэ не можэ ні вуклепаць косы, ні косья ўстроіць.* Луткі.

ВУКОВЕ'НЬВАЦЦА *незак.* Выстаўляцца, прыдурвацца. *Чого ты вуковеньваешса?* Верасніца.

ВУ'КОПАЦЬ *зак.* Выкапаць. *Вукопаў хорошэго полоза, красіва голоўка.* Сямігосцічы. *Корчоваў корча да вукопаў горшчок золота, да плачэ.— Чого ты, дзедку, плачэш? — Я смерць свою вукопаў* (з прытчы). В. Малешава.

ВУ'КОПКАЦЦА *зак.* Выпаўзці, выбрацца. *А вон покуль выкопкаўса с хаты, то ўсе ужэ пошлі.* Дварэц.

ВУ'КОРМІЦЬ *зак.* Укарміць, накарміць. *Едзяць і едзяць, не вукорміш гэту жмодзь!* Аздамічы.

ВУ'КОРЧОВАЦЬ *зак.* Выкарчаваць. *Поцерэбы поробіў, вукорчоваў лозу.* М. Малешава.

ВУ'КОСІЦЬ *зак.* Знайсці косячы. *Чмелёў мед вукосіў, то помаж і очы перэстануць болець.* М. Малешава.

ВУ'КОТРУПІЦЬ *зак.* Вынішчыць, выразаць. *Усю сем'ю выкотрупілі, нікого нема.* Мачуль.

ВУКО'ЎВАЦЦА *незак.* Застуквацца (пры гульні ў хованкі). *«Куй-кў я»,— кажэ, як сам выкоўваецца.* Пагост.

ВУКО'ЎВАЦЬ *незак.* Застукваць (пры гульні ў хованкі). *«Куй-кў, Васіль!» — крычыць горшчай, як выкоўвае Васіля.* Пагост.

ВУ'КОЦІЦЦА *зак.* Выкаціцца, вылезці (пра вочы). *Очы раніцбю вукоцілiса, а вечором помёр.* Хачэнь.

ВУ'КОЦІЦЬ *зак.* Вывернуць. *Лінкоў нашыецца у кош, шо ледво вукоціць.* Луткі.

ВУКО'ЧВАЦЬ *незак.* Нараджаць, акочваць. *А екіе кіт кіценята выкочвае?* Альшаны.

ВУКО'ШВАЦЬ *незак.* Выкошваць. *Цепер укошвалі сено у кустох.* Дварэц.

ВУ′КРАСІЦЬ *зак.* Выкрасаць, высекчы. *Вукрасі огня.* Запясочча.

ВУ′КРАСЦІ *зак.* Пакрасці. *Нехто качок вубіў да вукраў.* Хачэнь.

ВУ′КРУЖЫЦЬ *зак.* Скруціць. *Выкружыць дудку з коры да грае.* Запясочча.

ВУ′КРУЦІЦЬ *зак.* Выкруціць, вымыць, віруючы. *Такіе круглые ямкі вода вукруціла.* Пагост. Скруціць. *Это вон ее вудзелаў, вукруціў тую дудочку.* В. Малешава. Змахляваць. *Перэбірае тые грошы, жыва не будзе, як не вукруціць.* Бярэжцы.

ВУКРУ′ЧВАЦЬ *незак.* Скручваць. *Трубы з олешыны вукручвалі.* Хачэнь.

ВУКУПО′ЎВАЦЬ *незак.* Выкупляць. *У Пінску вукупоўваць трэ на столю обшыванье.* Цераблічы.

ВУЛА′МВАЦЦА *незак.* Выстаўляцца, паводзіць сябе ненатуральна. *Вон ужэ сам собе вуламваецца, не по-нашому говорыць.* В. Малешава.

ВУ′ЛЕГЦІ *зак.* Палегчы. *А боб мой усёй вулег!* Хачэнь.

ВУ′ЛЕЖАЦЦА *зак.* Вылежацца, адляжацца. *Бабу вулежацца за дзень, то воны й ноч ірзалі б.* Запясочча. *Ек вулежыцца лён на слішчы, то поднімалі да церлі.* Хачэнь.

ВУ′ЛЕЖАЦЬ *зак.* Вылежаць. *Я б вулежала колько хоч.* Запясочча. *Важко вулежаць, не можно перэвернуцца на другі бок.* Там жа.

ВУ′ЛЕЗЦІ *зак.* Вылезці, выйсці. *Проківы наросло, шчо не можно вулезці.* Кароцічы. *Не можно вулезці, таке гразке болото.* Луткі. *На берэг сторчовы не можно вулезці.* Цераблічы. *Вулезла з берэгоў вода.* Там жа.

ВУ′ЛЕЙ *м.* Вулей (калода для пчол і рамачны вулей). *У кажного вýлья е ў дворэцкіх.* Дварэц. *Стáўлеюць вулыі, шоб пчолы булі.* Чэрнічы. *Нашушкаласа, ек вулей.* Пагост. *Чый вулей, того і дуб, на екім вон стоіць.* Хачэнь. *Бацько дзеліць вульé на куцью* (умоўна паміж дзецьмі, звычай). М. Малешава. *Бувало этых оводоў, як із вулья рой.* Там жа. △ Драць вулей. Выбіраць мёд з вулля, нішчачы пчол і разбураючы гняздо. *Раньшэ і медзведзь драў вулы.* Бярэжцы. Застроіць вульé. Падрыхтаваць вуллё. Кароцічы.

ВУ′ЛЕЙЧАЦЬ *зак.* Вылягчаць. *Вулейчалі боронца і цепер годуем.* Верасніца.

ВУ'ЛЕПІЦЬ *зак.* Абмазаць (глінай). *Вона сама вулепіла, вушокутурыла хату.* Запясочча.

ВУЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Вылятаць. *Почнуть вілетать бўські скоро.* Альпень.

ВУ'ЛЕЦЕЦЬ *зак.* Вылецець, выскачыць. *Серцэ б вулецело, так стукнуло.* Запясочча.

ВУЛІВА'ЦЬ *незак.* Выліваць, вычэрпваць. *Воду, шчо мулі рукі коровайніцы, вуліваюць на вішню і поюць: «Шоб вішэнькі розвіваліса, а молодые любоваліса».* Хачэнь. *Надо воду вуліваць, бо потанем.* В. Малешава.

ВУ'ЛІВОК *м.* Вылівак, яйка, знесенае без шкарлупы. *У нас е одна кура, шчо несе одные вуліўкі.* Кароцічы. △ Вуліўкі вуліваць. Несці яйкі без шкарлупы. *Кура вуліўкі вулівае да есць.* Сямігосцічы.

ВУ'ЛІТЫ *прым.* Выліты, заліты. *Лёх у дне цэментом вуліты.* Хачэнь. △ Як вуліты. Гладкі, адкормлены (пра чалавека). *Як вуліта жонка, хороша, гладка́, нема мо́ршчын.* В. Малешава.

ВУ'ЛІЎ *м.* Лівень. *Дзве недзелі такі вуліў буў!* Сямігосцічы.

ВУ'ЛІЎКА *ж.* Чарпак для вылівання вады з лодкі. *Вуліўка з дуба, воду вуліваць.* Кароцічы. *Вулеўка е? Надо воду вуліваць, ато потанем.* В. Малешава.

ВУ'ЛІЦЬ *зак.* Выліць. *Я ў свой осковень тры гладышкі молока вуліла.* М. Малешава. Добра прайсці. *Суткі дождж вуліў.* Хачэнь. △ Вуліць во́лос. Вылечыць шэптамі і вылiваннем хваробу валасень. *Волос вуліць воском можэ баба, і на колос его вуліваюць.* Луткі.

ВУ'ЛКА *ж.* Правулак, кароценькая вулічка, якая злучае вуліцы ў сяле. *Вулка — то яке дзе племя седзіць.* Аздамічы. *Мо ў Лесевой вулцы свіньі?* В. Малешава.

ВУ'ЛОЖЫЦЬ *зак.* Палажыць, выбіць дашчэнту. *Немец нашых выложыў богато.* Альпень.

ВУ'ЛУЗАНЫ *дзеепрым.* Вылузаны, вылушчаны. *Тые орэхі вулузаные.* Луткі.

ВУ'ЛУЗАЦЦА *зак.* Вылузацца, выкруціцца, вызваліцца. *І як вон вулузаўса з той беды, не ведаю.* Верасніца.

ВУЛУПА'ЦЬ *незак.* Вылупліваць, выдзіраць. *Вулупаюць корчы.* Хільчыцы.

ВУ'ЛУПІЦЬ *зак.* 1. Выдраць, выцягнуць. В. Малешава. 2. Вылупіць, набіць. *Вылуплю да тогды лягу спокойно.* ·Цераблічы. △ Вулупіць во́чы. Шырока

раскрыць вочы. *Вупіла шпірту да не знала, то розявіла рот і вочы вулупіла.* Чэрнічы. *Чого ты очы вулупіла, не познала?* Альшаны.

ВУ'ЛУЧЫЦЦА *зак.* Выгнуцца, прагнуцца. *Корова поцягла́са, вулучылаca — будзе отліга, мороз отляжэ.* В. Малешава.

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць качак, індыкоў. *Вуль-вуль-вуль, вуленькі мое...* Сямігосцічы.

ВУ'ЛЬКА *ж.* Качка (ласкальна ці ў размове з дзецьмі). *Ой, мой сынульку, пойдом домоў, онь нашы вулькі поплулі.* Верасніца. *Памянш.* в у́ л е н ь к а.

ВУ'ЛЮДНЕЦЬ *зак.* Вылюднець, папрыгажэць. *Поехала ў город да трохі і вона вулюднела.* Верасніца. *Вылюднело ціпленя́, а було ж таке воно слабэ і нехорошэ.* Цераблічы.

ВУМ *м.* Розум. *Косы сівеюць і вум сохне.* Кароцічы. △ Н а б е́ г ц і н а в у м. Прыйсці ў галаву. *Якая песня набежыць на вум, тую і спевалі.* Хачэнь.

ВУ'МАЗАЦЦА *зак.* Вымазацца, укачацца. *Вумазаўса ў муку ці ў піль яку.* В. Малешава.

ВУМА'НЬВАЦЬ *незак.* Выманьваць. *От ты што есі, а вон хочэ да вуманьвае.* Бярэжцы.

ВУМА'ХВАЦЦА *незак.* Завіхацца, мітусіцца. *А куры так умахваліса коло лёну!* Верасніца.

ВУ'МАЦАЦЬ *зак.* Абмацаць, перамацаць. *Я за ноч вумацала подўшку на печы, не могла заснуць.* Хачэнь.

ВУМА'ЦЬ *незак.* Вымаць. *Горшкі вумаём с печы.* Запясочча. △ В у м а ц ь м е́ т р ы к у. Выпісваць метрычнае пасведчанне. *Ходзіла вымаць метрыку ў загсе.* Мачуль.

ВУ'МЕНЦІЦЬ *зак.* Хутка з'есці. *Петро вуменціў мігом і квас і зацірку.* В. Малешава.

ВУМЕ'НЬВАЦЬ *незак.* Выменьваць, мяняць. *Возілі ху́сткі, на́меткі да там вуменьвалі на хлеб.* В. Малешава.

ВУ'МЕРАЦЬ *зак.* Вымераць, перамераць. *Стаканчыком вумерае коробку ягод і полічыць усе.* Хачэнь.

ВУМЕРЗА'ЦЬ *незак.* Вымярзаць. *Вода вумерзае, а лёд вісіць коло берэга, а под ім сухо.* Пагост.

ВУ'МЕРЭЖЭНЫ *прым.* Выраблены мярэжкай. *Вумерэжэна сорочка.* Хачэнь.

ВУ'МЕСЦІ *зак.* Вымесці. *Трэба ўзяць вумесці контору.* Запясочча.

ВУМЕ'ТА'ЦЬ *незак.* Вымятаць. *Помелом вуметáлі печ.* Кароцічы. *Вумётаць хату трэба.* Луткі.

ВУМІНА'ЦЬ *незак.* Вытрушчваць мнучы. *Вымінае з колоской бороды жыто.* Аздамічы.

ВУ'МОВІЦЬ *зак.* Вымавіць, выгаварыць. *А дзіця не вумовіць вуж, да гуж: тато, ка, забій гужа.* Луткі.

ВУ'МОКЦІ *зак.* Змокнуць, вымакнуць. *Була на огородзі да вумокла-вумокла!* М. Малешава.

ВУМОРО'ЖВАЦЦА *незак.* Вымярзаць, прамярзаць. *Вода з лесоў цеплейша і не так уморожваецца.* Верасніца.

ВУ'МОТАЦЬ *зак.* Абматаць, закруціць. *Бумагі накладуць, устроюць такого чуба, шчо го-о! Вумотаюць шалінóвою хусткою, вуплетуць.* Кароцічы.

ВУ'МОЧКА *ж.* Вымаклае месца. *Як вумочка, то оно трава поросце.* Хачэнь.

ВУ'МОЧЫЦЬ *зак.* Змачыць, вымачыць. *Вумочыў дождж — нідзе рубца сухого не було!* Буразі.

ВУ'МУРОВАЦЬ *зак.* Вымураваць, скласці. *С кірпіча лёх вумуроваў.* Луткі.

ВУ'МУЦЬ *зак.* Вымыць, выпраць. *Ідзі да вумый плацье.* Дварэц. *Его роспоры, да вычышч, да вымый, той ксень, то ўжэ смачнейшого нема.* Рубель. Вырваць, выкруціць (вадой). *Вумуло прорву.* Бярэжцы. Вынесці на паверхню. *Вода вымыла ёго.* Мачуль.

ВУ'НЕСЦІ *зак.* Вынесці. *Вунесуць сено на грудок.* Бярэжцы. *На гэту доліну вунесуць да попросцілаюць полотнó.* Хачэнь.

ВУ'НІШЧЫЦЬ *зак.* Знішчыць, вынішчыць. *Буў дрэмучы лес, цепер голо, вурэзалі, вулупілі, вунішчылі.* В. Малешава.

ВУНО'СІЦЬ *незак.* Выносіць. *Як сонцэ зайдзе, то не вуносяць смецье, бо слепотá нападзе* (даўні звычай). Хачэнь. *Тут одрыны ўносілі вышэй на груд, бо вода.* Бярэжцы.

ВУНО'СНЫ *прым.* Стройны, гонкі. *Хорóшэ дзерэво, правé, выносне.* Запясочча. *Которэ выноснэ дзерэво ветла, то на дýгі его.* Мачуль.

ВУ'НОШЭЙ *м.* Вялікі сноп ільну. *Як под руку наберэ лéну, то вуношэй, вон не з'язаны, а потом кладуць і вяжуць у пук.* Луткі.

ВУ'НЯЦЬ *зак.* Выняць. *Дзве рыбіны вунялі, то на поўсела будзе.* Пагост. *Ні плоскогубцоў ні апцугоў не знайшоў, цепер чым хоч вуймі гвоздá.* Верасніца. *Лас-*

*ковы, ласковы, а далей душу вуйме.* Бярэжцы. *Роскоде, серцэ вуйме, а потом з'яжэ і трубіць* (пра выраб дудкі). В. Малешава.

ВУ'ОРАЦЬ, ВУ'ВОРАЦЬ *зак.* 1. Выараць. *Вуорай у том хвосце загона колка дубового.* Дварэц. *Вуворуць картоплі наліхо, воны, ек мост, лежаць, а ноччу іней сцене і воны, ек пороxoўкі, пороб'яцца.* Дварэц. 2. Узараць. *Прыголовач остаўс, не вуворай шчэ Васіль.* Цераблічы.

ВУПАДА'ЦЬ *незак.* Выпадаць. *Зуб вупадацьме.* Бярэжцы. *На сілязі ў концэ мая вупадае роса медовая.* Верасніца.

ВУ'ПА'ДОК, УПА'ДОК *м.* Згуба, непрыемнае здарэнне, няшчасны выпадак (хвароба, смерць). *Вупадок у нозе ў корову* (пра нарыў). Запясочча. *Хай тобе на вупадок!* (кляцьба на згубу). Там жа. *Упадкі бываюць у скоціні, упадок — як сцерлоса у коня, свіньня поросят поела ці подохлі.* В. Малешава.

ВУ'ПАЛАЦЬ *зак.* Вывеяць, ачысціць. *Опаліны вупалаём, а тоды другі раз просо тоўком, продуном і шчэ тоўком.* Верасніца.

ВУПА'ЛВАЦЬ *незак.* Выполваць. *Вупалвалі просо, шчоб не було ні зеліночкі.* Хачэнь.

ВУ'ПАРЫЦЬ *зак.* Выпарыць, ашпарыць. *Я вупару лодышку кіпятком.* Запясочча.

ВУ'ПАСЦЬ *зак.* 1. Выпасці. *Можэ, некоторой не вупало ехаць.* Бярэжцы. 2 *перан.* З'явіцца на свет, нарадзіцца. *Пока вупало, ужэ знаюць, як зовуць.* Луткі.

ВУ'ПАХАЦЦА *зак.* Стаць непрыдатным. *Усе поле выпахалоса, зробілоса сітнік одзін.* Мачуль.

ВУ'ПАХЦІСА *зак.* Вытхнуцца. *Водка выпахласа.* Запясочча.

ВУПЕ'КАЦЬ *незак.* Выпальваць. *Упекалі ей нешчо, то вона цепер гладка і не сказаў бу, шчо хвора.* М. Малешава.

ВУ'ПЕКЦІСА *зак.* Выпечыся. *О, як добро вупекса хлеб, не сеў на скорку.* М. Малешава.

ВУ'ПЕРЦІ *зак.* Выперці, выгнаць. *Магулу вуперло на берозе.* Буразі. *Будзе попрэкаць тогды, шчо вуперла замуж.* Бярэжцы.

ВУ'ПЕРЦІСА *зак.* Выперціся, выгнуцца. *Дно з дзежкі вуперлосо.* Чэрнічы.

ВУ'ПЕРЭДЗІЦЬ *зак.* Аперадзіць, абагнаць. *О, дзеўкі, я вас вуперэджу полоць!* Верасніца.

ВУПЕ'ЎВАЦЬ *незак.* Выводзіць песню. *Так лоўко певень вупеўвае.* Луткі.

ВУПІВА'КА *м.* П'янчуга. *От вупівака, вупіў стакан горэлкі і коўбасой закусіў.* Чэрнічы.

ВУПІРА'ЦЬ *незак.* Выпіраць. *Езыка упірало, так болело!* М. Малешава.

ВУПІ'СВАЦЬ *незак.* △ В у п і с в а ц ь р о́ ж у. Загагаворваць рожу, праводзячы лініі вакол хворага месца лязом нажа ці іншым вострым прадметам. *Рожу ко́лісь вулівалі і вупісвалі.* Сямігосцічы.

ВУ'ПІЎКА *ж.* Напіткі. *Хватало еды і вупіўкі — рыба була, захоло́д буў, і ўсе, шо трэ.* М. Малешава.

ВУ'ПІЦЬ *зак.* 1. Выпіць. *Бувае хто кому плохо подумае або дасць вупіць чого і зробіцца недобрэ, то пілі тое зелье.* Пагост. *Хоць бу ўжэ яку чарын́у вупіў на с'ято!* М. Малешава. 2. Выдзеўбці (звычайна пра вераб'ёў, якія жыруюць на просе і іншых культурах, пакуль зерне яшчэ мяккае). *Як вуп'юць ороб'е́ просо, то поподніма́ецца.* Луткі.

ВУ'ПЛАКАЦЬ *зак.* Наплакацца. *Ужэ му вуплакалі-вуплакалі!* Хачэнь.

ВУ'ПЛАЎКА *ж.* Сплаў лесу па малых рэчках і да ракі. *На выплаўкі ходзіў вон з бацьком, лес плаўяць по канавах.* Чэрнічы.

ВУ'ПЛЕВАЦЬ *зак.* Выплюнуць. *Выплюй, нашчо ты ўзяў песок!* Аздамічы. *Хоць еж, хоць выплюй* (прымаўка). Там жа.

ВУ'ПЛЕСКАНЫ *дзеепрым.* Сплясканы, выкаваны. *Вуплесканое жэлезо, простое, ковальское.* Запясочча.

ВУ'ПЛЕСКАЦЬ *зак.* Разбалбатаць. *Плеткарка вона, усюды вуплешчэ усё.* В. Малешава.

ВУ'ПЛЕСЦІ *зак.* 1. Выплесці, сплесці. *Выплетеш коробку, то, бало, сееш з ее.* Рубель. *Чэснику венка віплела баба.* Альпень. 2. Выблытаць. *Пока ту плотку выплецеш з гэтых мешкоў* (у ражоўцы). Цераблічы. 3. Наплесці. *Шо я іх вуплела, тых лапцей, то ніхто іх у белум свеці не вуплёў!* Хачэнь.

ВУ'ПЛЕСЦІСА *зак.* Выблытацца, выкараскацца. *Залез у безну, ледві выплёўса.* Аздамічы.

ВУПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Выплятаць, сплятаць. *Выплеталі соломэные косы, сшывалі лозой і коробку робілі.* Рубель.

ВУ'ПЛОДЗІЦЦА *зак.* Вывесціся. *З ейца вуплодзілоса вуценя.* Цераблічы.

ВУПЛО'ЎВАЦЬ *незак.* Выплываць. *Вуплоўвае бобёр з воды вечэром.* В. Малешава.

ВУ'ПЛУСЦІ *зак.* Выплысці. *Одзін раз я плоў, то колі б не мотор, не можно вуплусці, круціць та́ма.* Пагост. *Вуплуў сам да пошоў ту жонку ратоваць і ўтопіўса.* В. Малешава.

ВУ'ПОЛОКАЦЬ *зак.* Выпаласкаць. *Выполокалі тое оле́.* Альшаны.

ВУ'ПОЛОСКАЦЬ *зак.* Выпаласкаць, вымыць. *Закідкі кірпічные вуполоскало водою, мало цэме́нту даў, да одна гліна була.* Дварэц.

ВУ'ПОЛАЦЬ *зак.* Правеяць. *Бодыльве у табаку трэба потоўчы да выполаць.* Луткі.

ВУ'ПОЛОЦЬ *зак.* Выпалаць. *Буракі вуполола.* Запясочча.

ВУ'ПОРОЖНІЦЦА *зак.* Апаражніцца, апусцець. *А это ўжэ вупорожнілоса, то не хочэ пісаць ручка.* Кароцічы.

ВУ'ПОРОСІЦЦА *зак.* Апарасіцца. *З колішнее жызні було, шо свінья вупоросіцца ў ло́зі і прыбегае.* М. Малешава.

ВУ'ПОСЕЛІЦЬ *зак.* Выселіць, прагнаць. *Як его выпоселілі, того князя, то ўжэ ходілі вольно ў лес.* Рубель.

ВУ'ПОТРОШЫЦЬ *зак.* Выпатрашыць. *Кобана́ вупотрошылі і ўнеслі кош у хату.* Альшаны. Выесці вантробы. *Корову выпотрошылі воўкі.* Мачуль.

ВУ'ПРАВІЦЦА *зак.* 1. Выпрастацца, акалець, здохнуць. *Тою шчоткою, шчо подлогу мела, як удырыла кота, то вон і вуправіўса.* Луткі. *Шчоб воны вуправіліса, тые мушы!* В. Малешава. 2. Паправіцца, паздаравець. *Ужэ мне не можно вуправіцца.* Сямігосцічы. 3. Выправіцца, адправіцца. *Вон ужэ скоро вуправіцца на той свет.* Луткі.

ВУ'ПРАВІЦЬ *зак.* 1. Выраўняць, выпрастаць. *Трэба выправіць ло́потні.* Аздамічы. 2. Выправіць, праводзіць. *Чужые мацерэ́ мене вуправілі на во́йну.* Цераблічы. △ В у п р а в і ц ь н о́ г і. Акалець, здохнуць. *Прышла худобіна, лізнула — і ногі вуправіла.* Дварэц. *Коб не я, то ўжэ даўно б ногі вуправіла.* Бярэжцы.

ВУПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Выпростваць, разгінаць. *Стары чоловек ногамі блутае, спіны́ не ўпраўляе.* В. Малешава. *Смерць чоловека ўпраўляе — вуросце чоловек!* Луткі.

ВУ'ПРАЦЬ *зак.* Памыць, б'ючы пранікам. *Мамко, мо плацье тобе вупраць, а мо посціраць?* Аздамічы.

ВУ'ПРОСТАЦЬ *зак.* Выраўняць. *Крывого дзерэва не вупростуеш* (прымаўка). Хачэнь.

ВУ'ПРУЦІЦЦА *зак.* Выпруціцца, акалець, памерці. *Прынесла еку-то зеліну — вуж вупруціўса на месці.* В. Малешава.

ВУПРУ'ЧАЦЦА *незак.* Выкручвацца, супраціўляцца. *Молоды вупру́чаецца, як цягнуць до молодой — ко́лісь так було.* В. Малешава.

ВУПРЭВА'ЦЬ *незак.* Выправаць. *Под снегом жыто вупрэвае.* Сямігосцічы.

ВУПРЭГА'ЦЬ *незак.* Выпрагаць. *Змоклі коні, нада выпрэгаць.* Луткі.

ВУ'ПРЭГЦІ *зак.* Выпрагчы. *Не поедзе, то выпрэгці можно коня.* Цераблічы.

ВУ'ПРЭЦЬ *зак.* Выпраць. Цераблічы.

ВУПУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Пускаць пылок (пра расліну). *Дзерэза ў лесе росце, на муку вупульваецца.* М. Малешава.

ВУ'ПУСТ *м.* Апошні вянок у зрубе хаты. *У вупуста концы торчаць, шчоб шчыт ставіць і дармове́с вешаць.* Верасніца.

ВУ'ПУСТОК *м.* Цялушка на першай пашы. *Памянш.* ву́пусточок. *Целушка лето стоіць у хлеве, зімуе, ада́ле вупускаем на ве́сну с коровой і называем вупусточок.* Бярэжцы. *Вупустучок погуляла і росцелілас.* М. Малешава.

ВУ'ПУСЦІЦЬ *зак.* Выпусціць. *Выпусці гэтые свіня, дак побегуць.* Мачуль.

ВУ'РАДЗІЦЦА *зак.* Прыбрацца. *Вурадзіўса мо к дзеўкам?* Дварэц.

ВУ'РАТОВАЦЦА *зак.* Выратавацца. *Дзе круціць вода, нікогда́ ні купайса, не вуратуесса.* Пагост.

ВУ'РАТОВАЦЬ *зак.* Выратаваць, уратаваць. *Богато я людзей з воды вуротоваў — кладзеш ніцма да махаеш на по́сцілцы.* Пагост. *Сено з воды коб выротоваў!* Хотамель.

ВУ'РВАЦЦА *зак.* Вырвацца. *Гузь вурвецца с кошулі.* Бярэжцы. *Вурваласа одтуль до ма́цер жыць.* В. Малешава.

ВУ'РВАЦЬ *зак.* 1. Адарваць, сарваць, вырваць. *С кожуха́ рукава́ вурвала.* Бярэжцы. *От вурвало і поперло крыгу.* Луткі. *Яблокі беры вурві собе з яблоні.*

Дварэц. *Коб ее вурваў да погледзеў, ці вуросла картопля.* М. Малешава. *Одзін зов'язаўса гурок да і той вурваў.* Хачэнь. 2. Выцягнуць. *Як угрўзнеш, то не можно ногу вурваць.* Луткі.

ВУРГУ'Н *м.* Гузак, пухліна. *Вургуны о такіе поўсхóпваліса!* Хачэнь.

ВУ'РКАЦЬ *незак.* Бурчаць, бубніць, надакучліва гаварыць. *От ходзіць, ходзіць, да вуркае цылы дзень.* Верасніца. *Не вуркай й не бумкай!* Кароцічы. *Вон ужэ негожы, я вуркала-вуркала дай перэстала.* М. Малешава. *Трэбо вуркаць, то тогды зробіць, а так — не.* Луткі. Вурчаць (пра сабаку). *Чого то вон вуркае, нешчо чуе.* Хачэнь.

ВУ'РКНУЦЬ *зак.* Буркнуць. *Прыгласіў ее на танец, а вона вуркнула нéшчё і отошла ўбок.* Пагост.

ВУ'РОБ *м.* △ С в о г о́ в у́ р о б у. Свайго вырабу, самадзелкавы. *Сукно свого вуробу.* Тураў. *Свого вуробу сорочка добро пропускае воздух.* В. Малешава. Н е м а́ в у́ р о б у. Пра цягавітасць. *Ей вуробу нема, той бабе!* В. Малешава.

ВУ'РОБІЦЦА *зак.* 1. Напрацавацца, спрацавацца. *Вуробіласа молодзіца, ужэ негожа.* Бярэжцы. 2. Паправіцца, ачуняць, акрыяць. *Корова ударыла ёго́ ў вісок, доўго-доўго лежаў, пока вуробіўса.* Запясочча.

ВУ'РОБІЦЬ *зак.* Страціць (у працы). *Сілу не вуробіш, а вухворэеш* (прымаўка). Запясочча.

ВУРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Вырабляць. *Шкуру овечкі белілі і віроблялі кожухі.* Сямігосцічы. *Шкуру беруць да віробляюць ю́хту.* В. Малешава. 2. Вытвараць. *Шчо вон віробляе, улез у цыбульку!* Там жа. *Гэто воны ўсё вуроблялі, гэтые хлопцы.* Хачэнь.

ВУ'РОД *м.* Вырадак. *От вурод проклятый, сем'я добра, а етэ нейке...* Запясочча.

ВУ'РОДА *ж.* Тое ж. *Ты, кажэ, вурода нейка.* Буразі.

ВУ'РОДЗІЦЬ *зак.* Нарадзіць. *То ж було трынаццаць дзецей вуродзіла, то й здорова була.* Дварэц.

ВУ'РОДОК *м.* Вырадак. *У роду вуродок бувае.* Луткі. *Вiродок такі зродзіўса, не ў плем'е нашэ.* Аздамічы.

ВУРО'СТАЦЬ *незак.* Вырастаць. *За сорок дней вуростаюць картоплі, бувае.* Бярэжцы.

ВУ'РОСЦІ *зак.* 1. Вырасці. *Ек просо к спасу вуросце з ложку, то будзе і ў ложку* (прыкмета). Цераблічы. *Така хороша вуросце, вусока, ек маці.* Луткі. 2 *перан.*

Разрасціся, успухнуць. *І от, як укусіла, моментально, не ў меру, от такая вуросла рука.* Луткі.

ВУ'РОЎНАЦЬ *зак.* △ В у р о ў н а ц ь б о́ к і. Наесціся ўдосталь. *Летось мы бокі вуроўналі од рыбу!* Кароцічы.

ВУ'РОЎЦІ *зак.* Закрычаць, вызверыцца. *Як вуроўне на матку: «Які тобе грэх!»* Луткі.

ВУРОЧКА'ТЫ *прым.* 1. Зіркаты. *То ў ее такі хлопец вурачкаты?* Верасніца. *Зелёна, вурочката тая жаба.* Пагост. Вялікі, выразны (пра вочы). *І ў цебе вочы як у сову, такіе вурочкатые.* Хачэнь. 2 *перан.* Яркі. *Вурочкатые тые ромашкі, велікіе, хорошые цветы.* Там жа. *Памянш.* в у р о ч к а́ ц е н ь к і. *Вочкі вурочкаценькіе такіе, хороша дзевочка!* Хачэнь.

ВУРОЧКЕ'Й *м.* Зіркаты чалавек. *Это той вурочкей собаку спусціў?* Верасніца.

ВУ'РОЧКІ *мн.* △ П р о д а в а́ ц ь в у р о ч к і. Пазіраць. *Годзі вурочкі продаваць, нема чого.* Запясочча.

ВУ'РОЧКО *м.* 1. Зіркаты чалавек. 2 *перан.* Бессаромнік. Мачуль.

ВУРОЧКОВА'ТЫ *прым.* Зіркаты. Тураў.

ВУ'РОЧЫЦЦА *зак.* Вытрашчыцца. *Чаго ты вырочыўса?* Мачуль.

ВУ'РОЧЫЦЬ *зак.* Вытрашчыць (вочы). *Маці вурочыла очы, не познала.* Запясочча. *Схуднела дзеўка, аж вочы вурочыла: мордочка не красненька, а вочы сталі велікіе.* М. Малешава.

ВУРУБА'ЦЬ *незак.* Вырубаць, ссякаць. *Дуба ці хвою тоўстую вурубаюц.* Запясочча.

ВУРУ'БВАЦЬ *незак.* Вырубаць, будаваць пры дапамозе тапара. *Урубвалі хаты ў круглы вугол ко́лісь.* Цераблічы.

ВУ'РУБІЦЬ *зак.* Вырубіць, выбраць сякерай. *Цепер кажэ зарэзаў чашку, а ў старэ ўре́м'я говорылі, як робілі ха́ты,— ву́рубаў ча́шку.* Пагост.

ВУРЧЫ'ЛО *м.* і *ж.* Бурклівы чалавек. *Годзі ты, вурчыло, вуркаеш і вуркаеш!* В. Малешава.

ВУРЫ'КВАЦЬ *незак.* Парыкваць. *Вурыквае целушка.* Луткі.

ВУ'РЭЗАЦЬ *зак.* 1. Выразаць. *Пойду вудзілно вурэжу.* Хачэнь. 2 *перан.* Выпіць. *Вон сам учора вурэзаў мо літроў два.* Хачэнь.

ВУРЭ'ЗВАЦЦА *незак.* Праразацца. *Ікол у кобулі-*

*цы на шостом годў вурэзваецца.* Дварэц. *Вырезваецца жыто, усходіть.* Альпень.

ВУРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* Вырэзваць, выпілоўваць. *Розку вурэж з вэрбы.* Мачуль. *Вурэзвалі ў вугол.* Бярэжцы.

ВУ'РЭЧ *м.* Сенакос або паша з сакавітай травой. *Выреч.* Альпень.

ВУС *м.* 1. Вус. *Кот як дорвецца до молока, так вўсы і ўклаў.* Мачуль. 2. Асцюк. *Вўсы з ечменю колючые, залезуць до шкуры, то попоколюць.* М. Малешава. 3. Вусікі ў паўзучых раслін. *Гуркі ўжэ вўсы попускалі, ек і ў гарбузе.* Луткі. 4. Зарэзка ў бервяне. Пагост.

ВУ'САДКІ *мн.* Высадкі, насеннікі. *Капўсценые вусадкі не ўродзілі, вусень з'ела.* Луткі. *На вусадкі бурак кінула.* М. Малешава. *У ёгó весь горóд — вусадкі.* В. Малешава.

ВУ'СВАТАЦЬ *зак.* Высватаць. *Вон настаўнікам буў, вусватаў ее.* Запясочча. *Пойду тую вусватаю, шо хорошша.* Пагост.

ВУ'СВІСТАЦЬ *зак.* Сыграць. *А любого танца вусвішчэ вон на дудочцы!* В. Малешава.

ВУ'СВІТНУЦЬ *зак.* Сцебануць. *Пугою ек вусвітне по земле, то товар боіцца да отвернецца.* М. Малешава.

ВУ'СЕДЗЕЦЦА *зак.* Насядзецца. *Ато прыдзе невестка і скажэ: вуседзеласа ў хаці, а свіньня не кормленые.* Хачэнь.

ВУ'СЕКАЦЦА *зак.* Высмаркацца. Запясочча.

ВУ'СЕКАЦЬ *зак.* Высмаркаць. *Іванко, дай я тобе носіка высекаю.* Тураў.

ВУСЕ'КА'ЦЬ *незак.* 1. Вырубаць. *Сокерою шпарыка высéкаюць.* Мачуль. *Вугла вісекáлі.* Хотамель. 2. Высякаць, выкрэсваць. *Колісь з краменя огонь вусéкалі.* Цераблічы.

ВУ'СЕКЦІ *зак.* Выкрасаць. *Трэба вусекці огонь.* Аздамічы.

ВУ'СЕНІЦА *ж.* 1. Вусень. Запясочча. 2. Гнаявік у капытах (каня, каровы). *Загной получыўса між рáкопуціцамі, вусеніца по-нашому.* Запясочча.

ВУ'СЕНЬ *ж.* Вусені. *Об'ела вусень грушы, мешкі повешала, поробіла іх, ек дзеркачэ.* Дварэц. *Вусень з'ела лён зоўсім ужэ векікі, однэ стырчэ́ зосталіса.* Цераблічы.

ВУ'СЕРБАЦЬ *зак.* Высербаць, з'есці. Хільчыцы.

ВУ'СЕЎКІ *мн.* Высеўкі. *Оўсяные вусеўкі.* Луткі. *Вісеўкі от мукі вісеела.* Хотамель.

ВУ'СІКІ *мн.* Вусікі ў паўзучых раслін. Бярэжцы.

ВУСКАЛЯ'ЦЬ *незак.* Выскаляць, выстаўляць. *Не ускаляй зубы!* М. Малешава.

ВУ'СКВАРОК, ВУ'СКАРОК, ВУ'СКОРОК *м.* і ВУ'СКОРКА *ж.* Выскварка, кавалачак смажанага сала. *Банку з вускваркамі возьмі да картоплі паджар.* В. Малешава. *Вускоркі з старого сала не смачные.* Тураў. *Можэ саліну якую, вускарка з'еў?* М. Малешава. *А як выскорка ўзяў, то не мочай.* Альпень.

ВУСКЛО'БВАЦЬ *незак.* Вычэсваць цяслой, выстругваць скобляй. *Корыта мі высклобвалі чэслою.* В. Малешава. *Высклобвалі склóбкаю бочкі, цэ́бра, шчоб роўно було.* Цераблічы. Вычышчаць, выскрэбваць. *Цесто не вусклобваем зусім з дзежкі.* Верасніца.

ВУ'СКЛОБІЦЬ *зак.* Выстругаць скобляй. Запясочча.

ВУ'СКОРОЦЕНЬ *м.* Копанік. *Віскороцень.* Хотамель.

ВУ'СКОЧЫЦЬ *зак.* Выскачыць, выбегчы. *Удўшэны на вецёр вускочыш — дай охват.* Луткі. *Вускочыў, ек дурэнь з-за куста* (прымаўка). Сямурадцы. Выпасці. *Вускочыла рыбінка з рота у кота.* Дварэц. *Хоцеў заспеваць, да вускочылі тые шчэ́лепу, да такога розяўленого і поперлі ў больніцу.* Луткі. З'явіцца, узысці. *Гарбузы ўсходзяць, у дужках ужэ, а лопаточка не вускочыла шчэ.* М. Малешава.

ВУ'СКРЭБОК *м.* 1. Выскрабак, паскрэбак. *Казалі, вускрэбкі не еж, а то на коня не злезеш — то хлопцы і не едзяць.* Дварэц. 2 *перан.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Это малэ выскрэбок у нас.* Луткі. *Ужэ, кажэ, і вускрэбка ожэніў, то ужэ стары.* Там жа.

ВУ'СЛУХАЦЬ *зак.* Пачуць. *Эта жонка, тут оддыхаючы, этэ усё выслухала і пошла расказала.* Кароцічы.

ВУСЛУХО'ЎВАЦЬ *незак.* Выслухоўваць. *Я не пойду вуслухоўваць, як гето було.* Хачэнь.

ВУ'СМЕШКА *ж.* Высмейванне, кпіны. *А як дурны, то вусмешку робіць зо ўсёго́.* Хачэнь. △ Н а в у́ с м е ш к і с т р о́ і ц ь. Высмейваць. *Воны ёго́ на вусмешкі строяць, вон плохі чоловек.* В. Малешава.

ВУ'СМЕЯЦЬ *зак.* △ В у с м е я ц ь о́ ч ы. Засмяяць, абсмяяць. *Людзі вусмеюць очы мне, ек почуюць.* Луткі.

ВУ'СНУЦЬ *зак.* Загінуць, здохнуць, памерці. *Тые немцы од морозу вуснулі, не прывуклі воны.* Дварэц.

*Мой купіў таку пляшэчку, попрыскала, то ўсе мухі вуснулі*. Луткі.

ВУСО′ЗЕЗНЫ *прым*. Высачэзны. *Ой, і вусозезны вяз, ек залез на ёго́, то бачно́ було сёла*. Пагост.

ВУСО′ЗНО *прысл*. Вельмі высока. *Ой, вусозно вісяць смоля́нкі, то й палкой не докінеш, шоб збіць*. М. Малешава. *Вусозно, коло самого перэ́клада ластоўка зробіла свое кубло*. Там жа.

ВУСО′ЗНЫ *прым*. Вельмі высокі. *Вон буў такі огромны, вусозны*. Тураў. *У Гомелі ў парку е клён вусозны на́гле*. Дварэц. *Там берэг такі вусозны, а ў ём ластоўкі водзяцца*. Пагост.

ВУСОКІ *прым*. Высокі. *Трэба вусока вельмо ле́са, шоб оборваць ту рабіну*. Дварэц. *Веселец ву́шэй за бу́сько*. В. Малешава. *Дзе самы ву́шэйшы лес, там чорны бу́сько собе кубло зробіць*. Бярэжцы.

ВУ′СО′КО *прысл*. Высока. *Перэ́клет вісо́ко на слупах*. Хотамель. *Стане веселей, сонцэ вушэй*. Верасніца. *От бусько полецеў ву́соко!* Хільчыцы. *Я не страха́ўса, шчо то я высо́ко залез*. Рубель. Высокім тонам. *Нешчо вусо́ко вуло*. Запясочча.

ВУСОКО′СЦЬ *ж*. Вышыня. *Метроў семдзесят высокосці було*. Луткі.

ВУСОКО′ТВАЦЬ *незак*. Вельмі сакатаць. *Сокочэ кура, усокотвае*. Бярэжцы.

ВУ′СОЛОПІЦЦА *зак*. Выставіцца. *Вусолопіцца гурок на сонцо, а не ў ло́бузі лежыць, то будзе горкі*. М. Малешава.

ВУ′СОЛОПІЦЬ *зак*. Высунуць, высалапіць. *Высолопіў езыка́*. Аздамічы.

ВУСОТА′ *ж*. Вышыня, высокі рост. *Нашы пескі вусоту даюць, і грэчка сілно росце*. В. Малешава.

ВУСОТА′ЛЬНЫ *прым*. Высачэзны. *Вусотальные картоплі вуруслі*. Запясочча.

ВУ′СОХЦІ *зак*. Высахнуць. *Летошне лето усё вусохло*. Верасніца. *Коло Хільчыч була река Хіл, ее маці проклела, бо ў ёй дочка утопілас, то вона вусохла* (паданне). В. Малешава. Схуднець. *Дзеўка зоўсім вусохла, ніяка стала*. Хачэнь. *Конь поправіўса за лето, кажэ, да жонка вусохла* (прымаўка). Цераблічы. △ Вусохці на цёсочку. Схуднець, стаць кволым. *Хто то поверыць, шчо гэто вона — вусохла на цёсочку, не познаць*. Сямурадцы.

ВУСОЧЭ'ЗНЫ, ВУСОЧЭ'ННЫ *прым.* Высачэзны. *Высочэзна хата.* Аздамічы.

ВУ'СПА *ж.* Пясчаны востраў або каса ў рацэ. *Выспа — то як песка на рэцэ нагоніць гуру.* Луткі. *Выспа серэд рэкі поросла сілегою.* Там жа. Пясчаны насып, намыты вадой. *Выспою засыпало рэчку.* Аздамічы.

ВУ'СПАНЫ *прым.* Які добра выспаўся. *То колісь недобрэ дзецям було! А то і накормлено воно, і напоено, і вуспанэ.* Кароцічы. *Городска жэнчына выедзена, выспана.* Мачуль.

ВУ'СПАЦЦА *зак.* Выспацца. *Кажуць, як горох по дорозі валяецца, то ужэ паробок вуспіцца* (прыказка). Хачэнь.

ВУ'СПАЦЬ *зак.* Прыдбаць сплючы. *Чого спіш? Хочэш выспаць коня з оглоблею або з дышлевым возом?* Мачуль.

ВУСПЕВА'ЦЬ *незак.* Выспяваць, рабіцца спелым. *Кіяхі з рогозу ек выспеваюць, то рыжоватые роб'яцца.* В. Малешава.

ВУСПЕ'ЎВАЦЬ *незак.* Выспеўваць. *Молодые колісь успеўвалі цэлы вечор.* Хачэнь.

ВУ'СПЕЦЬ *зак.* 1. Выспець, даспець. *Вуспее буяшнік да буяхі розлетаюцца.* Любавічы. *Як выспее, то сам упадзе.* Альшаны. *Гэто вон вуспее на том дзе́рэві, той грыб?* Хачэнь. 2 *перан.* Змарнець, схуднець. *Як баба захворэе, сцечэ кроўю, дай бела-бела, то кажуць: от вуспела, бела, як ліпіна, стала.* Луткі.

ВУ'СПУХЛЯ *ж.* Багна, гразкае месца. *У войну ў етые вуспухлі самалёт немецкі ўпаў да зацягло, увесь схаваўся.* Пагост. *Не йдзі горо́дом, такіе вуспухлі, што ўгрузнеш да шчэ чоботы оставіш.* Там жа. *Вуспухля — такі потоп на болоці, можно на той свет пойці.* Сямурадцы.

ВУ'ССАЦЬ *зак.* Высмактаць, выцягнуць. *Этые канавы выссалі ўсю воду.* Буразі.

ВУСТАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Загаляцца, трымацца непрыстойна. *Не выстаўляйса, ты ж дзевочка!* М. Малешава.

ВУСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Выстаўляць, высоўваць. *Воду сколоцяць, то кожу́шкі очы і лоб выстаўляюць.* Альшаны.

ВУ'СТОГНАЦЬ *зак.* Настагнацца, напакутавацца. *Шоб ты выстогнаў да выхвораў!* (праклён). Аздамічы.

ВУ'СТОЯЦЬ *зак.* Выстаяць. *Заедзь, не вустоіш коло коровы на дворе.* Пагост.

ВУ'СТРОЕНЫ *прым.* Прыбраны. *Два вустроеные прошлі чоловекі.* Запясочча. *У ее хорошэ, у ее ўсе вустроено!* Сямурадцы.

ВУ'СТРОМІЦЬ *зак.* Спусціць на зямлю завіслае дрэва. *Стром тяжко выстроміть.* Рубель.

ВУ'СТРУГАЦЬ *зак.* Выстругаць. *Цо́ханка — круглы гладзенькі каменьчык, як ёго́ хто вустругаў.* Бярэжцы.

ВУ'СТРЫГЦІ *зак.* Выстрыгчы. *Гіру вустрыг да ходзіць.* Хільчыцы.

ВУ'СТУДЗЕНЬ *м.* Цяж ад галоўкі да першага капыла (у санях). *Вустудзень, што звязвае голоўку саней з копулом, под копул ідзе.* Сямігосцічы.

ВУСТУПА'ЦЬ *незак.* Выступаць, з'яўляцца. *Вода вуступала з-под корча.* Альгомель.

ВУ'СТУПІЦЬ *зак.* Выступіць, з'явіцца. *Зарэ выступіць хмара, да не будзе колі сено̄ робіць.* Аздамічы. *Вуступіў по́хмарок, зарэ дождж пойдзе.* Любавічы.

ВУ'СУНУЦЦА *зак.* Высунуцца, выглянуць. *Онё высунуўса з кустоў чоловек!* Кароцічы.

ВУ'СУШЫЦЬ *зак.* Высушыць. *Сікуна нада высушыць, капшука дзецям здзелаць.* Любавічы.

ВУ'СЦЕГЛЯ, ВУ'СЦЕЛЬГА *ж.* Цяж ад галоўкі да першага капыла (у санях). *Вусцегля з берэлозіны, з лозіны робіласа.* М. Малешава. *Вусцельга — в'яз от голоўкі до копула.* Цераблічы.

ВУСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Высцілаць. *Под вусцілаем, як мур.* Кароцічы. Рассцілаць. *Ткалі полотно да усцілалі на снег.* М. Малешава.

ВУ'СЦІЛКА *ж.* Сцелька, падсцілка з саломы або сена ў бот, лапаць. *Гэтые чоботы вусцелкі не варт.* Тураў. *Вусцілку із соломі ў чобот положыш, так вона сухая.* В. Малешава.

ВУ'СЦЬЕ *н.* Вусце. *На вусцьі Случы рыбу ловаў.* В. Малешава.

ВУ'СЫПАЦЦА *зак.* З'явіцца на целе (пра прышчы і інш.). *На голову па́ршы вусыпаліса од простуды.* Дварэц. Паказацца, выйсці з трубкі (пра колас). *Як пшэніца высыпаласа, то мошка пропадзе* (прыкмета). Бярэжцы.

ВУСЫПА'ЦЦА *незак.* Высыпацца, рассыпацца. *Од во́лоса ўсе косці высыпаюцца.* Сямігосцічы.

ВУСЫПА'ЦЬ *незак.* Высыпаць. *Буду гўсям вусыпаць яблука, то воны век з двору не вулезуць.* Хачэнь.

ВУ'СЫПКА *ж.* Высыпка, прышчыкі. *Нека вусупка, то вумула дзіцятко ў моркоўніку, да вуліла до сонца на росходні дорогі, то як бач поправіўса.* Луткі. △ В е т р э н а я в у с ы п к а. Ветраная воспа (?). *На дзеўцы ветрэная высыпка, мо то од ветру?* М. Малешава.

ВУСЫХА'ЦЬ *зак.* Высыхаць. *У Хізішчах брод е, не высыхае ніколі.* Луткі. *Крыніца була, вода выходзіла з-под корча і ніколі не ўсыхала.* Альгомель.

ВУТ-ВУТ-ВУТ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць качак. Запясочча.

ВУ'ТВА *ж., мн.* ВУ'ТВУ', *зб.* ВУТВА'. Качка. *Мамо, а дзе вўтва з вуценятамі?* Запясочча. *Ек вутва, перэкідаецца вон* (пра паходку). Верасніца. *Дзесяць стрэлцоў будуць біць вутві на садў, а воны ўсе лецяць.* В. Малешава.

ВУТВОРА'ЦЬ *незак.* Вытвараць. *Шо вон вытворае да выробляе!..* Аздамі́чы.

ВУ'ТКАЛІЦА *ж.* Від дзікай качкі. *Вуткаліца велічыны ек сорока, она по водзе ходзіць і вўткае: вут-вут'.* Сямігосцічы.

ВУ'ТКАЦЬ *зак.* Выткаць. *Ковёр мацер вуткала.* В. Малешава. △ В у т к а ц ь п а́ л ь ц а м і. Выткаць спосабам перабірання. *От дзеругу вуткала пальцамі ў цветы!* Буразі.

ВУ'ТКІ-ВУ'ТКІ-ВУ'ТКІ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць качак. Бярэжцы.

ВУ'ТЛУШЫЦЬ *зак.* Вынішчыць. *Ліс вутлушыў гусят, усе подушыў.* Запясочча.

ВУ'ТНУЦЦА *зак.* Выцягнуцца, выпраміцца. *Чоловек стане праміком, то кажуць — вытнецца.* Кароцічы.

ВУ'ТНУЦЬ *зак.* Выцяць, ударыць. *Як вытнуў нóсцэм, то побег.* Аздамічы. *Ек вытну дубцэм по боцы!* Цераблічы. *Прылеціць самолёт да як вытне, то дрыжаць вокна.* Мачуль.

ВУ'ТОЛОКА'ЦЬ *зак.* Вытаптаць. *Вутолокуюць место да кубло робяць.* Запясочча.

ВУ'ТОЛОЧЫЦЬ *зак.* Тое ж. *Кругом вытолочыць место веселец, коб нічого не допоўзло.* Мачуль.

ВУ'ТОНКОВАЦЬ *зак.* Вырабіць, вымайстраваць. *Файно було — вытонковаў!* Кароцічы.

ВУ'ТОПТАЦЬ *зак.* Вытаптаць, шчыльна напхаць. *Вутоптаў вільчыка кострыцэю.* Луткі.

ВУ'ТОЎКА *ж.* Качка, качачка. *Остаўлю дзве вутоўкі і селезня.* Верасніца. *Вон то, бела,— вутоўка, а той, церэбіцца,— селезён, і почварквае, голос сіплы.* Кароцічы. *Вутоўка моя ты хороша!* Цераблічы.

ВУ'ТОЎЧЫ *зак.* △ Вытоўчы вошы. Моцна пабіць. *Вона ему вытоўчэ вошы, ек побачыць, шо п'яны!* Запясочча.

ВУТО'ЧКА *ж.* Рабро ў кошыку. *Ужэ я ў кош позаложваў вуточкі, ужэ но плесці.* Дварэц.

ВУ'ТРАВІЦЬ *зак.* Скарміць, скарыстаць. *Як вутравіў картоплі з сцёпкі, то затым з яруса беруць.* В. Малешава.

ВУ'ТРАЦІЦЦА *зак.* Растраціцца, патраціцца. *Шчо мы вутраціліса на гэту хату!* Луткі. *І молодая на весельі вытраціцца!* М. Малешава.

ВУ'ТРОЕ *прысл.* Утрая. *Вона брала вутрое, а получыла вучэцьверо.* Луткі.

ВУ'ТРОШЧЫЦЬ *зак.* Вытрашчыць. *Шчо ты бельма вутрошчыў?* Запясочча. *Вутрошчыў вочы, не познаў ці шчо?* М. Малешава.

ВУ'ТРУБУШЫЦЬ *зак.* Вытрыбушыць. *Кішкі не вутрубушыў, оно плечы у куры об'еў.* Хачэнь.

ВУ'ТРУСІЦЬ *зак.* Вытрусіць. *Мак вытрушу ў торбіну, а нашчо его везаць?* Альшаны.

ВУ'ТРУШЧЫЦЬ, ВУ'ТРОШЧЫЦЬ *зак.* Вытрушчыць, вынішчыць. *Воўк вудушыў, вутрушчыў тых вечок.* Хачэнь. *Усю цехніку вытрошчыць такі механік.* Аздамічы.

ВУ'ТРЫМАЦЬ *зак.* Вытрываць, выцерпець. *Мой большый хлопец так мене перэрывае, шчо я ўжэ не вытрымаю.* Тураў. *Боліць, шо не вытрымаю.* Аздамічы. *Я б вутрымала ў том клубі седзець.* М. Малешава.

ВУТРЫ'МВАЦЬ *незак.* Вытрымліваць. *Як я утрымваю гледзець на такого п'яного ек у бога дзень!* Верасніца.

ВУ'ТРЭСЦІ *зак.* Вытрасці. *Поб'е лён да вутрэсе.* Запясочча.

ВУТУ'ПВАЦЦА *незак.* Затупліваццa. *На земле пілка вутупваецца.* Дварэц.

ВУ'ТУПІЦЦА *зак.* Затупіцца. *Вутупіласа пілка да стала тупá.* Дварэц.

ВУТУ'РВАЦЬ *незак.* Вытурваць, выганяць. *Я його вутурвала на двор, а вон не йдзе.* Верасніца.

ВУ'ТХНУЦЦА *зак.* Вытхнуцца. *Заткні, бо вона вутхнецца, не крэпка стане.* Запясочча.

ВУТЫКА'ЦЬ *незак.* Вытычкоўваць, абстаўляць тычкамі. *Вытыкаюць, дзе ему іці, тому пароходу.* В. Малешава.

ВУ'ХАЯЦЬ *зак.* Выхадзіць, выгадаваць. *Вухаяў коня, цепер ездзіць.* Хільчыцы.

ВУ'ХВАТКА *ж.* Звычка, спрыт. *І хода, і ліцэ, і вухватка — усе його.* Бярэжцы. *Така вухватка була у його — біцца.* М. Малешава.

ВУ'ХВАТНІК *м.* Скавароднік, блін з хлебнага цеста. Аздамічы.

ВУ'ХВАЦЕНЬ *м.* Тое ж. Бярэжцы.

ВУ'ХВАЦІЦЬ *зак.* Выхваціць, адхапіць. *За грыбы трыста рублей вухваціў.* Кароцічы.

ВУ'ХВОРАЦЦА *зак.* Выхварацъ, вымучыцца. *Вухворaласа коза, то поела добрэ.* Хачэнь.

ВУ'ХВОРАЦЬ *зак.* Тое ж. *Шоб ты выхвораў да выстогнаў!* (з праклёну). Аздамічы.

ВУ'ХО *н.*, рэдка ВУХО'. 1. Вуха. *Обедзві вушы болядь.* Дварэц. *Ек седзіць у яблучцы з дуба муха, то берэжы вухо, будзе зіма холодная* (прыкмета). Сямурадцы. *Не побачыш ты его, ек своґо вуха.* Там жа. 2. Пятля ці іншая падобная да вуха дэталь. *Зачэпіў трактор да за тэ вухо да поцяг.* В. Малешава. *Казан з вушыма і дужкою буў колісь.* Дварэц. *Памянш.* в у ш к о. *Вушкі ў постолах, за тые вушкі затягáлі волокі.* Альпень. △ С т у л ь в а ц ь в у ш ы. Злавацца, станавіцца агрэсіўным (пра каня). *Конь стульвае вушы, можэ ўкусіць.* Дварэц. Х о ц ь у в у х о к л а д з і. Пра паслухмянага, рахманага. *Ек пусціў того коня, два разы ек обогнаў полем, то такі конь зробіўса, хоць ты ў вухо кладзі.* Луткі. У в у х о л е з ц і. Дапытвацца. *Прышла нова начальніца, дак у вухо лезла.* Луткі.

ВУ'ХОВАЦЬ *зак.* Захаваць, не даць загінуць, зберагчы. *Віховала ўсе свое, не оддала.* В. Малешава. *Людзі вуховалі парцізана.* Цераблічы.

ВУ'ХОДЗІЦЦА *зак.* Выхадзіцца (пра дрожджы). *Дрожджы сухіе, пока вуходзяцца.* Дварэц.

ВУ'ХОДЗІЦЬ *зак.* Выхадзіць. *Нормоднé вуходзіла ўсе чысто.* Луткі. *За дзень і выхоіш ведро ягод.* Альшаны.

ВУХО'ДЗІЦЬ *незак.* Выходзіць. *Горэч уходзіць с капусты.* Сямігосцічы. *Выходзіць хмара, а воны косяць.*

Мачуль. *З ста кіло солому выходзіць дваццаць шэсцьтрыццаць кіло лну.* Дварэц. △ **Выходзіць напроціў.** Выходзіць насустрач, сустракаць. *Як у кого есць кому, то выходзяць напроціў, бо вельмі цяжко несці тые ягоды.* Хачэнь. **Выходзіць з себе.** Злавацца, нервавацца, зайздросціць. *Воны з себе выходзілі, шчо вон вучыўса да дома цепер.* В. Малешава.

ВУ'ХОДКА *ж.* Выхад, прыбытак. *Плохая у ёго выходка, мало выходзіць.* Аздамічы.

ВУ'ХОДНО *прысл.* Выгадна. *Ему было выходно, то вон ездзіў.* Мачуль.

ВУ'ХО'ДНЫ *прым.* Ураджайны, умалотны. *Пашня́ ўмолотна, вы́ходна.* Запясочча. *От ухо́днэ жыто, бач, і рожкі порослі.* Лутці. *У бору, у Полесьі, вельмі урожайнэ жыто — хоць і колос малы, а вон ухо́дны.* Дварэц.

ВУ'ХОЛОДАЦЬ *зак.* 1. Выстудзіць. *Выхолодалі хату.* Аздамічы. 2. Астыць. *Постаў у печ картоплі, а то выхолодаюць.* Хачэнь.

ВУЦЕГА'ЦЬ *незак.* 1. Выцягваць. *Стаў я вуцягаць вудку, а вон седзіць.* Лутці. *Я не мыю подлогу, а выцягаю, бо песку багато.* Аздамічы. 2. Выцякаць. *Возеро з Прыпеці уцегае.* В. Малешава. 3. Выносіць, вытрымліваць. *Коніна не уцегае, а чоловек цяговіты, і сто пчол укусіць, то не помрэ.* Цераблічы.

ВУ'ЦЕГЦІ, рэдка ВУ'ЦЕГНУЦЬ *зак.* Выцягнуць. *Була тут така, хітровала, вона вуцегла клоч'е з сцены, з вугла, то дзіця крычало крыком. Пошла я, вуцегла тое клоч'е ў ее, і перэстало крычаць.* Хачэнь. *Лодку выцягнуў з возера.* Мачуль. *Основу поперуць да выцегнуць.* Хотамель.

ВУ'ЦЕГЦІСА *зак.* Выцягнуцца, выпрастацца. *Вуцягса вуж і спаў з Одамком.* Кароцічы. Вылезці, выпаўзці. *Я лежала, да зараз вуцягласа к вам.* Хачэнь.

ВУЦЕ'КАЦЬ *незак.* Выцякаць. *Вуцекае вода, не дзе́ржыцца.* Запясочча.

ВУ'ЦЕКЦІ *зак.* Выцячы. *Усе вучэчэ з барыла, колі ёго не закрыць.* Лутці. *Воск віцечэ з воскоўня, то остаецца оскодавіна.* В. Малешава.

ВУЦЕНЯ' *н.* Качаня. *Кульгае гэто вуценя, гэто таке вувелос.* Кароцічы. *Вутенята собака почавіў.* Рубель.

ВУ'ЦЕПАНЫ *дзеепрым.* Абтрапаны. *Вуцепаные рукава́, повурывалоса ўсе, дай так навек ходзіць.* Дварэц.

ВУ'ЦЕПКАЦЦА *зак.* Абтрапацца. *Вуцепкаласа сподніца.* М. Малешава.

ВУ'ЦЕРПЕЦЬ *зак.* Выцерпець, вытрываць. *Не можно вуцерпець — вона парцізанка?!* Хачэнь.

ВУ'ЦЕЧКА *ж.* Качачка (звычайна пры падклікан-ні). *Вуцечкі, вуцечкі, ву-уцю-цю-цю!* Мачуль.

ВУ'ЦЕЧЫ *прым.* Качыны. *Было одзінáнцать вутечых еец.* Рубель.

ВУ'ЦІКІ-ВУ'ЦІКІ-ВУ'ЦІКІ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць качак. Хачэнь.

ВУЦІЛІ'НКВАЦЬ, ВУТЭЛІ'МКВАЦЬ *незак.* Старанна і па-майстэрску іграць або спяваць. *Нешчо грае коло его, выцілінквае.* Кароцічы. *Ну і вутэлімквала вона на прычыне — усе собраліса і гледзелі!* М. Малешава.

ВУЦІ'НЫ *прым.* Качыны. *Елі ці вуціне, ці гусіне м'ясо.* Запясочча.

ВУ'ЦІСНУЦЬ *зак.* Выціснуць, выперці. *Як упéрло у жака, так і вуцісло з лодкі того сомка.* В. Малешава.

ВУ'ЦЫГАНІЦЬ *зак.* Выманіць. *Ек ні поддавайса, але вуцыганіў грошы.* Сямурадцы.

ВУЦЬ *незак.* Выць, плакаць. *Лёг, чуе, воўкі отозваліса, вуюць.* Луткі. *Собака вуе ўверх, то на пожар, а ў зёмлю, то ўмрэ хто.* Аздамічы. *Собака вуе перэд прыбутнóю водою, чуе вон.* М. Малешава. *Вукінуў ее, а сам вуе по-бабску.* Верасніца.

ВУЦЬ-ВУЦЬ-ВУЦЬ *выкл.* Выгукі, якімі падклікаюць качак. *Вуць-вуць, вутоўкі, вутоўкі, поежце!* Цераблічы.

ВУ'ЦЬВІН *прым.* Качыны, які належыць качцы. *Селезён то вуцьвін чоловек* (жарт). Луткі.

ВУ'ЦЭЛОВАЦЬ *зак.* Абцалаваць. *Того дзеда вуцэлуе та баба дай ведзе дохаты.* Верасніца.

ВУ'ЦЮБАЦЬ *зак.* Адчытаць, зрабіць вымову. *Выцюбала добро, шчо бацьку не ўзяў.* Кароцічы.

ВУЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Выцягваць, даставаць. *Настахо, помогі кросна вуцягваць.* М. Малешава.

ВУ'ЦЯЖКІ *мн.* Загатоўкі (на боты). *Вуцяжкі продаюць городчукі.* М. Малешава. *Выцяжкі на чоботы з юхты робілі.* Любавічы.

ВУ'ЧАВІЦЬ *зак.* Выціснуць. *Трэбо вучавіць яд.* Бярэжцы.

ВУЧА'ЎВАЦЬ *незак.* Выціскаць. *Вычаўваюць воск.* Аздамічы.

ВУ'ЧАЎКА *ж.* Адходы пасля выціскання або працэджвання. *Не трэ вучаўку вукідаць, ее наша свіння вельмі любіць.* Пагост.

ВУ′ЧАХНУЦЬ *зак.* Выстыць, астыць. *Зырко хлеб саджаць, хай вучахне ў печэ́.* Луткі. *У печэ вучахне, і рыба не вусохне.* М. Малешава.

ВУЧВОРА′ЦЦА *незак.* Балавацца. *Селі да вучвораюцца там, дурэюць.* М. Малешава.

ВУЧВОРА′ЦЬ *незак.* Вытвараць, вырабляць. *Вучвораў твой дзед, ек молоды буў, було бабі з ім гора.* Пагост.

ВУЧО′БА *ж.* Вучоба, вучэнне. *Ні браўса за кнігу, за вучобу, як ты там вучышса?* М. Малешава.

ВУ′ЧОНЫ *прым.* Вучоны, адукаваны. *Чыкіда не вучоны, самовучка.* Дварэц. *Вучону озьме́ собе жонку.* В. Малешава.

ВУ′ЧУНЕЦЬ *зак.* Выздаравець, вычухацца (пасля хваробы). *Я трохі вычунела гэтым летом.* Альшаны.

ВУ′ЧУПРЭЦЬ *зак.* Выпетраць, схуднець. *Вычупрела кура, бы шкілет, пускай ее за ветром.* Альшаны.

ВУ′ЧУХАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Ідзі снедай, ужэ вычухайса добре.* Аздамічы. Зазлаваць. *Чого ты ўжэ ге вучухайса?* Там жа.

ВУ′ЧУХАЦЬ *зак.* Вымерхацца, выветрыць, страціць. *Урэм'е ўжэ вучухаць-тэ, шчо елі.* Луткі. Вычухацца, выздаравець. *Дай божэ вычухаць лёхко.* М. Малешава.

ВУЧУ′ХВАЦЦА *незак.* Рабіцца галодным. *Колі ву вучухваліса, ліхо на вас!* М. Малешава.

ВУ′ЧУХНУЦЬ *зак.* Выстыць, астыць. *Вычухне печ, нема жару.* Аздамічы.

ВУ′ЧЫСЦІЦЬ, ВУ′ЧЫШЧЫЦЬ *зак.* Вычысціць, прыбраць. *Пчолы ў той хвоі вычысцяць гніловатэ ўсе.* Цераблічы. *Шоб вас вучышчыло, да одные жонкі осталіса, от було б добрэ!* Запясочча. Пачысціць, вышараваць. *Вучысціць дай бліщчаць тые бляшкі.* М. Малешава.

ВУЧЫ′ЦЦА *незак.* Вучыцца. *Поехаў год вучыцца за доктора.* Хачэнь.

ВУЧЫ′ЦЬ *незак.* Вучыць. *Прышлі і кажуць: вучы, Цімох, дзецей дай годзі!* В. Малешава.

ВУЧЫШЧА′ЦЬ *незак.* Вычышчаць. *Вучышчаеш, вода, лугі, берэгі, вучышч і палца од волоса* (замова). Запясочча.

ВУ′ЧЭЗНУЦЬ *зак.* Згінуць. *Коб воны вычэзлі до одного!* Мачуль.

ВУ′ЧЭКАЦЦА *зак.* Выкарабкацца, вылезці. *Так-сяк вычэкаласа з болота.* Мачуль.

ВУ'ЧЭКАЦЬ *зак.* Дачакацца. *Ніяк не мог вучэкац дзеньгі.* Запясочча.

ВУЧЭ'СВАЦЦА *незак.* Вычэсвацца. *Поліца з берозы вычэсваласа.* Цераблічы.

ВУЧЭ'СВАЦЬ *незак.* Вычэсваць, выраблять (сякерай). *Бабку зверху вучэсвалі на подсанкі.* М. Малешава.

ВУ'ЧЭЦВЕРО *прысл.* У чатыры разы. Лутreal.

ВУША'К, УША'К *м.* Вушак. *Вушакі нагнуліс дай ворóта не закрываюцца.* Верасніца. *Вушак — шуло з пазом, у дзверы ўстаўляецца.* Мачуль. *Вона ўсе знае, а не чуе — ек вушак!* Сямурадцы. *Памянш.* в у ш а ч ó к. *Роўно з вушачком наклалі сена.* Сямурадцы.

ВУША'ТКА *ж.* Кубел з накрыўкай. *Бодня така з вушамі — вушатка з обечком колісь була.* Сямурадцы.

ВУША'ТЫ *прым.* З вялікімі вушамі. Аздамічы.

ВУША'ХА *м.* і *ж.* Вушасцік. Пагост.

ВУША'ЦЬКО *м.* Тое ж. Аздамічы.

ВУ'ШКА *ж.* Вышка, назіральны пункт. *Вушка ў лесніка була, коб не було дзе пожару́.* Бярэжцы. Памост на дрэве (у паляўнічых). *Вушку на дубі зробіў.* Запясочча.

ВУ'ШКІ *мн.* Вышкі, памост над сенцамі, у хляве або гумне. *Усе вушкі заложылі сеном.* Дварэц. *На хаці — гора, а ў одрыні — вушкі.* М. Малешава. *Я пойду спаць на вушкі, люблю слухаць, ек конь хрумае.* В. Малешава. Памост на дрэве для вулля. Запясочча.

ВУ'ШКОДОВАЦЬ *зак.* Дашкадаваць, дашкадавацца. *Шкодовала, шкодовала і вышкодовала сынка, цепер ма́е!* Луткі.

ВУ'ШМОРГАЦЬ *зак.* Вышмаргаць, выцягнуць. *Хочаце ўсе козыры от мене вушморгаць?* М. Малешава. Абшморгаць. *Трэбо вышморгаць волокі, коб м'якчэйшые булі.* Альшаны. Вышмуляць. *Вушморгала сподніцу ў дорогах, седзячы ў аўтобузі.* М. Малешава.

ВУ'ШНІПОРЫЦЬ *зак.* Вышнарыць, вышукаць. *Дзядзько ўсе вышніпорыць — ужэ лозы надраў недзе.* М. Малешава.

ВУ'ШТЫХАЦЬ *зак.* Выштурхаць, выпараць. *Выштыхаеш бобра з нóры! Не так лёхко!* Альшаны.

ВУ'ШУНКОВАЦЦА *зак.* Патраціцца. *Вышунковаліса за пяць дней нашчэнт.* В. Малешава.

ВУ'ШУРОВАЦЬ *зак.* Вышараваць. *Трэбо заўтра вушуровацъ чугуна.* Дварэц.

ВУШЧОРА'ЦЬ *незак.* Выстаўляць, вышчараць (зу-

бы). *Зубы вушчораюць, глум з мене роб'яць.* Цераблічы.

ВУ'ШЧЭЛІЦЬ *зак.* Вышчарыць. *Зубы вышчэліць войк, да шо хоч ему беры робі.* Мачуль.

ВУ'ШЧЭРБІЦЬ *зак.* Вышчарбіць, глыбока зазубіць (касу). Запясочча.

ВУШЧЭ'РВАЦЬ *незак.* Вытыркаць, высоўваць. *Не вышчэрвай голову!* Хотамель.

ВУ'ШЧЭРКА *ж.* і *м.* Вышчарка, пустасмех. *Вушчэрка, вушчэрыла зўбу дай рогочэ.* Луткі. *Хороша дзейка вуросла, а мала така вушчэрка була.* Пагост.

ВУ'ШЧЭРЫЦЦА *зак.* 1. Ашчэрыцца. *Я до собакі, а вон ек вушчэрыцца!* Хільчыцы. 2. Паказацца. *Скоро вушчэрыцца сойнейко да поцеплее.* Хачэнь. *От вышчэрілас на мороз, месяц яркі.* Альшаны.

ВУ'ШЧЭРЫЦЬ *зак.* Вышчарыць, выскаліць. *Ну шчо ты дзясны вушчэрый?* М. Малешава. *Вышчэрый зубы, бы конь.* Аздамічы.

ВУШЫВА'НЬЕ *н.* Вышытая ўстаўка. *Ушыванье пойшывала з бокой.* М. Малешава.

ВУШЫВА'ЦЬ *незак.* Вышываць. *Е горына вышываць — красна, розова, сіня.* Сямігосцічы. *Ушываюць у нас, а ў Церэблічах — водзяць водзікі.* Дварэц.

ВУШЫНА' *ж.* 1. Вышыня. *З метр вушыны.* Луткі. 2. Вельмі высокі. *Вышына чоловек пошой!* Альшаны.

ВУ'ШЫЎКА *ж.* Вышыўка. *От хвайна вушыйка у ее на сцене ў хаці вісіць!* Кароцічы.

ВУ'ШЫЦЦА *зак.* Вытыркнуцца, вылезці. *Одна кура вушыласа, а другое нема.* Хачэнь.

ВУ'ШЭПТАЦЬ *зак.* Вышаптаць, вылечыць замовамі, шаптаннем. Луткі.

ВУШЭ'ПТВАЦЬ *незак.* Лячыць шаптаннем, замовамі. *Яшчэрка ек укусіць, то ніхто не вышэптвае ее.* Луткі.

ВУ'ЯДЗЬ *ж.* Выедзенае, вытаптанае месца, збой. *І ты побежыш ловіць на ту выядзь, дзе ўсе? Там ужэ ўсе половілі.* Луткі.

ВУ'ЯСНІЦЦА *зак.* Выясніцца, праясніцца (пра надвор'е). *На небі вуяснілос, мо распогодзіцца.* В. Малешава.

ВЭ'ХО *н.* Рэха. *Вэхо по лесе пошло.* Мачуль. *Не йдзе вэхо, неясна погода.* Там жа.

В'ЯЗ *м.* 1. Вяз. *З в'яза коры лапці плелі, у хорошу погоду два месяца носіць можно.* Верасніца. *У в'язў кора

*добрэ дзерэцца.* Запясочча. *В'яз суковаты, крučковаты, а берэст роўнейшы.* Аздамічы. 2. Сувязь капылоў у санях. *В'язэ гнулі берозовуе, лозовуе і дубовуе.* Запясочча. *Это в'яззе, чотыры вязы ў санях е.* Любавічы. 3 *мн.* в'язы́, в'езы́, везы́. Мускулы, сухажылле на шыі. *Нешчо ў мене прослі ночы в'язы заболелі.* Тураў. *В'язы — гэто самы здзвіг, гэто не одна жылка, а збоку головы два пучкі жыл.* М. Малешава. *Ужэ я на другі дзень вязамі не повернула, боліць у мене шыя, усе.* Там жа. △ З а л о м а ц ь  в'я з ы. Зламаць шыйныя пазванкі злоўленай рыбіне. *Заломай в'езы кожу́шку, бо выскочыць.* М. Малешава. З л о м а ц ь (с к р у ц і ц ь) с о б е в'я з ы. Загінуць, зламаць сабе шыю. *Хай вон в'язы собе зломіць!* Мачуль. *В'язы скруціў собе чоловек, пропаў.* Там жа. С в о я  г о л о в а  е  н а  в'я з о х. Свая галава на плячах. *Мо своя голова е на везох, шчо мы тобе скажом?* Хачэнь.

В'Я'ЗАНКА *ж.* Вязанка (звычайна льну). *Ек зв'яжэш ву́ношэёў чотыры-п'яць, то в'язанка.* Луткі. *Звязвалі по дваццаць кучэчок такіх во ў в'язанкі.* Сямігосцічы. *Ек бером лён, то уяжэм у ўязанкі по дзве-тры жмені.* М. Малешава. *Памянш.* в'я з а́ н о ч к а. *Лён ўязалі по п'яць ўязаночок у кучку, ек бралі.* М. Малешава.

В'ЯЗА'ЦЬ *незак.* Вязаць, звязваць. *В'язалі да самоплавом плавілі дерэво.* Рубель. *Лён ўяжэм у ўязанкі.* М. Малешава.

В'ЯЗЕ'ЛЬ *м.* і *ж.* Гарошак лугавы. *От сено, одзін в'язель.* Верасніца. *В'язель і коровы і коні едзяць.* Пагост. *То, кажуць, добрэ сено, як прокідаецца бела в'язель.* Луткі. *Е в'язель другая на болоці, вона сінім цвіце, уецца.* Там жа.

В'Я'ЗКА *ж.* Вязка, звязка. *В'язку сена узяў з собой, коб коню кінуць.* Цераблічы. *Поб'е лён, да вутрэсе, да зв'яжэ ў в'язку.* Запясочча. *Пучкоў дзесяць, то была в'язка.* Мачуль.

В'ЯЗКІ' *прым.* Не ломкі. *Котора в'язка ліпіна, то дзерэцца. Шукаеш, коб нарвацца на в'язкую.* Любавічы.

В'Я'ЗНІ'К *м.* Зарасці вязу. *Шчо в'язнік, шчо сыно́жать, то званье.* Рубель. Тонкія галінкі вяза. *Леску робілі на сані з орэшніку да перэплеталі в'язніко́м.* Верасніца. Лыка з кары вяза. *В'язніку́ накроіў жонкам на лапці.* Сямурадцы.

В'ЯЗО'ВУ *прым.* Вязавы. *В'язовые лапці.* Сямігосцічы.

В'ЯЗО'К *м.* Сувязь капылоў у санях. Запясочча.

В'ЯЗЬ *ж.* Вязь, мацаванне. *Без кокор в'язь не така.* Альшаны.

В'Я'ЛІЦА *ж.* Сухастой. *В'яліца — вяла дзерэвіна, котора шчэ не вусохла зусім.* Сямігосцічы.

В'Я'ЛІЦЦА *незак.* Вяліцца, быць на санцапёку. *В'яляцца тые жонкі на сонцы с серпом.* Тураў.

В'Я'ЛІЦЬ *незак.* Вяліць. *Рыбу в'ялілі, солілі, бо вона долікатна, ее трэбо добро соліць.* Верасніца.

В'Я'ЛЫ *прым.* 1. Вялы, нездаровы, слабы. *От ходзіць в'ялы, нешчо ему долягáе.* Аздамічы. *Картоплі ўжэ ўялые і не хочуць церціса.* М. Малешава. 2. Вялены. *Ты б луччэй ела картоплі з в'ялою рыбою?* Тураў.

В'Я'НУЦЬ *незак.* Вянуць. *Як цепло́, і трава і зелье ўяне, і картоплі в'януць.* Бярэжцы.

В'Я'СЛО *н.* Вязка. *В'ясло лісту дубового кругом себе несе.* Чэрнічы.

В'ЯЦЬ *незак.* Вянуць. *Усе стало в'яць.* М. Малешава. *Усё в'яло на градзе.* Аздамічы.

# Г

ГА′ВЕЗ *м.* Травяністая балотная расліна. *Гавез усеодно, ек проківу, едзяць свіньи.* Цераблічы. *Корэнь гавез от простуды п'юць.* Сямігосцічы. *Гавез от рэмацізму добрэ.* Лұткі.

ГАД *м.* 1. Вуж. *Гад з ейца, а гадзюка ведзе дзеці.* Бярэжцы. *Еслі комар укусіць да пухне, кажуць, вон на гадзі седзеў.* Цераблічы. 2 *лаянк.* Пра агіднага і шкоднага чалавека. *За што ты дзеда, гад, удырыў?* Пагост. *Із гадом не садзіса радом, не спужае, то ўкусіць* (прымаўка). Хачэнь.

ГАДА′ЛКА *ж.* Варажбітка. *Одна гадалка на село, та баба с Полесья.* Пагост.

ГАДА′НЬЕ *н.* Меркаванне. *Нема і гаданья, шоб трапіла я такого чоловека!* Мачуль.

ГАДА′ЦЬ *незак.* 1. Меркаваць. *Надзе, не думай і не гадай, не вубірайса навет.* Цераблічы. 2. Варажыць. *То дзеўкі шчэ гадаюць на шчэдрэц.* Лұткі.

ГА′ДЗІ′НА *ж.* 1. Гадзюка. *На Вострові ек вукосілі одну гáдзіну — як оглóбля тоўшчыны!* Запясочча. *Хлопцы; шчо гэто — уюн ці гáдзіна?* Лұткі. 2 *перан.* Агідная і шкодная асоба, злосная і каварная істота. *О, гáдзіна ты, куды ты, раба!* Бярэжцы. *І вона така, як ты, гадзіна!* Мачуль.

ГАДЗЮ′КА *ж.* 1. Слівень, мядзянка, гадзюка. *У нас гадзюкі бы красные.* Запясочча. *Гадзюкі бы красные, а е і слівень і гадзіна.* Лұткі. *Гадзюка уцекаць, а вон за ею да палкою, да ўбіў, а нашчо?* Пагост. 2 *перан.* Вельмі злосная жанчына, дзяўчына. *Надзе, гадзюка проклята, не біса!* Цераблічы.

ГА′ДКО *прысл.* Непрыемна, брыдка. *Чысто і гладко і гледзець гадко* (прымаўка). Дварэц.

ГА′ДОСЦЬ *ж.* Вужы, гадзюкі. *У нас е этой гадосці у лесі!* Лұткі.

ГАДО′ТА *ж.* Дрэнь, злыдзень. *А вон, бачыш, яка гадота!* М. Малешава.

ГА'ДОЎКА *ж.* Злосная і каварная жанчына, дзяўчына. *Гадоўка, ты ж спокойно і не скажэш!* Сяміgосцічы. *Ах ты гадоўка, шо ты плетня плецеш без колкоў!* Цераблічы. *А вона достала с того саквояжа пісьма? От гадоўка!* Лутк і.

ГА'ЗА *ж.* Газа. *Это по-колішнему газа.* М. Малешава. *Жукоў колорадскіх у газу кідаём да палімо.* Запясочча.

ГАЗНІ'ЦА *ж.* Газоўка. ***Газніца*** *— ек пляжэчка, і шапочка е, у старое урэм'е продавалі.* Цераблічы. *Памянш.* г а з н і ц к а. ***Газніцка*** *горыць, а му ўшываём.* М. Малешава.

ГАЗУ'ЛЯ *ж.* Тое ж. *На дзень газулю стаўлялі на поліцу.* Верасніца. *Кнот у газулю зацяг.* Лутк і. *Памянш.* г а з ў л ь к а. ***Газулька*** *і свеціцца, і не відно ў хаці, онно кірдзіць трошку.* Цераблічы.

ГА'ІЦЦА *незак.* Бавіцца. *Не гайса, доўго не будзь там!* Цераблічы. *Не гайцеса на селе доўго.* Сямурадцы.

ГАЙ *м.* Зарасці, густое драбналессе па нізкіх мясцінах. *У гаю крушнік, лоза. Ужэ тые гае звелі.* Цераблічы. *Доўго не полола картоплі, во дзе гай шуміць!* Мачуль. *Коло поля, болота лес такі краямі — то гай.* Сямурадцы. *Як пройдуць дожджыкі ў мае, постануць стожкі у гае* (прыказка). Цераблічы.

ГАЙДА' *выкл.* Гайда. *А я гайда домоў!* Запясочча. *Гайда туды, за рэку!* М. Малешава.

ГАЙДА'Й *м.* Табуншчык. *Гайдай товар гоняў у городок, наймалі.* Цераблічы. *Наймаўса і я ў гайдае.* Сямігосцічы.

ГАЙДА'К *м.* Лясны разбойнік у мінулым. *Гайдакі по лесу ходзілі, то, старыкі казалі, булі розбойнікі.* Цераблічы. *Лодар вон, гайдак, нічого не хочэ робіць.* М. Малешава.

ГАЙДАМА'ХА, ГАЙДАМАКА *м.* Высакаванаслы мужчына, хлопец. *Як вусокі, то кажуць гайдамаха.* Цераблічы. Высакарослы і свавольны хлопец, мужчына. Пагост. Падманшчык, ашуканец. Альшаны.

ГАЙДА'Ш *м.* Табуншчык. Альшаны.

ГАЙДУ'К *м.* Танец, падобны да казачка. Запясочча.

ГАЙСЦЕР, ГА'СЦЕР *м.* 1. Чорны бусел. *Гайсцер, то той знізу стоўпом угору поднімаецца.* Рубель. 2. У параўнаннях без пэўнага прадметнага значэння. *Худэ, як гайсцер, есць — і толку нема* (пра дзіця). Хільчыцы. *Конь тонкі, як гайсцёр.* Любавічы.

ГАЙТА'ЦЦА *незак.* Гойдацца, калыхацца. *Гайтаюцца на качэлях.* Сямурадцы.

ГАЙТА'ЦЬ *незак.* Гойдаць, калыхаць. Запясочча.

ГАК *м.* 1. Шып. *Гакі на подковах вуплескваюцца.* Цераблічы. 2. Лішак меры. *От гак! Больш за версту!* Цераблічы. 3 *выкл.* Бразь, грук. *Шмацья ухопіло, перэвернуло да гак!* Цераблічы. *Шо гак, то новы знак* (прыказка). Луткі.

ГА'КАЛО *н.* Балбатун, крыкун. *Усе моўчаць, а вон усе гакае, гакало!* Мачуль.

ГА'КАЦЬ *незак.* 1. Ляпаць, грукаць. *Людзі спаць кладуцца, а ў іх гакаюць воўсю!* Запясочча. 2. Гучна гаварыць. Мачуль.

ГА'КНУЦЬ *зак.* 1. Ляпнуць, грукнуць. Буразі. 2. Лінуць. *Як гакнуў дождж, то до ніткі!* Сямурадцы.

ГАЛАГО'Н *м.* Балабон, які вешалі жывёле на шыю ў час паствы. ***Галагон плоскі, доўговаты, з бляхі.*** Сямігосцічы.

ГАЛАГО'НІЦЬ *незак.* Балабоніць. ***Галагончык галагоніць на дузе, далеко чутно.*** М. Малешава.

ГАЛАГО'НЧЫК *м.* Званочак. ***Галагончык к дузе прычэпвалі.*** М. Малешава. 2. Уюнок. ***Галагончык, воно ж поўзе тэ зелье.*** М. Малешава.

ГАЛАГУЦКІ, ГОЛОГУ'ЦКІ *прым.* Буйны (пра від птушак). ***Галагуцкіе куры бо́льшые і спокойне́йшые.*** Кароцічы. ***Гологуцкі певень.*** Запясочча.

ГАЛАЙДА' *м.* і *ж.* 1. Непаседа. *От ужэ галайда! Бежыць, як конь!* Дварэц. *Ганьба була на чоловека галайда, шчо проворны вельмі.* Цераблічы. 2. Гарлапан. Запясочча.

ГАЛАЙДА'ЦЬ *незак.* Гойсаць. *З дручкамі галайдае за свіньямі і ўсе лупікі строіць.* М. Малешава.

ГАЛА'ЙКА *ж.* Крыклівая балбатуха. *Тая Оўдзюшка меле, ек галайка.* Пагост.

ГАЛА'КАЦЬ *незак.* Крычаць, гучна гаварыць. *Годзі галакаў, надодзеў, дай спаць!* Кароцічы.

ГА'ЛАС *м.* Вялікі шум, крык. Аздамічы. Невялікі шчупачок. Аздамічы.

ГА'ЛАХ *м.* Невялікі шчупачок. ***Галах — то кожу́шок, шчо нема хунта.*** Цераблічы.

ГАЛГА'НЫ *мн.* Клёцкі з цёртай бульбы, падсмажаныя на скаварадзе і звараныя з малаком. Запясочча.

ГАЛЁНЫ *мн.* Фальбоны, якія нашываюцца на спадніцу ўнізе. ***Галёны бываюць сініе, красные, белые.*** Бя-

рэжцы. *Споднiцы з галёнамi надзеюць на веселы.* В. Малешава.

ГАЛI'НА *ж.* 1. Вялікая прагаліна, запусцелае месца. Запясочча. 2 *перан.* Аб адсутнасці блізкіх, родных. *Така галiна ў мене, шо нема нi ў кого. Сама саменька!* Аздамічы.

ГА'ЛIЦА *ж.* Галка. *Галiцы — то тые чорные пташкi, шчо комiны закладаюць.* Цераблічы. *Галiца менша, а ворона — большая.* В. Малешава.

ГА'ЛКА *ж.* Галка. *На чужые галкi i я кiдаю палкi* (прыказка). Хачэнь.

ГА'ЛНО *прысл.* Прасторна, чыста. *Там заедзi будзе мало, бо галнө, людзi лес звелi.* Цераблічы.

ГА'ЛНЫ *прым.* Адкрыты, чысты, бязлесны. *От там на Пённых е гална месцiнка.* Верасніца.

ГА'ЛО' *н.* Гала, адкрытая бязлесная прастора. *Мне далi сенокосу ў гушчы, а ей — у гáлi.* Бярэжцы. *Вубрайса на гáло, i одразу посвежэло.* Аздамічы. *От гáло! Нiдзе нема лесу!* Тураў. *Колiсь буў лес, як iцi на рэчку, а цепер там галó зробiлi.* Сямігосцічы.

ГА'ЛОНЬКА *ж.* Ласкавы зварот да дзяўчыны, жанчыны. *Нiхто не хочэ Ленкой звацъ, а ўсе галонько.* Аздамічы. *Ох, галонько, ох, родна, не дай бог сiроцiнцы жыць!* Верасніца.

ГА'ЛОЧКА *ж.* Тое ж. *Ты путай у мене, галочко, а я буду картоплi рэзаць.* Чэрнічы. *Ох, галочко моя! Я тобе ўсю праўдоньку роскажу!* Буразі.

ГАЛУ'ЗА *ж.* Нарасць на дрэве. Аздамічы. Непрыдатны абрубак дрэва. Пагост. Палка. *Вуцяг галузою по плечах.* Верасніца. *Шоб вашы так гóлову галузамi поробiлiса, як ву гэты хлеб робiце галузою!* (пра абадраны дзецьмі бохан хлеба). Хачэнь. Тоўсты чалавек. Аздамічы. Чалавек з вялікай галавой. Запясочча. Прайдзісвет, пралаза. *С тым голузою толку не доберэш. Вон однэ кажэ, друге думае.* Верасніца.

ГАЛУЗЯ'КА *ж.* Гладкае палена. *Галузяку еку вóзьме да по голове!* Верасніца.

ГАЛУ'ШКI' *мн.* Клёцкі з цёртай бульбы або з цеста, падсмажаныя на скаварадзе і звараныя з малаком. *Галўшок з картóплей накачаюць, прыпекуць да ў молоко, а шчоб не росклейвалiса, поджарваюць.* Цераблічы.

ГА'ЛЦЭ' *н.* Прагалак. *С того галцá вутвý стóрчма лецяць на возеро.* Цераблічы. *Му на том галцэ́ ночовалi. Сухостою наломiм, шыгi, накладом огню.* Хачэнь.

ГАЛЬ *ж.* Гала, чыстая бязлесная прастора. *Галь зробілаcа ў нас, то нема і тых конікоў.* Цераблічы.

ГА'ЛЬВА *ж.* Скручаныя дубцы, якія выкарыстоўваюць пры звязванні бярвення ў плыты. *Як дзерэво плыцяць да дубцоў накруцяць, то звалі гальва, шырхо́ўкі з іх робілі.* Цераблічы.

ГА'ЛЬВІНКА *ж.* Прагалак, незарослая мясцінка. *На водзе гальвінка така, дзе чысто.* Альшаны.

ГА'ЛЬКА *ж.* 1. Галушка, шарык. *Галькі робілі з муш'яком да воўкоў травілі.* Дварэц. 2. Жаночая сарочка. *Пошыла гальку да облемовала карункамі.* М. Малешава.

ГА'ЛЫ *мн. экспр.* Ногі. *Галы свое вуставіла, да неможно пройці.* Верасніца.

ГАЛЫ'-БАЛЫ' *выкл.* Выгукі, якімі перадаецца пустая размова, балбатня. *Баба будзе галы-балы, а воны седзяць.* Дварэц. *Дзень галы-балы на прызбі, а робота не робіцца!* Запясочча.

ГАЛЯЛЮ'КАЦЬ *незак.* Моцна выць, крыкліва спяваць. *Воўкі галялюкаюць у Лагузо́ві.* Верасніца. *Дзеўкі зберуцца і галялюкаюць песні.* Аздамічы.

ГАЛЯ'ЦЬ *незак.* Гойсаць. *Бугай галяў по картоплях.* Цераблічы. *Вон бы так за коровамі і галяў!* (пра сабаку). Мачуль. *От гультай, галяеш по вуліцы цэлы дзень, а хто за цебе дрова поколе?* Пагост.

ГАМ *м.* Вялікі крык, шум. *Коні гаму бояцца.* Кароцічы. *Дзе людзі, там і гам.* Верасніца. *У том гаму́ шо ўхопіў, то тому* (прыказка). Аздамічы.

ГА'МАНОМ *прысл.* Гуртам. *У мене нікого нема, то дзеці нападаюць гаманом* (на сад). Сямігосцічы. *Гаманом лецяць вороб'е на сонешнікі.* Верасніца.

ГАМЕЛЦЫ' *мн.* Бульбяны суп, скрылі. Аздамічы.

ГАМЕ'РКА *ж.* Ніжняя ручка ў падоўжнай піле. *Гамерка з дзерэва зроблена.* Цераблічы.

ГАМО'ЛКА *ж.* Сусла. *Дзіцяці нажуй гамолку, нехай ссе.* Сямурадцы.

ГА'МРА *ж.* Ніжняя ручка ў падоўжнай піле. *Гамра набіваецца на конец пілы.* В. Малешава. Ручка ў доўгім вясле. *Гамра на концэ шоста под плечо браць, коб не болело.* Дварэц.

ГА'МУЗОМ *прысл.* Гуртам, без парадку. *Гамузом лезуць усе ў лодку!* Аздамічы. *Сетку гамузом беры да ў лодку.* Пагост. *Усе гамузом вупіў.* Луткі.

ГА'НІЦЦА *незак.* Абражаць, ганьбіць. *Хоця чоловек*

*слово добрэ скажэ, не ганіцца со мною.* Хачэнь. *Ганяцца мо час, охрыплі абедзьві.* Пагост.

ГА'НІЦЬ *незак.* Называць зняважліва, абразліва. *Его драпе́ня ганяць.* Цераблічы. *Ганю, ганю, о, калеко, о, неўмеко, о, дурны, а вон не дбае!* Аздамічы. *Ее такі бацько, вон нікого не ўважае, усіх ганіць.* Луткі.

ГА'НОК *м.* Ганак са стрэшкай. *Ганок — ек крыты, а так, то порог.* Аздамічы.

ГАНТ *м.* Кант. *Так удырыўса об гант, шо й лоба россек.* Верасніца.

ГАНТОВА'ТЫ *прым.* Вуглаваты. *Гантоваты стог клалі старые.* Цераблічы.

ГА'НУ'ЦЬ *зак.* Усвядоміць, падумаць. *Я і не га́нула, колі вон прышоў.* Мачуль. *І век бы не гану́ў, шчо вона так скажэ.* Луткі.

ГА'НЬБА *ж.* 1. Мянушка, абразлівая назва. *Мужчыну по ганьбе назваў.* В. Малешава. *Тая шляхта на нас мужыкі казала, бытто нам то ганьба.* Мачуль. 2. Знявага, ганьба. *Шо, хлопцы, вам за ганьба лапці? На болото лапці добро!* Кароцічы. △ Д а ц ь г а н ь б у. Зганьбіць, назваць загану. *У мене і цепер стоіць твоя печ, і ганьбы не даю.* Цераблічы.

ГАНЬБОВА'ЦЬ *незак.* Пагарджаць, лічыць за ганьбу, грэбаваць. *Раз ву намі не ганьбу́еце, то добрэ.* Пагост. *Не ганьбуюць, шо звару, то едзяць.* Хачэнь. *Ешце, хлопцы, не ганьбуйце.* В. Малешава.

ГА'ПА *ж.* Зяпа, рот. Цераблічы.

ГА'ПКА *ж.* Лёгкі рыбацкі човен. *Колісь стары ехоў у гапцы да ўтопіўса, вецёр велікі буў. У той гапцы седзіш, бы ў тарэлцы.* Запясочча. *Гапка із осіны. Колісь Кондрат робіў. Она можэ і вукінуць.* Буразі.

ГАР *м.* Апёк, апечанае месца. *Гар тым гусіным салом помазаць добрэ, як опечэсса.* Дварэц.

ГАРА'ПНІК *м.* Біч, сплецены з тонкіх дубовых палосак, да якога чапляецца раменная пуга. *Гарапнік плеце з дубового дубца у тры сталкі, с трох кос, і рэме́нь прычэпіць, шчоб коне́й погоняць.* Цераблічы. *Гарапнік плетуць із тонкіх дубцоў, шоб не ў пары одзін буў.* Пагост.

ГАРБА' *ж.* Воз гаршкоў у ганчара. *Гарба — воз такі, высокіе глабіны.* М. Малешава.

ГАРБА'Р *м.* Гарбар. *Баба кажэ, шо коліся гарбарэ булі.* Верасніца.

ГАРБА'РНІК *м.* Тое ж. Кароцічы.

ГАРБА′РНЯ *ж.* Гарбарня. *У Турові була гарбарня, вуроблялі шкуркі.* Чэрнічы. *Лозу дралі ў гарбарню, а лу́пленіцу секлі на лучыну.* М. Малешава.

ГА′РБАЦЦА *незак.* Дранцвець, рабіцца нягнуткім. *Гарбаюцца рукі от холодное воды, імі не можно володаць.* В. Малешава.

ГАРБУЗА′ *ж.* Гарбуз. *От гарбуза веліка вуросла, ледзь подняў!* Пагост. *Носіўса, як та Віхна з гарбузою на базары!* Луткі. *Чорна курыца под плотом кубліцца* (загадка). *Гарбуза* (адгадка). Хачэнь. 2. Дзіцячая гульня і той з яе ўдзельнікаў, які стаіць у цэнтральным крузе. *Памянш.* г а р б у́ з к а. *От яка гарбузка дай отпала.* Пагост. *Як не зайяжэцца гарбузка, то гэтаке пустоцвет.* Буразі.

ГАРБУЗЕ′НЬЕ, ГАРБУЗІ′НЬЕ *н.* Гарбузнік. *Картóплёў не було, а гарбузіньe роспоўзлосо, страх!* Верасніца.

ГАРБУ′ЗІКІ *мн.* Гарбузовыя семечкі. *Гарбузікі ўсім даюць на зборынах, посля тарэлку стаўляць на стол і кладуць грошы, хто сколько покладзе.* Сямігосцічы.

ГАРБУЗІ′НЫ *прым.* Гарбузовы. *Гарбузіные зернета продаюць у Турові на базары.* Верасніца.

ГАРБУ′ЗНІК *м.* Гарбузнік. *Гарбузнік свіньня едзяць.* Хотамель.

ГАРБУЗЯ′НІКІ *мн.* Гарбузовыя семечкі. *На гарбузянікоў у дорогу, забаўляцца будзеш.* Пагост.

ГАРБУЗЯ′НКА *ж.* Гарбузовая каша. *Ек солодка гарбуза, варымо гарбузянку.* Верасніца. *У нас гарбузянка с крупою.* М. Малешава.

ГАРБУЗЯ′НЫ *прым.* Гарбузовы. *Гарбузяные зернета лежаць у м'ясе у гарбузе.* Дварэц.

ГАРДЫ′КАЦЬ *незак.* Гергетаць, гаварыць шумна. *Гардыкаюць нешчо, бы тые цыгане.* Сямігосцічы.

ГАРДЫ′МЕЛЬ *м.* Гармідар. *От гардымель коло школы!* Цераблічы.

ГА′РКАЦЦА *незак.* Крычаць адзін на аднаго ў злосці. *Да сварацца, да гаркаюцца!* Хачэнь. *Хопіць вам гаркацца!* Пагост.

ГА′РКАЦЬ *незак.* Крычаць у злосці. *Да не гаркай ты, бабо!* Сямігосцічы. *Дзеці, поседзець, не гаркайце!* Аздамічы. *Годзі гаркаў, як собака!* М. Малешава.

ГА′РКО *прысл.* Горача. *Горы-горы гарко, прыдзе Захарко, сам на кобылі, жонка на корові, дзеці на целятах, слугі на собаках* (з песні). Хачэнь.

ГА'РКОТ *м.* Крык, згрызота. *Такі гаркот буў, господзі!* Хачэнь.

ГАРКОТНЯ' *ж.* Тое ж. *Шо там у іх за гаркотня?* Аздамічы.

ГАРМІ'ДЭЛЬ, ГАРМІ'ДЗЕЛЬ *м.* Гармідар. *Зайшла я, аж там гармідэль, дзетвора аж хату несе.* М. Малешава. *Гармідзель.* Запясочча.

ГАРМІ'ТУС *м.* Тое ж. *Зобралосо дзецей, цалы гармітус!* Аздамічы.

ГАРНЕ'Ц *м.* Прыгажун. Аздамічы.

ГА'РНЕЦ *м.* Гарнец (5 фунтаў або бутэлек). ***Гарнец** буў два кіла.* В. Малешава. *У гарцы п'яць кварт. Коліся гарцы булі.* М. Малешава. ***Гарнец** робілі з дзерэва.* Верасніца.

ГА'РНО *прысл.* Хараша, прыемна. *Получыш пісьмо, то і споменецца гарно.* Дварэц. ***Гарно** пахнуць мацёйкі.* Луткі.

ГА'РНЫ *прым.* Добры, прыемны, прыгожы. *Гарны той хлопчак, век зла не зробіць.* Верасніца. *А там вон антоноўка, яблоня гарна, але свету не бачыць.* Луткі. *Памянш.* г а́ р н е н ь к і. *Ох, екі гарненькі дождж пройшоў!* Луткі.

ГАРТ *м.* Гарт, загартаванасць. *Отпусціць гарт трэба у сокеры.* Хотамель. *У гарту коса.* В. Малешава.

ГАРТО'ВАНЫ *прым.* Гартаваны, пракалены на агні. *Гартована цэгла кладзецца на руб, ек робяць склепова́нье у грубцы.* Цераблічы.

ГАРТОВА'ЦЬ *незак.* Гартаваць, пракальваць на агні. *Цэглу ставяць на руб і гартуюць.* М. Малешава.

ГАРТО'ЎКА *ж.* Апаленая цэгла. *Гартоўкі купілі, а сыроўку самі робілі.* М. Малешава.

ГАРЦА'ЦЬ *незак.* Скакаць, падскокваць. *От рыба гарцае, кідай скорэй!* Пагост. *Вошы гусіные быстро по целе гарцаюць.* М. Малешава.

ГАРЦОВА'ЦЬ *незак.* Гарцаваць, насіцца, падскокваючы. *Годзе гарцовалі, дзеці, поседзеце!* М. Малешава.

ГА'РЫ *мн.* Разваль. *На сані з гарамі екі хоч воз можно накласці.* Сямігосцічы.

ГАРШТЫ'КАЦЬ *незак.* Гаварыць адрывіста, рэзка, шумна, гергетаць. *Екая-то зараза до двух часоў ночі на вуліцы гарштыкала, не можно було заснуць.* Пагост.

ГАРЫ'КАЦЬ *незак.* Гыркаць. *Ву сюдою ішлі да собака гарыкаў.* Запясочча. *Собакі гарычуць, напалі на ее.* Верасніца.

ГА′РЭЧ *ж.* Гарачыня. *Дзе огонь горыць у печэ, то там зырко, гарэч, аж церпленья не хватае.* М. Малешава.

ГАСА′ЦЬ *незак.* Гулка ляскаць. *Кідае полотно на воду, да ў дзве сталкі — й гасае. Воно ж гук дае онё куды!* М. Малешава. *Онь о дрова вон гасае!* В. Малешава.

ГАТ *м.* Ез. *У га́ці на ноч жака ставіў — карась і два ліны ўлезло.* Пагост. *Гуркоў богато, хоч гат гаці!* Дварэц.

ГА′ТАЛО *м.* і *ж.* Балбатун, пустабрэх. *Ты сам такі гатало, шо ты людзям чвóрыш!* Мачуль.

ГА′ТКА *ж.* Пляцень, якім умацоўваюць бераг ракі. *Гатку роб'яць, шчоб воду одбівало, не подмувало берэг.* Пагост. Грэбля з ламачча. *У нас за селом дзве гаткі зробіў бобéр.* Сямурадцы.

ГАТО′К *м.* Ез. *У нас гаткі гацяць на рыбу, пу́ч'е кладуць.* Цераблічы. *Зробіць гатка у екой доліні і стаўля́е кош.* Луткі. Грэбля. *Накладуць лому усякого, зробяць гаток дай перэходзяць.* М. Малешава. *Як малы — гаток, а як веліка — грэбля.* Луткі.

ГАТУ′НОК *м.* Сорт, парода. *Это ужэ другі гатунок свіней.* В. Малешава.

ГА′ЎКАЦЬ *незак.* 1. Гаўкаць. *Собака гаўкаў, шоб вуйшла.* Хачэнь. 2 *перан.* Гаварыць абы-што. *Не гаўкай, шчэня малое, а еж!* (да дзіцяці). М. Малешава. *Хоць і брэшэ, а не гаўкае* (прымаўка). Аздамічы.

ГА′ХНУЦЬ *зак.* Зрабіць моцны выбух. *Ек гахнуў, то вутвў і попадалі.* Верасніца.

ГАЦІ′ЦЬ *незак.* Загачваць, рабіць плаціну, насып, грэблю. *Зароботку не було, то неку рэку поехалі гаціць.* Аздамічы. *Почалі гаціць грэблю дайно.* Кароцічы. *Вуліцэю не пройдзеш, гаціць ее трэ.* Пагост.

ГА′ЧЫ *мн. пагардл.* Ногі. *Ох, гачы свое попекла картоплямі!* Луткі.

ГВА′ЗНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца пры падзенні. *Ходзіла, ходзіла по лаві да ек гвазнуласа!* Цераблічы. *Так гвазнуласа, шо й руку перэбіла.* М. Малешава.

ГВА′ЗНУЦЬ, ГВО′ЗНУЦЬ *зак.* Важка ўдарыць. *Ему як гвазнула кобыла ногою!* М. Малешава.

ГВА′КАЦЬ *незак.* Грукаць, ляскаць. *Доволі гвакаў у сцену!* Аздамічы.

ГВА′КНУЦЦА *зак.* Грукнуцца, ляснуцца. *Махнуло его — як гвакнуўса, да ўжэ нежывы.* Цераблічы.

ГВА′КНУЦЬ *зак.* Грукнуць, ляснуць. *От гвакнуў, аж*

*глузды ему одбій.* Аздамічы. *Прылецей самолёт да гвак-гвак по том лесі — і усе згорэло.* Цераблічы.

ГВАЛТ *м.* 1. Гвалт, лямант аб паратунку. *Крычыць чоловек — гвалт, рэтуйце!* Луткі. *От беда, хоць крычы гвалт.* Аздамічы. *Ой, гвалт, дзе мне дзецца!* М. Малешава. 2 *прысл.* Вельмі, страшэнна, да роспачы. *Вона ж гвалт хочэ за его.* Запясочча. *Гвалт я не могу церпець, як вон так кажэ.* Сямігосцічы. *От гвалт хоцей рыбы.* Луткі.

ГВАЛТОВА'ЦЬ *незак.* Крычаць аб паратунку, лемантаваць. *Вона гвалтуе — родзіцьме.* Аздамічы. *Ноч гвалтовай, так нога боліць.* Пагост.

ГВА'ЛТУ *прысл.* Вельмі, страшэнна, да роспачы. *Я гвалту хоцела дзевочку.* Бярэжцы. *Да гвалту крычыць — ножка боліць.* Запясочча.

ГВОЗД *м.* Цвік. *На Варвары заварыць, а Мікола гвоздом прыб'е* (прымаўка). Цераблічы.

ГВОЗДЗЕНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *От гвоздзенуў по голове, шо ўпаў!* Сямурадцы.

ГЕ'ГА *ж.* Сухапутная гусь. *У суседзей гегі булі, а прыехала унука да спужаласа іх.* Аздамічы.

ГЕЗ *м.* Муха-гнідаўка. *То не пчола, то нейкі гез.* Мачуль.

ГЕЛЬМО'ЎКА *ж.* Гамарка, ручка ў падоўжнай піле. *Збі гельмоўку да вуцегні пілў.* Цераблічы.

ГЕНДЛЁВА'ЦЬ *незак.* Гандляваць. *Хто імі, тымі цветамі, гендлюе, той знае іх.* Сямігосцічы. *Колісь, бувало, до нас прыежджаюць на свято, гендлююць.* Цераблічы.

ГЕНДЛЁВУ *прым.* Які гандлюе. *Это людзі гендлёвуе!* М. Малешава.

ГЕ'НДЭЛЬ, ГЕ'НДЗЕЛЬ *м.* Гандаль. *Перэпро́дае — это ж гендэль у его́.* Дварэц. *От гендэль шчэ мне! Хочэ выдурыць даром.* М. Малешава.

ГЕ'РГАЦЬ *незак.* Гергетаць. *Немец гергае, а хто ёго знае, шо вон гергае.* Запясочча.

ГЕРГЕ'ЛІ *мн.* Упрыгожванні з цеста на вясельным печыве. *На той месяц налепвалі гергелі і шышкі.* Сямігосцічы.

ГЕРГЕТА'ЦЬ *незак.* 1. Гергетаць. *Цыганка гергечэ по-своймў.* Хотамель. 2. Падаваць голас (пра гусей). Верасніца.

ГЕ'ЎКАЦЬ, ГЕ'ЎГАЦЬ *незак.* Крычаць (пра жураўлёў, гусей). *Весе́лікі нізенько лецяць, геўкаюць.* Хачэнь. *Гусь у хлеве геўгае.* Запясочча.

ГЕ′ЎЛЯ *м* і *ж.* Дылда. Тураў.

ГІБА′ЦЦА *незак.* Гнуцца. *Вупарыць трэба завертня да скруціць, шоб вон гібайса.* Пагост. *Кладка гібаецца.* Верасніца.

ГІ′БЕЛЬ *ж.* 1. Пагібель. *Это ужэ гібель будзе.* Верасніца. *Гібель на той рэцэ поймаеш, а не рыбу!* Пагост. 2 *прысл.* Шмат, мноства. *Качок дзікіх було гібель.* Сямігосцічы.

ГІБЕ′ЦЬ *незак.* Гібець, пакутаваць. *Гэты негожы лежыць, а гэты гібее, над ім седзя.* Кароцічы. *У ее нема дзеда, вона сама гібее у хаці.* Верасніца.

ГІ′БНУЦЬ *незак.* Губляцца, зблуджвацца, знікаць, прападаць. *Вона ў мене, як пойдом по грыбу, то отбежыць і гібне.* Луткі.

ГІДА′ *ж.* Агіда, брыдота. *Это гіда така жукі!* Альшаны. *Это ужэ гіда, як борода у жонкі.* Запясочча.

ГІДКІ′ *прым.* Агідны, брыдкі. *Ідзі строіцца, бо ты ж гідкая!* Цераблічы. *Молоко само гідчэйшэ, як нечысто.* Бярэжцы. *Падло нейке гідке тэ, собарно.* Аздамічы.

ГІ′ДКО *прысл.* Агідна. *Гідко есці, як поўзаюць мухі.* В. Малешава.

ГІДЛІ′ВУ *прым.* Грэблівы. *Я сама така гідліва вельмі.* Сямурадцы.

ГІДОВА′ЦЦА *незак.* Гідзіцца, адчуваць агіду. *Я гідуюса тых колорадскіх жукоў, м'яккіе воны* (пра лічынак). Запясочча. *Гідуюса піць у чужого молока.* Верасніца. *Я гідуюса того і сала, як даюць конскі навоз свінчы.* В. Малешава.

ГІДО′ТА *ж.* Брыдота, брыда. *Шо е гідота той ендык, то е!* Луткі.

ГІЗУ′МЕНТЫ *мн.* Кішкі. *Дзеці вуцягнуць гізументы!* М. Малешава.

ГІЗУ′НТЫ *мн.* Тое ж. *Шоб у цебе гізунты вурвало!* (праклён). М. Малешава.

ГІ′КАЦЬ *незак.* Лемантаваць. *Нам зноў гікай, як цепер зробіць сено.* Мачуль. *Чого ты гікаеш, сціса!* Аздамічы.

ГІЛЁВА′ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Гілюе корова, хвост уверх і побегла.* Хотамель.

ГІЛЯ′РКА *ж.* Невялікая лёгкая лодка ў плытнікаў. *Гілярка стоіць на плоту, як оторваласа колода ці шо, то едуць.* Запясочча.

ГІ′НДРА *ж.* Той, хто бегае без сэнсу. *От гіндра, годзі бегала, ідзі зелья нарві кабану!* Пагост.

ГІ'НУЦЬ *незак.* Прападаць, знікаць. *У Турові кажуць церэбіц, у Турові м'які знак гіне.* Пагост. *Гэта дурніца вускочыла да: «Ой, гіном!»* Чэрнічы. *У вочах вода гіне ў доліні!* М. Малешава.

ГІ'РА *ж.* 1. Грыўка валасоў над ілбом. *Пудрэж собе гіру.* Запясочча. *Гіру загодовай, як зарэ носяць молодые.* Цераблічы. 2. Баба Яга ў казках. *Топі, гіро, печ да кіном Іванку ў печ.* Запясочча.

ГІРЗА' *ж.* Гірса, аўсюк. *Гірза крэпко расна, много колоской.* Цераблічы.

ГІРЗОВА'ЦЬ *незак.* Гарэзаваць. *Перэстаньце гірзоваць, дзеці, корову з паші йдуць, ву ж іх пужаеце.* Пагост.

ГІ'РКА *ж.* 1. Абабіты збанок. *Соль у гірцы стояла.* Тураў. *От я гэту гірку сахару насыплю, то вон з'есць за дзень.* М. Малешава. *Як пообіваюць крае з гладышкі ці глёка́, то кажуць гірка осталаса.* Луткі. 2. Грыўка валасоў над ілбом. *Як косы гэ вісяць, то кажуць гірка.* В. Малешава.

ГІ'РКАЦЬ *незак.* Гыркаць. *Прышоў п'яны да гіркае на ее.* Дварэц.

ГІ'ТАЦЦА *незак.* Гушкацца. *Гітаемса у хаці на пэрэсові.* Запясочча.

ГІЧ *м.* 1. Націнне гародніны. *Гіч з буракоў, бручкі свіньям даюць.* Цераблічы. 2. Гічка. *А ў іх булі мешкі поперэворочваны гічамі ўніз.* Верасніца.

ГІ'ЧАНЬЕ *н. зб.* Націнне гародніны. *Поростуць буракі, іх кружа́юць, а гічанье откідаюць.* Сямурадцы.

ГІ'ЧКА *ж.* 1. Націнне гародніны. *Поодкружвала гічку, шчоб чысценькі буў бурак.* Бярэжцы. 2. Гічка. *Дзержы за гічку, мешок завежу.* М. Малешава.

ГІЧОВІ'НЬЕ *н. зб.* Націнне гародніны. *Гічовіньа увосень колько хоч.* Луткі.

ГІ'ЧЬЕ *н. зб.* Тое ж. *Марусе, нарвеш удзень гічья з буракоў.* Пагост.

ГІЧЫ'НА *ж.* Сцябло расліны. Запясочча.

ГІШТО'РЫН *м.* △ П о й ц і н а г і ш т о р ы н. Памерці. Запясочча.

ГЛАБІ'НЫ *мн.* Драбіны ў возе. *Сена глабіны по лёсточкі наклаў і везе.* Пагост. *Ек колоды везом, то глабіны скідаём.* Верасніца.

ГЛА'БЦЫ *мн.* Тое ж. Альшаны.

ГЛАДЗЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі сыты, тоўсты, поўны.

*Вон буў нічогенькі, а вона — гладзезна!* Цераблічы. *Такі кабан гладзезны!* М. Малешава.

ГЛАДЗЕ'ЛНЫ *прым.* Тое ж. *Гладзелны, бы колода.* Цераблічы.

ГЛА'ДЗІЦЬ *незак.* Гладзіць. *Своя маці б'е, да не прыб'е, а чужа маці гладзіць, да прогладзіць* (прыказка). Хачэнь.

ГЛАДЗЬ *ж.* Вельмі поўная жанчына. *Гладзь така его молодзіца!* Аздамічы. *Вона баба гладзь, ек бочка!* Цераблічы.

ГЛАДЗЮ'ША *ж.* Тое ж. *Гладзюша такая, можно запрагаць у плуг!* М. Малешава.

ГЛАДКІ' *прым.* 1. Поўны, тоўсты, укормлены. *Гладка корова, бо есць сечку, сено з мукою — хорошу харч.* Дварэц. *Хороша — ні худая і ні гладкая.* Бярэжцы. *Буў такі чоловек гладкі, а на цёску вусох.* Луткі. 2. Гладкі. *Сітовы дуб не гладкі, на ментушку ідзе косу менціць.* Цераблічы. *У кого матка, у того і голоўка гла́дка* (прыказка). В. Малешава.

ГЛА'ДКО *прысл.* Гладка. *Гладко вубрыўса.* М. Малешава.

ГЛА'ДОСЦЬ *ж.* Паўната. *Худа жонка мо тры сподніцы надзевае, а оны уседно не даюць гладосці.* М. Малешава.

ГЛАДО'ШЧЫ *мн.* Тое ж. *Я і сама не рада своім гэтым гладошчам.* Луткі. *Шо воны завідуюць гладошчам? Худа здоровейша!* М. Малешава.

ГЛАДУ'Н *м.* Сыты, поўны чалавек, жывёліна. *Мурые да хорошые стояць тые гладуны!* Верасніца.

ГЛАДУ'ХА *ж.* Сытая, поўная жанчына, жывёліна. *Така гладуха ты, аж не хорошэ.* Аздамічы. *Свінья така гладуха!* Запясочча.

ГЛАДЫ'ШКА *ж.* 1. Збанок без вушка (ручкі). *У гладышцы вуха нема, а ў глёку е.* Кароцічы. *Гладышкі ў печ поставіла, шоб молоко топілосо.* Пагост.

ГЛАДЫ'ШКІ *мн.* Жоўтыя гарлачыкі. Аздамічы.

ГЛАДЫ'ШНІК *м.* Нейкая травяністая расліна, якой выпарваюць збанкі. *Гладышнік, цветочкі жоўценькіе, вон вельмо пахне.* Хачэнь.

ГЛАЗАНЫ' *мн. экспр.* Вочы. *Шо ты глазаны свое вурочыла?* Пагост.

ГЛАЗКІ' *мн.* Грузілы на сетцы. *У лаці зверху ко́ркі, а ўнізу — глазкі.* Альшаны.

ГЛА'ЎНІК *м.* Плытнік у камандзе сплаўшчыкаў з

самымі адказнымі абавязкамі. *У глаўніка лодка с кацерынкою і е коюта своя. Глаўнік седзіць коло хозяйшчыны.* Запясочча.

ГЛЕДЗЕ'ЦЬ *незак.* 1. Глядзець (накіроўваць зрок). *А я стою з руж'ем да ў окно гледжу.* Мачуль. *Глядзь да глядзь на дорогу, а нікого нема.* Сямігосцічы. *Не стой коло мене, не гледзі на мене, а ложыса.* М. Малешава. *Однэ на однэ глядзя едзяць.* Цераблічы. 2. Даглядаць, трымаць пад увагай, захоўваць у добрым стане. *Чужа-чужэніца гледзела двора.* Дварэц. *Марыно, гледзі дзеці!* Запясочча. *Вон гледзіць і его пчолы.* М. Малешава. *Собаку не так, як кота, гледзяць.* Луткі.

ГЛЕЁВА'ТЫ *прым.* Глiністы. *У нашом селе глеёвата земля, то як дождж пойдзе, то не можно пройці.* М. Малешава. *Глеёвата земля усе родзіць, а ў мокрые гóды на ей метліца поросце.* В. Малешава.

ГЛЕ'ЁВУ *прым.* Тое ж. *Дно глеёвэ, не можно вуцегці ног.* Луткі. *На Полесьі глеёвой земле нема.* Сямурадцы.

ГЛЕЙ *м.* Гліна (светлага або цёмнага колеру). *Шопа облеплена глеем була.* Цераблічы. *У гэтых полянкáх песок, а тамэка глей.* Хачэнь.

ГЛЕ'ЙКІ *прым.* Сыры, недапечаны. *Глейкі хлеб.* М. Малешава.

ГЛЕ'ЙКО *прысл.* Вязка. *Глейко, не можно ораць.* Аздамічы.

ГЛЕНУ'ЦЬ, ГЛЯ'НУЦЬ *зак.* Зірнуць, кінуць позірк. *Я на ее не глену, на ту цыбулю.* Цераблічы. *Глені, ці горыц?* Запясочча. *У нас тэ поля, як оком глянуць, і чэрэт росце, і пшэніца.* В. Малешава. *Ужэ чэрэз яму на другую глянуў* (прыказка). Бярэжцы.

ГЛЕ'ЧЫК *м.* Збанок з вухам. *Озьміце глечыка по ягоды.* Кароцічы. *Як вузкая шыйка у глечыка, то больш сметаны.* М. Малешава.

ГЛЁК *м.* Тое ж. *У мене тры глёкі — два поліваных і одзін так, простый.* Тураў. *Глёкі для молока лучшэ поліваные.* М. Малешава. *Онь у глёку молоко возьмі.* Луткі. *Усякое бувае на веку, прыходзіцца варыць і ў глёку* (прыказка). В. Малешава.

ГЛІ'ВА *ж.* Сліва з буйнымі ягадамі. *У пана сліву такіе мáхіные рослі, гліву казалі.* Луткі.

ГЛІ'ЗАНКА *ж.* Недапечаны, ацеслівы хлеб. *Як не*

*вупечэцца хлеб, то кажуць, от, неку глізанку спекла.* Лутці.

ГЛІ'ЗОВУ *прым.* Ацеслівы, камякаваты, ліпкі (пра хлеб). *Глізовы хлеб у мене, неўдатны, погнюсіла муку.* Запясочча. *Глізовы хлеб, як обрус, шчо кӧсу мёнцяць.* Мачуль. *Глізова земля, шо й ног не можно вуцегці.* М. Малешава.

ГЛІ'НА *ж.* Белы глей. *Гліна толькі бела бувае.* Верасніца.

ГЛІ'НЕНЫ *прым.* Гліняны. *Міса глінена.* М. Малешава.

ГЛІ'НІЦЬ *прым.* Бяліць (белым глеем). *Воны столю гліняць.* Хотамель.

ГЛІ'НІШЧЭ *н.* Глінішча. *Коло цэгельні вукопалі ужэ новэ глінішчэ.* Верасніца.

ГЛІ'СНІК *м.* Піжма. *Гліснік з жоўтымі балабушкамі.* Лутці.

ГЛІСТ *м.* Гліст. *Гэто крыла опусціла гусь, то кажуць, шчо глісты напалі.* Хачэнь. *Тонкі, ек гліст, бо сала не есць.* Верасніца.

Ад глістоў ужывалі ў мінулым сок конскага памёту з цукрам. М. Малешава.

ГЛІ'ЦА *ж.* Іголкі хвоі (елкі). *Гліцы на пороспе богато.* Бярэжцы.

ГЛОД *м.* Глог. *Дзе попоўске поле, мо сад колісь буў, там дзёрон рос і глод.* Запясочча. *Дзерэво того глоду таке колючэ!* Дварэц.

ГЛОМЕНУ'ЦЬ *зак.* Глымануць (зубамі). *От гломенула колько, затоб удавіласа!* В. Малешава.

ГЛУЗД *м.* Розум, здольнасць разумець. *Нема глузду доброго у твоей невесткі.* Альшаны. *На мой глузд, то я не жыла б з ім.* Сямурадцы. *Ніякі глузд ў голоў не ідзе.* В. Малешава. △ В у́ й ц і з г л у з д у. Страціць розум, развагу, здурнець. *Ты вуйшоў з глузду, нема ў цебе памеці.* В. Малешава. З'е х а ц ь з г л у з д у, з о й ц і́ з г л у з д у. Тое ж. *З глузду з'ехоў ужэ вон, то і людзі боіцца его.* Верасніца. З г л у з д у з в а л і́ ц ц а. Стаць безразважным. Кароцічы. П р ы х о́ д з і ц ь і к г л у з д у. Апрытомніваць. М. Малешава.

ГЛУЗДЫ' *мн.* Страчкі, смарчкі. *Невестка двое дзецей згубіла тымі глуздамі.* Дварэц. *Глузды ростуць весною.* Хачэнь.

ГЛУМ *м.* Глумленне, няўвага да годнасці чалавека. *Глум з гэтых людзей робілі немцы дай годзі!* Мачуль.

*То вон на глум сказаў.* Запясочча. *Шо говорыць стары на глум, то беры на вум* (прыказка). Бярэжцы. △ Пойці на глум. Згінуць, прапасці. Альпень.

ГЛУМІ'ЦЦА *незак.* Здзекавацца, пагарджаць годнасцю чалавека. *Прымак спаў долі, так з его глумілі-са.* Цераблічы. *Стала мачэха глуміцца з дзіцяці.* Верасніца. *Воны з его глумяцца, бо дзіця не домоўляе.* Рубель.

ГЛУМІ'ЦЬ *незак.* Спажываць, расходаваць без патрэбы, без сэнсу. *Не буду глуміць варіва етого.* Дварэц.

ГЛУ'ПОСЦЬ *ж.* 1. Поўнач, сярэдзіна ночы. *У саму глупосць, як усе заціхне, можно почуць сову.* Мачуль. 2. Глухамань. *Зайшоў у саму глупость, шо ледві выйшоў.* Рубель.

ГЛУ'ПУ *прым.* Глухі, аддалены. *Там глупэ поле серэд лесу. Коб прышла ека жонка, то веселей бу було.* Сямігосцічы. *Там самые глупые сёла, сама глуш.* Дварэц. △ Глупа ноч, глупэ урэм'е. Поўнач, сярэдзіна ночы. *У саму глупу ноч сумно, боязно.* Пагост.

ГЛУХІ' *прым.* Глухі. *Глухі не ўчуе, да добавіць.* Мачуль. *Моўчы глуха, то менш грэха* (прыказка). Верасніца. △ Глухі бобо́ўнік. Бабоўнік. Бярэжцы. Глухі дуб. Дуб, на якім зімой трымаецца засохлы ліст. Мачуль. Глуха́ лепеха́. Ірыс балотны. Цераблічы. Глуха лоза. Від лазняку. Цераблічы. Глухі мак. Мак-самасей. Бярэжцы. *Коб дождж буў, колісь глухі мак сыпалі ў колодзесь.* Запясочча. Глухі молочай. Буйны лугавы малачайнік. Запясочча. Глухіе грыбы. Нейкія неядомыя грыбы. Альпень. Глуха броківа. Глухая крапіва. М. Малешава.

ГЛУ'ХО *прысл.* Глуха. *У тумане глухо чутно́.* Аздамічы.

ГЛУШ *ж.* Цішыня, маўклівасць. *Бувало на селе спевот, да весело! А цепер глуш.* Дварэц.

ГЛУ'ША *ж.* Гусцяж. *Там, дзе я не травіла за глўшэю, там е жукі.* М. Малешава.

ГЛУША'К *м.* 1. Глушэц. *Глушак будзе больш, як цецерук, і два цецерукі не варт его.* Запясочча. 2. Глухі чалавек. *Одамкоў глушак пошоў.* Верасніца.

ГЛУ'ШКА *ж.* Глухая істота. *Ето я глушка, не чую.* Запясочча. *Ходзі, глушко, молоко еж* (да кошкі). Хачэнь.

ГЛУ'ШМА'Н *м.* 1. Глуш. *Цемнота була, глушма́н.* Хільчыцы. 2. Глухі чалавек. *От глу́шман, не чуе, як піпкаю.* Пагост.

ГЛУШНЯ' *ж.* Глуш. *Гэтто у нас у дзерэўні глушня!* Запясочча.

ГЛУШЭ'Ц, ГЛУСЕ'Ц *м.* Глушэц. *А глушцэ большые за гусь.* Пагост. *Дзіч така глусец.* Бярэжцы.

ГЛУШЫНА' *ж.* Вельмі глухая мясціна. *Дзерэўня іх глушына!* Сямігосцічы.

ГЛУШЫ'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць глухім, перашкаджаць чуць. *Выключы радзіво, а то глу́шыць.* М. Малешава. 2. Спыняць развіццё. *Цепер ангіну глушаць, а колісь поміралі.* Хачэнь. 3. Закрываць, зацяняць. *Гарбузы глушаць трохі картоплі.* В. Малешава.

ГЛЫБ *м.* Глыбіня. *Тут на метр глыба.* Пагост. *Вон, карась, на глыбу́ на том есцека!* Луткі.

ГЛЫБІНА' *ж.* Тое ж. *Два сажні глыбіны яма.* Луткі.

ГЛЫБІНЯ' *ж.* Тое ж. *Воны по метру дзержалі глыбіні* (грэблі вадзяных млыноў на рацэ). Мачуль.

ГЛЫ'БКО, ГЛУ'БКО, ГЛЫБО'КО, ГЛУБО'КО *прысл.* Глыбока. *У Людоміры будзе глыбко, не так, як на Дубово́й.* Дварэц. *Як возьмеш глубко, то й просо будзе.* Дварэц. *Хоць глубко бродзіць, але зімой будзе чым поросяці подослаць.* Луткі. *Там глыбоко, там бухта.* Альгомель. *Там глубоко, гледзі не ўтопіса.* М. Малешава.

ГЛЫБО'КІ, ГЛУБО'КІ *прым.* Глыбокі. *Тэ озеро глубоке!* Луткі. *Я сплю неглыбокім сном.* Сямурадцы.

ГЛЫ'БОСЦЬ, ГЛУ'БОСЦЬ *ж.* Глыбіня. *Глубосці п'яць метроў около Стахова Куста.* Хотамель.

ГЛЫБОЧЫНА', ГЛУБОЧЫНА' *ж.* Тое ж. *Не йдзець, бо там утопімса, там на юрку глыбочына!* Цераблічы.

ГЛЫБОЧЫНЯ' *ж.* Тое ж. *О такіе на глыбочыню лапці!* Запясочча.

ГНА'ЦЦА *незак.* Гнацца. *Гоніўса по вушках за курою.* М. Малешава.

ГНАЦЬ *незак.* 1. Гнаць, накіроўваць прымусова. *Товар жэнуць на ста́йло.* Запясочча. *Трое дзецей, а ее генуць на поле!* Сямігосцічы. *Дзед роскажэ, як ёго пры немцах гонілі.* В. Малешава. 2. Сплаўляць. *Му лес гонілі на рэ́ку.* Кароцічы. 3. Атрымоўваць перагонкай. *Самогоне, хто цебе не гоне!* (жартоўны зварот). Чэрнічы. 4. Патыхаць. *От ягод жэне брагою.* М. Малешава.

ГНЕ′ВАЦЦА *незак.* Злаваць. *Хай вон не гневаецца, я скажу.* Хільчыцы. *Не гневайса, шо потурбовала.* Верасніца.

ГНЕВІ′ЦЬ *незак.* Гнявіць. *Не гневі бога, у цебе чоловек і ўсе е!* М. Малешава.

ГНЕДЫ′ *прым.* Гняды. *Конь гнеды як бы рыжый.* Альшаны.

ГНЕНУ′ЦЬ *зак.* Важка ўдарыць. *Ек гнену, так не ўстанеш!* Аздамічы. *Не беры за провод, гнене!* В. Малешава. *Як гненуць самолёты, то дрыжэніе.* Хачэнь.

ГНЕСЦІ′ *незак.* 1. Біць. *У жучка* (гульня) *гнетуць ззаду по руцэ, і трэба познаць, хто біў.* Пагост. 2. Ціснуць, націскаць важкім. *Отак гнецёце, побачыце, роўна будзе.* В. Малешава. 3. Прыгнятаць, быць прадметам цяжкай заклапочанасці. *Гнеце мене ее беда.* Запясочча.

ГНЕСЦІ′СА *незак.* 1. Слаба расці (як бы з вялікім намаганнем). *Нема ему рошчы, не росце, а гнецёцца.* Запясочча. *Гнецецца груша, мо й помрэ ўжэ.* Цераблічы. 2. Прагінацца пад цяжарам. *По леду дзеці гнетуцца, з восені лёд угнетаецца.* Бярэжцы.

ГНЕТУ′ШКА *ж.* Тонкі восеньскі лёд, які прагінаецца пад нагамі. *По гнетушцы ідзеш, то вона угінаецца.* Пагост.

ГНЕЧ *ж.* Непралазны зараснік. *Гэто ж гнеч така була, пушча, шчо не пройці не проехаць!* Сямігосцічы.

ГНЕ′ЧА *ж.* Тое ж. Сямігосцічы.

ГНЁТ *м.* Цяжар для націскання. *Рыжкі под гнёт кладуць.* Мачуль.

ГНЁТКА *ж.* Ашчадны і скупы чалавек. *От гнётка! Гнеце і гнеце усе под себе, нікому не дасць.* Буразі.

ГНІ′ДА *ж.* Гніда. *Кого першого знайду, гніды, вошы потоўку!* (з дзіцячага выслоўя пры гульні ў схованкі). Бярэжцы. △ Д а ц ь  у  г н і д ы. Пабіць. *От не дадуць ему ў гніды, то знаў бу!* Верасніца.

ГНІ′ДОЎКА *ж. абразл.* Малая ростам жанчына. *Ек суседкі грызуцца, то одна на одну кажэ гнідоўка.* М. Малешава.

ГНІЛІ′ЦА *ж.* 1. Дзікая грушка (пераважна яе плод). *Назбірала под грушэю гніліц.* Верасніца. 2. Заходні вецер. *Гніліцэй задуло.* Аздамічы.

ГНІЛЫ′ *прым.* Гнілы. *Поверце, много гнілых яблок, шо гэто робіцца?* Пагост. *Свое хоць гніло, да міло* (прыказка). Запясочча. *Рэка Случ гнілая, зімою не замерзае.* Верасніца. △ Г н і л ы  т ы ж д ж э н ь. Тыдзень пасля

паўналуння. Гнілэ́ урэм'е, гніла́ пора. Першыя дні пасля паўналуння (у гэтую пару раней не сеялі, не будавалі, не салілі сала, гародніну, лічылі, што ўсё згніе). Дварэц.

ГНІЛЬЕ' *н.* Гніллё. *Прышоў Ілья, наробіў гнілья* (прыкмета). Хачэнь.

ГНІЛЯ'К *м.* 1. Гнілушка (гнілая палка, пень, яблык і інш.). *А тэ яблука, шчо гнілякі, свінні оддаю.* Пагост. 2. Перамерзлая на полі бульба. *Му побралі і попоелі гнілекоў у войну!* Хачэнь.

ГНІЛЯ'Ч'Е *н. зб.* Гнілякі. *Гніляч'я прывезлі на дро́ва.* М. Малешава.

ГНІСЦІ' *незак.* Гнісці. *Дзерэво стало гнісці.* Мачуль. *Гніе ўсе ў полі, шо доджэ́.* Пагост. Параварвацца. *Гніе, бу ў вутвў.* Верасніца.

ГНОІ'ЦЬ *незак.* Ператвараць у гной. *Заўсёгды гэты месяц, шчо пройшоў* (ліпень), *навек гно́іць усе, перэеда́е людзей.* Хачэнь.

ГНОЙ *м.* 1. Гной, угнаенне. *Людзі гной на поле вувозяць.* Пагост. *Бабо, кінь гной, кажу, а тая усей гной похватала, дзе е следкі коровечые.* Хачэнь. 2. Гной у балячцы. *Загнало очы гноем.* Лутunion.

ГНОЯ'НКА *ж.* Гнайнік, гнойная балячка. *Гноянкі посхо́пваюцца на ногах.* Цераблічы.

ГНУ'ЦЦА *незак.* Згінацца. *Голіны гнуцца от яблук.* Дварэц. *Гні тогды, ек гнецца, а не тогды, ек одубее* (прымаўка аб выхаванні дзіцяці змалку). Мачуль. △ Не гнуцца, не вернуцца. Не дбаць, не клапаціцца. *Вон не гнуўса і не вернуўса, нічого ёмў не трэба було.* Дварэц.

ГНУЦЬ *незак.* Гнуць, згінаць. *Возьмі ек хоч ёго́ гні, не поломіцца.* М. Малешава. △ Гнуць гну́шку. Бегаць па першым лёдзе, калі ён яшчэ ўгінаецца. *Ходзем, Пайле, гнушку гнуць на озеро.* М. Малешава. Гнуць у сук. Гарбець ад старасці. *Буў роўны, да ужэ у сук гне!* Бярэжцы.

ГНЫ'ПЕЛЬ *м.* Малы ростам мужчына. *Екі ў ее там чоловек? От, гныпель нейкі!* Тураў.

ГНЮС *м.* Брыда, няўклюда. *Гнюс, ек нестройны да опушчэны.* Аздамічы.

ГНЮСА' *ж.* Тое ж. Аздамічы.

ГНЮСІ'ЦЬ *незак.* Псаваць, гнаіць. *Свінья прыдзе да тута гнюсіць.* Сямігосцічы. *Не гнюсі, хай бацько зьме.* М. Малешава.

ГНЮ'СНО *прысл.* Брыдка, брудна, непрыемна. *Так гнюсно ў хаці!* М. Малешава.

ГНЮ'СНЫ *прым.* Брыдкі, брудны, неакуратны. *Така гнюсна, і хаты не прыберэ.* Аздамічы.

ГНЮСО'ТА *ж.* Брыдота, гразь. *Лезе гнюсота гэтая ўсюды, трэба помыць.* Мачуль.

ГОВЕ'ЦЬ *незак.* Не дазваляць сабе спажываць, не мець спажывы. *Моя старая говее тры дні, і воды не п'е.* Цераблічы. *Говее увесь век одзін сам.* Запясочча.

ГОВО'РКА *ж.* Размова, маўленне. *От одной говоркі хлеб горкі* (прыказка). Запясочча. *Наша говорка і ваша говорка — одна мова.* Аздамічы.

ГОВОРКІ' *прым.* Гаваркі. *Говорка, да брэхліва, усе она ўмее, усе ў ее е. Лодыра кусок, от она хто!* Пагост.

ГОВОРУ'Н *м.* Гаварун. *Еты малы такі говорун.* Пагост.

ГОВОРУ'ХА *ж.* Гаваруха. *У нас такой говорухі нет, як моя дзядна.* Верасніца. *Там хозяйка нагле говоруха, то воны не могуць росстацца з ею.* Сямурадцы.

ГОВОРЫ'ЦЦА *незак.* Вымаўляцца. *Я чую, гэтак говорыцца.* Дварэц.

ГОВОРЫ'ЦЬ *незак.* Гаварыць. *Вона нагле прудко говорыць, я не могу слова схопіць.* Дварэц. *Коліся чоловек знаў, шчо говорaць куры, пташкі.* Цераблічы. *Берэ кія да по дубу: «Дубе, говоры зо мною!» Да шчэ по матушцы!* Луткі. △ Шкура на ім говорыць. Пра асаблівую рухавасць, гарэзлівасць. Сямігосцічы. З небом говорыць. Пра вельмі высокае. *О, ельнік там такі, шчо з небом говорыць!* Дварэц.

ГО'ГЛІЦА *ж.* Самка гогаля. Запясочча.

ГО'ГОЛЬ *ж.* Гогаль (качка). *Гоголь у лесі жыве.* Буразі. △ Гоголь да вода. Пра вялікі разліў. *Як зелья нема нідзе да відно ўсе далеко на водзе, то кажом — гоголь да вода.* Аздамічы.

ГОГО'ЛЯ *ж.* Тое ж. *Гоголя — то лесова́ вутоўка, яйца сіневатые.* Альшаны.

ГО'ГОЦЬ *ж.* Галалёдзіца, абліваха. *Гогоць — наморожня така, падае на траву, ла́міць лес.* Альшаны.

ГОД *м.* Год. *Бог с тобой, жыві сто годоў!* Хачэнь. *Вон годом старэйшы за мене буў.* М. Малешава. *Вон на багато год молоджэй.* Альшаны. *Екіе годы, такі і розум* (прыказка). Сямурадцы. *Ото цепер у нас у горо́дзі, шо і одзін год так не було!* Бярэжцы. *Памянш.* годо́к. *Малы судок, да хлеба на годок* (прыказка, пра вялікія су-

довыя выдаткі ў мінулым). Цераблічы. △ Одного году. У нейкі мінулы год. *Мне одного году було дзіво!* Мачуль. Год на яблука (ягоды, грыбу). Пра вялікую ўраджайнасць. *Сёлета, не год на каліну.* Пагост. Плохі год. Неўрадлівы год. *Будзе год плохі, колі грыміць, як нема лісця на дзерэві.* Лутскі.

ГО'ДЗЕ *прысл.* Досыць, годзе. *Годзе даваць ему.* Тураў. *Годзе ты тут ходзіла!* Запясочча. *Некая ўжэ загібель дай годзе!* Кароцічы. *Годзі ты піў, чоловечэ!* Пагост. *Нас ждалі, ждалі, дай годзі сказалі* (прымаўка). Цераблічы.

ГОДЗІ'НА *ж.* Дрэннае надвор'е. *Еслі зашумела хвоя, то ожыдай годзіну* (прыкмета). *Раз куры церэбяцца, то рано-позно будзе годзіна* (прыкмета). Дварэц. △ Ліха́ годзіна. Дрэннае надвор'е. *Ліха годзіна, круціць вецёр да снег ідзе.* Запясочча. *Ні смерць, ні родзіны не гледзяць ліхое годзіны* (прымаўка). Цераблічы *От нехай ёго́ ліха́ годзіна заберэ!* Лутскі. Чорна годзіна. Вялікая бяда, гора. *Хай на цебе чорна годзіна, мужчыно!* Мачуль.

ГОДЗІ'ЦЦА *незак.* 1. Дамаўляцца, пагаджацца. *Бувало, корочане* (з в. Кароцічы) *ідуць до пана да го́дзяцца на его земле своіх короў пасці.* Лутскі. 2. Быць прыдатным. *Сітоватэ дзерэво на лодку не годзіцца.* Верасніца.

ГОДЗІ'ЦЬ *незак.* Дагаджаць, улагоджваць. *На ленівого го́дзіць — пошоў дождж.* Запясочча. *На песках цепер го́дзіць, будуць картоплі.* Верасніца. *Колько воўку не годзі, то вон у лес гледзіць* (прыказка). Аздамічы.

ГОДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Здольны, варты ўвагі. *Я ж не годзяшча тоўстого дрэва отрэзаць.* Бярэжцы. *Хто годзяшчы, той пойдзе хлеб заробляць.* Аздамічы. *Тры хлопцы ў ее, ужэ годзяшчые хлопцы.* Лутскі.

ГОДО'ВАНЕЦ *м.* Выхаванец, прыёмны сын. *Вон сірота, годованец мой.* Пагост.

ГОДО'ВАНІК *м.* Тое ж. *Цётка моя вуросціла годованіка — лоўкі буў хлопец.* Хачэнь. *Узяў доччыно́го хлопца, уродзі годованіком вугодоваў.* Лутскі.

ГОДО'ВАНІЦА *ж.* Выхаванка, прыёмная дачка. *Як хлопец, то годованік, а дзеўка — годованіца.* Лутскі.

ГОДО'ВАНКА *ж.* Тое ж. *Вона мого дзядзька родного годованка була.* Цераблічы.

ГОДО'ВАНЫ *прым.* Дагледжаны, накормлены. *Годованэ дзіця ці не?* Запясочча.

ГОДОВА'ЦЦА *незак.* Выкормлівацца, вырошчвацца, выхоўвацца. *Водзено, то цепер рыба гoдуецца!* Луткі. *Дзе вон гoдовайса такі, хто его ведае!* Цераблічы. *Дзіч, вуценята такіе, як свойскіе, але усеонно воно не годуецца.* Там жа.

ГОДОВА'ЦЬ *незак.* Выкормліваць, вырошчваць, выхоўваць, карміць. *Ходзем свінья годоваць.* Цераблічы. *Шчо шчэ маці годовала, тэ вырвало.* Аздамічы. *Жонкáм трэба дзеці годоваць да хозяйство гледзець.* В. Малешава.

ГОДО'К *м.* Равеснік, аднагодак. *Мой годок вон, з одного году.* Дварэц.

ГОДО'ЎЛЯ *ж.* Выхаванне, догляд, кармленне. *А ека була годоўля? Цепер тым дзецям годоўля, то любота!* Дварэц. *Своe годоўлі вороб'е!* (жарт). Сямігосцічы. *Тобе лепша годоўля була коло мацер і бацька.* Хачэнь.

ГОДУНЕ'Ц *м.* Падсвінак. *Гэтого годунца ужэ будзе 130—150 кілограм!* В. Малешава.

ГО'ЖЫ *прым.* Здатны. *Вон гожы хлопец, только хворэе.* Дварэц. *Ужэ й вона не гожая, добрэ не цяміць.* Аздамічы. *Я хочу трохі помогці дзéцям, покі гож.* Цераблічы. *Віднó, шчо не гож чоловек.* Луткі. *Не дай божэ, як дзіця не гожэ* (прымаўка). Сямурадцы.

ГОІ'ЦЦА *незак.* Загойвацца. *Начынае гоіцца пéча, свербіць.* Запясочча. *От гэты хлопец, шчо обпекла ёго кіслотою, то гусіным салом гоіўса.* Аздамічы.

ГОІ'ЦЬ *незак.* Загойваць. *Морóзіну гусіным салом помажэш, то буйстро гóіць.* Дварэц.

ГО'ЙДАЛКА *ж.* 1. Гушкалка. Аздамічы. 2 *перан.* Той, хто гойсае на вуліцы. *Годзі ты, гойдалка, бегай, дрóва трэ колоць!* Пагост.

ГО'ЙДАЦЦА *незак.* Гушкацца. *Вóзьмуць дошку еку, уложаць у прасло і гойдаюцца.* Аздамічы.

ГО'ЙДАЦЬ *незак.* 1. Гушкаць. Запясочча. 2. Бегаць, гойсаць. *Гойдаюць малые по сілезі до пóзнёго, у шпіёнаў гуляюць.* Пагост.

ГОЙНЁВА'ЦЬ, ГОЙНОВА'ЦЬ *незак.* Быць у стане цечкі (пра сабак, ваўкоў). *Собакі гойнююць часто.* Бярэжцы. *Стала гойнёваць кошка, так коты со ўсего села!* Запясочча.

ГОЙНЯ' *ж.* Зграя. *Воўча гойня коло хутороў бегала.* М. Малешава.

ГОЛА'Н *м.* Бядняк, галяк. *Голан — той, хто нічого не мае.* Аздамічы.

ГО'ЛДА *ж.* Непрыемная хўдая высокая жанчына. Запясочча.

ГОЛДОВА'ЦЬ *незак.* 1. Вядзьмарыць. Лутకі. 2. Бáлбатаць, вярзці. *Усёодно езык твой не голдуе, п'яніца!* Альпень.

ГОЛДУ'Н *м.* Чараўнік, вядзьмар. Запясочча.

ГОЛДУ'НКА *ж.* Чараўніца, вядзьмарка. Запясочча.

ГОЛЕНІ'ШЧА *мн.* Галянішчы. *С тых голенішчоў лапці шылі.* Хільчыцы.

ГОЛЕ'Ц *м.* 1. Незаснежаны чысты лёд. *Гольцэм добрэ рыбу глушыць чэкухою.* Аздамічы. 2. Галеча, беднасць. *Коб на цебе голец напаў!* Запясочча. *Сала ў его голец голее.* В. Малешава.

ГОЛЕ'ЧА *ж.* Галеча, бядота. *Зайшлі ў хату, а там голеча-голеча, нічого нема.* Пагост.

ГОЛЕ'Ч'Е *н. зб.* Галлё. *Бўсько носіць голеч'е да будуе кубло.* Верасніца.

ГОЛЁНКА *ж.* Галёнка. *Голёнка до колена, а это ужэ сцегно.* Сямурадцы.

ГОЛІ'НА *ж.* Галіна. *Подопры голіны, а то от яблук пообламваюцца.* Дварэц. *Вон не так, шоб кветкою, а так, на голіні седзіць.* Хачэнь. *Памянш.* г о л і н к а. *Гледзі голінкі не потламвай!* М. Малешава.

ГОЛІНЯ'СТЫ *прым.* Галінасты. Запясочча.

ГОЛІ'СТЫ *прым.* Тое ж. Запясочча.

ГОЛІ'ТВА *ж.* Галота. *Голітва була, у одной полотняной сорочцы, дай чэрэво торчыць.* Цераблічы.

ГОЛІ'ЦЦА *незак.* Галіцца. *Мікола навек гóліцца брытвою.* Цераблічы.

ГО'ЛКА *ж.* Іголка. *Тоўста голка коло шкафа ў фіранцы.* Запясочча.

ГО'ЛО *прысл.* Гола, пуста. *Коб ей голо було!* (праклён). М. Малешава.

ГОЛОВА' *ж.* 1. Галава. *Болiць моя голова, которым часом здаецца, от зарэ росколецца.* Бярэжцы. *Поняція жызненного нема ў голове, а за хлопцамі канікўе!* М. Малешава. 2. Розум. *Хозяін мае головў, вон думае об свое хозяйство.* Цераблічы. *Шчытай, як головы нема, то інвалід.* В. Малешава. *Як свое голову нема, то чужа не поможэ* (прымаўка). Хачэнь. 3. Пярэдняя частка ў плыце, верхняя частка ў вуллі і інш. *Голова — сама перва грэблёнка у пасў.* Запясочча. *У голове у колодзі мед.* Верасніца. 4. Галаўны ўбор замужняй жанчыны. *З берэсту такого коша накладвалі, с козырком, да обоўе на*

*ту голову наметку, шчо до долу вісіць.* Аздамічы. 5. Выступ берага на рацэ, паўвостраў. Аздамічы. 6. Гаспадар у доме. *Як не робіш, то ўсе бес толку, бо без голові ў хаці.* Хотамель. △ Н а ў с ю г о́ л о в у. Моцна, з усёй сілы. Бярэжцы. Н е ў г о́ л о ў. Не ў думках, па-за клопатамі. *Не ў голоў ему, шчо воды нема.* Дварэц. У г о л о ў б р а ц ь. Цікавіцца, задумвацца. Запясочча. Н е й с ц і ў г о́ л о в у. Не заставацца ў памяці. *Чытаю, чытаю — сероўно нічого не йдзе ў голову.* Азяраны. Н е в у х о д з і ц ь з г о л о в у́. Заставацца ў думках, турбавацца. *Аніяк не выходзіць з голову, шо его́ нема.* Азяраны.

ГОЛОВА′Н *м.* Чалавек з вялікай галавой. *Хлопчак, а такі голован!* Пагост.

ГОЛОВА′ТЫ *прым.* Галавасты. *Вельмо головаты, голова, як ражка.* Бярэжцы.

ГОЛОВА′ХА *ж.* Жанчына з вялікай галавой. Пагост.

ГОЛОВА′Ч *м.* 1. Чалавек з вялікай галавой. *Головач, то вон і розумны.* М. Малешава. 2. Пад'язак. *Головач — это под'язіч.* М. Малешава.

ГОЛОВЕ′ШКА *ж.* 1. Галавешка, абгарэлае палена. *Головешкою трэ подкурыць, шчоб не кусалі пчолы.* Аздамічы. *Росказваюць, сын головешкою мацер біў. А вона: «Сынок, рук не попечы!»* (з прытчы). Бярэжцы. 2. Галаўня (у просе, у пшаніцы і інш.). *Як на пірогі пшэніцу, то змывалі, як богато ′головешкі.* М. Малешава. *У просі головешка е, плохо запарыла просо.* В. Малешава. *Памянш.* г о л о в е́ ш э ч к а. *Дзеду, дайце головешэчку запаліц у печэ.* Запясочча.

ГОЛОВІ′ЦА *ж.* Самыя лепшыя буйныя зярняты пры веянні ўручную збожжа, канапель. Альпень.

ГОЛОВІ′ШЧЭ *н.* Галава. *Мое головішчэ боліць.* М. Малешава.

ГОЛОВОСЕ′К *м.* Традыцыйнае свята ў верасні. Пагост.

У дзень свята абавязкова заканчваліся некаторыя палявыя работы. У гэты дзень адсякалі галаву старому пеўню.

ГО′ЛОД *м.* Голад. *Як цвіце мак, то голод не так* (прыказка). Запясочча.

ГОЛОДЗЕ′ЧА *ж.* Вялікі голад. *Ох, у трыццаць трэ́цём голодзеча була!* Пагост.

ГОЛО′ДНІЦА *ж.* Галодная пара года ў мінулым (звычайна вясна). *Петровіца — голодніца* (прымаўка). *Ужэ нема ні петровіцы, ні голодніцы.* Сямурадцы.

ГОЛО'ДНЫ *прым.* Галодны. *Поросята голодные, накормлю пойду.* Запясочча. *Як чоловек голодны, то есць борщ холодны* (прыказка). Хачэнь.

ГОЛОДОВА'ЦЬ *незак.* Галадаць. *Голодовалі людзі колісь, а цепер усе цехніка робіць.* Верасніца. *Толькі душа ў голодоўку не голодовала.* М. Малешава.

ГОЛОДО'ЎКА *ж.* Голад. *У кого золото було, то не було голодоўкі.* Запясочча.

ГОЛОДРА'НЕЦ *м.* Абшарпанец, бядняк. *На чорта вон мне здаўса, той голодранец!* Верасніца.

ГОЛОМОРО'ЖА *ж.* Абліваха. *Голоморожа — это як замерзае на дзерэві дошч.* Цераблічы.

ГОЛОМО'ЎЗА *м.* і *ж.* 1. Бязрогая карова. Пагост. 2. Чалавек з голай галавой (без шапкі, абстрыжаны і інш.). *Чо, голомоўза, ходзіш? Ідзі шапку одзень.* Пагост. *Голомоўзо нерозумнэ, чого прэш, шо не бачыш?* Верасніца.

ГОЛОМО'ЎЗЫ *прым.* 1. Бязрогі або са збітым рогам (пра вала, карову). *От голомоўзэ, нестройнэе таке, та товарына!* Луткі. 2. З голай галавой. *Голомоўзы — это ў которого голова боса.* Сямурадцы.

ГОЛО'ПОМ *прысл.* Галопам. *Полецеў конём голопом.* Аздамічы.

ГОЛОПУ'ПЕЦ *м.* Птушаня, не аброслае поўнасцю пер'ем. *Нашоў кубло у лозе, а ў ём голопупцы.* Сямігосцічы.

ГОЛОПУ'ПУ *прым.* 1. Не аброслы поўнасцю пер'ем (пра птушаня). Аздамічы. 2 *перан.* Голы, бедны. *Нашчо такому голопупому тое жыто?* Цераблічы.

ГО'ЛОС *м.* 1. Голас. *От маў голос! На весне як крыкне, то далеко чутно́!* Аздамічы. *А буў Мохно, то той на голос прывучыў, шоб короў ішлі.* Хачэнь. *Екіме!—Го!— На голос ідзі, колі чорт очы вубраў!* М. Малешава. 2. Галашэнне. *Шо крыку да голосу було!* М. Малешава.

ГОЛОСІ'СТЫ *прым.* Галасісты. *І дзеўка голосіста і гармонь, так вуводзяць!* Пагост.

ГОЛОСІ'ЦЬ *незак.* Галасіць, голасна плакаць. *Я прысніла, шо так голосіла по мацеры, так вуводзіла!* Запясочча.

ГОЛОСНІ'К *м.* Пішчык у музычных інструментах. *Гармонь стара, а екі голоснік у ее!* Пагост. *Мн.* голоснікі. Чырвоныя сярожкі пад дзюбай у пеўня. Запясочча. Доўгае пер'е ў пеўня ў хвасце. *Няма шчэ голоснікоў, не*

*спевае певень.* Луткі. *Хоця не вурві голосніка, то не будзе певень спеваць.* Хачэнь.

ГО'ЛОСНО *прысл.* Гучна. *У лесі голосно, як спеваеш.* Бярэжцы.

ГОЛО'СНЫ *прым.* Галасісты, звонкі. *От голосные, ну і голосные бабў!* Запясочча. *Голосны, хорошы певень.* Там жа.

ГОЛОСОВА'ЦЬ *незак.* Лемантаваць. *Ідзе да голосуе, бо жонка будзе родзіць.* Альшаны.

ГОЛО'СТРОНКА *ж.* △ Н а г о л ó с т р о н к у. На босую нагу. *Трэ обуць чоботы на голостронку.* М. Малешава.

ГОЛОСУ'ХА *ж.* Галасістая жанчына. *От голосухі дзеўкі! Да ўсе колісьніе песне́ знаюць!* Кароцічы.

ГОЛО'ТА *ж.* 1. Беднасць, галеча. *Да голота була, не було своей кухайкі.* Мачуль. *Така голота! Трэ свіньям хоч рыбы даць вонючэй.* В. Малешава. 2. Галота, беднякі. *Гуляй голота коло болота, ека харч, така і робота* (прымаўка). Аздамічы.

ГОЛО'ЎКА *ж.* 1. Галоўка (цыбулі, часнаку). *Голоўкі порослі добрые ў цыбулі!* Бярэжцы. Закруглены канец у прадметах, рэчах, прыладах. *Крывуля эта ў по́лозе называецца голоўка.* Запясочча. *Голоўка хомута закрэпваецца ушывальніком.* Цераблічы. *Голоўкі вельмі загнутые, то й сані плохо бегуць.* Верасніца. *Голоўкі сонечніка мы называем, шчэ колі вон роспукваецца, а так — кружок.* Луткі. 2. Пчалінае гняздо ў вуллі. Мачуль. 3. Перад у плыце. Пагост. 4. Выступ берага на павароце. Дварэц. *Мн.* голоўкі. Суквецце або пладовыя каробачкі ў раслін. *У клеверы одны стрычэны, голоўкі поотпадвалі.* Запясочча. *Кудзеля з вершкоў лёну, а голоўкі на ўток.* Там жа.

ГОЛО'ЎЕ *н. зб.* Галовы. *Картопля поросла добрая, ек голоўе.* Верасніца.

ГОЛОЎНЫ' *прым.* Галаўны. *І косці знаходзілі голоўные ў Городзішчы.* Хільчыцы.

ГОЛОЦЫ'ЦОК *м.* Птушаня, не аброслае поўнасцю пер'ем. *Голоцыцок нейкі, вороб'еня мо то?* Пагост.

ГОЛОЎЧЫ'СТЫ, ГОЛОЎЧА'СТЫ *прым.* З вялікай колькасцю галовак (пра лён). *Дзе рэдкі лён, то вон, ек рокіта, голоўчысты.* В. Малешава. *Голоўчасты лён, кучэраву.* Луткі.

ГОЛОЧЭРЭ'НЫ *прым.* Лысы. *Бач, стаў голочэрэны, косы вулезлі.* В. Малешава.

ГОЛОШЧО'К *м.* Замерзлая незаснежаная зямля. *Як снегу нема і мороз, то голошчок бувае, нельга іці.* Сямігосцічы. *Голошчоком косяць, бувае.* Кароцічы.

ГО'ЛУБ *м.* 1. Голуб. *Голубоў цьма на колгозі* (на калгасным двары). В. Малешава. 2. Зварот да чалавека (хлапчука, мужчыны). *Я сам, голубе, люблю кашу.* Цераблічы. *Ой, ты ж голубе мой, шо ты зробіў!* М. Малешава.

ГОЛУБЕНЯ'ТКО *н. перан.* Ласкавы зварот да дзіцяці. *Ідзе́це, мое голубенятка маленькіе!* (да ўнукаў). Сямурадцы.

ГОЛУ'БІЦЬ *незак.* Любіць і выказваць ласку. *Іншы голубіць жонку, а іншы нап'ецца, то вон поголубіць!* Сямурадцы.

ГОЛУ'БКА *ж.* 1. Галубка. Запясочча. 2. Ласкавы зварот да чалавека (жанчыны, дзяўчыны). *Ты ж на п'яць год моло́джэй, голубка!* Хачэнь.

ГОЛУ'БОВУ *прым.* Блакітны. *Жывокост цвіце голубовум.* Хачэнь.

ГОЛУ'БОНЬКА *ж.* Ласкавы зварот да дзяўчыны, жанчыны, да малой істоты. *Голубонька моя, не плач, я ж увечэры назад прыду да ягодок тобе прынесу.* Пагост. *Целушэчка, голубонька, ну ідзі!* Там жа.

ГОЛУ'БЧЫК *м.* Ласкавы зварот да чалавека (хлапчука, мужчыны). *Іду у лес пукі жаць, мой голубчык, мо ў лесе трава нека будзе.* Кароцічы. *Памянш.* голу́бчычэк. *Мой сыночак, ох мой голубчычэк!* Бярэжцы.

ГОЛУ'ХА *ж.* Пазуха. Луткі.

ГОЛУ'ШКА *ж.* Клёцка, пампушка. *Голушкі печэмо́ с картопляў.* Луткі. *Памянш.* голу́шэчка. *Я спекла дзве голушэчкі.* В. Малешава.

ГО'ЛЫ *прым.* Нічым не прыкрыты, чысты. *Голому і верба голая* (прыказка). Аздамічы. Відавочны, яўны. *Не крышаны, а гола соль.* М. Малешава. *Гола трава ў покосах, не посохла.* Хачэнь. *Сасна — одна го́ла смола!* Мачуль. *Памянш.* го́ленькі. *Да на го́ленькіх дошках лежыць!* Пагост.

ГОЛЫ'ТВА *ж.* Галеча, галота. *А тые сёла, за Прыпецьvю, булі голытва!* М. Малешава.

ГОЛЫ'ШКО *н.* Бядняк, галадранец. *Голышко ты, нема нічого ў цебе!* Запясочча.

ГОЛЬ *ж.* Галеча. *Голь така, шо нічого нема.* Луткі. Пустэча. *Одно голь да вода.* Хотамель.

ГОЛЬЕ' *н. зб.* Галлё. *А грушэй, а яблук, аж голье*

*гнецца!* Альпень. *Дзе голье потане, то вона там на том голье бодзяга.* Хачэнь. *Памянш.* г о́ л л е й к о, г о́ л ь е ч к о. *Голлейка ўкінь с каліны, то чай добры.* В. Малешава. *Гольечко корова одламвае.* Рубель.

ГОЛЬЁВА'ТЫ *прым.* Галінасты. *Гольёваты, раловаты дуб росце на могліцах.* Луткі.

ГО'ЛЬКА *ж.* △ Н а г о л ь к у. На лямку. *Барліны цегнулі на гольку.* Дварэц. *Беры на гольку лодку да поедом.* Запясочча.

ГОЛЯ' *ж.* Бакавая галіна на стойцы ў варотах, да якой прыбіваюцца дошкі. Альшаны.

ГОЛЯ'К *м.* Бедняк, галадранец. М. Малешава.

ГОЛЯ'КА *ж.* Галіна. *Колько голяк, только і корэнёў.* М. Малешава.

ГОМЗА'ТЫ *прым.* Гамзаты. *Гомзаты буў той чоловек і жонка, а дзеці добрэ говорaць.* Сямігосцічы.

ГОМЗА'ЦЬ *незак.* Гамзаць. *Будзеш гомзаць, як удырыць по носу.* Сямігосцічы.

ГОМЗЛІ'ВУ *прым.* Гамзаты. Мачуль.

ГО'МОН *м.* Гаворка. *Іншы город, то іншы гомон* (прыказка). Хачэнь.

ГОМОНА' *ж.* Гаворка, гоман, шумная размова. *Така гомона ў хаці поднеласа!* Запясочча. *А вон, бач, почуў, шо гомона коло магазіна!* М. Малешава.

ГОМОНІ'ЦЬ *незак.* Размаўляць, гаварыць, расказваць. *Вона по-нашому ўмела гомоніць.* Альшаны. *Як гомо́няць, то ее цягне на сон.* Бярэжцы. *Нема вам кому гомоніць.* Сямурадцы.

ГОМО'НКА *ж.* Гамонка, гаворка. *То людзі польскіе, гомонкі іхніе начые.* Бярэжцы. *Гомонкі ў п'яного багато!* Луткі.

ГОМОНКІ' *прым.* Гаваркі. *Вона дзевочка гомонкая!* В. Малешава.

ГОМОНУ'ХА *ж.* Гаваруха. *Вона гомонуха, не помоўчыць!* Верасніца.

ГОМУ'ЛКА *ж.* Сусла. *Кукла, шо дзіцяці даюць, то гомулка.* Сямурадцы.

ГОНЕ'Ц *м.* 1. Прылада, якой палохаюць і заганяюць у сетку рыбу. *Гонец — шост гоніць рыбу, у ём ко́лцы на концы, шоб бразкало.* Цераблічы. 2. Загоншчык на паляванні. *Гонцэ жэнуць, а охотнік стоіць на то́року.* Аздамічы.

ГОНЕ'ЧА *ж.* Беганіна, гонка. *Гонеча за товаром, як мошка нападзе.* Хільчыцы.

ГОНІ'ТЭЛЬ *м.* Рухавік, матор. *Раз дзве лодкі, то і дзве гонітэлі.* Запясочча.

ГО'НКА, ГО'НЗКА, ГО'НЧКА, ГО'НТКА *ж.* 1. Адно звяно ў плыце. *Дзве гонкі лесу прыплавіў.* Пагост. *У нас гонзкі малые, дзесець-дванаццаць колод.* Цераблічы. *Гончкамі наплаўляць лесу.* Чэрнічы.

ГО'НКІ *прым.* Гонкі, прагоністы. *Луговое дзерэво гонке, без сучкоў.* Аздамічы.

ГОНО'ЗА *ж.* Заедзь. Альшаны.

ГО'НОР *м.* Гонар, фанабэрыя. *Хоць коровай грэцкі, але гонор шляхецкі* (прыказка). Цераблічы. *Шо город, то іншы гонор* (прыказка). Запясочча.

ГОНОРО'ВУ *прым.* Ганарысты. *А ў нас шляхта, бра, гонорова!* Мачуль.

ГОНОРЫ'СТЫ *прым.* Тое ж. *Некі вон гонорысты, шо го!* Дварэц.

ГОНОРЫ'ЦЦА *незак.* Ганарыцца. *Только воны гонорацца, шо маюць мошыны!* Аздамічы.

ГОНТОЎ'Е' *н. зб.* Матэрыял на гонту. *Для дранкі готовяць гонтоўе.* Сямурадцы.

ГОНЦОВА'ЦЬ *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра сабак). Альшаны.

ГОНЧА'К *м.* 1. Рачное судна, якое сваім ходам сплаўлялі па рацэ ўніз. *Му одзін год порожнёго гончака гналі ў Мо́зыр.* Дварэц. *Самоплавом ішоў гончак на ніз з дровамі да злез на косу.* Там жа. 2. Сплаўшчык лесу, плытнік. Альшаны.

ГОНЧА'Р *м.* Пагоншчык коней, кароў. *Тые, шо товар гоняць, зовуцца гончарэ́.* М. Малешава.

ГО'НЫ *мн.* Гоні. *Одные гоны картопляў му ўжэ вубралі.* Луткі. *За гоны вон воняе тым ціцюном!* М. Малешава.

ГО'НЬКА *ж.* Гунька. *Дай гоньку накрыць коня.* Мачуль.

ГОНЬЯ' *ж.* Гайня. *На гонью воўкоў нарвацца — беда!* Тураў.

ГОНЯ'ЦЦА *незак.* 1. Бегаць услед. *Му удвоіх мо час за ім гоняліса.* Пагост. 2. Ганяцца, выяўляць вялікае жаданне. *Я не вельмі гоняўса за етою рыбою.* Запясочча.

ГОНЯ'ЦЬ *незак.* Ганяць, кіраваць стадам. *Як корову гоняе, то вешаюць зеркало у хлёве́, шоб вон сам себе побачыў, то покіне* (пра нячысціка). Луткі.

ГО'ПА *ж.* Тоўстая жанчына. Запясочча.

ГОПА′КНУЦЬ *зак.* Упасці. *Гопакнеце оттуля, то голова не будзе цэла.* М. Малешава.

ГО′ПАЦЬ *незак.* Стукаць, бухаць. *Об землю гопае хвост той колоды на возу.* Кароцічы.

ГОПЕ′РЫЦЬ *незак.* Набіваць. *Гоперыць у тую скрыню светарэ, хусткі, а нáшчо тое!* М. Малешава.

ГО′ПКАЦЦА *незак.* Падскокваць. *Малэ таке, а за біло ў ложку возьмецца і гопкаецца, гопкаецца, покуль на рукі не возьмеш.* Пагост.

ГО′ПЛЯ *ж.* Цяжкая ў хадзе жанчына. Сямурадцы.

ГО′ПНУЦЬ *зак.* Важка ўпасці. *Недзе гопнуло яблоко.* Луткі. Скокнуць. *Як гопне воўк з-за куста!* Запясочча. Важка ўдарыць. *Як гопне кота по мусе мухобойкою!* Луткі.

ГОПТОВА′ЦЦА *незак.* Збівацца ў груд. *Усе туды гоптоваліса ў тэ село.* Луткі.

ГО′ПТОМ *прысл.* Разам. *Усе гоптом змешалі: і пшэніцу і ечмень.* Пагост.

ГОП-ЧУ′КІ *выкл.* Выгук пры падкідванні дзіцяці на руках. *Гоп-чукі, гоп-чукі на чукáночкі!* Луткі.

ГОРА′ *ж.* 1. Гарышча. *Злезь на гóру да прынесі рыбу сухое ў квас.* Кароцічы. 2. Узвышша, пагорак. *Ой, на горе нішчó не родзіць, посеюць жыто, то так, як мухі, збіраемо.* Аздамічы. *По горах шчэ й снегі лежаць, по долінах шчэ й лёды́ стояць, а по горóдах ужэ макі цвітуць* (з песні). Бярэжцы.

ГОРА′ЧКА *ж.* Гарачка. *А вон говорыць абу-шчо з горачкі.* Мачуль. *Як які остолоп, то беры ёгó горачка, нічого не будзе з вучобы!* Запясочча. *От розышоўса, осадзі горачку!* Азяраны.

ГОРА′ЧЫ *прым.* Гарачы. *Як горачэ лето, то й медовэ.* В. Малешава. Кіпучы ў дзеянні. *До роботы горачы, не поседзіць!* М. Малешава.

ГОРБ *м.* Горб. *От старосці велікое у ее горб.* Пагост. Плечы, карак. *Восем рогож уссадзім на горб, да восем злотых озьмом, да чоботы купляём у городчукоў.* Цераблічы.

ГОРБА′ТЫ *прым.* Гарбаты. *У старосці гне, горбатым робісса.* Альпень. *Горбатого й могіла не справіць* (прыказка). Сямурадцы.

ГОРБА′ХА *ж.* Гарбуння. *Ек на старосць, то ты ўжэ і горбаха, і медзьварка.* М. Малешава.

ГОРБАЦЕ′ЦЬ *незак.* Горбіцца. *Ужэ горбацееш, гне цебе ў сук.* Бярэжцы. *Богацейце да сперэду горбацейце*

(жартоўнае пажаданне маладым на вяселлі). Верасніца.

ГОРБА'Ч *м.* 1. Качаня-падлётак. Аздамічы. 2. Палена з сукамі. *Дроў одных горбачоў прывёз.* Пагост.

ГОРБЕ'ЛЬ *м.* Гарбун. *Ужэ на плечах горб вурос, то і горбель.* Луткі.

ГО'РБІЦЦА *незак.* Горбіцца, выгінацца. *Горбіцца под тым возом конь.* Альшаны.

ГОРБОВА'ЦЬ *незак.* Гнуць спіну на працы. *Горбуе вона на бураках да на картоплях!* Цераблічы.

ГОРБОНО'СЫ *прым.* Гарбаносы. *Горбоносы, колі нос спусноваты да велізны на весь від.* Аздамічы.

ГОРБУ'ЛЬКА *ж.* Гарбуння. *Онё о баба горбулька, вона добрэнька бабка.* Цераблічы.

ГОРБУНЕ'Ц *м.* Горка. Тураў. *Памянш.* горбунчык. *Кругом ні грудочка, ні горбунчыка!* Запясочча.

ГОРГУ'Н *м.* Жаўлак. *Горгуны на віду поўскоквалі.* Аздамічы.

ГОРГУНОВА'ТЫ *прым.* Пакрыты жаўлакамі, наростамі. *Горгуноватэ дзерэво, бакулкі на ём.* Цераблічы.

ГОРДО'ЎНІК *м.* Жывакост. *Як екая вава, то гордоўнік прыкладвалі. Гордоўнік дзе хочэце росце по кустох, да ўеццa.* Хачэнь.

ГОРКА'ВІЦЬ *незак.* Картавіць. *Горкавіць Маня.* Верасніца.

ГОРКА'ВО *прысл.* Картава. *Зубоў нема, то горкаво говору.* Сямігосцічы. *Не беруць тэ замуж, шо горкаво говорыць.* М. Малешава.

ГОРКА'ВОСЦЬ *ж.* Картавасць. *Вон горкаву, горкавосць мае ў році.* М. Малешава.

ГОРКА'ВУ *прым.* Картавы. *Як ры не вуговарвае, то горкаву, а як сы — то шэпеляву.* Луткі.

ГОРКА'ЦЬ *незак.* Картавіць. *Горкае, як дзед, не розобраць, шо говорыць.* Сямігосцічы. *Іванко горкае, у ёго нечысты розговор.* М. Малешава.

ГО'РКІ *прым.* 1. Горкі. *Ох, горка цыбуля, горка, шчо огонь!* Кароцічы. *Пі горке, еж горке, то й помрэш — не згніеш* (прымаўка). М. Малешава. *Горка горэлка, да ўсе п'юць, недобрэ замужом, да ўсе йдуць* (прыказка). Там жа. 2. Бедны, няшчасны. *Шо мне, горкой, робіць!* Сямурадцы.

ГО'РКНУЦЬ *незак.* Горкнуць. *Зімой молоко не кісне, да горкне.* Бярэжцы. *Пошоў, бутылку купіў той оліві. Нашчо, шчоб вона горкла?* Дварэц.

ГО'РКО *прысл.* Горка, цяжка, гаротна. *Горко старо-*

*му на свеці жыці, і смерць не берэ.* М. Малешава. *Бедны Рыгорко, будзе тобе горко!* (прыказка). В. Малешава.

ГОРКОВА'ТЫ *прым.* Гаркаваты. *Зайчыкоў шчавер, вон горковаты.* Сямурадцы.

ГОРКОТА' *ж.* Гарката. *То горкота нейка, а не чай!* Запясочча. *Горкота, а не можно оторваць от рота* (прымаўка). Сямурадцы.

ГОРЛА'Н *м.* Крыкун. *От рэвун, от горлан, от крычыць!* Цераблічы. *От горлан, годзі горло росстаўляў своє!* М. Малешава.

ГОРЛА'НІЦЬ *незак.* Крычаць. *Не надоело вам горланіць, дзеці, голова боліць.* Азяраны.

ГО'РЛО *н.* Горла. *Як горло боліць, напіса парэного молока с содой і пройдзе.* М. Малешава. *Воўк коня век не возьме так, як за горло не возьме.* В. Малешава. *Бўсько наберэ поўно горло, як у мешок, рыбы.* Лутні.

ГОРЛОВІ'НА *ж.* Гарлавіна. *У любой посудзіне горловіна е, вўзке место.* Сямурадцы.

ГОРЛОВУ' *прым.* Тэрміновы. *Не така горлова справа, поробім.* Запясочча. *Не горловэ ліхо, можно поседзець.* М. Малешава.

ГОРЛОПА'Н *м.* Гарлапан. *Ой, горлопан, шо ты уеўса мне своім крыком!* Пагост.

ГОРЛОПА'НІЦЬ *незак.* Гарлапаніць. *А певень дурны горлопаніць на ўсе горло!* Лутні.

ГОРЛЯ'К *м.* Горла. *Целят рэжуць — ножэм по горляку.* Сямурадцы.

ГОРЛЯ'НІЦЬ *незак.* Гарлапаніць. *Чого ты там горляніш?* Аздамічы.

ГОРЛЯ'НКА *ж.* 1. Горла. *Нехай другого беруць за горлянку.* Цераблічы. 2. Гліняная пасудзіна з вузкім горлам. *Горлянка у нас тэ, шчо чай грэюць, і бутля ее называюць.* Цераблічы. 3. Саламяная пасудзіна з вузкім горлам на насенне. *Горлянку плетуць з соломы і з дубцоў.* Буразі. 4. Расліна гарлянка. *Горлянку от простуды п'юць.* Хачэнь. 5. Горліца. *Горлянка несецца на трох палочка́х, відно́, дзе ейцэ лежыць.* Запясочча. 6. Хвароба горла. *Горлянка як хопіць, до смерці доведзе.* М. Малешава.

ГОРЛЯ'ЧЫНА *ж.* Стрававод. *Горлячына ідзе до самого нутра.* М. Малешава.

ГОРНО' *н.* Ачаг, скрыня з пяском, дзе гарыць агонь (у кузні, на плыце). Хотамель.

ГОРНОСТА'Й *м.* Гарнастай. *Дзе ходзіць горностай, то там мушэй мало.* Любавічы.

ГОРНУ'ЦЬ *незак.* Гарнуць. *Горнуць у свойцы трэ полотно.* Хотамель. *Лозу ў пучкі горнулі* (пры нарыхтоўцы). М. Малешава.

ГОРОБЕ'Й *м.* Верабей. *Як насыплю курам есці, то гороб'е з імі дзеўбуць.* М. Малешава.

ГОРОБ'І'НЫ *прым.* Вераб'іны. *Гороб'інэ кубло.* М. Малешава.

ГОРОБЛЁВУ *прым.* Тое ж. Хотамель.

ГОРОВА'НЬЕ *н.* Маёмасць, дабро. *Кому, бабо, нашэ горованье достанецца?* Пагост.

ГОРОВА'ЦЬ *незак.* 1. Працаваць шчыра. *Хто горовай, той май* (прыказка). Сямігосцічы. *Горуй, небожэ, то й бог поможэ* (прыказка). В. Малешава. *Горуе, горуе, а ў соломі ночуе* (прымаўка). М. Малешава. *Нема чого даваць, хай горуюць!* (пра цыганак). Хачэнь. 2. Гараваць. *Вона мучылас, горовала, дочок нема, тры сыны.* Запясочча. *Ека вона господыня? Вона і за готовум горуе.* Хачэнь.

ГО'РОД *м.* 1. Горад. *Хочу городом іці ў Дворэц.* Запясочча. *Колісь буў город до самых Озеран.* Чэрнічы. 2. Частка ігравога поля пры розных дзіцячых гульнях. Талмачава. △ Г о р о д-п о л е. Дзіцячая гульня, падобная да лапты. Хачэнь.

ГОРО'Д *м.* Агарод. *Я коло його поруса, коло того города!* Дварэц. *Не йдзі ў город, бо там коса лежыць.* Хотамель.

Так палохалі дзяцей, каб не лазілі ў грады.

ГОРО'ДЖЭНЫ *прым.* Агароджаны. *Баркан — дзерэвом городжэны двор.* Дварэц.

ГОРО'ДЗЕЦ *м.* Агародчык, кветнік. *Перэд хатою городзец.* М. Малешава.

ГОРО'ДЗІНА *ж.* Гародніна. *Колісь ні яблока, ні городзіны не було.* М. Малешава.

ГОРОДЗІ'ЦЬ *незак.* Гарадзіць. *Навозілі хвороста на плоты, будуць городзіць.* В. Малешава. *Вода знімала шлях, тамэка мешкамі городзілі.* Там жа.

ГОРОДНЫ' *прым.* △ Г у л я́ ц ь у г о р о д н о́ г о. Гуляць у лапту. Запясочча.

ГОРОЕ'Ю, ГОРОЛЕ'Ю *прысл.* З коптурам. *Я набрала ягод пойну шаньку гороею.* Цераблічы. *То ж я беру дзве ложкі горолею.* Лутboard.

ГОРО'ЖА, ГОРО'ДЖА *ж.* Агароджа. *Горожа можэ*

*буць усяка: плот з хворосту, штакет з дошчок, частокол с колья.* Тураў.

ГОРОПА'ШНІК *м.* Шчыры працаўнік. *От горопашнік, воно не згуляе, готоў розорвацца за роботою!* М. Малешава.

ГОРОПА'ШНЫ *прым.* Шчыры ў працы. *Вон у нас горопашны, шо й мінуточку не згуляе!* М. Малешава.

ГОРОПА'ШЧЫ *прым.* Тое ж. *Горопашчы вон чоловек, горуе і горуе ў полі.* Луткі.

ГОРОПУ'ЗА *м.* і *ж.* Брухач. *А дзе колос е, то, як горопуза, такі тоўсты.* Запясочча.

ГО'РОСЦЬ *ж.* Горыч, гаркота. *Горосць не вушла с копусты.* Запясочча. *І як мороз, орабіна не солодка, усеодно есць горосць.* Дварэц.

ГОРО'ЎЛЯ *ж.* Цяжкая праца. *Гэта гороўля боком вулазіць, бес поры старэе чоловек.* М. Малешава.

ГОРО'Х *м.* Гарох. *Орох дзе е, то веселец вызбірае.* Рубель. *Жыве, як горох пры дорозі — хто йдзе, то і скубе* (прыказка). Сямурадцы.

ГОРОХВЯ'НЫ *прым.* Гарохавы. *Мекіну несе горохвяну!* (пра пустую гаворку). Запясочча.

ГОРОХОВА'ТЫ *прым.* Кучаравы. *Мой бацько гороховаты.* Сямігосцічы.

ГОРО'ШОК *м.* Гарошак. *То горошок, а это позадзье.* М. Малешава. *Орошок росце по жыту, чорнэ таке.* Хотамель.

ГОРО'Ю *прысл.* Буйна і высока. *Коб вы бачылі, у Марыны ў городзі ўсе горою поросло.* Дварэц. З коптурам. *Набраў шаньку ягод горою.* Аздамічы.

ГОРПА', ГОРОПА' *ж.* Свірэпа. *Горпа сцелецца, а сві́рона жоўтая. У свіропе нішчо не сцечэ, а ў горпе можэ сцекці росліна.* Луткі. *Горопа.* Чэрнічы.

ГОРУ'ХА *ж.* Працаўніца. *Бабы нарасказваюць вам, гэтые горухі!* Верасніца.

ГОРУ'ШЧЫ *прым.* Працавіты. *Самэ пчолы горушчые, то слепетні.* Цераблічы. *Горушчы горуе-горуе, да на голом ночуе* (прымаўка). Луткі.

ГОРЧА'К *м.* 1. Драсён. *Горчаку кругом хватае, горка трава, як чорт!* Запясочча. *Косы од горчаку добрэ ростуць.* Луткі. 2. Конь цёмна-сівай масці. *Горчак — сіву, сіву конь, аж старосць нагоняе.* Запясочча.

ГОРШ *прысл.* Горш. *Вона з пшэнішного зробіць горш яшного.* Дварэц.

ГОРШКОЛЕ'П *м.* Ганчар. *Вон горшколеп поехаў.* М. Малешава.

ГОРШЧА'Й *м.* Тое ж. *Горшчае́ булі у нас з Глінкі.* Кароцічы. *Горшчай прыехаў: трэ купіць гладышок.* Хачэнь.

ГОРШЧО'К *м.* Гаршчок. *Крупнік у горшку прыставіла ў печэ.* Пагост. *Хоць горшком называй, только ў печ не ўстаўляй* (прыказка). Хачэнь. △ У г о р ш к і. Дзіцячая гульня. *Мацi замукае хату да дае дочцы ключа, а вона оддае коту, а кот поб'е горшкі, то б'юць кота.* В. Малешава. П е р э б і ц ь г о р ш к і. Абазнацца пры адшуканні ў гульні ў схованкі. Запясочча.

ГО'РШЧЫК *м.* Гаршчок. *У мене маленькіе горшчыкі.* Запясочча. *Вон с кіпячого горшчыка вухопіць!* (прыказка). Пагост.

ГОРШЧЫ'ШЧЭ *н.* Вялікі гаршчок. *О' такі горшчышчэ! Дзе вона ёго забеліць?* Верасніца.

ГО'РШЫ *прым.* Горшы. *Меншы сын лепшы, а гэты горшы.* Запясочча. *Мое картоплі горшые за твое.* М. Малешава.

ГОРЫ'СТО *прысл.* Гарыста. *У Сочах хорошэ, да горысто.* В. Малешава.

ГО'РЭ *н.* Гора. *Горэ тому, шо земля на ёму* (прыказка). Запясочча. *Хоць горэ, то гоц* (прыказка). Аздамічы. *Жыве Хома — гора нема, семеро ворот, да ўсе на город* (прымаўка). Хачэнь. *Памянш.* г о́ р о н ь к о. *Ох, горонько мне!* Тураў.

ГО'РЭЙ *прысл.* 1. Горш. *Ці ты сварыс, ці ты не сварыс, а воны будуць шчэ горэй подцвельваць з цебе.* Луткі. *У недзелю горэй розленуесса.* М. Малешава. 2. Гарчэй. *Тур горэй за осіну.* Запясочча.

ГОРЭ'ЙШЫ *прым.* Горшы. *Можэ ты горэйшу невестку прывезеш!* М. Малешава. 2. Самы гаротны. *Вона горэйша за ўсе.* Хачэнь.

ГОРЭЛЕ'ЧА *ж.* Гарэлка. *Садзімос да ўжэ берэмос за тую горэлечу.* Луткі.

ГОРЭ'ЛІК *м.* Гарэлік, падгарэлая бульбіна. *Подсунула горэлікоў, да еж!* М. Малешава.

ГОРЭ'ЛКА *ж.* Гарэлка. *Коліся, дзед казаў, на веселы пілі горэлку ложкамі, а далей чарочкі булі, одна на ўсе веселье.* Дварэц. *Я доброго роду, п'ю горэлку, як воду* (жарт). Хачэнь. *Памянш.* г о р э́ л о ч к а. *Напіласа горэлочкі да шчэ меду нап'юса* (з песні). Пагост.

ГОРЭ'ЛЫ *прым.* Гарэлы. *Посадзіла хлеб у печ да*

*забула, а вон горэлы стаў.* М. Малешава. △ Горэлы пень. Чацьвёрты тур гульні ў скокі. Кароцічы.

ГОРЭЛЯ'КА *ж.* Гарэлік, падгарэлая бульбіна. *Дзве ладкі з'ела да тры горэлякі, дай есці не хочу.* Запясочча.

ГОРЭЛЯ'ЧКА *ж.* Тое ж. Запясочча.

ГОРЭ'МЧЫ *прым.* Працавіты, заўсёды заняты працай, які не цураецца любой працы. *Хто колісь буў богаты да горэмчы, то й цепер богаты.* В. Малешава. *Вон горэмчы чоловек, мінуты не поседзіць.* М. Малешава.

ГОРЭ'НДА *ж.* Прасторнае збудаванне. *Зробіў таку горэнду, шо дзесець пар танцоваць могуць.* Хачэнь.

ГОРЭ'НІЦЬ *незак.* Гарэніць, мець горкі прысмак. *Каша горэніць, прогоркло пшоно.* Запясочча. *Горэніць немножко кісель з оробіны.* Аздамічы.

ГО'РЭНЬ *м.* Ачаг у млыне для абагравання. *Седзяць коло того горэня мужыкі ў мліне.* Лутк і.

ГО'РЭНЬКІ *прым.* Бедненькі, нябогі. *Мой хозяін пошоў домоў, да прышлі немцы, а вон, горэнькі, под ложок сховаўса.* Хачэнь.

ГОРЭ'Ц *м.* Драсён. Хачэнь.

ГОРЭ'ЦЬ *незак.* 1. Гарэць (агнём). *А дубнік і сыры хорошэ горыць.* Дварэц. *Як едуць од венца, то свечкі горáць, а зайдзе за порог, да потушваюць.* Цераблічы. 2. Награвацца пры тленні. *У штабелёх гной горыць.* Цераблічы. 3. Гнісці. *Под лёдом озеро горыць.* Верасніца. 4. Саграваццa ад гарачыні. *Нога горыць у лапці, як у кóпцы.* В. Малешава. 5. Смылець ад апёкаў, укусаў. *Рукі горáць, комары!* Хачэнь. 6. Трухлець ад гарачыні, сонца. *Од сонца горыць стрэха зайшэ.* Хотамель. 7. Цвісці (пра гуркі). *Гуркі горáць, а гарбуза цвіце.* М. Малешава. 8. Мець вельмі яркі колер. *Горыць хустка, така хороша!* Запясочча.

ГО'РЭЧ *ж.* Горыч. *Коб горэч гэта вуйшла з жолуда весною, то свіньял з'есць.* Сямігосцічы. *Мэд мае горэч.* Рубель.

ГОСПОДА'Р *м.* Заможны гаспадар, пан. *Господарство мей свое гаёвы, вон буў господар.* Хотамель. *У лепівого господара не жывот, то голова* (прыказка). Сямурадцы.

ГОСПОДА'РСТВО *н.* Маёнтак. Хотамель.

ГОСПО'ДНІ *прым.* △ Калéка госпóдня. Недарэка. *Калека господня не родзіцца, то зробіцца* (прымаўка). Цераблічы.

ГОСПОДЫ'НЯ *ж.* Гаспадыня ў заможнага гаспадара. *У доброго мужыка і кошка господыня* (прыказка). Азяраны.

ГО'СТРЫ *прым.* Востры. *Нож гостры, гледзі, не порэжса.* Пагост.

ГОСТРЫ'ЦЬ *незак.* Вастрыць. *Гострацъ косу ментушкою.* Сямурадцы.

ГОСЦЕВА'ЦЬ *незак.* 1. Гасцяваць. *Поехала і госцевала там месяц.* Кароцічы. 2. Частаваць. *Мы ему рады, госцюем его.* Луткі.

ГОСЦІ'НА *ж.* Пачастунак. *У мене госці цеперэка і госціна.* М. Малешава. *Церэз рэчку кладка— шо ступлю, то гнецца. Помрэ оцец, маці — госціна мінецца* (з песні). Сямурадцы.

ГОСЦІ'НЕЦ *м.* 1. Невялікі падарунак. *Тая настаўніца госцінцу прышле, вона така хороша була.* Запясочча. Узятка, хабар. *Далі дзесецъ пляжок на госцінец горэлкі.* В. Малешава. 2. Пачастунак. *Прошу на госцінец.* Аздамічы.

ГОСЦІ'ЦЬ *незак.* Частаваць. *Госціцъ будом цебе.* Запясочча.

ГОСЦЬ *м.* Госць. *Садзіцеса, госцем будзеце.* Запясочча. *Прышоў госць, да не ў пору.* Луткі. *Вода—госць, постоіць і пошла.* Хачэнь. *Пташэчка у вокно стукне—госці будуць.* Там жа. △ У г о с ц я́ х. У гасцях. *У госцях добрэ, а дома лепш.* Цераблічы. Н а г о́ с ц і. У госці. *На госці прыедзе мо хто.* М. Малешава.

ГОТОВА'ЦЦА *незак.* Рыхтавацца. *Целя ў мешку, а доўбня готуецца.* Сямурадцы.

ГОТОВА'ЦЬ *незак.* Рыхтаваць. *За медзведзем — готуй подушкі, а за кабаном — дошкі* (прымаўка пра паляванне). Цераблічы. *Шо тобе готовацъ цепер на обед?* М. Малешава.

ГОТО'ВУ *прым.* Гатовы. *Ідзіце, хлопцы, снедайце, ужэ готовэ.* Хачэнь. △ Г о т о́ ў   у т о н у́ ц ь (у м е́ р ц і, п о р в а́ ц ц а і інш.). Пра магчымасць наступлення той ці іншай падзеі. *Суторга схопіць — і готоў утонуць.* Альшаны. *Шчоб усе гэто склаў да показаў, шчо чоловек перэжывае, то готоў бы ўмерці с пуду.* Цераблічы.

ГО'ХНУЦЦА *зак.* Упасці, ударыцца. *На кладцы гохнулас.* Альшаны.

ГО'ЦКІ-ГО'ЦКІ *выкл.* Выгук пры гойданні на дошцы. *Гоцкі-гоцкі, мела маці дочкі!* Цераблічы.

ГРАБ *м.* Граб. *Кругом ольха́ була, грабы булі.* Аль-

шаны. *Дзе клён да граб, там пан* (прыказка). Цераблічы.

ГРАБА'Ч *м.* Грабец сена. Аздамічы.

ГРАБЕ'ЛЬНІК *м.* Тое ж. *Трэба заробляць собе грабельніка і косельніка.* Бярэжцы.

ГРАБЕНУ'ЦЦА *зак.* Кінуцца. *Грабенуўса, можэ, і вон у Верэсніцу?* М. Малешава.

ГРАБЕНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Мене вон як грабене от себе!* Хачэнь. *Ек вузверылаcа да як грабенула ўсе со стола!* М. Малешава.

ГРА'БЛІ *мн.* Граблі. *Занесу граблі Одáркіные, мо вона пойдзе грэбці сено.* М. Малешава. *Так жне не хорошэ, за ею хоць граблямі грэбі.* Дварэц. *Памянш.* гра́белькі. Аздамічы.

ГРАБОВА'ЦЬ *незак.* Рабаваць. *Грабуюць дзеці бабу свою!* (жарт). Аздамічы.

ГРАБОВЕ'ЛНО *н.* Грабільна. Бярэжцы.

ГРАБОВІ'НО *н.* Тое ж. Кароцічы.

ГРАБОВІ'НЬЕ *н.* Тое ж. *Грабовіньe робяць з олешыны.* М. Малешава.

ГРАБО'ВУ *прым.* Грабавы. *Топорышчэ було грабовэ.* М. Малешава.

ГРАБО'ЎЕ *н.* Грабільна. *Для грабоўя ета орэшына не годзіцца, суковата.* Пагост.

ГРАД *м.* Град. *Под кусты, хлопцы, ховаймоса, там град не біцьме.* Пагост.

ГРАДА' *ж.* 1. Града, доўгае павышэнне сярод балота, у лесе. *На градзе орэшнік, дубы ростуць.* Альпень. *Прыехалі му стог з етое грады браць, ох, а ў ём мушэй— мо сотня!* Пагост. 2. Градка. *На той градзе цыбулю посадзіла.* М. Малешава. *Одну граду моркву посадзіла.* Пагост. *Памянш.* гра́дка. *Коло той градкі такіе нешчыслёные лугі булі!* Рубель. *Дзе цыбуля, то градка.* Альпень.

ГРАДОВУ' *прым.* △ Градова́ серэда́. Серада перад тройцай. *Цепер не трэ полоць, цепер градова серэда.* Сямурадцы.

ГРАЗІ'ШЧЭ *н.* Вялікая гразь. *Осенею гразішчэ там, не вулезці!* М. Малешава.

ГРА'ЗКІ *прым.* Гразкі, брудны. *Чого то ў цебе такі гразкі стол?* Верасніца. *Восень була гразкая.* Луткі.

ГРА'ЗКО *прысл.* Гразка, брудна. *Гразко, орацьне можно.* Аздамічы.

ГРАЗНО'ТА *ж.* Вялікая гразь. *Було благовешчэнье да гразнота!* Мачуль.

ГРАЗО'ТА *ж.* Тое ж. *Гразота на вуліцы і вуйці не можно!* Запясочча. *Як ву пройшлі, така гразота?* Цераблічы.

ГРАЗЬ *ж.* Гразь. *Згніе, прамо зробіцца гразёю.* Луткі. *А гразе на сене, а пул!* Запясочча. *З чужого возка хоць посерэд гразі* (прыказка). Хачэнь. △ Як гразь. Пра слабасць. *Така ўжэ слабая стала, ек гразь.* Луткі.

ГРАЗЮ'КА *ж.* Вялікая гразь. *Така гразюка, шо ні посподў, ні поверхў.* М. Малешава.

ГРА'КНУЦЬ *зак.* Кінуць з сілай, паваліць. *Да ек гракне мене, то ледво дух не вуперло.* М. Малешава.

ГРА'МАТКА *ж.* Памінальная запіска. *З граматкі пом'ёршых помінаюць.* Запясочча.

ГРА'МОТА *ж.* Пісьменнасць, адукацыя. *От, я родзійса на грамоту.* М. Малешава. *Грамоту за плечыма не носяць* (прымаўка). Сямурадцы.

ГРАНІ'ЦЦА *незак.* Разбівацца на чароды, радкі (пра воблакі). *Небо граніцца — будзе погода.* Луткі. Узыходзіць радкамі. *Ужэ картоплі граняцца.* М. Малешава.

ГРА'НКА *ж.* Баразна, радок, градка. *Не докончылі гранку картопляў, да шамнуло* (пра дождж). Дварэц. *Посадзіла гранку картопляў, і спіна заболела.* М. Малешава.

ГРА'НУЦЬ *зак.* Рушыць, абрушыцца. *Гамузом гранулі ў хату.* М. Малешава.

ГРАНЬ *ж.* Рыса, граніца (у гульнях). *Шчо ты за грань зайшла?* Альпень.

ГРА'НЬЕ *н.* Ігра. Азяраны.

ГРАЦЬ *незак.* Іграць. *Не кажыце, шо погано грае, бо кіне.* Азяраны.

ГРОЗА' *ж.* Навальніца. *Находзіць хмара да будзе гроза.* Запясочча. *Гроза, кругом ляскае, стукае!* Бярэжцы.

ГРО'ЗНЫ *прым.* Грозны. *Петро і Пайла — грозные людзі!* (пра магчымасць навальніц у дзень Пятра і Паўла). Луткі. *Грозна хмара сунецца!* М. Малешава.

ГРОЗОВУ' *прым.* Навальнічны. *Тогды було лето грозовэ.* Цераблічы.

ГРО'ЗЬБА *ж.* Пагроза. *Не прымусіш его ні грозьбою, ні прозьбою.* Хачэнь.

ГРОМ *м.* Гром. *Як гром удырый, то тое дзерэво не бралі ні на хату, ні на шчо.* Хачэнь. *Рыкнуў вол на сто*

*гор, на сто печок, на сто рэчок, на сто городоў* (загадка). *Гром* (адгадка). Луткі. *Як загрэміць першы раз гром, бежыш шуло подпіраеш спіной, коб не болела.* Там жа.

ГРОМА'ДА *ж.* Натоўп, грамада. *Громады навек дзержайса, то громадзістом і прозвалі.* Пагост. *Громадою оддавалі ў армею.* М. Малешава.

ГРОМА'ДЗІНА *ж.* Грамадзіна. *Шо громадзіну, воз сена наложылі — под крышу!* Пагост.

ГРОМОВУ' *прым.* △ Громова́ стрэла́. Чортаў палец. *Громова стрэла нека жоўта, под воск подходзіць.* Цераблічы.

ГРОШ *м.* Манета. *Мне бацько гроша не даў, хоця дзесець копеёк!* Аздамічы. *Усе з гроша жывуць.* Запясочча.

ГРОШОВІ'ТЫ *прым.* Які мае грошы. *Воны грошовітые, то купяць собе ўсёго.* В. Малешава.

ГРОШО'ЎКА *ж.* Вялікая іголка. *Беры грошоўку, шчо мешкі зашываць.* Сямігосцічы.

ГРО'ШЫ *мн.* Грошы. *О, господзі, господзі, нобі того до смерці, у кого богато грошы да жонка хороша* (жарт). Цераблічы. *Ім давалі добрые грошы!* В. Малешава. *Руб не грошы, а мужык не пан* (прымаўка). Хачэнь.

ГРУ'БА *ж.* 1. Грубка. *Трэба ў грубі вутопіць, бо холодно ў хаці.* Кароцічы. *За моей памецью і грубы не було, одно печ.* Луткі. 2. Будка на плыце. *Положы ў грубу мою світку.* Запясочча.

ГРУБІНА' *ж.* Таўшчыня. *Сколько метроў грубіны той дуб мае ў грудзях?* Хотамель.

ГРУ'БО *прысл.* Нізкім тонам. *Весною вон крычыць грубо: «Хведо́ра!»,— а вона вусоко: «Васільне!»* (пра птушак). Запясочча.

ГРУ'БОСЦЬ *ж.* Таўшчыня. *Грубосці укруговую той дуб мае п'яць метроў.* Хотамель.

ГРУБУ' *прым.* Тоўсты. *Грубэ дзерэво без колуна не поколеш.* Пагост. *Жонка груба, а ножка малая.* В. Малешава. *Грубым лбом мур не розоб'еш* (прыказка). Альпень.

ГРУД *м.* 1. Узвышаная сухая мясціна сярод балота, каля ракі. *По груду на полянках моховікі ростуць.* Мачуль. *Год за годамі, то постануць доліны грудамі* (прыказка). Аздамічы. 2. Камяк зямлі. *Вуберуць коноплі да мочаць, да грудоў туды накопаюць, шоб потало.* М. Ма-

лешава. *Памяни.* грудо́к. *Звер ідзе сворамі, з грудка на грудок.* Цераблічы.

ГРУ'ДА *ж.* 1. Камякі засохлай зямлі. *Трактор чавіў груду, а тогды коньмі бороновалі.* Дварэц. 2 *мн.* груды. Чароды воблакаў. *Груды на небі велікіе.* Запясочча.

ГРУ'ДЗІ *мн.* Грудзі. *Лось грудзіма торк на воройку нацягнену!* Мачуль. *Столяр заробляе грошы грудзьмі, а кузнец — людзьмі* (прымаўка). Пагост.

ГРУДЗІ'НА *ж.* Тое ж. *Трошэчкі лехчэ, одно грудзіна боліць.* Дварэц.

ГРУ'ДЗЬЕ *н. зб.* Груда, камякі засохлай або замерзлай зямлі. *Усыхаецца грудзье тэ, хоць сокерою сечы.* Дварэц. *От грудзье, не едзь, поб'еш воза!* Луткі.

ГРУ'ДКА *ж.* Камяк, грудка. *Пойду грудкі біць на сотках.* Сямігосцічы. *Стань доіць козу, то палцы зліпаюцца ў грудку.* Хачэнь.

ГРУДОВУ' *прым.* З сухадольных лугавін, з узвышаных мясцін. *Грудовэ сено кладомо́ на спод.* Цераблічы. *Усе сено було грудовэ, у іх сена плохого не було.* Луткі.

ГРУЗ *м.* Грузіла ў рыбалоўных сетках. *Груз на броднік навешваецца.* Цераблічы.

ГРУЗА'ЦЬ *незак.* Грузнуць. *Машыны грузаюць на дорозі.* М. Малешава.

ГРУЗКІ' *прым.* Топкі. *Як грузке ці не грузке болото, то ўсеодно болото.* Луткі. *Грузкое болото, не можно перэйці, так і цягне цебе ўніз.* М. Малешава.

ГРУ'ЗКО *прысл.* Топка. *Там грузко — весло з багна не вуцегці.* Аздамічы. *Дождже, грузко на полі, важко орацЬ.* Пагост.

ГРУЗНІ'К *м.* Ніжні шнур (або палка) у сетцы. Альшаны.

ГРУ'ЗНО *прысл.* Нізкім тонам. *Вон басу́е грузно.* М. Малешава.

ГРУЗО'ТА *ж.* Топкасць. *На болоці така грузота!* Луткі.

ГРУЗЬ *ж.* Тое ж. *Шо я не знаю это место? Там не мокро, там грузь, ідзеш і грузнеш.* Хачэнь.

ГРУМЕ'ЧАЦЬ, ГЛУМЕ'ЧАЦЬ *незак.* Грэбаваць. *Вон з намі за стол не сядзе, бо намі грумечае.* Там жа. *Ву намі не глумечаеце.* Мачуль.

ГРУНТ 1 *часц.* Толькі, абы. *У мене думка грунт лес саджа́ць.* Мачуль. *Грунт от рэкі, шчоб гусі не отходзілі.* Цераблічы. *Ты грунт поцве́рдзь, шо му родня.* М. Малешава. 2 *м.* Грунт. *Копай, грунт покажэ.* Хотамель. *Каж-*

*ды лезе на грунт, шоб построіць дом, а не на болото.* В. Малешава. *Кóлісь еўрэй не знаў грýнта, а мужык — хунта* (прымаўка). Альшаны.

ГРУ'НЯ *ж.* Мажная жанчына. *Кажуць груня на молодзіцу, як гладзезна, шчо земля под ей стогне.* Запясочча.

ГРУ'ЦА *ж.* Рэдкая каша з ячменных круп; ячменныя крупы. *Як богато насыплюць круп, то куцья, а як рэдке, то груца.* Мачуль. *У нас перловуе крупу называюць груцой.* Верасніца.

ГРУ'ША *ж.* Груша. *Кóліся бегом грушы збіраць, то ўжэ боімóса, коб вуж екі не вупоўз.* Цераблічы.

ГРУШ'Е' *н. зб.* Грушы. *Колько у нас груш'я́ дзікого було — шчо загон, то і груша, шчо загон, то і груша.* Верасніца.

ГРУ'ШКА *ж.* Груша. *От грушóк нападало — поўна розора!* Верасніца.

ГРЫБ *м.* Баравік. *Як у чысты чэцьвер дождж ідзе, то грыбоў будзе много.* Цераблічы. *Говорыў грыб: «Уцекай, дýбе!»—Да рос, рос, чэр'які з'елі, да поваліўса, а дуб і цепер росце.* Там жа. *Седзі, грыбле, пóкуль хто здыбле* (прыказка). Запясочча. △ П о р о с л е́ в у г р ы б. Баравік. Запясочча. Ж а́ б е ч ы е г р ы б у. Неядомыя грыбы. Альпень. Л о́ с е ў г р ы б. Ваўнянка. Альпень. Г р ы́ б о ў ц в е т. Смарчкі. *Грыбоў цвет — такіе пуховатые козлякі, воны весной ростуць.* Мачуль. Г р ы б ы́ р э́ з а ц ь. Цалавацца. Цераблічы.

ГРЫБО'ВІШЧЭ *н.* Грыбное месца. *Нашла грыбовішчэ грыбоў, шаню наклала і пошла.* Альгомель.

ГРЫ'ВА *ж.* Грыва (у каня). *У буланого коня чорна грыва.* Пагост. Касмык травы на пракосе. *Покідае грыві, хто ўгору косу поднімае.* Сямігосцічы. Паласа пяску, лазы, высокай травы і інш. *Посерэдзіне рэкі намуло грыву і берэлоз порос.* Верасніца.

ГРЫ'ВЕНЬ *м.* Грыўня, дзесяцікапеечная манета. Хачэнь. *Памянш.* г р ы́ в е н ь к а. Дварэц.

ГРЫ'ЖА *ж.* Грыжа. *Прорваўса здор, то грыжа.* Аздамічы.

ГРЫЗНУ'ЦЬ *зак.* Грызнуць. *У вужа жало, а ў гадзюкі зубу, вона як грызне, то грызне!* Бярэжцы.

ГРЫЗНЯ' *ж.* Згрызота. *Там кажын дзень грызня, прыдзе п'яны, очыма лупае, а вона перэрываецца, дай за тэ й грызня.* М. Малешава.

ГРЫЗЦІ' *незак.* Грызці. *Корова скубе, а конь грызе*

*траву*. Хільчыцы. *Вона до того ёгó грызла, шо вон засіліўса*. В. Малешава.

ГРЫЗЦІ'СА *незак*. Грызціся. *Воны ў хаці сем'ей оннó дзень у дзень грызуцца*. Аздамічы.

ГРЫЗЬ *ж*. Жыравік, нараст на целе, пухліна. *Як грызь, то трэба погрызці, да пройдзе*. Сямігосцічы. *На руцэ грызь яка зробіцца, то кажуць, трэба бурака солодкого прыкласці*. М. Малешава.

ГРЫМА'К *м*. Грымак. *Дай грымака ў плечы*. Луткі.

ГРЫ'МАЦЦА *незак*. Грукацца. *Хоць ты об сцены грымайса!* М. Малешава.

ГРЫ'МАЦЬ *незак*. Грукаць. *Чого ты грымаеш у дзверы?* Мачуль. *У валюшы така ступа да тоўкачэ, у тую ступу усе грымаюць*. Луткі.

ГРЫМЕ'ЦЬ *незак*. Грымець. *Бліскало і грымело ўсю ноч*. Цераблічы. *Як будзе грымець, то юшку зачыніце*. Луткі.

ГРЫ'МНУЦЦА *зак*. Грукнуцца. *От грымнесса, да будзе гуз*. Хотамель.

ГРЫ'МНУЦЬ *зак*. Грукнуць, упасці. *У гэту хвою як грымнуло!* В. Малешава. *Грымнуло у задней хаці, зноў кот нешчо скінуў*. Пагост. *От грымнула с печы!* Запясочча.

ГРЫМОСЦЕ'ЦЬ *незак*. Грукацець. *Грымосцяць зноў у сцену*. Аздамічы.

ГРЫ'МОСЦІ *мн*. Грымоты. *Зноў хмара, зноў будуць грымосці*. Дварэц.

ГРЫ'МОТ *м*. Грукат. *Такі грымот, шо страшно слухаць!* Хачэнь.

ГРЫМО'ТА *ж*. Грымота, грукат. *Як даў гром, як схóдзіласа грымота, і товар попадаў на коленах*. Дварэц. *Як свечкі на стрэчанье трэшчаць, грымоты будуць*. Хотамель.

ГРЫНДЖО'ЛЫ *мн*. Трыножнік з шосцікаў для падвешвання люлькі ў полі. *Грынджолы поставім, да положкá пошыём, да качáём ту кульбéль*. Мачуль.

ГРЫ'ЎКА *ж*. Грыўка. *Мене маці не подрэзвае, шчоб була грыўка*. Цераблічы. Палоска лесу, травы і інш. *Усе сено скосілі, только одну грыўку оставілі*. М. Малешава.

ГРЫ'ЎНЯ *ж*. Грыўня, дзесяцікапеечная манета. Запясочча.

ГРЭБЕНЕ'Ц *м*. Часты грэбень для часання галавы. *Зовом грэбенец, шчо косы росчэсваць, як з двух бокоў*

*зубы.* Цераблічы. *Косця́н, берэсця́н чэрэз гору свіньe жэне* (загадка). *Грэбенец* (адгадка). Хачэнь.

ГРЭБЕНІ'ЦА *ж.* Малочніца (хвароба). *Холодную цыцку дасі дзіцяці, дай нападзе грэбеніца.* Цераблічы.

ГРЭБЕ'ННІК *м.* Зграбальнік. *Наймі косца, наймі грэбенніка, то й тэ сено не варто того.* В. Малешава.

ГРЭБЕНУ'ЦЦА *зак.* Кінуцца. *Так грэбенуўся бегці.* Хачэнь. *Грэбенуласа, і конем не нагоніш!* М. Малешава.

ГРЭБЕНУ'ЦЬ *зак.* Тузануць, штурхнуць. *Грэбену, то й зарыесса!* Аздамічы. *Хлопец мой залез да грэбенуў часы, да от того воны ча́хкаюць.* Цераблічы.

ГРЭ'БЕНЬ *м.* Прадзільны грэбень. *Лучшэ було на грэбні седзець, чым іці ў той замуж.* Дварэц. Калючы спінны плаўнік у рыб. Луткі. Карак у каня. Аздамічы. Грэбень у пеўня. Луткі.

ГРЭБЁНКА, ГРЭБЛЁНКА *ж.* Малы драўляны грэбень для часання ільну на вялікім грэбені. Тураў. Граблo з саўком для збірання чарніц. Там жа. Прылада для выроўнівання новай саламянай страхі. Цераблічы. Скрабло, якім чысцяць коней. Хотамель. Звязка гонак у плыце. Запясочча. Скаба з насечкамі на аглоблях. Хотамель. Малочніца (хвароба). Хачэнь.

ГРЭ'БКА *ж.* Вясло. *На озеро вуедзеш, там на грэбку беры.* В. Малешава. *Удвох на грэбкі грэбеце, а я рулёваць ззаду буду, так хутчэй заедом.* Пагост.

ГРЭБЛІ'ВУ *прым.* Грэблівы. М. Малешава.

ГРЭ'БЛЯ *ж.* 1. Грэбля на дарозе. *Олешнік посекуць, да ў пу́ч'е пов'яжуць, да накіда́юць — от і грэбля.* Цераблічы. 2. Плаціна на рэчцы. *Було грэ́блёў да воду дзержало, не попуска́ло так.* Аздамічы.

ГРЭ'БНУЦЦА *зак.* Кінуцца. *Як грэбнуліса з лесу, думалі, мо па́ра вулезе!* Пагост.

ГРЭ'БЦІ' *незак.* 1. Грэбці. *Сено пошлі грэ́бці.* Сямігосцічы. *Грэбці сено на грудкох не важко.* Хотамель. 2. Капаць. *Жонкі грэбу́ць картоплі, а мужчыны кошэле́ носяць.* Верасніца. *Не грэбі, мамонько, на дзядзю.* Аздамічы. *Шо ку́рка грэбе́, то ўсе на себе* (прыказка). Там жа. 3. Штурхаць. *Стара́ дзеўка, а грэбе́ дзеці.* Хачэнь. 4. Нагаворваць. *Шо ты грэбе́ш на ёго́, п'яніца!* Аздамічы. 5. Веславаць. *Грэбі к тому берэгу.* Запясочча.

ГРЭБЦІ'СА *незак.* Капацца. *Кура грэбецца на негоду.* Мачуль. *На клеце́ буські б'юцца, у клеце дзеці грэбуцца* (з песні). Цераблічы. *Однэ едзе, веслом грэбецца, пхаецца, а друге лёд б'е.* Бярэжцы.

ГРЭ'ЙКА *ж.* Грэлка. *Грэйку кладу на зубу — не помогае.* М. Малешава.

ГРЭ'ЙМА, ГРЭ'ЛЬМА *прысл.* Раптоўна, хутка, рашуча. *Бегло-бегло да так грэймо ўпало!* Аздамічы. *Яблоко ўпало, а певень грэйма туды!* Луткі. *Грэльма.* Тураў.

ГРЭХ *м.* Грэх. *Корова не сцелілас, то говорылі, шчо грэх рэзаць.* Сямігосцічы. *Грэх у мех — его ж больш,— а спасенье ў торбу* (прымаўка). Луткі. *Шо праўда, то не грэх* (прыказка). В. Малешава. *От бога грэх і од людзей смех* (прымаўка). М. Малешава.

ГРЭ'ЦКІ *прым.* Грачаны. *Грэцкіе ладкі.* Бярэжцы.

ГРЭЦЬ *незак.* Грэць. *Не грэе кожух, а грэе дух* (прыказка). Верасніца. *Як не грэе дух, то не согрэе і кожух* (прыказка). Пагост.

ГРЭЧА'НІШЧЭ *н.* Грачанішча. Аздамічы.

ГРЭ'ЧА'НЫ *прым.* Грачаны. *Грэ́ча́на каша нагле то смашна.* Цераблічы.

ГРЭ'ЧКА *ж.* Грэчка. *Грэчку на бору сеялі, ее жалі серпом, а як мала́, то рвалі.* Цераблічы. *Грэчку сеюць, колі оводы ле́тають, тогды морозо́ў не будзе.* В. Малешава. *До Міколы не сей грэчкі да не стрыжы овечкі* (прымаўка). Хачэнь.

ГУ'БА' *ж.* 1. Грыб губа. *Бувало мужчыны огонь секуць з губу́.* Тураў. 2. Мера асновы ў кроснах. *Основала шэсць губ.* Альшаны. *Восем губ напрала.* Запясочча. 3. Гу́ба ў чалавека. *Не п'е, одно гу́бу помочыць.* Запясочча. *Летом ногою — зімою губо́ю* (прыказка). Верасніца.

ГУБА'ЛІ *мн.* Складкі на халявах ботаў. Альшаны.

ГУБА'Н *м.* Губаты чалавек. Пагост.

ГУ'БАНІЦЫ *мн.* Складкі на халявах ботаў, зборкі ў кажусе. *Нагу́бле губаніц у казачы́не!* Альшаны.

ГУ'БАР *м.* Губаты чалавек. Аздамічы.

ГУБА'ТЫ *прым.* Губаты. *Не ў нашых ўдаўся, кучэраву да губаты.* Пагост. △ Г у б а т ы в е ц ё р. Халодны вецер. Аздамічы.

ГУБЕ'НЯ *м.* Губаты чалавек. М. Малешава.

ГУ'БІЦЬ *незак.* Рабіць зоркі, складкі. *Губяць губаніцы на халявах.* Альшаны.

ГУ'БКА *ж.* 1. Губа. *Губку бралі з осіны.* Луткі. *Вуб'е добрэ губку, то вона м'якка́.* Запясочча. 2. Мера асновы ў кроснах. *Основала восем губок рушнікоў одных!* Хачэнь.

ГУ'БОРНО *н. груб.* Губаты чалавек. Луткі.

ГУБРЭ'Й *м.* Тое ж. *Як россердзіцца, да ешчэ тоўстые губы, то кажэ: «От ты губрэй!»* Луткі.

ГУБЯ'КА *ж.* Губа. *Губ'яка така нарóстае на берозі ўродзі скрыпля́.* Пагост.

ГУ'ВЕСНА *ж.* Дзень сустрэчы вясны. *Летось на гувесну шчэ добрый мороз буў і снег лежаў.* Тураў. *Мясоéд кончаецца, а пост начынаецца, то гэто сустрэкаюць гувесну.* Буразі. *Гувесна, гу, красна, людскіе мацеры ткуць кросна, а моя маці гуляла, под лёд му́чкі совала: «Плувеце, мучочкі, толотнóм, прыплувеце, мучэчкі, полотном»* (з песні). М. Малешава. *Гувесна, гу, красна, шчо ты нам вунесла? Ці по еечку, ці по піроҗэчку, ці сырца́ кусок, ці масла брусок?* (з песні). Хачэнь.

**ГУ'ГЕЛЬ** *м.* Бульбяны суп з фасоляй. *От, мы картоплі, фасолю берэмо да ў саган, да ў печ, і м'ясо туды, от і* **гугель.** Сямігосцічы.

ГУГНІ'ВУ *прым.* Гугнявы. *Гугніву такі зяць, у нос говорыць.* Любавічы.

ГУГО'Р *м.* Вугор, лічынка авадня ў каровы пад скурай. *Гугрэ ў ху́добу, учаўваюць іх.* Дварэц. *Гугор белы такі, я сама вучаўвала.* Сямурадцы.

ГУ'ГРЫК *м.* Рачная мінога. *Гугрык с полоскамі.* Дварэц.

ГУДЗІ'НА *ж.* Гуд, гудзенне. *Ну і гудзіна, аж у вушах звініць!* М. Малешава.

ГУ'ДЗІЦЬ *незак.* Нагаворваць, зневажаць. *От як хто на кого крывуе, то вон его гудзіць.* М. Малешава.

ГУДЫ'Р *м.* Пухір. *Гудыры́ красные посхапваліса да чэшуцца.* М. Малешава.

ГУЖ *м.* Гуж. *У каждом ха́муце два гужэ.* Любавічы.

ГУ'ЖВА *ж.* Прывязкі для мацавання лесу ў плытах. *Секуць лóзу, однэ дзержыць ее, а друге круціць, а дале возьме і скруціцца гужва. Ее ў пучкі в'яжуць і здаюць у лаўку.* М. Малешава.

ГУЖО'ВУ *прым.* Вязкі, цягучы. *Гужові дрот, да не можно ёгó перэломаць.* В. Малешава.

ГУЖО'ЎКА *ж.* Прывязка. *На борону трэба дваццаць п'яць тых гужовок.* Мачуль. *З'яжэ колкі гужоўкою і положыць жэрдзіну.* Аздамічы. *Памянш.* г у ж ó в о ч к а. *І этая гужовочка накладаецца на колкі.* М. Малешава.

**ГУЗ** *м.* 1. Гузік. ***Гу́зы*** *у хрэнчы бліскучые.* Кароцічы. ***Гузóў*** *не було, то ўшывае так екіе гапéлькі.* Луткі. 2. Гуз на целе ці нараст. ***Гуз*** *ско́піўса.* Аздамічы.

ГУЗЕ'НЬ *м.* Хваставая вяроўка ў стаўных рыбалоўных лавушках (жак, кош). Альшаны.

ГУ'ЗІҚ *м.* 1. Гузік. *На чужы рот гузіка не нашыеш* (прыказка). Запясочча. 2. Гузак. *Схопіўса гузік у дзіцяці.* Луткі.

ГУ'ЗІЧҚІ *мн.* Мальва. *Гузічкі такіе, воно жонка́м хорошо́ парыць.* Хачэнь.

ГУ'ЗҚА *ж.* Верх у мяшку. *Понесом удвох, ты беры за гузку, а я за рогі.* Тураў. Хваставік у стаўных рыбалоўных лавушках (жак, нерат і інш.). *Дзірка ў кошы, травою затыкалі і звалі гузка.* Любавічы. Қамель у снопе. Запясочча. Хвост у птушак. Запясочча.

ГУЗЫ'Р *м.* Қамель. *Я б его веніком, гузырэ́м!* Цераблічы. *Снопу кладуцца на прост колосамі на гузыр.* Пагост. *У сіtoватом дзерэві поло́сы гнілые з самого гузыра і до верха.* Верасніца. *Памянш.* гузырэ́ц, гузерэ́ц. *З гузырца з дубка робілі грабовельно.* В. Малешава. *Засушвалі гузерца на шворань.* Цераблічы.

ГУЗЬ *м.* Гузак. *От ляснуўса, шо гузь збег!* Пагост. След на тонкім лёдзе ад удару. *Такі гузь бы с цветамі сядзе на лёду́.* Цераблічы. Бляшка на набедрыках. *Наш брыгадзір ездзіць з гузямі на зброі на коні.* Мачуль.

ГУҚ *м.* Гук. *По гуку чуе трактора.* Дварэц. *Одно гук чуеш, а людзей не бачыш у лесе.* Луткі. Рэха. *Пошоў гук по лесу.* Цераблічы. *Будзе гук на ўсе село.* Бярэжцы.

ГУ'ҚАЦЦА *незак.* Знаходзіцца ў стане цечкі (пра свінню). *Гукаецца свінья, трэба гнаць до кнура.* Бярэжцы.

ГУҚА'ЦЦА *незак.* Галёкаць. *Гукайцеса, дзеці, як по грыбу пойдзеце.* Пагост.

ГУҚА'ЦЬ *незак.* Қрычаць, клікаць. *Гукаў, гукаў, а вон не чуе.* Цераблічы. *А дзед гукае: «Ево, о Ево, едзь сюды!»— Я за лоточку і еду.* Мачуль. *У мого бацька ні плачэ, ні гукае* (прыказка). Луткі. *Хто гукае, то гукае, а мы едом* (прымаўка). В. Малешава. Галёкаць. *Вон трубіць, товар згуквае, і мы самі гука́ём!* Бярэжцы.

ГУ'ҚНУ'ЦЬ *зак.* Усклікнуць, крыкнуць. *Як гу́кнуць свінье да як побегуць!* Бярэжцы. *Як гу́кне, то ўсе стадо на ногах!* Любавічы. *Як гукне́ песню, то і ў мене ў грудзях грае!* В. Малешава. *Але і гукне́, аж у небе одзовецца!* Луткі.

ГУҚОВУ' *прым.* Звонкі, прасторны. *Лес буў такі гуковы, як тут гукнеш, то там одгукнецца.* Хачэнь.

ГУ'ЛА *ж.* Нараст. *Гулы понароствалі на том дубі.* Хотамель.

ГУ'ЛІ *мн.* Гульні. *Дайніе гулі такіе булі.* Запясочча.

ГУЛЬБА' *ж.* Гульня. *Гэто называласа гульба ў свінью.* Сямігосцічы. *Побегу на цецерука і на качкі, і ўжэ на бок та гульба.* В. Малешава.

ГУ'ЛЬБІШЧЭ *н.* Вечарынка, гулянка. *Вон ехаў на гульбішчэ ў Мочуль і потоптаў іх машыною.* Цераблічы.

ГУ'ЛЬГАЦЬ *незак.* Булькаць. *У коня ў жывоце гульгае.* М. Малешава.

ГУЛЬЦЯ'Й, ГУЛЬТА'Й *м.* Гультай. *Ходзіць без роботы, от гульцяй!* Аздамічы. *Гультаю і сонцэ не ў пору ўсходзіць* (прыказка). Хачэнь. 2. Вяроўка, якой кіруюць вуллём пры ўсцягванні яго на дрэва. Луткі.

ГУЛЯ'КА *м.* і *ж.* Гуляка, весялун. *Еты загáрліву чоловек, а ото гуляка.* Запясочча.

ГУЛЯ'НКА *ж.* Гулянка, забава. *Як не забавіцца гулянкою, то надодзéе мне.* М. Малешава.

ГУЛЯ'ЦЦА *незак.* Забаўляцца. *Ленка, гуляйса сама.* В. Малешава.

ГУЛЯ'ЦЬ *незак.* Гуляць, нічога не рабіць. *З армеі прышоў да от пока гуляе.* Пагост. Быць свабодным, незанятым. *Воз гуляе, беры.* Бярэжцы. *Дзедоў ложок гуляе, дак кладзіса.* В. Малешава. Хадзіць па гулянках, праводзіць час з хлопцам або дзеўкай. *Я гуляла, да шчэ як гуляла!* Запясочча. *Гуляла з ім до белого дня.* Мачуль. Скакаць на гулянках. *Мы як гулялі, то гулялі кадрылі і ўсе.* Бярэжцы. Спраўляць вяселле, провады і інш. *Раншы гулялі веселье дзён чотыры.* Сямігосцічы. Веснаваць (пра курэй і іншых птушак). *Кура з пеўнем гуляе і заночовала ў чужых хоромах.* М. Малешава.

ГУЛЯ'ШЧЫ *прым.* Свабодны, нічым не заняты. *Гуляшчых жонóк е!* Дварэц. *Ломач'е порэжэцца, да будзе двор гуляшчы.* Сямурадцы.

ГУМ *м.* Гул. *Гум, рэ́вот за кобылою, як на ее тые пчолы напалі.* Альпень.

ГУ'МКАЛО *н.* Костачка, якая раскручваецца ў руках на нітцы і ўтварае гук. Тураў.

ГУ'МКАЦЬ *незак.* Невыразна гаварыць, буркаць. Аздамічы.

ГУ'МНІШЧЭ *н.* Гумнішча. Аздамічы.

ГУМНО' *н.* Двор селяніна ў мінулым, акружаны гаспадарчымі збудаваннямі. *Чэрэз огород к болоныо гумна стоялі.* Чэрнічы. Гаспадарчы будынак для складвання

збажыны і для малацьбы. *Некоторые с хвóросту плелі гумно. У нас гумно було на бору.* Хачэнь. *Колісь було круглэ гумно, у одрыні сено, жыто, у одрынах товар стояў.* Запясочча.

ГУ'НУЦЬ *зак.* Бухнуць, бабахнуць. *Провонялос тое піво да як гунуло з бочкі!* Цераблічы. *Бомба як гуне, то і ўсе!* Аздамічы. *Як гуну межы плечы, то і зоры побачыш!* М. Малешава.

ГУ'ПАЦЬ *незак.* Падаваць нізкі гук. *І'бут гупае, у чэрэтах вон, у лозах.* Цераблічы. *У одзінаццаць часоў вона ўжэ ў Перэрові гупае* (пра параход «Ракета»). Дварэц.

ГУ'ПОТ *м.* Буханне, грукат. *До того гупот у селе, як ткуць, пойно село гупоту.* Луткі.

ГУ'РА *ж.* Гурба, куча, гурт. *Навозіў цэлу гуру дроў.* Аздамічы. *Друга гура баб пошла на сено.* Кароцічы. *Гуру снегу як наперло, аж яблоньку розорвало.* М. Малешава.

ГУ'РБА *ж.* Гурба, куча. *У мене гурба лежыць сем'я з лёну.* Мачуль. *Буські гурбою лецяць, табуном.* Рубель. *Памянш.* г у́ р б о ч к а. *Складае зноў у копочкі тое сено, такіе маленькіе гурбочкі. У такіх гурбочках воно не згорыць.* В. Малешава.

ГУРБА'Н *м.* Няроўнасць, ухаб. *Ета дорога ў гурбанáх уся, на лісапеці не вельмо розгонісса.* Пагост.

ГУРГУ'Н *м.* Гузак, нараст. *От на корові гургуноў богато!* Аздамічы. *Нейкі гургун сеў дай седзіць на шыі, хворэе на одном месці.* М. Малешава. *Памянш.* г у р г у́ н ч ы к. *У горшку як е гургунчык, то вон можэ вупасці.* Там жа.

ГУРГУНОВА'ТЫ *прым.* Пакрыты нарастамі. *Гургуноватэ дзерэво, одные гургуны на ём.* М. Малешава.

ГУРКОВЕ'НЬЕ, ГУРКОВІ'НЬЕ *н.* Агурочнік. *Гурковенье буйное, а одзін пустоцвет, нема гуркоў.* Луткі. *Гурковінне не потопчы.* Пагост.

ГУРО'К *м.* Агурок. *Гуркі перэгорэлі, да ўжэ гуркі будуць.* Цераблічы. *Коб добрые гуркі, то елі б і воўкі* (прымаўка). Хачэнь. *Вурос, як м'яло, усадзіў — зайяло, вуняў — і з хвосціка капае* (загадка). *Солоны гурок* (адгадка). Там жа.

ГУРПА'К *м.* Пагорак, горка. *Там гурпак, водою не залівало зусім.* Луткі.

ГУРПА'Н *м.* Тое ж. *Еслі затопіць гэтые тры гурпанэ,*

*то ўжэ вода веліка.* Дварэц. *Памянш.* г у р п а н е́ ц. *Ото гурпанец, дзе хата стоіць.* Цераблічы.

ГУРПЕ′ЛЬ *м.* Тое ж. *З эстого гурпеля, з эстой гуры да ў эту яму упаў!* В. Малешава.

ГУРТ *м.* Гурт, згрупаванне. *Гурт людзей, пойду і я у гурт.* Запясочча. *Не хочэ ў гурту робіць, ленуецца, шчэ й другіх забайляе.* Бярэжцы. *Коні стоялі ў гурту.* В. Малешава.

ГУРТОВА′ЦЦА *незак.* Гуртавацца, групавацца. *Вутвы побольшэюць — самы гуртуюцца і ўжэ не дбаюць про куру.* Цераблічы.

ГУРТО′М *прысл.* Гуртам, разам, супольна. *У войну усе разом горовалі, гуртом.* Сямігосцічы. *Біч, цэпільно, хомуцікі, гужок — гуртом цэп зовецца.* Дварэц.

ГУ′РЭЮ *прысл.* Вялікім гуртам, грудам, грамадой. *Ідуць у лес гурэю, коб больш, а то там розбойнікі.* Аздамічы.

ГУСА′К *м.* Гусак. *Тры гусе да гусака дзержымо зарэ.* Любавічы.

ГУСЕ′ЛЬНІК, ГУСЕ′РНІК, ГУСІ′ННІК *м.* Гусялапка(?). *Гусернік росце ў лесе, дзе болото.* Мачуль. *Болячка, нарыў зробіцца, то гусіннік розмочваем.* Аздамічы. *Гусе́льнік.* Хотамель.

ГУ′СЕНЬ *ж.* Вусені. *Напала гусень да з'ела капусту.* В. Малешава.

ГУСЕНЯ′ *н.* Гусяня. *Гусеня мое загібло, то думала, шчо ў вас.* Цераблічы. *Памянш.* г у с е н я́ т к о. Цераблічы.

ГУ′СЕЧЫ *прым.* Гусіны. *Гусечых еец назбірай.* Запясочча.

ГУСІ′НЫ *прым.* Тое ж. *Гусінэ сало не порціцца.* Альпень. *Гусінэ цьвордэ м'ясо.* Хачэнь. △ Г у с і н а д о р о́ г а. Млечны Шлях. *Под осень выступае дорога гусіна.* Сямігосцічы.

ГУ′СКА *ж.* Кветка белага і жоўтага гарлачыка. *Му ехалі ў лодцы, да я гусок нарвала.* Тураў. 2. Хвосцік у гарбузе. *Гускамі, шо от горбузы́, подкурваліса от хондзі.* Запясочча. *Памянш.* г у́ с о ч к а. *Е бела гусочка і жойта гусочка, а лісты у іх однákіе.* Хачэнь.

ГУ′СНУЦЬ *незак.* Загусаць. *Каша гусне.* Бярэжцы.

ГУ′СТО *прысл.* Густа. *Густо ўзышлі буракі.* Аздамічы. *Это не густо, було гушчэ́й.* Хачэнь.

ГУСТЫ′ *прым.* Круты, густы. *Густа каша, а як рэдко, то слаба́ каша.* Альпень. Рассыпчаты, сопкі. *Е гу-*

*стые картоплі, а е і рэдкіе.* Сямігосцічы. Часты, густа пераплецены. *Густэ цёнето зробіш, то і ўюна поймаеш.* Цераблічы. *От полотно густэ, бі шкура, шо й вода не почечэ!* В. Малешава. Тлусты (пра малако). *Густэ молоко, а сметана шчэ гушчэйша.* Запясочча.

ГУСЦІ′ *незак.* Гусці. *Здрокі ек гудуць, то товар здрокуе.* Дварэц. *У пече гудзе, вéцёр будзе.* Запясочча. *Купі, чэшча, жыгулі, шоб мы добрэ жылі, про нас людзі не гулі.* М. Малешава. *Ну, мошкорэ́чы — товар гудзе!* Сямурадцы.

ГУСЬ *ж.* Гусь. *Гусь дзюбу ховае — на мороз.* М. Малешава. △ У г у́ с і. Дзіцячая гульня. *Маці выйдзе і кажэ: «Гусі, дохаты!»—А дзеці: «Хто там такі?»— «Воўк за горою!»—«Які вон там?»—«Серы, кудлаты! Дзеці, дохаты!» — дзеці бегуць, воўк іх хапае.* Луткі.

ГУ′ТАЛКА *ж.* Арэлі. *Пошлі на гуталку гута́цца.* М. Малешава. *Прычэпіўса: повесь мне гуталку, я хочу гу́тацца.* Буразі.

ГУТАТА′ЦЦА *незак.* Гушкацца. Верасніца.

ГУТАТА′ЦЬ *незак.* Гушкаць. *Гутатай кольбель ціхо, хай дзіця засне.* Сямігосцічы.

ГУ′ТА′ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Почалі на лодцы гу́тацца.* Запясочча. *То кольбель, шо так гута́ецца.* Луткі.

ГУ′ТА′ЦЬ *незак.* Гушкаць. *Я постаўлю колыску на тых цэпках да гу́таю тое дзіця.* Хачэнь. *Вецёр лодку гу́тае.* М. Малешава. *Гута́ць.* Луткі.

ГУ′ТОРКА *ж.* Размова. *Этые гуторкі останучча навечно* (пра запісанае). Хачэнь.

ГУ′ТОРЫЦЬ *незак.* Гутарыць, размаўляць. *Вараць вечэру і гутораць меж собою.* В. Малешава.

ГУ′ШЧА *ж.* Гушчар, гушчыня. *Мне далі сенокосу ў гушчы, а ей у галі.* Бярэжцы. *Прышоў у таку ло́зу, у таку гушчу, стаў і не ворушыцца.* Луткі. Згушчэнне. *Постоіць — гушча робіцца.* Запясочча. *Зверху рэдзь у сетцы, а ў серэдзіне гушча.* Кароцічы. Гушча ў страве. *Гушча дзеці не розгоніць* (прыказка). Аздамічы.

ГЭ *прысл.* Так. *Цепер не гэ, як колісь.* Аздамічы. *Дзіўлюс, шчо не гэ зробіў.* Альшаны. *Мне одного году гэ було, што одзіна́ццаць курочок вывелосо, а одзін пеўнічок.* Мачуль. *Это гэ у мене нога болела, шо не можно спаць.* Кароцічы. *Кажу, гэ і гэдак було.* Рубель. *Як шчэ на су́сі вутвы, то не гэ едзяць.* Там жа.

ГЭ′ВЕРЛОМ *прысл.* Беспарадкава. *У мене ўсе ў хаці було геверлом.* Сямурадцы.

ГЭН, ГЭНЬ *часц.* Вунь. *Гэн-гэн-гэн ідзе́ гусі!* Запясочча. *Горыць тут, а далей гэнь ужэ дзе!* Цераблічы.

ГЭ'ТАЗНЫ, Э'ТАЗНЫ *займ.* Гэтакі. *Чэрэво гэтазнэ, бу на рожэ́ны, у того мужчыны!* Дварэц. *Андыкі е тут, этазные велізные!* Запясочча.

ГЭ'ТАК, ГЭ'ДАК, Е'ТАК *прысл.* Гэтак. *Гэтак у Мочуле робяць, а гэтак у нас.* Аздамічы. *Гэдак шыпко шагае!* Дварэц. *У нас можно почуць і так і етак.* Буразі.

ГЭ'ТАКІ, ГЭ'ТТАКІ *займ.* Гэтакі. *Дай бацько буў гэтакі.* В. Малешава. *Гэттакі вон чоловек, шо зробіш.* Пагост. *Спас то спас, але гэтакі, як у нас* (прымаўка). Цераблічы.

ГЭ'ТО *часц.* Гэта. *Гэто нашы кошэлі.* Мачуль. *У плану гэто було Туроўске, я ведаю.* Дварэц. *Лексо, а шо гэто?* Сямурадцы.

ГЭ'ТОЙ, ГЭ'ТЫ, Э'ТОЙ, Э'ТЫ, Е'ТОЙ, Е'ТЫ *займ.* Гэты. *Гэтой год малэ́ воно товар пасці, хоць і велікі хлопец.* Луткі. *Гэтого слона не подымеш, ты шчэ маленькі.* Сямігосцічы. *З гэтой стороны бы крэпчэйша стрэха.* Хотамель. *Гэты ле этой, а гэты на той стороне.* Мачуль. *Не беры этых начлежнікоў у хату.* Хачэнь. *Шчо робіць з естою пенсіей?* Буразі.

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. *А ву гэтта доўго будзеце?* Запясочча. *Гэтта не робяць кёрмашу.* Там жа. *Гэтта воды, воды!* Бярэжцы. *Канапа моя гэтта стояла.* М. Малешава.

ГЭ'ТТАЧЫ *прысл.* Тое ж. *Тые разы вон, мой стары, гэттачы дома.* Пагост.

ГЭ'ТТЫ, Э'ТТЫ, Е'ТТЫ *прысл.* Тое ж. *Гэтты хвойнік малы, а там о порос!* Пагост. *Ву гэтты, шо е, то есце.* В. Малешава. *Гэтты росце жыто, а там картоплі.* Луткі. *Пошлі замуж гэтты, у своём селе.* Там жа. *Не стаўляй там, а гэтты.* М. Малешава. *Одзін буў чоловек этты у нас, у хаці.* Мачуль. *Етты колісь дуб рос.* Кароцічы.

ГЭ'ТТЫКА *прысл.* Тое ж. *Не значно́ лісця, гэттыка жукоў!* Запясочча. *У нас гэтты, а ў Турові — гэттыка.* Дварэц. *Недалеко ужэ трыццаць п'яць год, як му седзімо гэттыка.* Цераблічы.

ГЭ'ТУЛЬКО, ГЭ'ТУЛЬКІ *прысл.* Столькі. *А там воды гэтулькі!* Мачуль. *Вона получала гэтулько, а вон вутрэбоваў больш.* М. Малешава. *Гэтулько гною кідаюць.* Рубель.

ГЭЦЬ 1. *прысл.* Там. *Гэць поле, гало.* Цераблічы. *Дзе Сцвіга, ву путаеце? Гэць-гэць!* Альшаны. 2 *выкл.* А ну. *Гэць отсюль, дзеці!* Хільчыцы.

# ТЭКСТЫ

## ЧАМУ ЗЯЗЮЛЯ КУКУЕ

**(легенда)**

У одное жонкі була дочка. Да ў тое дочкі буў чоловек, да ёго забілі. І дочка вельмі плакала по ём. А маці говорыць: «Не плач, до́чко, на Петро я тобе куплю чоловека». Да так от ле́тае за́рэ кажны год до Петра і куе:

— Куп-лю, куп-лю, куп-лю...

Да ўсе ніяк не ву́берэ.

*М. Малешава*
*Запісала ў 1976 г. Т. М. Трухан*

## ДЗЯДЫ РАСКАЗВАЛІ

А булі ў Погосці і туркі, даўно-даўно. Нам про іх дзеды росказвалі, а ім іхніе дзеды. Тур, шо з того конца поўз село до Сцвігі цягнецца, того так зовуць, шо ў ём турок утопіўса. Ехаў по то́нкому лёду на коне, провалі́ўса да ўтопіўса. Глуміліса туркі над нашымі людзьмі. Людзі хаваліса од іх по зарэччу, у лесі, дзе прыхо́дзілосо. Ек уполету, то і ў долінах хаваліса, дзе капелюшніку багато. Залезе чоловек у доліну, го́лову з воды ву́суне, шоб дыхаць можна було, а голову не бачно́, бо капелюшына зверху прыкрывае. От одзін раз поўцекалі людзі од туркоў з села, хаваюцца, дзе хто. Которые то ў Дзе́довой доліні, шо коло панского поля, под капелюшнік похаваліса. Седзяць да пережыдаюць, покуль туркі з села пойдуць. Аж некі чоловек ідзе поўз берэг да по-нашому нашых людзей гукае: «Куліно-о-о, Марыно-о-о, ходзі, пошлі-і-і!» А ў водзе екраз нека Куліна й седзела. Поверыла на еты голос, ву́лезла да до того чоловека. Мо́кра ўся. Подышла, аж бачыць, шо то турок — чорны, з вусамі, ш шаблею, только ў на́шэ одзе́нне передзе́ты. Уцекаць не побегла — дожэне да шчэ зарубае. Загадаў вон ей у село йці до свое хаты. Зашлі ў ее хату, да вон загадаў еду ёму зготовіць да воды багато нагрэць, шоб ёму пому́цца. Затопіла вона печ, прыставіла там нешчо, мо картоплі, мо крышаны, мо боршч, бог ёго ведае, а йшчэ воды ў веліком чугуне прыставіла, ек турок загадаў. Огонь у печэ горыць, у чугунах да горшках вода кіпіць, нешчо варыцца, а Куліна коло печэ́ стоіць. А турок сеў на порозі, сцерэжэ жонку. Да бачыць жонка, шо голова ёго на бок похіліласа, вочы зліпліса. Задрэмаў турок. А вода ў веліком чугуне пары́ць моцно, кроп ужэ ў чугуне. Куліна еты чугун вілка́мі с печэ вуцегла, обматала шматкою, узяла дзвома рукамі да як шамнула ўвесь кроп турку на голову! Опарыла ёго, да вон кончыўса. От так жонка турка накорміла і сама жы́ва осталаса.

*Анастасія Рыгораўна Ліцвіненка, 1913 г., в. Пагост*
*Запісаў у 1980 г. М. А. Саскевіч*

## З АПАВЯДАННЯ ДАЯРКІ

Ну, вон зо мною ідзе. Я поперэ́д его поганяю корову. Ну, я ў плашчы іду. А вон, значыцца, ідзе і говорыць: «Вот онно плакалі (а я ж слухаю, шо вон говорыць), шо недобрэ. Бачыш! Это ж так одзетые, як ко́ліся паня Маркуцкая!» А я кажу: «А кому недобрэ? Только одному тобе. А мне добре». Так вон замоўк.

Не одные дояркі так ходзяць. Цеперэка у плацье ўсе этые дзеўкі. Это мацеры этые ў іх старые, да воны ж ужэ знаюць, як коліся жылі да шкодовалі одзежы этое. «Да му, бувало, і к венцу раз наложым, кажэ, повенчаёмса ў том і дзержымо́ его ўжэ на смерць. Ну, а ву цепер, кажэ, на ве́чоры, будзёного ве́чора, ужэ дзесець раз заменяеце одзежу. А му, кажэ, у празнікі не радзіліса. Еку полотняну сподніцу покрасім, да ту шкодуёмо, шоб не покаля́ць». Цепер усе старые кажуць: «Добрэ жыць, да не́колі».

*Луткі*
*Запісаў у 1975 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю А. А. Крывіцкі*

## ПРА ЛЁН

Посеюць лён, ба́бы ходзяць і полюць, а далей рвуць. Снопы в'езалі тым жэ льнішчэм самым. Ставілі у такіе кучкі. Такіе велікіе поставяць кучкі тые. Тые кучкі посохнуць, за́рэ іх пранíком колоцілі там на полі. Несом дошкі, россцілаем дзеру́гі, і туды тое сем'е колоцілі тымі пранікамі. Поколоцім — зв'я́зовалі по двацаць ку́чэчок такіх во ў везанкí. На слішчэ. На слішчы послалі, лежыць на слішчы том месец. Слішчэ — то попас. Вот оно месец полежыць, его збіраюць і везуць додому. Додому прывозяць его — ста́ўлеюць на печ. Лён сохне на печэ́ — і ў церніцы. Нацером так вот дзэе жменькі, то ка́ам латка. Трэпалі его. М'ялі ў хаце. Клалі его на долоўку — это цепер подлога, а колісь долоўка була. На долоўцы лён этой трэплем. Трэпалі лён трэпа́шкамі. Така трэпашка о доўгенька, вузенька о. І гэтты, дзе рука дзержыцца, загострэна. Трэпачку робілі з дуба. З дуба — то вона здоровейша, з оле́хі — то вона слабейша, б'ецца. А далей грэ́бені. Грэбе́нкамі му́чуць му́чкі. Намучуць мучо́к — і ўжэ прадом. Прадом цэлу зіму. А прыдзе весна, ужэ весной беро́м сну́ем тые кросна. Посну́ем там дванаццаць губ, дзесець, восем і ста́ўлеём і тком. Су́чуць там мужчыны ці дзеці цэ́ўкі. Тком то полотно. Тком его, а далей несом на во́ду да белім. Спераем, як казалі колісь, шчоб було белэ. І вот ужэ зробіцца воно беле, і тоды ужэ шылі сорочкí, штаны з его, разные ручнікі. Цепер ніхто его не носіць, ніхто не шые, ніхто его не прадзе. І нема ні тых церніц, не́дзе погнілі. І дзе екі грэбень буў, то ўсе погніло, і тые ўсе верэцёна. Цепер носяць ўсе тые майкі, комбінацыі...

*Ганна Оглемец, в. Сямігосцічы*
*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю П. В. Садоўскі*

## ПРА ЛЕТНІЯ РАЗЛІВЫ РАКІ

Одэтта вода пропала. Ужэ цалнэ лето вона ту́тэка есцека. За рэкою сенскосы не косілі. Мо эта чэцьвёрты раз будзе (прыбывае вада). Цепер мо й ніяк не косіцьмуці тые сенокосы. Бо воды бо-

гато. Только этые шчолу́бочкі. Ну, то шчо на этом шчолу́бочку? Дзве-тры в'язкі накосіш з ёго. Ані ў лодку забраць, ані там ёго зложыць у ко́пу. Прыбудзе вода больш, поплуве к холеры з водою! А гэтой год зімою тожэ була прышла. Ой, велікая! Потопіла ўсе, і сено, усе, як есцека! З воды вуцега́лі. Навуцегае да прывезе домоў, накладзе по дровах там да по том, по том. Да позмерзае, да ўжэ ёго трусіць, розбівае, да это радзі того, шоб ёго корова ела.

А это мы, можно сказаць, тожэ (пацярпелі). Екіх чотыры копе ёго було. Такого прэкрасного сена! От на этом самом, дзе ву брэдзілі. На этом грудку, дзе я ўпаў у воду. На этом коло полянкі. І ўтопіло!

(— Што, стог абярнула вада?)

— Не, просто так, подыйшла вода, занела кру́жкі кругом да да́ле і ўсе. Потом трохі померзло, да поехалі, да забралі это зверху, а то і осталосо. То му ёго ўжэ ўродзі на грудок вуцеглі, шоб воно просохло. То воно там лежало, потом поехалі, да ў колхоз забралі, да прывезлі на короўнік.

Это, сказаць вам, у еком, сорок седзьмом ілі восьмом? У сорок седзьмом, мабуць. То тожэ таксамо. Тоды іспа́ла этые сенокосы косілі. Іж жабером ужэ була. То богато скота пропало. Кормілі тым сеном іж жабером. Некотора — эх, трава добра! — так берэ еку му́зу! А котора — а на ліхо вона мне, той жабер! І так только запытае. Як хто ніжэй косіў, то богато короў пропало.

А рыба, то шо по траве пошла, можно сказаць, шо ўся пропала. Поўз берэг не можно було пройці. Така вонь була. І особенно дзе ў которой сом буў, да сом лежыць, так ну падло таке, шо не дай бог еке вонючэе! Воняе доліна так, шо не пройдзеце ву там берэгом.

Так уся рыба коло рэкі. А як вода, то вона пошла по траве із водою. Загніласа, стала — рыба пропадае.

Ву не станеце, такіе есцека грудо́чкі. А то ўсе ў водзе, о. А болото е там, велікее болото, зовом Забродзье, то там воды, як ву кажэце, по шыю. Косіць не будзеце. Там воды о так о. У том болоці. Косіць не будзеце.

Траву вуцега́лі, сушылі на той стороне, дзе ву стоялі, і на этой стороне. Було сколько? Тры, с той стороны копі такіх здоровух тры, а потом тутэка чэцьвёрта. Дзе я ў воду ўпаў, п'ята, коло одзёнка — шоста і сёма, за одзёнком ужэ восьма, а на той стороне ў Заёўцы — дзеўята і дзесята.

Усе складаём на под. Жыто змолоцілі, пшэніцу змолоцілі, прывозіш ужэ ў засторонок кладзеш сено то. У засторонок возоў чотыры-п'яць положыш. Молодзьба ўжэ вуйшла, і на току сено ўжэ лежыць. Тоже можэш дзесець-петнаццаць воз ужэ положыці, ек накладзеш ужэ вусо́ко.

*Луткі*
*Запісаў у 1975 г. на магнітафоне і зрабіў*
*транскрыпцыю А. А. Крывіцкі*

## НА ПОПРАДКАХ

Ходзілі на вечоркі прасці. Хто возьме дзесець мучок, хто возьме петнаццаць, і так стараемса прасці. А попрадом, попрадом там час-два, ужэ захочэцца спаць — бежымо́ под окна, под однэ окно, под дру́ге побежымо́, там кого спужаём, кого дзе стрэном, по снегу

покачаемса і опяць прыхөдзім прасці. Прадом, попрыходзяць хлопцы, от нас тые верэцёна одбіраюць, мучкі нашые зрываюць, спорым, смеімоса. І так вечор проходзіць.

Спрадзеш, зайдзеш до мацер, покажэш, сколько напрала. Як богато напрала, добру ручайку, значыць, маці добрэ скажэ, а як мало, то кажэ: «Ах ты, леніва! Шчо ты робіла? Это ж там хлопцы булі, бачылі, шчо ты мало напрала. Ніхто замуж не возьме». Ну, як другі раз ужэ пойдзеш, то ўжэ так стараешса, шчоб богато напрасці.

*Ксенія Васільеўна Флар'яновіч, в. Сямігосцічы*
*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю П. В. Садоўскі*

## ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

У нас коліся така була прызвычáйка перэд Новым годом. Повечэрэем, потом збіраемса, бером вóду холодну, у місу нальём, запалім дзве свечкі і пускаем на воду тые свéчкі. Тые свечкі ходзяць, ходзяць навóколо по той місцы, а потом і зойдуцца. Ну, угэ кажэмо, на кого думаем, зойдуцца ці там замуж пойдзе.

Грэлі воск, тожэ налівалі холодну воду у міску і стаўлялі кóло сценкі. І лілі той воск на холодну воду. Ну, і на той холодной водзе робіцца, як бувае на еке веселье, то робіцца такé, як бы коні, бы возы́. А то не дай божэ як кому умéрці, то і недоброе нешчо зробіцца. Воск грэлі ў печэ́, а потом той гарачы лілі на холодну воду, дай робіліса такіе ўзоры. Шчо кому покажэ. Вода наліваласа ў веліку місу. Льеш дай думаеш, навóшчэ. Ці на добрэе ці на плохее.

* * *

На Нові год от як спечэ маці первого бліна́, этого бліна возьмом і вубегаемо на сметнік. Хапаемо того прутка, шчо маці кросна затыкала, і с тым прутком на сметнік побежымó і слýхаемо, у екой стороне собакі брэшуць. То ў той бок замуж.

(— І спраўдзіла каму калі?)

— Не знаю, мне — то не.

*Ксенія Васільеўна Флáр'яновіч, в. Сямігосцічы*
*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю П. В. Садоўскі*

## ТРЭБА ШКАДАВАЦЬ СТАРЫХ

**(казка)**

Коліся ўбівалі старыкоў. У одном селе так усіх перэбілі. А одзін свого бацька шкодоваў, узяў да сховаў его ў лёх.

— А дзе, кажэ, твой бацько?

— Я ўжэ его ўбіў да сховаў.

А ўзяўса голод. Нема есці, людзі подыхаюць з голоду, посеець нема чым. Господзь не зародзіў ані! Сын бацьку кажэ:

— Баце, што робіць, посеець нечым?

А вон кажэ:

— Озьмі із старого гумна здымай крышу, ту крышу беры да молоці. Бі ее на пóтру, тым беры, кажэ, і сей по полю.

Узяў вон так і зробіў. А тые людзі так не сеелі. Да гледзяць.

— Шо вон робіць? Кострыцу сее!

Осень. Зазеленеў, як мы кажэм, урун. Прыходзіць весна — жыто росце. Прыходзяць к ему староста ці екіе начальнікі тые колішніе.

— Шо ты, кажэ, зробіў? Хто цебе навучыў, потказаў тобе?

— Мне бацько сказаў.

— А дзе твой бацько? Ты ёго не ўбіў?

— Не, пошкодоваў.

От того годзі тых старых убіваць, да нехай жывуць до своей смерці старыкі.

*Лявон Васільевіч Наскевіч, в. Цераблічы*
*Запісаў у 1974 г. А. А. Крывіцкі*

## КЛАПАТЛІВЫ ГУСАК

Гусак до того буў хорошы — ек добры хозяін! Понімаеце, не брэшу, это ж праўда. Вот бегуць ужэ на ноч гусі. Пока малы́е, то вон ідзе домоў ужэ на́ноч, а як подростуць, то ўжэ не йдзе, там ночуе, на водзе нейдзе спяць. Так вот которые побеглі, однэ шчэ стоіць, есць, то вон жджэ. Онэ рухнулосо бегці, і вон ужэ ідзе. А прыходзіць у хлеў. Гусі пошлі ў хлеў, а вон сеў на дворэ, не пошоў да́лей. Ну, чудо було, чудо! Я не здзіўлялас! Сеў, шоб не топтацца. Вон тут скраю сеў. А ву ўжэ там распораджайцеса, як хочэце, гусенята з гусьмі. А вон тут коло дзверэй сеў, ужэ седзіць. Вон туды не шыецца, шоб топтаў гусенята. От чоловек буў! Я ўжэ говорыла проці жонóк — як чоловек екі розумны. Дзе останéцца гусеня еке, то вон крычыць гвалт, шоб воно йшло. А колі крыкнуў, то вонэ знае, ужэ бежыць. Вон бы ў мене шчэ буў, дак ехала нейкая баржа да поймалі ёго. Кóло рэкі ночовалі.

*Марына Астапаўна Жыткавец, в. Дварэц*
*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю А. А. Крывіцкі*

## ПРА ХІТРАГА РАМАНА
**(казка)**

Жыў бедны чоловек Роман. Ні було у ёго коня. По суседству з ім жыў одзін купец. Той коня продаў ему. Некого такого старого худого. Да і смеіцца над этым Романом: «Конь доўжóн здыхаць, а ты купіў». Так воны́ жывуць по суседству. А этой купец заўсёды ходзіў поўз одрыну Романа. Так шо вон, этой Роман, зробіў? Возьме золота дай накідае потроху ў одрыну. Адале як ідзе купец поўз одрыну, так вон гэто збірае. Ну, побачыў жэ гэтой купец, шо Роман золото збірае, кажэ: «Роман, і шо ты за золото збіраеш?» «Гэ, кажэ, шо за золото? Это ж, ка, конь золотом апраўляецца». «Як золотом?» «Ну, золотом». «То продай ты мне этого коня?» «Не, не продам. Як я продам? Это конь дорогі!» «Ну шчо ты, Роман, продай мне его». Той купец як прыстаў до его. «Ну, каа, як дасі мешок грошэй, то продам, а як не, то не». Ну, у купцоў богато грошэй було. Узяў вон даў ему мешок грошэй.

Той Роман і продаў коня. «А чым, кажэ, его корміць?» «Ну, кажэ, оўсом будзеш корміць». Ну, купец той узяў заўёў этого коня додому. Думае: «Я ему дам жыта, то мо больш будзе золота». Да як даў коню жыта, этой жэ конь як наеўса жыта, дай здох. Ну, купец устаў раненько і побег то золото ужэ збіраць. А у ёго у одрыні отчыняліса дзверы у серэдзіну. Вон оччыняць дзверы — не можно оччыніць. Прыбегае вон до Романа. «Роман, шчо такее, шчо не можно дзверэй оччыніць? Гэто столько золота богато, шчо не можно оччыніць? Шчо робіць?» «Трэба дзверы секці». Купец за сокеру і давай дзверы секці. Посёк дзверы, аж бачыць, конь здох. Ну, вон до Романа. «Я, каа, Роман, не віноват. Ты богато накорміў ёго, тому здох». Ну, тогды було іх, купцоў, право. Этой жэ купец этого Романа ў мешок і везе топіць. Завёз до рэкі, поставіў его, а сам поехаў спросіць разрэшэнія. Этой жэ Роман у мешку крычыць: «Не ўмею ні пісаць, ні чытаць, а хочуць за короля поставіць». У это ўрэм'я ехаў екі-то пан тройкою і говорыць: «Давай я ўлезу у мешок, я, ка, буду королём». «Ну, хай, як хочэш, то розв'язувай». Вон розвезаў, улез у мешок, Роман его завезаў, сеў на эту тройку і поехаў. Ну, чэрэз недзель дзве прыеждае зноў у дзерэўню. Купец як побачыў его! «Роман, ты откуля?» «Як, кажэ, откуля? Ты, ка, як мене ўкінуў туды ў воду, я, ка, попаў у царство. Там, ка, побачыў, як людзі жывуць». «Мо, ка, ты мого тату там бачыў?» «Усіх, ка, бачыў». «Да ек, ка, воны жывуць?» «Жывуць!» «То мо й мне можны туды?» «А, ка, чому ж не можны? Можны!» «То як?» «Ну, ка, шый мешок». Этой купец пошыў мешок, да вон ёго посаджаў у мешок, этой Роман, да завёз да кінуў з мосту ў воду, да вон пойшоў у тэ царство.

*Дварэц*
*Запісаў у 1973 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*П. В. Садоўскі*

## ПРА КАРАГОД

У той жэ дзень на Юр'я і пекуць корогода. Да спекуць, да пойдуць да нарвуць этых кветок, да бумаг, да ўсёго, да нарадзяць. Да поставяць на веко. Да два хвартухі прыўяжуць ік этым граблям ці к чому-небудзь. Да ў вокно махаюць хвартухамі. У мене ніхто не пом'ёр — мне красным хвартухом махаюць, а йдзе хто пом'ёр, то белым. Да так у кружка поберуцца, да ў коло становяцца этые хлопцы.

— Бабо!

— О-о!

— Дай мне есці!

— Супчык трэба есці, там е ў горшчыку. Умуйса, устройса, да я дам. Он тобе конфецікі лежаць два. Суп на лаві. У місочку ему трошкі ўліць, вон будзе есці.

Ну, да спекуць гэтого корогода. Это му кажом корогод. Да нарадзяць. Да ужэ два хлопцы, однэ носіць корогода, а другі тые граблі с хвартухамі. Да махаюць у вокно. То йдзе жалоба, то белым, а йдзе весело, то красным. То там, дзе жалоба, не поюць, а йдзе можно, спеваюць. Корогода. Поберуцца ўсе за рукі да ў коло ходзяць, а тые хлопцы — у коні. А ім даём ужэ яйца, тым дзецям. Хто грошы, хто шчо мае. Хто грошы, хто яйца, а хлеба — не. І зоводзім корогодка.

Эй, у корогода
Сын воевода.
То йдзе корогод хо́дзіць,
Там бог да жыто родзіць.
А йдзе ж да не бувае,
Там жыто да ўлегае.
Зародзі, божэ, жыто
Да на новое лето.
Шчо на жыто на пашэніцу,
На усяку пашніцу.
Да Юрай маці клічэ,
Да подай маці клю́ча,
Шчо небо й отворыці,
Да росіцу спусціці.

*Бярэжцы*
*Запісаў у 1969 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*А. А. Крывіцкі*

## УСПАМІНЫ

У одзін бок Сцвіга і по другі бок Сцвіга, а му як на остроўку седзелі. А гэттыка ўжэ воны сюды прышлі. Это паньське було дворышчэ. Так воны на этом поселі, да хто колько заняў. По трыццаць соток було! То ў іх тутэка шчо хоч можно було дзелаць. А ў нас хоця б буў огород да гурок, да капусціна. У нас тамэка садоў не було. От у кого йдзе трошкі. Вот у нас, у мого бацька, то трошкі було ў боку, ў рожэчку. Да булі только сліўкі і дзічэчкі. Этэ яблонька була дзічка і груша-дзічка. У са́мом крае́ этэ було, кажом Берэлоз, то ў Берэлозі. Это такая «прымоўка» Берэлоз. Там не було берэлозніку, але так Берэлоз звалі. Колько тых? Мо іх було ўжэ дзесець хат. І этые дзесець хат перэмоглі усёго́ того гурпака (жыхароў старой вёскі). Да не схоцелі воны сюды. Нам бу там поле було б, дзе тые нашы могліца. А воны этэ церэз свой сад не схоцелі. Одно ту́та. Там будзе, кажэ, мало поля. Ой, да тамэка тэ да друге, да ўжэ ўзелі перэперлі. Як му не голосуем... му одну руку поднімем, а воны по дзве, чуць ногі не поднімалі! Это шчоб богато голосоў було, шчоб одно на іх поставіць. Ну, да перэперлі... А это ж про́слі войны насаджалі. Этые ж немцы беглі, то ўсе ж порэзалі, нічого ж не було, голэ поле геттыка. Нідзе нічого! Ужэ як му попрыходзілі, то нідзе ні, пусто, ні колка ні було. Як із лесу прышлі. Му ж тутэка прышлі на голэ попеленье. Одно у мого бацька стояла гру́ба, не ўпала, то му кругом тое гру́бу палкі поста́ўлелі да... Трава ж понаро́стала, а му прышлі ў этэ ўрэм'е домоў. От учоро му домоў ішлі. Цепер Петро, а му учоро прышлі. Ага. Да прышлі, да позахішчвалі этэ жэрдзе, нацегалі да пообстаноўлялі тую грубу, да накосілі травы, да обкрылі, да вот там седзелі кругом тое́ гру́бу. У мене́ эта ужэ і дзевочка була, родзіласа ў курэне́. То я ее положыла поўз саму грубку дай спекла одэттэ ўсю ручку ёй. Шчо я попого́іла, усе робіла, шчо хто не казаў. А дале-такі і за́ре шрам седзіць на руцэ, шо спекла. То му ў той грубі варылі, хлеб пеклі ў грубі. От сюда той жар отсюль загрэбом да зачынім, отсюль туды воздух цягне да печэцца. Да так му і жылі.

Тогды ж леснікоў шчэ не обстановілі, не було з мужчын ніко-

го, жонóк стáўлялі за леснікоў. Бачу, шчо секуць да робяць нейкіе копанкі. Дай му собе таке зробім. Пойду побачу, шо воны робяць, этые людзі. Я ж усе ў курэне седжу, а оны ўжэ тые хаты робяць. Зойшла я побачыць, аж оны вýкопаюць ямку да поставяць тут стоўб і тут, чотыры стоўбу поставяць, да міз тые стоўбу кідаюць лес. Жэрдзе еке не е да ўсе туды топчуць. Ой, шчоб ты згорэло! Я ж думала, як землянка, то земля, да трохі окно положу на землю, да россохі екіе, да накрыю, да буду седзець. Ой, аж лес трэба туды! Это ж покýта й одно! А тут лес буў лéжаны — позрэзáлі. А пілкі тогды доброе не було. А я хоць горэлой екойнебудзь да драпаю, драпаю. А смола наліпне. А було трохі э́тэ сало. А я тым салом ту пілку помажу, так не так смола набіраецца. Трохі ёго наспільвалі, тонкого. Таке, як на ту землянку. Тоўшчэйшэго я й не положу, тоўшчэйшэго і нема чым зрэзаць. Да вурэзала собе той лес на шэсць аршын сценкі дзве, а другая на сем аршын сценка. Да тэка ж сцéбачка, невелічка хатка. Аршынкі ж — это ж не метры. Да думаю, ву робіце гэтэ, землянкі, а я буду робіць собе хатку, як той зайчык казаў. Да зробіла собе тую хатку я. Зробіла я ту хатку, вýмосціла, назбірала сёго-того, екіх от такіх о на доўжыню дошчэ́чок да ўсе положу на ту балечку, на концы. Только сплош клала, роўненько, як подлогу. Да поклала, да нанеслá туды глею, да позамазвала на горэ, шоб не сыпаўса песок. Да прысыпала. Прысы́паць то прысыпала, а як пойдзе дожч? Як пойдзе дожч, а песок жэ не ўдзéржыць, трэба навернуць туды песку по колено. Трэба ж накрыць. Воны понакрывалі этые землянкі, а мне хатку не накрыць? А нейкі стары буў, стары-стары, негожы. А я кажу: «Ой, дзеду, коб ву мне эту хатку накрылі. Я вам заплачу». А мой мужык пошоў у парцізáны да покінуў вáтовуе штаны да пінжака доброго. А вонэ неек не погінуло этэ. Усе погубілосо, а этэ осталосо. А я ему оддала того пінжака і тые штаны, да вон мне, той стары, прыкрыў тую хатку. А прылачваць, сама прылачвала. А екім гвоздзем? Цепер новеньке гвóздзе, і комар того гвозда заб'е нового. А горэлы то гвозд не йдзе. М'яккі. Шо стукну, то не по дзерэвіні, не по гвозду, да по пальцу. Усе пальцы позбівала. А ў той лáціні по тры гвозды. Зогнецца у дугу — кіну этого, забіваю другого. Зробіла хату, і перэйшоў ко мне старшына. Праўленіе було, да нарады вешалі. Хата нізенька, як велізны чоловек, то прыгінаўса. Я полевіком була, сторожэм на фермі.

*Бярэжцы*

*Запісаў у 1969 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*А. А. Крывіцкі*

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ЎЛОЎ

Мой чоловек прышоў у хату да кажэ: «Беры чысць рыбу. Сама мо найдзеш». Прышла я к той лотцы, гленýла я ў той дуб — от по гэтыля! І одные ершы! Ох, шо ім робіць? Хто ім рады дасць почэсаць? Такіе слізкіе нейкіе! А это було неек увосень перэд дзедамі. У нас дзеды, то не едзяць скоромного. Я іх почэсала, построіла. Праўда, у кошэле мула, бо так жэ іх не помуеш, воны ж колючые. Помула я іх у кошэле, вувернула ў міску велікую такую, посоліла это я іх хорошэнько усе да ў печ, і посохлі. А воны нішто е такіе. І это я на дзеды усіх обдзеліла жонок. Воны ўдобные

ў боршчы. Ну, іх робіць трудно. Але як так можэ буць, шчо одные воны, одные воны! Усякіе булі. Іншы не похож на того ерша. Так, ек окунь, чэрэваты.

*Кароцічы*
*Запісаў у 1969 годзе на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю І. Я. Яшкін*

ШТО РОБЯЦЬ З УЮНАМІ

А гэто ж в'юн, то то́ дванаццэтэ поколенье вужа. Это з дванаццатого поколенья. У этого ж уюна́ хвост шырокі, а ў вужа́ ж, як швайка, гостры. Ну, а голова ўюнова, як вужова, толькі шо ў вужа вусікоў нема. А ў ўюна вусікі е. О! І ось зара, коб я вас завела, только, шо беда, бродзіць трэба, а му б наловілі б іх! Іншы такі, ек біч, такі тоўсты! Вельмі трудно ўдзе́ржыць его. А воны ў гразе, колупай, а воны туды, туды шыюць, шыюць, шыюць. Вот тутока нема. Он туды трошкі далей, дзе мого Мішы хата. Там копанка. То там іх! Цепер там і рыба е та, плоткі е, потому шо вода прыбула да подышло. То дзеці понабіралі по ведру. От такіх плото́к! Напраўду, напраўду. Ото о, ото о прышла вода. А это прорылі му, шоб вода була. А это, шо проці магазіна, то шчэ тут ніхто не ловіў, шоб тутэка волок такі, да волоком зацяг, то набраў бы! І карасікі есцека, й плоткі, еке хоч! А туды далей уюны е. З уюноў шо робяць? Едзяць! Вараць, пекуць. Рэжэ коло голову́. От так перэрэжэ. От эдак упоперэк. То тут жэ жоўць як манісціна ў его. Да вукіне эту жоўць, да печэ або варыць. Напечэш, так як і рыбу. Воны ўкуснейшые, чым этая рыба, жырнейшые. Е косці. Як нема? Е! Ікра е, усе е! Вон тоўсты такі. Ек которы велікі, то такі, ек жменею не обнясь. Екраз, як моя жменя, то екраз такі, ей-богу! Вон — пасок жоўценькі, руды і пасок чорненькі — рабенькі. Подоўж, не так, не месцечкамі так, шоб рабенькі, да пасоватые. Да елі му, елі ўюноў. А я нагледзеласа на вужэй, дак цепер ні показвай. А то ўсе-ўсе едзяць, а я не ем, не могу. А посушым іх ужэ ў печэ, да от ніжом на метку. Так о, так о поніжом іх на метку, да жару вугрэбом с печы, да положым росошкі, да на росошках, на метках воны так вісяць. Да позапекаюцца, жоўценькіе пороб'яцца, позадзіраюць хвосцікі. Хвосцікі шырокіе, ек у рыбы. Да ўжэ, як посушым, положом на солому ў печ, да посохнуць, то с хвостоў капае сало. Напраўду, такіе сытые! То ўсе му хвосты пот'едаем. Хвосты і цепер моя Маня есць, а тэе ўсе кідаюць, не едзяць. А навары этое ўжэ, юшку эту роб'яць, да з сухіх уюноў этую юшку. То юшка зелёна. Але хот ты ножом рэж! А по ёй сало, по этой юшцы з этых уюноў. А ўжэ сушэные кіпечоною водою опарым, перцу, лісту туды, цыбулі этое з головок. Бо это пер'е, то воно без толку, так онэ зеленіцца. То ўзяў да устроіў этак тую юшку, а вона ўжэ, та юшка, не захолодвае. Да постаў, да вона тобе ў сенях постоіць, да холодна, так добрэ-добрэ! Только, коб тых уюноў не бачыў. От ек хто не знае, то з'еў бу, нап'ёрса тых уюноў, з этой юшкі з уюнамі, от пуза. Але дванаццатэ поколенье вужовэ воны. Старые кажуць. А я знаю? Така прыказка е. А мой чоловек сома не еў. Сома тожэ знаеце, екі сом? Головішчэ добрэ, роцішчэ наглэ! Ек снег велікі, так рыба подлегае к берэгом. І вона ўжэ, беры, як хоч, рукамі. Этой год не було. А позалетось окуне этые, сому, язі от этазные тые. Беруць, наўкідаюць да на-

сушаць. Эта рыба хоро́ша, это ж не ўюн. То мой чоловек сома не еў. А хвоста положы на сковороду, шоб это вусушыць, холера ёго знае, дзе вонэ ўсе, ростане, одно сало.

*Бярэжцы*
*Запісаў у 1969 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю І. Я. Яшкін*

## НАРОДНЫ ЗВЫЧАЙ

Робяць коровая, пірога такого пекуць, і тычуць етые розкі зелёные, і радзяць іх хорошэ, шышкі робяць. Збіраюцца дзеўкі і хлопцы і йдуць на жыто. Беруць граблі і почэпляць з одное стороны фартуха красного, з другое — белого. Одзін хлопец дзержыць тые граблі, а другі — ето коровая. Усе дзеўкі поберуцца у кружка за рукі, а хлопцы усерэдзіне коровая дзержаць і граблі, і дзеўкі это спеваюць так. А потом ідом у селе ў кажду хату і спеваем. І нам даюць яйца, грошы. У кошэль кладземо́ тые яйца. Это одзін дзень у году такі ў нас буў. Это кажэн год мы на Юр'я спевалі. На весняно́го Юр'я.

*Рубель*
*Запісаў у 1976 г. В. Д. Лабко*

## ПРА ВУЖОЎ

Як му только прыехалі, то ў нас на хуторы там столькі було вужоў! Столькі було вужоў, шо о-о! Ох, не можно було пройці! А нога мне болела, то так лежу, а вуж по ногах мне! Мама мне кочэргу подала, сама пошла просо полоць. То я штук дзесець іх заб'ю. По голове — да заб'ю. А вон воняе, той прокляты вуж. Порве мене часом, пока мама прыдзе. Агы! О-о, гадкіе! Нехай вонэ здохне! Воны, вужэ, не кусаюцца, то гадзюка кусаецца. Вуж не. Шоб воны кусаліса, то воны б поелі нас! Молоко вуп'е. А не думайце. Корова прывукла. Бегала корова додому. Не зналі нічого, потом найшлі вужа ў одрыні, вон сосаў ее. Як забілі, то дней тры корова рэўла, ек без целяці. Було то було! Шчэ й сколькі було! Тоўсты зробіўса. Сосаў корову.

*Бярэжцы*
*Запісаў у 1976 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю І. Я. Яшкін*

## ПРА ПЕЎНЯ

Знаеце, екі ето петух. От на этой о вішне, мо буў на градусоў трыццаць мороз, і ночоваў зімою. І поверце, грэбень отмёрз зусім, но ногі не поотморожваў. Вот скажыце, куры ў одрыне, а вон на вішні. Я ўжэ й казала, і зімою — й спевае. Снег, мецеліца, а вон там паёць! І шкода ёго круціць.

*Пагост*
*Запісаў у 1972 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

## КОТ І ВЕРАБЕЙ

Ухопіў кот вороб'я. Да ўперóд стаў муцца. Да той уцёк. Другі раз зловіў да кажэ: «Не, я ўперóд цебе з'ем, а тоды помуюса». Так зарэ кот поесць да муецца.

*Сямурадцы*
*Запісаў у 1980 г. П. А. Міхайлаў*

## РУСАЛЧЫН ВОСТРАЎ

Моя мацер з Полесся, Полессе — ето туды, под Тóнеж. У ее сесцёр і братоў там багато було, мо дзéсяцеро. Меншы брат Ян зваўса. Вон за лесніка з молодых год буў. То от шо з етым моім дзядзьком одзін год прыключылосо. Пошоў вон на Купалного Йвана з ружжэ́м у лес, думаў, еку дзічы́ну ўбіць — мо кабана, мо лося́, мо мадзведзя. Пошоў рано, сонейко шчэ не ўставало. Ціхенько йдзе по лесу, звера цікýе. Вуйшоў к Сіверскому болоту, йдзе поўз ёго помáлу. І на болоці, і ў лесі ціхо. Ідзе-йдзе. Аж раптом шо-то ёму зробілосо. Хочэ йці далей да не може, ек бу дзеревенее. Нешчо не пускае ёго далей йці, на болото заворочáе да цягне. Не хочэ йці, боіцца, дрыжыкі беруць, а йдзе. З купіны на купіну ступае, скачэ. Да ўсе хутчэй, ек бу завод екі ў ём стаў, усе далей на болото. Болото тэ веліке. Посеред ёго возеро е, посеред возера — востроў з купін, на вострові — куст одзін коло воды рос. Вуйшоў дзядзько к тому возеру. Ранéнько шчэ було, ек бу туман возеро облегаў. Бачыць вон церез туман той востроў. А на вострові — русáўкі, з крылáмі, без сорочóк, голые, косы русые по поес. Поброліса ў круг да танцуюць з подскокамі. А одна седзіць под кустом коло самое воды, у воду гледзіцца да косы росчэсае. Косы росчэ́сае да позірае ў дзядзькоў бок. І здалосо ёму, шо вона заўлекае ёго, до себе зове. Страхоцце на дзядзька нашло, вубраўса вон з болота, а як — не помніць. Спужаўса моцно. Цепер русавок там ніхто не бачыць. Ці то воны е да не показваюцца людзям, ці то зеліса. Мабуць, звеліса.

*Усціма Рыгораўна Герман, 1907 г., в Пагост*
*Запісаў у 1980 г. М. А. Саскевіч*

## ДЗІЦЯЧАЯ ЗАБАЎКА

Сорока-ворона по сметніку скакала, дзеткам кашку збірала. Этому дам, этому дам, этому дам і этому дам (адгінае ў дзіцяці чатыры большыя пальчыкі). А ты (бярэ за мізінчык) мал, круп не драў, хлеба не пёк, а с хаты ўцёк. Шугі-шугі-шугі! (і рукамі махае).

## ЗАМОВА АД ПАРЭЗА

Ішоў (імя) горою. Коцілосо тры бочэчкі: одна бочка з водою, друга з віном, а трэцяя с крывёю. Вон (імя) воду вуліў, віно вупіў: кроў, замоўса.

## ЗАМОВА АД ЗУБНОГА БОЛЮ

— Молодзік, молодзік, у цебе рог золоты, на том свеце буваў?
— Буваў.
— Жывых і мёртвых відаў?
— Відаў.
— У іх зу́бу не баляць?
— Не баляць.
— Трэба, шоб і тобе (імя) не болелі.

## ЗАМОВА АД ЗВІХУ

Светы отчэ Мікола, прыступі і поможы роджоному і хрышчоному.

Звіх, не будзь ліх, по косце́ не ходзі, серца не сушы, красы́ не ўбівай. Як сухе дзерэво не шуміць, так шоб нога не болела.

## ПРА АДКІДАННЕ ВОГНІКА

Берэ тры вуго́ліны, тры солі́ны, прынесе воды ведро, у стакан з ведра наберэ да ўкіне тры вуго́ліны і тры солі́ны і дае тры раз коўтнуць. А потом ту воду у печ лье, шоб усе згорэло, альбо дзе дзверы круцяцца, шоб скруцілосо.

## ПРА ЗАГАВОРЫ

У одного горло болело. Прышоў вон до зна́хора. Ну, той почаў шэптаць:

— Поможыса, мошна́, розвежыса, поможыса, мошна́, розвежыса, поможыса, мошна́, розвежыса...

Слухаў-слухаў той чоловек да як зарэгочэ с тых слоў! І болячка ў горле трэснула. От тобе й вулечыў.

*М. Малешава*
*Запісаў у 1976 г. А. А. Крывіцкі*

## ЯК ШУКАЛІ КАРОЎ

Пасціў у нас пастух товар усего села. І з гэтого конца ўжэ йдзе трэйцяк, а с того конца ужэ пастух, а с пастухом і потпасыч. І жэнуць эты товар утроіх. А чэрэдзішчэ товару, божэ ж мой! Пастух пасціў до Міхайла. А послі Міхайла ужэ кідае, ужэ людзі самі пасуць. Екурат перэд гэтым Міхайлом загубіўса наш эты товар. І шчэ одных. Прыгнаў вон, і нема товару. Кажэ, товар погінуў. П'яць штук товару. А того чоловека тры. Пошлі мы з бацьком. Бацько кажэ: «Пошлі, мо недзе хоць почуем, шо будзе давіць, то мо хоць однэ отборонім. Воўкі ж нападуць». Пошлі мы, ходзілі, ходзілі, ходзілі, нідзе нічого не трапілі. Вернуліса, прышлі, полеглі спаць. Оддыхалі, той бацько ўстаў рано, плеце мне лапці. У бацька шчэ добрые, у мене ўжэ потопталіса, трэба ж лапці. Пообуваліса, пошлі зноў. Пошлі, йдом у ту Орэю, это кілометроў чорт його знае сколькі, это ж далезно, кілометроў мо двацдэць будзе. Далеко. Пошлі мы, ідом, ідом, знайшлі того чоловека тры коровы. Но дзе ж нашы? Ужэ мы заходзім на самы край, скрозь ужэ там будзе болото да канава. Да ўжэ ж не, туды за болото воно не пошло. Ой, божэ ж мой, свеце мой! Ходзілі, ходзілі. А там така горка.

Послухала я да кажу: «Баце, от так прамо звонок таламкае». А на старой корові звонок. Той бацько кажэ: «Дзе тобе той звонок, это шуміць лес! Можэ, нека голіна ўпала, можэ, шчо». Ну, бацько буў ужэ стары, вон не так чуе, а я ж чую добрэ. Вон хочэ домоў, а я хочу туды. Адале сама боюса. Прышлі домоў. Бацько кажэ, шчо як не прыдзе воно цепер саме, то ўжэ его не будзе, пойдом узаўтра. Добрэ, ну пойдом. Поўстройваліса зноў. Бацько лапцей наплёў, і собе й мне. Пошлі. А я кажу: «То хай і хлопцы ідуць, шо но мы удвоіх (а було ж і шчэ тры хлопцы у нас ўжэ велікіе). Хай хлопцы йдуць. Оны пробегуць сюда-туда да...» «Ох, ты на этых хлопцах ідзе сядзеш, там злезеш». Ой, божэ ж мой, свеце мой! Пошлі мы з бацьком. Пошлі, ідом, ідом, ідом, а я на тэ место бегу. На тэ место, дзе чула того звонка. Подыйшлі зноў, зноў мне таламкае звонок. А бацько не чуе. Кажэ: «Нічого не будзе. Его нема того товару, чого вон туды зайшоў?» Прышлі домоў. Бацько лёг. «Усе-дно мне ўжэ,— кажэ,— нема худобы, і мне не трэба жыць. Коб хоця одна прышла. А то тры целушкі й дзве коровы». А я обуласа добрэ, да думаю, пойду я туды, дзе я чула гэты звонок. А маці кажэ: «А я пойду к Одаму (буў чоловек у Рычові стары, зваўса Одам), погадаю». А я й пошла. Пошла, да бегом, да бегом, забегла на ту горку, стала. Не чутно, не чутно, дале ек затарахціць, заталамкае той звонок. І я прамо туды. Гушча, берэзнік, болото! Перэбегла этэ болото густэ — дале така нека градочка. Я на ту градочку. Аж там болото, ек дым! А стогоў! А стогі это рычоўскіе і берэжэцкіе. Ох, аж тые коровы коло стогоў! Я к тым коровам, вуганяю, вуганяю — не дамса рады. Скінула з головы хустку да стару корову за звонок очэпіла хусткою да звела. А іх зацелі. Дак воны не могуць отыйці от стога. Да сцегла эту корову с того места. Ек пошла та корова, то і усе пошлі. Да этою гушчою, да на дорогу, да домоў, да прыгнала домоў. А мацер шчэ нема. Адале прышла і кажэ: «Той чорт шэпелівы, той Одамішчэ,— кажэ,— только зайшла, а вон кажэ: «То ты прышла обманьваць? Ужэ ж твоя дочка прыгнала». А воно ўжэ позамерзало ўсе, той товар. Вонэ, бедненьке, прыбегло к рэцэ, да на коленьках попадало да п'е воду. А мушчыны ідуць да: «Ну чорты ее мацер знае, шчо то за дзеўка? Шоб сама от ходзіла, ходзіла, пока трапіла». А я кажу: «Чого ж сама, з бацьком жэ ходзіла».

*Жукоўская Праскоўя Мікітаўна, 1907 г.,*
*в. Старажоўцы*
*Запісаў у 1981 г. на магнітафоне і зрабіў транскрыпцыю*
*П. А. Міхайлаў*

## ПРА СЫНА

Сын покупаўса да застудзіў ногу, рыбу ловіў, некіе ўюны ловіў. То наш одзін, той Воўка, шо ў Мінску жыве, вугрэўса на печэ добрэ, да пройшло! А гэты большы, то спаў на ложку, то не вугрэўса, да нога заболела. Нога заболела, да покульгвае, покульгвае, покульгвае. Вон у восьмы клас ходзіў, тогды як у его нога болела. Да повезлі ў больніцу, аж там отправілі его ў Мозыр на лечэнне. У Мозыр буў год і два месецы. Да наложылі гіпс на ногу, да с тым гіпсом лежаў восем месецоў, не ўставаў, не седзеў. То догоры або боком. Нека була его палата у цёмном таком кутку, шоб не к сонцу, а так нек шоб дажэ сонцэ на его не було. Я кажды месец

ездзіла. Заеду к ему да поглежу на такого, шо лежыць на ўсю койку хлопец да вўплачуса-вўплачуса, шо попоплачу коло ёгó, шо не знаю. Вуйду з больніцы і не знаю у которы бок іці на параход. А мой чоловек не ездзіў, вон то на роботу, то дома. Некі вон то недобітны́. Это я ўсе сама і слёзы ўліва́ла, і сілу свою ўбівала. Ада́лей восем месецоў лежаў, да тоды чотыры месецы так ужэ ўчыўса ходзіць. Да помаленьку ходзіў, с палкою, с костылямі, да покуль вуходзіўса. Да буў такі хлопец мізерненькі вон, як везлі ў больніцу, а там за год і два месецы вурос такі, як от і зарэ. Заехала по ёго. А ўжэ вон едзе домоў. А вон стоіць так на калідоры. А я позіраю. Қажу: «Қоля, мо ты мене вўшшэй стаў? Чого ты такі велікі вурос?» Прошло, ўжэ цеперэка робіць на тракторы ўсе на свеці. Тогды му ему далі, шо вон хоцеў есці, тэ вон еў, і тамэка та больніца вельмі тожэ кормяць добрэ, і лечэнье було добрэе. Қостна́ больніца вона называецца. У той больніцы вон лечыўса. А цепер вон і на рэку, вон і мокры, вон і голы, вон і ўсе. Вон нервы свое поцераў, да вон трошкі ўродзе говорыць і заікаецца. Вон цегаў кóпу копіцелем. Ну, ведаеце ву копіцель? Қіпці такіе. Берэ гэту копу да цягне, да ў стога. А ёго напарнік тэ кіпці не опусціў да зачэпіў дрот (электраправодку). І загорэўса трактор от току. І током цягне того трактора. Той трактор подскаквае-подскаквае за проволокой. І трактор тая проволока цягне. А вон, той напарнік, вускочыў с того трактора. А Қоля наш, бедны, росцераўса. Вон бояўса, коб той трактор не згорэў, бо вон будзе отвечаць, так ёму здавалосо. То тушыў трактора. У трактор сядзе, вускочыць, адалей зноў бежыць у трактор. А там людзі білі лён. Да побачылі эту беду, да ўсе туды збегліса, да скóрэнько побеглі, да ў станцэю, да вуключылі, да тогды той трактор о ста́ў ўжэ на месці. Да давай тушыць, то ўтушылі. А шоб о була сыра погода, як цеперэка, то ёго ўбіло б у тракторы. І от того на ёго, бедного, нервы напалі і вон стаў заікацца. Старшына казаў: «Шчасліву ты, Міколай, шчо суха́ погода. Еслі б мокра, сыра́, то цебе б там у тракторы спаліло б і ўбіло б». Ну, а потом ужэ прэтсэдацель побачыў нашу невестку да кажэ: «От, Варо, ты шчасліва, шчо твой хлопец остаўса». А я кажу: «Это я шчасліва, маці шчасліва, а жонка — не будзе гэтого, то пойдзе за другого. Это маццы шчасце, шо вон жыў остаўса».

*Сямурадцы*
*Запісаў у 1980 г. на магнітафоне А. А. Крывіцкі,*
*зрабіў транскрыпцыю П. А. Міхайлаў*

# ЗМЕСТ

ТУРОВСКИЙ СЛОВАРЬ

В ПЯТИ ТОМАХ

ТОМ 1

*Издательство «Наука и техника»*

На белорусском языке

Рэдактар Н. М. Тарасевіч
Мастак В. В. Саўчанка
Мастацкі рэдактар В. А. Жахавец
Тэхнічны рэдактар Л. А. Барысава
Карэктар М. А. Вячорка

ІБ № 1187

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР.

Здадзена ў набор 17.11.81. Падпісана ў друк 11.03.82. АТ 14627. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Друк. арк. 8,0. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 20,56. Уч.-выд. арк. 14,6. Тыраж 1530 экз. Заказ № 2098. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.